Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:

Вершы Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна, Міхася Зарэмбы.

Працяг рамана Івана Пташнікава «Чакай у далёкіх Грынях».

Апавяданні Эдуарда Карпачова і Алеся Пальчэўскага. Нарыс Віктара Карамазава «Дні Валі Дузенка».

Нататкі Іржы Ганзелкі і Мірaслава Зікмунда «Па дарогах свету».

Артыкул Янкі Казекі «Майстэрства сатырыка».

Нататкі заслужанага майстра спорту СССР Тацяны Пятрэнка.

11 (93)

Лістапад.

1960

Год выдання VIII.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак Л. Асецкага «Штурмуэм космас»

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108[1]/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7.270 экз. Цана 4 руб.

АТ 12350. Здадзена ў набор 1.IX.60. Падпісана да друку 1.XI.60 г. Зак. 766.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.



Генадзі БУРАЎКІН

# ЛЮДЗІ, ПАМЯТАЙЦЕ!..

«Людзі, я любіў вас. Будзьце пільныя!»
**Ю. Фучык.**



Людзі!
Памятайце пра гэта
І ў радасны час,
і ў сумны час:
Ракеты на Рэйне,
на Рэйне ракеты,
Нацэленыя на кожнага з вас.

Разважваюць зноў генералы старанна
У планах вар'яцкіх
за грамам грам
Кавалкі свінца
і часцінкі урана.
Чуеце, людзі? —
усё гэта вам.

Зноў барабаны старыя бухаюць,
Падняты са свастыкаю сцягі...
Да роднай зямлі прыкладзіце вуха —
І пачуеце стогн глухі:

Б'ецца ў пакутах
галоднае гета,
Крык выплывае з глыбокіх равоў...
Людзі,
памятайце пра гэта!
Такое забыць
няма ў нас правоў.
Людзі,
памятайце пра гэта

І ў радасны час,
і ў сумны час...
Ракеты на Рэйне!
На Рэйне ракеты,
Нацэленыя на кожнага з вас...

* * *



Гэта цяжка, таварыш,
Разам кашу варыць.
З кожным стрэчным не зварыш.
Тут не трэба мудрыць.

Тут такія парадкі,
Што пароўну дзялі
І зацішак палаткі,
І вяндліны скрылі.

Часам компас саб'еццa,
Мы ж асільваем шлях,
Толькі грукаюць сэрцы,
Толькі песня ў зубах.

Без папрокаў і скаргаў
Мы нясем за спіной
Дзесяць знойдзеных скарбаў,
Дзвесце казачных сноў.

І калі ўсё стрываеш, —
На вяршыні гары
Вельмі добра, таварыш,
Разам кашу варыць...

## РАБОЧЫ ПАСЁЛАК



Я люблю рабочыя пасёлкі —
Белыя
аднолькавыя домікі,
У дварах пясок
ці верас колкі
Ці ядловец парыжэлы ломкі.

Тут па вечарах пасля работы,
Пазмываўшы з рук мазут машынны,
Дужыя,
разважлівыя,
потныя,
Пад «грыбком» збіраюцца мужчыны.

І кладуць на стол цяжкія рукі,
Адганяюць «Беламорам» стому
І навіны,
быццам падарункі,
Раздаюць адзін другому...



Я люблю такія «асамблеі»,
Калі ўсё рабочай мерай мераюць,
Гутараць пра дальнюю Гвінею
Так,
як аб суседцы па кватэры.

Вось сюды б заморскіх дыпламатаў —
Хай бы занатоўвалі ў блакноты,
Як без выкрутасаў,
грубавата
Тут штовечар ім складаюць ноты.

Пад «грыбком», прадутым ветрам
золкім,
Хай бы падзівіліся яны,
Як здае
рабочаму пасёлку
Справаздачу
цэлы шар зямны.



Іван ПТАШНІКАЎ

# ЧАКАЙ У ДАЛЁКІХ ГРЫНЯХ

## Раман

Мал. М. Савіцкага.

За шыбінай сінела раніца.

У гародах пад рэчку бялеў снег, свежы, бо з начы. На вуліцы шарэла працёртая да дня дарога. Са стрэх валіліся долу познія дымы.

Ля варот спынілася машына — калгасны газік. Бразнулі дзверы, бы гэта на двары ля студні Выжлятнічыха ўпусціла з рук пустое вядро. Ля акна махнуліся Авяр'ян і Станіслаў Пракопавіч — старшыня. Ціха зайшлі ў хату, нячутна прывіталіся — кіўком галавы. Тлум было сціх, і зноў зайшлася Анэта.

Аркадзь павярнуўся на хату...

Выжлятнік сядзіць ля стала, у павалаканцы, не распрануты, бы і не ў сваёй хаце. Скінуў толькі шапку з галавы-вожыка, курыць-слюніць.

Авяр'ян са старшынёй прайшлі да стала, селі.

— Прагноз перадаваў... два дні пратрымае на марозе. Пасля снегапады пачнуцца. Трэба снег на поле, трэба. Павыдзімала, пазносіла. Не стане вады. Гэтай зімой яшчэ ў нас кароткі былі рукі, каб на поле шчыткі выкінуць...

Голас у старшыні звонкі, зусім як у хлопца.

Хата неяк уздыхнула, закраталася вальней, ажыла. Ля парога зашапталася Ганулю з ягонай, Аркадзевай, маці, якая ківала галавой і не спускала воч з Авяр'яна. А што ён скажа?—відаць, думала. Закрактаў, закашляў дзед Тодар, патэпаў, расстаўляючы ногі, да старшыні, — браў закурыць. Рыпнулі настыла дзверы: Волька прынесла вядро вады, паставіла ля печы на ўслончыку, не распраналася. Відаць, чакала, калі ж яны — усе гэтыя — ачысцяць хату. І чаго ім трэба ад Мірона, ад іхняга дома?

Аркадзь думаў, што вунь як не хоча таяць снег — прыкарэў да вядра ля дна, прыклеіўся. І ля печы ж...

Захныкала, расплакалася малое на руках у Анэты.

— А мой сыно-ок... А мы ж, родненькі, адненькія засталіся-я...

Усё зачыналася спачатку.

Холад краўся за плечы. Ад акна цягнула сырасцю. З-пад стала пахла падзолай, — там стаялі два гаршчэчкі з прывялай бальзамінкай. Пад акном ля падлогі чарнелі два вянцы, гнілі. Сям-там пасеяўся грыбок, бы гэта хто пазатыкаў шчыліны між пазоў жоўтай ватай. Гніль лезла і вышай, тачыла падаконнік, — ён хістаўся пад локцямі ў Аркадзя.

На стале пад рукой у Выжлятніка шорхала пажоўклая ад даўнасці газеціна. Відаць было, што на яе не раз ставілі патэльню. Са сцяны ля акна звісаў провад ад радыё. Туды, пад абраз, — тырчаў памяты, запылены кардонавы рэпрадуктар, жоўты, што свіное вуха.

Шыбы ад вуліцы адтавалі павольна; у хаце не было цяпла, хаця Волька зачыніла юшку яшчэ разам з чадам, і ці не ад таго ў Аркадзя пачынала балець галава.

Была хвіліна цішы, калі ўсе думалі пра нягаданае гора, што прыйшло ў Анэціну хату, падкасіла жанчыну; што прынесла клопат і трывогу ў Грыні — загінуў жа нядаўні старшыня, з якім у кожнага грынёўца ці закалюжанца былі штодня свае сустрэчы, размовы, сутычкі. Хто б так ведаў чалавека і яго характар, калі б чалавек не быў там, наверсе, адкуль часта чакаеш пачуць патрэбнае слова. Хай ён сабе стаў напасля і дрэнны старшыня, але ж сваю лысіну тры гады не заўважаюць. А чалавек ён быў неблагі, свой, і гора перанёс шмат разам з усімі. Любіў, праўда, выпіць, але ж любіў, бывала, і працаваць... Што ж, дарам нішто не прайшло — гарэлка са свету звяла, думай цяпер як хочаш, і рабі тут што хочаш...

Над сталом вісеў дым — мужчыны курылі.

Людзі пасля загаварылі смялей, аж уздыхнулі. Ад таго, што тыя, хто прыйшоў пазней — Авяр'ян і Станіслаў Пракопавіч — былі спакойныя, задуманыя. Разважалі, гутарылі спаважна — прынеслі спакой, роздум. Распрануліся, селі ля стала — здалося, пацяплела ў сырой хаце. Людзі памкнуліся да іх, — чакалі рады.

Знадворку ўсталёўваўся дзень. Пасвятлела ў хаце, праяснеліся твары. Стала чутно, як зашаптаў ля акна выключаны рэпрадуктар.

— Не ў сілах вы яшчэ за ўсім адны ўправіцца, старшыня, прама скажу. Хоць мая цялячча да гэтага справа, але ж што вам пакінуў...— Выжлятнік сказаў і асекся. Зноў стала ціха.

Людзі наўмысна мо' загаварылі былі пра будзённы клопат, каб даць зразумець, што жыццё на гэтым не скончана, калі загінуў адзін чалавек, што ўсё роўна ідзе вясна, бярэ сваё. Не варта складваць рукі нават ёй, Анэце, каму цяжка цяпер глядзець на белы свет. Памогуць калгасам знесці гора, пакуль жыццё возьме сваё, — забудзецца душа. Не паміраць жа класціся ёй, ды і сын, во, на руках, гадаваць трэба.

«Выжлятнік плявузгае 'шчэ... Асуджае...»

Цяжка, злосна на душы.

Аркадзь узнімаецца з лавы, ідзе да стала:

— А ну, скажы ім, куды дзеў дзядзьку... Скажы старшыні, скажы парторгу, усёй вёсцы... Дзе чалавек? Не дарма ён захлынуўся ў віры!..

Працяг. Пачатак у №№ 9 і 10.

Гаварыць цяжка, трэ' аж крычаць: заходзіцца ў плачы Анэта.

Выжлятнік курыць, варочае, торкае нервова галавой, як свіння лычам у паркан, маўчыць. Асунуўся за суткі; высахлы нейкі, нос стаў даўжэй, выгнуўся, бы толькі цяпер Аркадзь угледзеў, што ў чалавека гарбаносіца.

Пасля закашляўся, зачмыхаў дымам, вызверыў вочы і выцягнуў коратка стрыжаную галаву, застыў. Бы гэта з нары выткнуўся вожык і сціх, стаіўся, учуўшы бяду.

— Я ўжо казаў... Усе ўжо знаюць па вёсках. Я, мілы, табе прама скажу: не пыхці. Не я павінны ў Андрэевай смерці. І ніхто. Ні Куцка, ні Платон. Сам чалавек сабе на лоб гуза шукаў. Сам пад лёд пайшоў... А што я з ім тады піў... Дык з кім я не п'ю? І, мілы, не страш мяне. Не падганяй маё жыццё пад суд... Я ўжо чуў, што ты стараешся плясці на вёсцы... Не выйдзе. Віны маёй няма. Я і старшыню скажу, я і каму хочаш пайду скажу. А што я люблю піць з людзьмі... за гэта, мілы, не судзяць...

— А як усё ж такі здарылася, Мірон? Не трэ' было пускаць аднаго чалавека па начы... Вы ж бачылі, што, як вы гаворыце, ён на нагах не мог стаяць. Што ўгодна магло спаткацца, не толькі рака...

Авяр'ян кінуў курыць, устаў, пайшоў па хаце.

— Мілы, прама скажу... Ты чалавек з галавой... І Андрэя знаў. Гарачы ён быў. Слова поперак не скажы... Завяліся за чаркай. Такое бывае з кожным. Ты думаеш, мы ў крыўду яго ўвялі? Адсохне хай язык, калі зманю. Жывыя сведкі ёсць. Схадзіце, спытайце Куцку ці Платона, што тыя забаяць... Ніхто і слова супраць не сказаў. Наадварот, улагодзіць хацелі, як разышоўся быў. Што ён толькі не дарабляў... Уся пасуда, вунь, у Куцкі ў глум пайшла.

Нам не даюць веры. А не ўваскрэсіш Дзедзіху, не спытаеш. Ён бы, мілы, тое ж самае сказаў. Чаго Андрэй толькі нам не прышываў. І зладзеі мы, і бандзіты... Не буду ўсяго гаварыць. Не ў яго карысць. Пасля смерці пра чалавека блага не думаюць. Але ж, калі мы зладзеі, то хто ён? Сведкі жывы. Платон і сёння скажа, як пшанічку са свіронка тралявалі. Маўчаў чалавек, пакуль Дзедзіха ў старшынях хадзіў... А ты, Анэта, не вызвярайся на мяне. Яго не вернеш, а я сваю галаву за нішто не панясу пад суд. Мне яна дарага...

Вы тут, старшыня, пра лес пыталі...— галава-вожык натапырылася ў бок СтаніславаПракопавіча,— скажу. У Куцкі з ім быў свой рахунак — у таго і пытайце. Куцка будаваўся — купляў лес і ў вас, у праўлення, і ў нас, у лясніцтве. У нас ёсць дакументы, у вас — праўленцы жывыя... Я да гэтага не прычасны...

І я не вярну цуды-беды на Дзедзіху... Жылі мы з ім не блага. Анэта сама скажа. І не далі б мы яму загінуць, каб на след адразу ўзбіліся. Ён быў пад добрай мухай і рвануў недзе напрамую цераз гароды. Тодар бачыў сляды. Лагчынаю, Каменскім ярам напраскі лінуў чалавек да Віліі. Ноччу... Мы думалі, дарогай скіраваў. Сабакі не было. Ды і не хацелі мы Андрэя з хаты пускаць, сведкі ёсць. Я, мілы, прама ўсю праўду... Можаце апрасіць Куцку. Я, мілы...— Выжлятнік пачынаў нервавацца, злаваць. Што ён хацеў яшчэ сказаць,— немаведама. Працягнуў быў руку да старшыні, пасля апусціў, бразнуў локцем аб стол і заёрзаў па лаве.

«Вожык» не зусім быў смелы. Яго спалохаў хлапечы голас.

— До зубы замаўляць! Нечага дурніць... Людзі маюць галовы. Усё ведаюць і дазнаюцца. Во-о... Дзядзька ўжо самы першы злодзей у калгасе... Так выходзіць? Ведаем мы і пра пшаніцу не горш Платона... Усе помняць, каго апраўдалі ад суда... Знаем Чар-чаг і знаем, што ты там вырабляў! А цяпер дзядзька лішні стаў, бо ён больш усіх ведаў вас... Ты, бандзіт, яго са свету зжыў. Я то знаю...

Аркадзь зрываўся, ахрып, відаць, з начы застудзіў горла. Хваляваўся, стаў чырвоны, як жар.

— Пасядзі, сын. Аціхні. Ды дай старэйшым сказаць... За табой старшыні, вунь, слова нельга абраніць...— Ульяна ўстала з ложка, падышла да стала, дзе, расставіўшы ногі ў чорных валёнках-бурках, прырос да падлогі дзед Тодар. Ні з месца за ўвесь час. Курыў толькі, курыў...

— Не, мама. Маўчаць не буду. До! Такіх бы з галавой пад лёд. Што яны, што ён даў добрае калгасу?.. Хоць слова людскае за ўсё жыццё пачулі мы ад яго ці не? А столькі натварыў. Не-е... Я пайду ў райком... Да сакратара пайду... Хопіць людзей на той свет адпраўляць. Не такое цяпер у нас жыццё. Не-е... Я пайду ў райком...

Авяр'ян забарабаніў пальцамі па стале:

— З райкома званілі самі. Сакратар. Не так то ўсё проста, як думае Выжлятнік. Адтуль так і спыталі — дзе дзелі старшыню? Там яго зналі. Ім лепш, чым нам, відно, што чалавек не заслужыў прарубкі... Пракуратура ўжо дасведчана. Але як, як знайсці чалавека?..

Дзед Тодар уздрыгнуў, зззыбнуўся ў каленях:

— Нічога не прыдумаеш. Вілія і пад лёдам шаленая... Ногі адбілі. Цэлыя суткі не прыселі. Правал якраз на Жоўтым беразе. А там круціць. Глыб дай божа. Знясло яго. Прасякалі лёд далёка паперадзе. Пад самым Каменам... У Цыбульскім бродзе рэчку калкамі перабілі... Баімся, што позна... Слухай, старшыня, з электрастанцыяй трэба згаварыцца... Каб сачылі. Можа там каго свайго паставіць? Хаця... За суткі вада далёка ўцякла... — у дзеда Тодара ад бяссонніцы слязіліся старыя вочы. Барада была ўскудлачана, задзёрлася ўгору.— А лядок, дзе след, чуць ліпеў. Там з-пад берага ад затокі крыніца біла. Падпарыла пад снегам. Ды і не сцяло там ваду як след, хоць і восень нагальца пякла. Андрэй жа ведаў той вір... Э-ха...— дзед Тодар уздыхнуў, густа, хрыпата, бы гэта дзе ў кузні знянацку парвала ўздуты кавальскі мех.

І тады ад гоману застагнала хата...

— Выжлятнік яго ўспёр... Вылюдак!

— Утапіў... Жывасілам... Сам!

— Ён даўно масціўся! Не падзялілі ж...

— Не плач, Анэта... Пакідай яму сына цяпер... Хай гадуе.

— Скулля яму, Анэта... І сына ўгробіць...

— У суд бандзюка.. Як яго ў лес пусцілі?..

— І Джвучку разам. Нябось, у хваробу кінуўся. Ля рэчкі так шчыра рваўся шукаць, што сам ускочыў.

— Вінаваты!.. Чуе за сабой віну...

— І брухач той каменскі з імі. Абдзіртус... Добра помню, ён прыязджаў наша Закалюжжа грабіць з паліцыяй у блакаду. Чысціў хаткі. Зрэб'е н'ат цягнуў...

— Такія і Грыні спяклі...

— Хаця не дакажаш... Зашыліся, сведкамі абраслі... Партызанскія справачкі падаставалі, як Сабольскі...

— І ніхто не праверыў ніколі іх паперкі... Мо' самі накрэмзалі...

— І дакуль гэта, старшыня, Джвучку будзе ўсё сыходзіць? На работу — рамацізма ў нагах, а цягацца па лесе з «ламачынай» і здароўе ёсць... На праўленне яго!.. Падлечым!..



— Забараніць такім жывёлу ў лесе нішчыць...
— У Джвучкі і ружжо без права...
— Заявіць... Пазвані, старшыня...
— Маўчыш, Выжлятнік? Заняло?..
— Назаўсёды яму б заклала...

Жанчыны ўсхадзіліся. Услед за Уллянай. Трасуць кулакамі, грозяць. Крычаць на чым свет стаіць. Скубуць Выжлятніка за павалакан. Цягнуць з-за стала. Дай волю — выпатрашаць, не ўгледзіш калі. У людзей набалела.

Маўчыць толькі старшыня.

Людзі казалі праўду. Застаўся ў вёсках, у добрых вёсках, сярод жыльцоў, што рукі гатовы пакласці на працы, застаўся, не звёўся шашаль. Не можа ён раз'есці душу чалавека. Аслаб. А за апошнія гады, лічы, змізарнеў. Але варушыцца, точыць, порацца на дрывотніках, шукае падгнілую калоду...

Калгас на нагах. Калгас асталеў. Людзі — золата. Людзі з-пад носа адзін у аднаго рвуць работу. Праўда была сакратара райкома. Праўду казаў і Перапёлка ў абкоме... Дарэмна было ўпарціцца, баяцца. Людзей зварухнуць варта было. Узбудзіць. Пераступіць ручай, звярнуць плынь. Бо цёк ён не ў тым кірунку, стаў заплываць цінай; бо аціх быў, супакоіўся стрыжань.

Ціна...

Яна засмактала Дзедзіху, у ёй пагруз Раман Пэрац...

Толькі ручай жыў — булькатаў спадыспаду, гаманіў. Яго напаілі свежыя дажджы і паводкі. Ён акрыяў, забурліў пасля навальніц і вясновых вятроў з-за ракі...

Станіслаў Пракопавіч з праўленцаў больш усіх ведаў Авяр'яна, Улляну і дзеда Тодара. Яны першыя прыйшлі да яго назаўтра пасля агульнага сходу, памаглі скласці нарад на ўсе брыгады. Першыя павялі калгаснікаў на работу па-новаму. Яны — а не ён. Ён пакуль вучыўся ў іх з першага кроку. Яны — сіла. Яны — плынь, стрыжань.

Доўга і шмат прыйшлося ў свой час сутыкацца і з гэтым настырным хлопцам Аркадзем...

Але ж хіба не ён узвярнуў увосень усе лавацкія палі і разоры, што ад вайны на зіму мо' ўспорваліся які раз ці два, а дзе і зусім не краталіся, выганам сталі? Хіба не ён памарозіў рукі, тралюючы штодзень у такія халады лес пад Busліныя сосны на дзядзінец і да лесапілкі? Ці не ў яго гэта пішчыць Пэрац і скардзіўся быў на сходзе, што дзесяцікласнік прывязаў да прычэпу, жыцця не дае?..

Нагадаўся Васіль Міронавіч, маладая акушэрка... У іхніх руках клуб і днём і ноччу. У іхніх руках моладзь...

Далей — болей...

Паназалялася настырная Раіна, пасакатала вясёлая Пракурорыха. А цяпер робяць дзень пры дні, дык што яшчэ пра іх льга сказаць тады?

Не можа і такіх сцяць ціна. Не падточыць болей шашаль... Крынічная вада не баіцца цвілі. Чарвяк не бярэ смаляную калоду.

Ваяваць 'шчэ прыйдзецца. Мо' і шмат. Але калі такія людзі, як Авяр'ян і Тодар, уполплечкі, хіба боязна?

У хаце зноў стала ціха. Толькі плакала дзіця на руках у Анэты. Моцна, басавіта. Ля ложка стаяў Авяр'ян, суцяшаў малое, браў на рукі, калыхаў, угаворваў, як толькі мог.

Выжлятнік аж пажаўцеў. Не глядзеў на хату, не падымаў воч. Не глядзелі на яго і жанчыны.

— На электрастанцыю ў Камена лепш за ўсё падысці каму самому...

Я сазванюся... — Станіслаў Пракопавіч падышоў да шафы, дзе на дзверках вісела ягонае паліто, стаў апранацца.

— Я падбягу... — вырваўся Аркадзь.

— Не падбегчы, а згаманіцца трэба з імі. Ды пакараўліць самім гэтыя дні. — Дзед Тодар зноў браў закурыць у старшыні. — Я першы пайду. Загарадзь пад ільдом агледжу... Пасля падменіш... Мяняцца будзем. Нідзе ж не дзенецца чалавек.

Маўчалі. Загаварыў старшыня.

— Я сёння ў раён падскочу з Авяр'янам. Выклікае райком. Пасяўная на носе. Думаю, нас яшчэ не пахваляць. Вось што... Улляна і вы, Тодар... На вечар мы ўчора намецілі праўленне, не адкладаць жа. Не забудзьце... Прыйдзеш і ты, Анэта... Там памяркуем. Людзей больш. А ты, Аркадзь, куды сёння? Шмат яшчэ дрэва ляжыць у снезе. А торф? Трэба, каб ты сам спланіраваў, як лепш... Каб «націк» ні трохі не стаяў... Работы шмат. Напарнік твой злёг. Падумай, скажаш...

Людзі ўжо збіраліся пакідаць хату, як на двары ляснулі вароты, суха, што на вялікім марозе.

Ля акна прайшлі двое. Мужчыны. Пастукаліся, абівалі ў першым пакоі снег, абое гаварылі з Волькай, — яна выскачыла ім насустрач. Пра што, надта не разбярэш. Ці не пыталіся Выжлятніка...

Людзі насцеражыліся. Гаспадар занерваваўся і зашархаў локцем па рудой газеціне — адсунуў на край стала.

Увайшоў Васіль Міронавіч і ляснічы, — малады, такі ж высокі, як і настаўнік. Прывіталіся з усімі за рукі.

Васіль Міронавіч адразу ж атакаваў старшыню.

— У вас праўленне, дарагі, а ў нас — лекцыя. Значыць, палавіна калгаснікаў не прыйдзе? Я не згодзен. Хто будзе пераносіць? Ну, вядома хто. Мы. Заўсёды так. А мо' вы ўступіце, вам жа на бюро? Хоць адзін вечар? Не?

— Саступіць то мы вам саступім. Другім разам... — неяк нясмела ўсміхнуўся старшыня.— Вам лягчэй. Перанясіце на заўтра. Лепш падрыхтуецеся. Хто даклад робіць? Мо' Петушонак? Даўно ён...

— Абыдземся. Самі робім... І яшчэ, Станіслаў Пракопавіч, артыкульчык для насценгазеткі забываеце. Сёння тэрмін...

Людзі гаварылі пра тое, чым жылі, што меліся рабіць.

Васіль Міронавіч стаяў блізка ля Анэты, у парозе. Бо тут быў старшыня.

— А што чуваць?.. — Васіль зірнуў на Анэту.

— Бачыш. Нічога... Ні-ічога! Галовы сяму-таму пазносіць мала...— Станіслаў Пракопавіч гаварыў ціха, ды чулі ўсе, бо былі ўстрывожаныя, узрушаныя. Чакалі штохвілю свежага слова.

— Гм... Недарэчнасць... Нахласць. Чым памагчы толькі?.. Дык не забудзеце, Станіслаў Пракопавіч? Я ўгледзеў машыну — забег. З'ехаць жа маглі, а хто б за вас...

Старшыня зірнуў на яго добрымі вачыма, усміхнуўся.

— Ну, пайшлі, таварышы. Апранайся, Авяр'ян. Пазнавата.

Аркадзь падышоў да стала, падкруціў рэпрадуктар. Гаварыла Масква.

— Хадзем, Анэта. Пад'едзеш у кабіне дадому. Як ты з малым? Не насі яго па марозе... Дзе тое Закалюжжа па снезе. Нічога не выхадзіш... Глядзі сябе. — Авяр'ян трымаў дзіця на руках.

— Калі ж не сядзі-іцца-а... Адненькай у ха-аце-е... — слёзы сыпаліся ў жанчыны, як відук, дробненькія, густыя.



Людзі пакідалі хату.

— А я з табой буду цяпер доўга гаварыць...

Учулі, што гэта сказаў ляснічы. Угледзелі яшчэ, як прыгорбілася ў запечку Ганула, аціхла, забедавала. Што найшло на жанчыну? Яна, здавалася, баіцца людзей. Выйшла з хаты апошняя. Прыкарэла на ганку.

Па вуліцы плыла гаманіна. З двара было льга ўгледзець, як пёрлася сюды, што было духу, расхрыстаная дзятва. Ці не са школы вярнулася з паўдарогі? Махала шапкамі і партфелямі.

З вуліцы на двор шмыгнуў сабака. Убачыўшы чужых людзей, тарканўся, хацеў мо' адсесці назад, але ж там гоман... звон, трэск. Нехта біў у бляшанае вядро. Ззаду страх, навала, якая ўскруціла яго, гнала аж з Ваўкаўні — і сабака, скочыўшы да паркана, паклыпаў снегам да ганка. Абыходзіў людзей. Спачатку цяжка было ўцяміць, што ён нёс у зубах. Ці цягнуў снегам сасновы сук Выжлятніку на дрывотню ці мо' дзе зашчаміўся з галавой у вершаліну, адвіхнуў яе жывасіллю ад дрэва і цяпер во шукае ратунку ад пагібелі.

Дацыпаўшы да ганка, сабака ўскочыў на абледзянелыя чорныя прыступкі, страсануўся. «Сук» глуха і цяжка бразнуўся аб настылае дрэва. Сабака разявіўся, дыхаў з сябе, пусціў сліну, стаў скуголіць і дзёрці лапамі мокрыя дзверы.

На парозе ляжалі рогі. Вялізныя, галіністыя — рогі старога лася. Свежыя, чырвоныя ад крыві, з мясам, там, дзе яны былі адбіты ад галавы. Жоўта-бурыя, каштанавыя, а то месцамі зусім чорныя. І зусім жа тупыя.

— Выжлятнік лася аблажыў!.. Выжлятнік лася збяёдаў!..— разлягалася вуліца ад пісклявага крыку.

Людзі на двары стоўпіліся ў кучку.

Адчыніліся дзверы. Паласаты Жульбас скочыў на грудзі Вольцы і знік за парогам.

У акне матлянулася стрыжаная галава Выжлятніка, пасля высунулася з-за дзвярэй на двор.

— Чаго пасталі? І сабаку з-за вас жыцця няма!..— Выжлятнік, у павалакане, валасаты, вываліўся на ганак. — Утаропіліся... Ну і што? Сабака костку аднекуль прывалок. Галодны. З зубоў вырваць у псяці захацелі?.. Разявіліся...— ён падняў рогі і шпурнуў іх пад хлеў на дрывотню.

Авяр'яна ўзарвала. Не сцярпеў:

— Пратры вочы! Не пазнаеш сваёй работы? Ці не таго абсадзіў, за якім летам лыхаў? Знаем... А гэты «сук» аддай нам.

Рогі былі ўжо ў руках у Аркадзя.

— Закінь іх, браце, у кузаў...

Людзі былі на вуліцы.

Авяр'ян памог Анэце падняцца на падножку.

У кузаў пасыпалася дзетвара. Залівалася ад смеху, ірвала адзін у аднаго з рук сукаватыя рогі.

— Выжлятнік лася забіў!.. — неслася з машыны на ўсе Грыні, свежа, гулка на марознай раніцы.

Ніхто не ўгледзеў, як змянілася з твару Ганула, ніхто не ўчуў, як яна заплакала-загаласіла, як да яе падбегла з вуліцы маленькая Волечка, пачала суцяшаць. Зараўла машына.

Аркадзю добра 'шчэ было відаць з кузава, як на ганку стаяў валасаты Выжлятнік, як ляснічы доўга размахваў перад ім рукамі.

Аж пад канец Грынёў ззаду за машынай улягаў Жульбас. Брахаў, заходзіўся. Калі ля маста падбег быў зусім блізка — дзеці шпурнулі ў яго рукавіцай.

Зіму з горада гналі галкі.

Іх перла, як хмару, адтуль, з паркаў, дзе аўтазавод. Яны несціхана дралі горла, рассыпаліся, як чорнае, спаленае лісце ад кастра ў паветры, раіліся, што пчолы, і тады аж шарэла неба.

Яны прылятали ў горад над вечар, тады, калі сонца за далёкімі будынкамі на ўскраіне абмывала густыя, цяжкія аблокі ядранай барвай і яны бурэлі, загараліся, трапяталі, пасля цямнелі, тухлі, сплывалі, лезлі туды за дахі ўслед за сонцам, дзе бывае закурэецца-заснуецца рэдкая сінечадымка і рассеецца: холад, нанач яшчэ браў мароз. Вясна прачувалася здаля. Яе гукалі галкі. Прыляталі і гукалі. Глушылі трамвайны перазвон і шум машын, сыпаліся з гары на высокія старыя ліпы ў гарадскім скверы, аблеплівалі, гойдалі асохлае ад нехалоднага ўжо днём сонца голле, палохаліся, узляталі ў неспакоі і трывозе,— паднімала іх і кідала зноў аж на дахі. Пасля яны расцягваліся над усім горадам доўгім шнурам і, заняўшы ад ускраіны, кіравалі праз увесь горад, туды, дзе ў бурых, настылых, яшчэ зімовых хмарах-тулягах асядала сонца,— гналі перад сабой зіму.

Знікалі надоўга з воч, губляліся ў прычарнелых аблоках, таялі, зноў вярталіся назад, кіравалі на паркі — змораныя, рассыпаныя, леныя. Пасля іх аціхала неба. Тады званілі трамваі; вярэдзілі спакаяту над аэрадромам самалёты. Цэнтральныя вуліцы стагналі ад машын. Горад жыў на ўсю моц, як і ўранні, калі прачынаўся і спяшыў на работу, — кіпеў.

Шарэла. Бралася на марозную ноч. Гусцела ўвысі блакітнае неба. Бялеўся ад інею мокры днём голы асфальт — падсыхаў; шуршалі пад нагамі, як бітае шкло, ільдзінкі, і трашчаў, як пражаны гарох, жарсцвяк. Астаўся ад галалёду, калі пасыпалі алеі і тратуары.

Счарнелы, у густой смузе-гразі, паторканы каблукамі і каблучкамі снег ляжаў гарбатымі кучамі ля прысад, зледзянеў. Днём слімачыўся, пацеў ад сонца і не хацеў таяць. Толькі ўзбіць і вывезці за горад, — бо будзе з-пад яго цячы ўсю вясну. Соўгалі лапатамі, шасталі венікамі-дзеркачамі, стукалі-дзёўбалі ламамі апранутыя зусім па-веснавому жанчыны-прыбіральшчыцы. Ссоўвалі ў кучы чорныя груды ільду, адбітыя з трудом, рыхтавалі на раніцу, калі падкоціць сюды машына і пачне заграбаць падсохлыя за ноч шурпатыя, як праснакі, крыгі і ссыпаць іх у жалезныя кузавы самазвалаў.

Горад чысцеў, рабіўся свежы, утульны і радасны. Маладзеў на згон зімы.

Цёмны і аціхлы, задрамаў на ноч гарадскі парк, што над ракой. Здалёку чарнеліся леташнія грачыныя гнёзды на дрэвах, бы гэта іх абляпілі птахі, — леныя, змораныя: не варухнуцца, не паведуць крылом. Зблізу — гнёзды пустыя, шэрыя, самотныя. Пахіленыя, растрэсеныя ад зімовых сухіх вятроў. Тырчыць голле, як пруткі з суконнага вялізнага клубка, белае, калі ўгледзецца днём — выветранае на сонцы і марозе. Самотны зімою парк. Ажывае толькі ў мяцеліцу-буру,— стогне, гудзе, свішча, махае дубцамі. Зімой у ім зусім, як у лесе.

Парк чакаў вясны. Здавалася, праз кожную ноч прыбывала гнёздаў на таполях, выпроствалася абвіслае голле, а калі нарывала вецер, — яно шумела густа, натужліва, не так, як маразамі,— суха, злосна і дзіка.

Вясна недзе была не за гарамі.

Вясну чакалі і людзі, ірваліся ёй насустрач. Параскашнела ў тралейбусах і трамваях — народ валіў вуліцай і на работу і дадому. Мо' хто нават і бярог якую гадзіну ў запасе, каб лішне прайсці, пабыць на свежасці.

Раскоша, воля. Густое зыркае сонца. Усмешкі. Шчырыя вочы.

Вечарам высыпала на вуліцу моладзь. Разагрэтая і ўсцешаная яшчэ мо' ада дня, сонечнага і ўжо не зімняга, яна шпацыравала, апранутая па-веснавому. Тулілася, грэлася, бадзёрылася, гаманіла. Надыходзіла, асцярожна 'шчэ крадучыся здаля, іх дзівосная пара — час трывогі, знаёмства, кахання. Пасля зімы гарыць астылая душа. Ажывае, дрыжыць, ірвецца на волю. Вясна для яе — радасць, усмешка.

Вясна — цяпло, хмель, пакута, чаканне... Вясна — шчасце. Усяму на свеце. Ёй ідуць насустрач, яе клічуць здаля.

Вясна прыносіць шчасце для ўсіх — ды не пароўну...

Была тая часіна, калі мрок толькі цёрушыўся з гары, 'шчэ рэдкі, спалоханы далёкай зарой на захадзе; калі сціналіся ўвысі блакітныя пісягі-латочыны сярод бурых, цяжкіх аблокаў, якія не сплывалі, — змерлі, паснулі, як жывёла на пашы, рады былі мо' правесці ноч над узбуджаным, трапяткім ад агню горадам. Яны звыкліся, злюбіліся з зарой,— бо пры ёй яны — золата, барва, чырвонае лона. Зара стухла, зблекла, сплыла,— пакінула іх начы, чарнаце і самоце... Хутка ўспыхне, заірдзіцца горад... Яны зноўку ажывуць, загарацца. Яны сплывуць толькі на світанку, як усюль ім лагода і даброта,—зара, святло...

Такой парою, калі яшчэ не ўспыхнулі агні, не загарэлася гарадская ноч, лёгка зблытаць людзей. Тады яны падобныя, — і выдае, што ў цябе шмат-шмат знаёмых...

Леанід угледзеў яе.

Яна магла вось-вось згубіцца ў натоўпе, у вячэрняй цемені.

Ён пусціўся з усіх ног. То бачыў яе, то зноў губляў. Чамусьці здавалася, калі сёння знікне яна, — то назаўсёды. Адкуль такая трывога?

Яна была знікла.

Тады ён спыніўся, астыў. Дакараў сябе, чаму не аклікнуў. Сапраўды, — завязала язык ці што? Ён ніяк не мог дадумаць, чаму змоўчаў.

Гэта не яна. Ён абазнаўся. Прайшоў час — тыдзень, — і яму здаецца, што кожная дзяўчына — яна. Ды і дзе ёй тады быць? Не застаў жа дома — у інтэрнаце. Хімічкі-трэццякурсніцы — яе сяброўкі — нагаварылі такога, што яна ўмудралася сядзець ледзь не ва ўсіх бібліятэках горада. Нідзе не ўгледзеў. А чаго тады бегаў? Убачыў бы заўтра.

Але душа не любіць развагі.

Стаяў, думаў. Астыў, супакоіўся. І калі зноў убачыў яе — паволі пайшоў следам. Зусім спакойна, бы ішоў проста за выпадковым чалавекам, які чымсьці кінуўся ў вочы. Не хваляваўся, — думаў чамусь пра тое, як сустрэліся яны пасля канікул. Ён вярнуўся з Масквы — з вучэбнай практыкі, яна — з Кубані — з дому. Хаця, хто ведае адкуль?.. Шкадаваў чамусь, што не выпала быць зімою дома. Можна суткі выкраіць было б, але ж — снягі. Заедзеш, замяце — зімуй...

Ішоў за ёй, бачыў яе, каго чакаў і пра каго мо' столькі думаў, — а ў галаве быў дом. Дом — з усім на свеце... Дом, які жыў у пісьмах маці, які стаяў у ваччу...

Даўно ўспыхнулі ліхтары, вырвалі з цемені вуліцу, адагналі ў да-

леч цені. А ён не заўважаў. Не заўважаў людзей, што тоўхалі, міналі, абыходзілі яго. Быў, як нежывы, — бы яго не ў час узбудзілі, раскатурхалі, паставілі на ногі і піхнулі: ідзі! І вось ён ступае, каб толькі ўтрымацца на нагах.

Яна была не адна, і ён добра ведаў з кім.

Карантышок, па плячо ёй, тоўсценькі, як гарбуз, з поўным, круглым, як гарбузік, сімпатычным тварам, пад капелюшом — пляшывы, з кучаравымі чорнымі завіточкамі ля вушэй і на патыліцы, трыццаці аднаго году лавелас, — ён ступаў цяпер ціхенька, уперавалачку. Кароткае паліто наросхрыст. Пусты, пухлы, задаволены. Аблізваўся, выціраўся хустачкай, марудна, нехаця. Ці не з рэстарана выйшлі?

Трымаў яе за локаць, здаля ад сябе, а то набліжаўся, клаў руку на плячо. Не глядзеў на яе, слухаў, відаць, толькі, думаючы сваё.

Яна — аж лезла з зімовага раскошнага паліто, абціскала ля шыі каўнер-лісу, забягала ўперад, глядзела яму ў твар. І шчабятала-шчабятала. Моцна, смела, на ўсю вуліцу. Пляваць, што на іх азіраюцца...

Леанід добра знаёмы з тым. Выпала напаткаць яго яшчэ пры паступленні ва ўніверсітэт. Спалі на адным ложку ў спартыўнай зале, што адвялі былі часова пад інтэрнат, пасля паўгода жылі ў адным пакоі.

Чалавек ночы прападаў у рэстаранах, днём поўзаў сонны і занэндзаны, як муха, якой пашчасціць, бывае, вылезці з ліпкай паперы-атруты.

На языку — жанчыны. Толькі. Браў, што ляжала наверсе. Плявузгаў пра тое — цэлыя дні... Яго шукалі ў інтэрнаце і дзяўчаты і пажылыя.



Яго выкінулі з універсітэта. У першым жа семестры. Не ныў. Жыў яшчэ ў хлапцоў з месяц, пакуль камендант сам не вытарабаніў яго чамаданы на калідор. Бадзяўся і пасля даўгавата па пакоях, шукаючы дзе нанач свабоднага ложка, — да зімы мазоліў вочы. З'явіцца ў тыдзень раз, аплюе каменданта і зноў, бы ўтапіўся дзе.

Пасля знік. Куды і што — ніхто не ведаў, як і ніхто не ведаў, адкуль і як ён прыехаў паступаць.

Забылі яго. Гасця, які напаскудзіў у хаце, стараюцца не ўспамінаць.

Прайшло тры гады. Ён з'явіўся зноў. Паступіў на першы курс наргаса. Таваравед.

Леаніда абліло варам. Пацягнула падысці, аклікнуць, забраць яе ў таго «жаночага тавараведа». Дамаўляліся ж сустрэцца адразу ж пасля прыезду...

«Сустрэліся...» — падумаў ён. Стала духотна. Шарф душыў. Уграваў да поту. Прыйшлося расшпіліць паліто.

Аклікнуць ён не змог, хоць словы лезлі і лезлі чортведама адкуль: і добрыя, і брыдкія, — ледзь спраўляўся глытаць.

Быў поплеч. Гарэў. Цяжкія сталі ногі. Іх было трудна падымаць, яшчэ горш было ўстояць: слізка. Ён не бачыў, што гэтым месцам голы лёд, змецены днём ад пяску.



Муліла ў плячах паліто. Было гарачае, бы яго толькі во дасталі з печы з-за коміна. Упацелі рукі. Сталі лішнія пальчаткі.

І ён не аклікнуў.

... — А помніш, Сева...

Было чуваць усё да крупіцы, пра што гаварылі...

— Помню... Дзяўчына ў маладосці, што кветка, калі пачынае брацца на цвет. Цягнецца, гнецца да сонца... А расцвіла — змёрла. Мёртвая. Ёй усё роўна, з якога боку свеціць... Яна ўсё спазнала — раніцу, поўдзень, вечар. Каля яе патапталіся, пашчыпалі, пабалавалі ў руках, памялі. Ёй цяпер усё адно... Усё роўна, чыя рука...

— Ха-ха-ха... А я думала, рэўнасць уласціва толькі зелені... — Яна памаўчала. — І кінь мне гаварыць гадасці! Я яшчэ вартней тваіх чэсных, якімі ты выхваляўся...

— Люда... — голас у таго мяккі, лісліві. — Я дажыў да таго, што пра кветачкі стаў напяваць... Праз цябе...

— Сева... — яна крыўдзілася. Нечага мо' баялася яго, бо раптам размякла: — А помніш, як мы з табой?.. Помніш?..

Доўга не чуваць голасу. Мо' перашэптваюцца, а мо' маўчаць...

— А я думаў — у нас з табой усё. Пасля таго...

— І я так думала. Колькі перажыла... А помніш?..

Яны зніклі. Узбеглі па ўсходках і шмыгнулі ў кінатэатр. Адноза другім. Спазняліся, відаць...

«Сябры» сустракаліся зноў. Сыходзіліся...» — думаў Леанід.

І гэта пасля ўсяго? Пасля іхняй шчырасці? Столькі часу... Фальш, прыкрытая далікатнасцю і самаахвярствам. Да апошняга дня. Цікава, што яна запяе заўтра? Хаця ні слова яе не трэба...

Не, яго не абвялі, ён сам зайшоў далекавата і не туды. Вярнуцца можна: не пераступлена. Бяда, што не выведзеш з «манакі» яе — маладога і нябрыдкага чалавека. Хаця, не трэба быць скептыкам. У іх — сваё. Яны яшчэ вунь як пацяшаюцца з яго... Яны сваё бяруць і возьмуць. І на крывых яблынях салодкія яблыкі.

Шуршаў пад нагамі асфальт, а дзе — хрумсцеў лёд. Яго не расціснеш: хоць і не моцны, ды коўзкі. Гэтак жа, як і раней, гаманілі людзі, і мігцелі, мігцелі бясконца легкавыя і тралейбусы. Горад круціўся, знікаў, з'яўляўся зноўку і плыў, імчаў насустрач. Жыў сваім жыццём — у мітусні, у тлуме, спешцы.

А мо' гэта шумела і стукала ў скронях?

«А помніш-ш?.. А помніш-ш?..»

Здалося, зблудзіў. Не. Горад ён ведае. І ніхто не саб'е з дарогі...

Над галавой шумелі дрэвы. Парк... З цямном, глядзі во, узняўся вецер. Халодны, сівер. Насустрач прабеглі два валасатыя стылягі ў зялёных плашчах. Панастаўлялі каўняры. Рана выпырхнулі. Зіма не любіла іх. Гнала, як падцыглястых галодных ваўкоў.

Угары варушылася неба. Краталіся бурыя груды, цягнуліся няма-ведама куды, леныя, як загнаныя коні. У іхніх грывах мігцелі, бывае, агні, — праразаліся зоркі, ядраныя, чыстыя. На мароз.

Ён не заўважаў, што доўга ўзіраўся ў неба. Стала зябка. Зноў учуў — ад ветру гудзе парк. Угледзеў, што над галавой калыхаўся жоўты ліхтар, ля самага чорнага сучча, бы дзе з высокага плоту звісаў гарбуз. Даспяваў. Кратаюць за жэрдку, — і ён матляецца сюд-туд. Знізу цёмны, з плямкай. Туды набілася мошка, ад лета 'шчэ. Ды змерла недзе, вымерзла такой зімой. Вясной яе высыпле манцёр, як смецце на вецер...

Дадому трэ' ісці праз гарадскі парк.

Пад нагамі снег, сцяты марозам, як грудка. Калюча, нялоўка ступаць.

Нешта гарыць і тут жа стухае ў душы. То трывога, то сум. Палын на языку.

Вецер пачынаў шалець. Парывісты, вострыя, колкі...

На ўскраі парку самотна ныў залаты смароднік. Не гнуўся. Падстрыжаны ўвясну, ён не шмат адскочыў за лета і тырчаў пругкі, што дрот. Вецер калоўся аб яго, ірваў бакі і ад таго плакаў, гудзеў. Трапятаўся недзе ліст — высахлы, шасткі, цудам трымаючыся дасюль. Сцёбаў па голлі, як бывае адзежына ад ветру, калі яе кінуць на плот.

Шумеў ад ветру залаты смароднік...

... Недзе далёка дома, на канец лета шумелі ў гародчыку, што ад вуліцы пад хатай, чырвоныя вяргіні... Высокія, як лес, яны лезлі на двор, вывальваліся праз паркан на вуліцу, гарэлі яркім вогнівам на ўсю вёску. Вечна свежыя, у расе, яны не вялі праз усё лета. Цёмна-зялёныя з ліста, лапушыстыя, яны, здавалася, будуць бясконца сыпаць і сыпаць кветкі...

І сыпалі б. Калі б не восень, калі б не маразы.

Шумяць вяргіні ад ветру...

У гародчыку бушуе чырвоны пажар. Дзень і ноч. Ураніцы і ўвечар. З лета да восені. Загараўся ён пад канец жніўня, калі лета бралася на цішу, калі гусцела без хмар неба і свяжэла ноччу пад дзень. Загараўся раптоўна. І — надоўга. Чырвоны, барвовы, светла-малінавы. Не гас да кастрычніка, калі ўжо ў гародчыку нічога не заставалася. Вяргіні тады буялі ад радасці і ахвоты расці.

Нішто іх не гняло. Студня на двары. Вады не вобмаль.

Гараць яны і ў туман і ў золкія вераснёвыя дажджы, калі ўжо не ткнешся босы на двор у гразь, ірдзяцца і ў першыя ціхія марозікі ўвосень, калі раніцай, бывае, заблішчыць непрывычным срэбрам пад нагамі трава і стане слізкай.

Цягнуцца да сонца кветкі ўсё жыццё — заўжды ў маладосці і свежасці. І паміраюць маладыя і свежыя — усцілаючы барвай прыжухлую пасля лета макрыцу і падарожнік у гародчыку.

Вечна радыя сонцу, стракатыя ад сваёй чырвані, кветкі аж круцяцца на дуддзі — гэта каб бачыць святло, каб не застыць, не змеркнуць, не сагнуцца.



Кветак — як маку, пупышак — што бобу. І так да кастрычніцкіх свят, калі мароз пачынае сцінаць лужыны і бярэцца груда. Яны тады чарнеюць, нікнуць. Адразу ж. Пасля першага подыху суровага ветру. Яны не любяць блекнуць. Яны гараць і тут жа зміраюць.

Бывае, позняй восенню адпусцяць маразы, выдасца сонца, адтане зямля. Стане на цяпле, як летам. Тады дома пераворваюць бульбянішчы, дзе былі не паспелі да груды, калі не ўсадзіш у зямлю плуга; тады зелянее, зноў пачынае расці трава. І тады разгінаецца прычарнелы вяргіннік, падымаецца лісце, і глядзіш — блішчаць дзе, як гарачыя вугалькі на счарнелым вогнішчы, чырвоныя вочкі-кветкі. Яны жывыя, іх не сцяў мароз.

Жывое думае жыць... Жывое хоча цвісці...

Не... Для жывога не ўсё роўна, з якога боку свеціць сонца...

Хацелася дадому, цягнула. Гэта было ўтрапенне, парыў.

Там — Галіна... Там неспазнаная маладосць, — уся ў загадцы...

У памяці ажыла восень, тая халодная ўжо, з сырым туманам пад раніцу... Тады ён прыйшоў з клуба, калі чырвань заліла на ўсходзе густыя, навіслыя над лесам аблокі... Пыліла ад першых ранніх леспрамгаскіх машын дарога ля лавацкіх садоў, бразджэлі, падскокваючы па ўбітых калдобінах прычэпы; звінелі на ферме ля студні вёдры і гаманілі даяркі. Клякаталі, як буслы, жураўлі ля калодзежаў — рассохліся: даўно ўжо не было дажджу.

І тады ён успомніў, што ўчыніў мо' недаравальнае. Як варам абліло. А хіба ён вінаваты? Вінаваты! Яшчэ і як.

Пыліла сцежка ля платоў і парканаў. Расы з начы на вуліцы не было. Камення — не ступіць.

Ён зусім пайшоў брукам. Аж бег. Здалёку ўгледзеў, як нехта павярнуўся на дворы ў Пракурорыхі ад варот і ледзь-ледзь, як знямоглы, пайшоў у хату. З-за частаколу не было відаць хто. Калі чалавек стаў на ганку і затрымаўся зусім на якую хвілю, — Леанід пазнаў знаёмую постаць.

Галіна... У касынцы, у плашчыку.

«Не спала... Усю ноч... З-за мяне...— мільганулася было. — Знайшоў што выдумаць. З-за яго, каб мерзла дзяўчына? Ёсць тут з-за каго... Мо' ў бальніцу выклікалі былі?..» — рашыў ён напасле і, вярнуўшыся ўстрывожаны дадому, доўга стаяў на двары, апершыся на частакол, і глядзеў, глядзеў на вяргіні.

— А божа ж мой... А чаго ты, сын, тут тырчыш? Што з табой? Спаць бы клаўся. Гэта ж цэлую ноч недзе...

Маці з вядром ішла даіць карову. Спазнілася сёння: ужо за шашой пад Лаўкамі галёкалі пастухі. Вытрубліваў, штукаваўся з берасцянкай закалюжанскі дзед Тодар.

Не да сну было. Хацелася сысці недзе туды, за лавацкія сады, дзе пастухі, сонца і раса. Адкуль з пагорка відаць шаша аж да Дзераўна, дзе дубы; адкуль пад сонцам у тумане сцелецца поле і сінеюць далёкія-далёкія працягі Асіпаўскага.

Хацелася ісці і ісці. Недзе шукаць яе, хто толькі што знік з воч.

Вярнулася, прагнаўшы карову, маці і зноў стала клікаць у хату.

...Тое было зусім нядаўна. Тое было ўчора. А Люды ён ніколі не сустракаў, ніколі не цалаваў... Забыцца пра гэта.

Ён не ведаў, куды ішоў.

Шумеў ад ветру залаты смароднік..

Гнуліся над парканам чырвоныя вяргіні...

Душа не знаходзіла месца.

. . . . . . . . . . . . .

У той позні вечар горад выклікаў Грыні.

Яны азваліся нечакана хутка:

— Бальніца... Бальніца... Радзько? Няма. Клікнуць? Не так то ўхопіш. Не блізка. І толькі што пайшла. Хапіла ёй за дзень. Я ўрач... Хто гаворыць? Што вы хацелі перадаць? Што сказаць?

Леанід пазнаў Барысаўну. А што ён мог перадаць? Што ён мог сказаць цяпер нават самой Галіне?

Гулі недзе далёка правады, ад ветру і холаду. Звінела ў трубцы. Леанід маўчаў. Доўга яшчэ адклікалася Барысаўна, пасля змоўкла. Гусцей занылі правады.

— Пагаварылі? Пятая кабіна, пагаварылі з Грынямі? Алё, пятая кабіна? Выклікаю паўторна, гаварыце... — крычала тэлефаністка.

Блізка і ярка, аж рэзала вуха.

— Не трэба. Пагаварылі...

«Ленінград — пятая кабіна... Ленінград — пятая кабіна...» — пачуў Леанід і ўбачыў, як на ягонае месца кінуўся малады, вясёлы маёр, з бегу ўзяўшы трубку...

«Галіна... Галя... Ты чуеш мяне?..» — голас у маёра дрыжаў ці не ад радасці. Чуваць было нават з кабіны.

Леанід позна вярнуўся ў інтэрнат.

Усю ноч нылі правады: «Бальні-і-ца... Бальні-іца...»

Усю ноч шумеў ад ветру залаты смароднік: «А помніш... А помніш...»

Усю ноч Галіна палола вяргіні... Там, дома, у гародчыку.

Ён мучыўся ў сне.

— Ах, каб у тваім гародзе бульба вымакла, чорт стары... Змарозіць жа што, здумае...

— Раіна!.. Запела... Ат... Ніхто лаянкі тваёй не чуў... А я і не шкадую свайго бульбянішча, калі хочаш знаць. У мяне што? У мяне гарод, як аўчына — з аднаго боку густа, з другога пуста. Пад раку, што ў ката пад носам, — заўсёды мокра, хоць і ў гарачае лета. Выгнівае ўсё. За вуліцай, як на поснай патэльні: што ні пакладзеш — згарыць. Сухоцце. Што большы дождж, то больш пылу...

— Гавары, гавары, Тодарка... Жыў жа колькі з гароду...

— Ат, Раіна... І не з гароду. Гарод — на свінчо. Толькі. А мне з калгаса хопіць. І на мяне, і на Анцю. Дзяцём і іх жонкам, калі трэба, касцюмы яшчэ справім. Адкажуся. Нашто мне гарод. Пакіну пад рэчку на грады сотак семнаццаць, каб за першым агурком не перціся адразу ў калгас, і до. А нашто мне сорак сотак за вуліцай? Ферма хоць прагон добры будзе мець. Я, Раінка, не ты...

Яны ў амбулаторыі. У прыёмнай. Дзед Тодар прыпёрся, калі яшчэ нікога не было. Сядзеў жа аж дагэтуль. Не пусцілі яго да Рамана, сказалі счакаць. І чакае. О-о... З Раманам ён пагаворыць... Шмат чаго ведае тая брыда. Увесь жа час з тымі выжлятнікамі. Ні на крок. Важна, каб яны яго і цяпер не перахапілі... Так ён і сказаў учора Авяр'яну: «Калі Пэрац наш — усе іхнія шэйды-марэйды нашы...» А тут не пусцілі. «У хлопца тэмпература. Гаворыць абы-што. Прыйдзе Барысаўна, мо' і дазволіць пасля. А цяпер нечага назаляць хворага. Можаце чакаць, можаце не чакаць. Вам важна гаварыць, а нам — не даць гаварыць...»



Ну і рассакаталіся, канарэйкі. Абедзве. Ён ім яшчэ пакажа. А тая, белагаловая, накінулася яшчэ, што з бальніцы «даў бы чосу». Падае градуснік, гаворыць, пастаў, дзед, праверу, і калі што — не выпусцім... Я ім пастаўлю, я ім не выпушчу. З'явілася Барысаўна. Выслухала. Сказала пачакаць. Яна сама, калі ён хоча, перадасць што. Яна перадасць? Ды яна ж сапсуе ўсё... З падыходам да хлопца трэба. Ох, дактары...

І вось сядзі ў амбулаторыі, чакай. Чаго?

Пачаўся прыём. Павалілі людзі. Як на злосць, здавалася, пахварэлі ўсе. Не было б хворых — вальнейшыя ж дактары. А вальнейшыя — лагаднейшыя. Упрасіў бы.

А тут яшчэ накасала Раіну. Які ў яе ў чорта грып... На языку, мо'?

Ну і ўсыпаў ён ёй... За ўсіх на свеце.

У прыёмнай аж чатыры акны. Светла. Цёпла. Пахне ёдам. На стале, што ля акна, дзе аблакаціўся дзед Тодар, параскіданы «ракі», «туберкулёзы» і розныя «грыпы»... З вірусам і без яго. Чытай, стары, лячыся. Убі ў галаву, што да чаго. Анцю дома падлечыш...

Грынёўцаў больш. Дзе бліжэй бальніца — хутчэй бягуць. Ад Залужжа снегу ж памешваць трэба...

Сабраліся, падступіліся да стала. Хворанькія... І зубы ім не баляць і галовы не трашчаць.

Раіна стаіць на сваім:

— Расхваліўся... Ужо ён без гародаў можа абысціся. На ўсё калгаснае падаўся. Ды цябе Анця з хаты папрэ. Ты глядзі, старлэбіна, адкажашся ад гароду, падасі моду — запратаколяць, а тады і нам сваіх старшыня скажа адчурацца. Ты мазгамі не круці. Я жыву з сотак...

— Магу абысціся без гароду, Раіна... Магу. А без калгаса не. Як той чалавек... Я ведаю аднаго, ды і ты яго знала. З памяці толькі збег ён у цябе. Напомню...

Прыціхлі. Было чуваць, як за перагародкай, куды зайшлі адразу двое, нехта стагнаў. Гаманіла са злосцю Барысаўна.

— Калі ты помніш, Раіна, — пасур'ёзнеў дзед Тодар, — аднойчы, не так ужо і даўно, прыйшлі да нас немцы. З вайной, з паліцыяй, з воласцю. Калгасы разагналі... І вось быў адзін чалавек. Не дурны, не гультай. Расцягнулі калгаснае джвучкі з выжлятнікамі па аглаблі, на шнуркі свае ўсселі. Пасечку рынуліся асіпаўскую карчаваць. А мой чалавек захварэў, злёг. Не грыпам, як ты, не. Душа забалела. Не мог ён ехаць поркаць свой шнурок на лавацкім полі. Душа ў яго пераварочвалася. Такія землі на межы глуміць... Не мог. Прывык да калгаса, да людзей, зжыўся. Гэта ж выйсці з усімі з касой... Ці за плугам стаць...

Ляжыць мой чалавек у пасцелі. Месяц, другі. Трэці. Джвучкі і шнуркі засеялі і пасеку ўзвярнулі, а чалавек ляжыць.

— Гультай. Такі, відаць, ён і ў калгасе работнік быў...

— Ты, Раіна, не сунь языка пад патэльню, пакуль яна гарачая. Гультай... На выстаўку ў Маскву ездзіў у трыццаць дзевятым годзе. Гультай...

— А-а-а...

— Вось і а-а... Ляжыць і ні з куста. Схварэўся, змарнеў. Ні рукой, ні нагой не хацеў кратаць.

— Ну і што?

— Во... Сціх шчупак, ды зубы навастрыў. За табой рот не раскрыеш. Што? Чуе пад падушкай нешта пішчыць... Хоп яе на другі бок — дзірка. З рукой туды — мышаняты... Мокрыя... Вываліся толькі... Вось што, калі ты слухаць не можаш...

— Га-га-га... Знайшоў героя...

— І знайшоў. Чалавек гэты на старасці ў партызанах эшалоны куляў разам з усімі, не пайшоў адзін поркаць свой загон. Што магло вырасці ў той час?

— Тое, што і пад падушкай...

— Га-га-га...

Пачыналі сыпацца рэплікі.

— Адзін ці на загоне ці ў ложку толькі мышэй пладзіць мажа...

— Слухай, Тадорка, а ці не пра сябе баяў, думаю я?.. — Раіна ёрзала і кашляла.

— Пра сябе ці не пра сябе — няважна. Чалавек без людзей жыць не мог! А людзі каго і за стол садзяць, а каго і з-пад стала гоняць. І не пра такіх магу збаяць. Помніш «парашутыстаў» леташніх? Забылася. А з маёй шаламэйкі яшчэ не выветрылася. Вунь як лес ля Камена быў закіпеў... Пад Асіпаўскае пажар ішоў. Помніш? Глядзім, самалёт над лесам з'явіўся. Даў кола, памахаў крыллем і сыпнуў сабе парашутыстаў, як хто з рукава. Дзісант... Шпіёны... Тады Дзедзіха за старшыню быў. Бягом той у канцылярыю ды ў раён званок. Што чыніць? З раёна пажарныя гужам, машына міліцыі — дзісант лавіць. Людзей з усіх вёсак паперлі. Злавілі тых шпіёнаў, парашуты пазнаходзілі. А гэта пажарныя спецыялісты аж з горада былі... Шашкамі агонь тушылі. Узрываць пачалі, выбуху нарабілі, людзей з лесу павыганялі... Пасадзіла міліцыя той дзісант на машыну і прывезла пасля пажару ў Грыні. Людзі, хто ў магазін, хто ля студні мыецца... Глядзяць — хата гарыць... Дым над страхой... Яны — туды. На гару. Можа ты, Раіна, і помніш... Сядзіць на гары, сабе, бабка і дроўцы ля бітончыка памешвае... Самагоначка цурчыць...

— Дурная баба была, Тодарка. Хавацца добра не ўмела. Думала, што на гару ўзлезла, дык...

— А цяпер паразумнела? Хаваецца лепш? Э?..

— Э...

— Э...

— Га-га-га...

— Аднаасобна бабка і тады жыла, ад калгаса была далекавата. І хатку сваю па сваёй дурасці магла спячы з усімі мышанятамі... А як шары былі з кнігамі пазнаходзілі, га? Усе іх адразу ў сельсавет занеслі, а бабка тая, га? Шары тыя амерыканцы з кнігамі запускалі. І кнігі не па-нашаму пісаны. Ветрам іх да нас у Асіпаўскае занесла ці промаху хто даў, не туды кінуў. У нас ніхто прачытаць не мог. Казалі пасля, што ў тых кнігах Венгрыю чарнілі, з гразёй мяшалі. Пагаварылі пра тыя шары, папляваліся і аціхлі. Глядзяць, у той бабкі раптам плашч-накідачка белая аднекуль з'явілася. Такая зграбная, не прамакае. Нехта дадумаў, што на шарах такая цырата была. За тую бабку... «Дзе брала?» «Купіла». «Дзе?» Маўчыць. «Пашыла», — кажа. «З чаго?» «Ды я... ды тады...» Пык-мык... Сазналася, нідзе не дзелася. Павяла і паказала, дзе тыя кніжачкі мохам закідала. Такая перажытачная прагнасць — паліцічная. Усе, як усе. Знеслі тую шваль. А яна — шарык той пад падол. Плашчык сабе пашыла... А ці знала яна, што гэтым самым адзінаварскія ці чые там кніжкі прыхоўвала? Была ліса, накінула на сябе лахман — ваўчыцай стала.

— Сам ты... А-а... Паскуднік... Ён маю хворую душачку вывarачвае... Помніць усё, падзямельнік... Цьфу! На вочы ўскідае. Добрыя людзі забыліся даўно...

— Забудземся і мы, калі ты сама свае старыя штучкі кінеш. А то перашарсцілася ды не зусім. У лавацкі ельнічак дуды-струны адцягваць стала. Зусім ад людскога вока думаеш зашыцца. А не выйдзе. Перастала цурчэць твая самагоначка на гарышчы, зарве ёй і ў ельніку. Не дадзім. Пойдзеш з усімі гнаёк капаць — не захочацца і гáры той. Нечага...

— А згінь ты, благое, прападзі... Кхе... Кхе... Каб гэта хто з начальства, каб гэта Авяр'ян, а то такі ж, як я... За ім скора на двор выйсці не будзе як...

— Не. Я за табой не сачу. Я цябе навылёт знаю. Успомні, як кахаліся год трыццаць назад... Не перамянілася... Наша ўпушчэнне. То калгас ладзілі, то вайна, то зноў непераліўкі якія. А цяпер мы цвёрды хлеб маем. І часу ёсць. Возьмемся і за цябе. Хоць на старасці ды нашага чалавека з цябе зробім. Вылечым ад вірусу.

— А чаго ж ён прыстаў... А галава ж мая шуміць... А ён са свету мяне зжыве...

Раіна ныла. Знарок. Абціскала каля скаб старое паліто, папраўляла хустку. Матляла галавой, бы ў вочы лезлі мухі.

Іх абступілі. Гаманілі, перабівалі. Смяяліся, зводзілі ўсё на жарт. Стаялі на Тодаравым баку. Усе, хто хацеў што сказаць.

— Ну і трымаюць жа нас... Так і памерці можна...

Гэта нерваваўся нехта ў самым парозе, Тодар не ўгледзеў хто.

— Цярпі, брат. Ты ж бачыў, хто туды зайшоў? Ведаеш, каго цяпер доктар абслухвае?..

— Ойча Сабольскі? Падумаеш, святая шышка... Грахоў — у рызу не завяжаш...

— А ён ужо і не шышка...

— Ведаю.

— А не выкідаць, калі і не шышка. Горла ж у чалавека адняло. А як жыць без мовы? Асіп, асунуўся, закульгаў — аж барадой да зямлі дастае. Кажуць, у горле ў яго шышкі параслі. Надарваў. Не з папоўскім горлам у папы палез. Ад восені занядужаў. Пасля таго, як Гаўрылішын Лёнька ў клубе яго ўзяў у работу. Злёг. Не дзлэнгнуў ні разу. Нехта мне гаварыў, што ён нават у леспрамгас заяву насіў. У лесе хлеба хоча пашукаць... Во ўзяў на пуза чалавек... Надарваўся на кліpace... А цяпер — што за поп без горла? Што певень сіплы... І царква знадворку абцярушылася, шэрая нейкая... Цячэ ўжо, гавораць. Няма куды табе, Раіна, на споведзь лыхаць... Няма... Няма каму хаты свянціць у вёсцы... Няма... — дзед Тодар аж заліваўся: — Прыязджалі раз архірэі на «пабедзе» да яго. Тупалі ўсё ля цэркаўкі. Рукамі разводзілі, бароды гладзілі. Цмокалі ўсё. Не ведаю, што ім гаварыў ойча Сабольскі, але на званіцы цяпер каты марц спраўляюць...

— Ой-ёй... Зубы ўзняліся, галоўка мая трашчыць... Не заложыць восьь, чалавеку, не замуруе... Аднаго кінуў, другога з гразёй топча... Што яму зрабіў Сабольскі? Хай ужо я замуж некалі не пайшла....

Зноў у прыёмнай загулі. Ненадоўга. Адчыніліся дзверы, і Барысаўна пазвала Раіну.

Падняўся Тодар.

— А вы, малады чалавек, яшчэ ўсё тут? Да чаго даводзіць упартасць... Добра. Нінка! — клікнула Барысаўна. — Халат на мужчыну. А вы, малады чалавек, зніміце кажух. Пройдзем. Толькі — ні гуку лішняга. Там палата. У нас парадак хворыя любяць...

Прайшлі-праціснуліся светлым калідорчыкам. Барысаўна паперадзе, ён ззаду. Тупаў, ледзь паспяваў за ёй.

Яна адчыніла дзверы зусім ціха, жаночай рукой. Адчыніла шырока, як для госця. Стала і далей не пайшла. Ён злякнуўся і стараўся ўбачыць з-за яе высокага пляча, што там, у палаце.

«Не знаю... Не знаю... Абсалютна. Не скажу!..»

«Ты згубіш мяне... Ты хочаш згубіць сябра...»

«Што нарабілі... Што яны нарабілі! Чалавека забілі... Я не ведаю. Нічога. Абсалютна. Аркадзь... Дыхаць цяжка... Падымі падушку. Не знаю! Не пытай...»

«Ты рашыў згубіць усё на свеце. А я гэтага не хачу. Не дам. Усе мы не хочам. Ты скажаш, Раман... Усё...»

Барысаўна збочыла. Пасля паціху павярнулася да Тодара. Той угледзеў ля ложка Аркадзя, у белым. Сядзіць плячыма да дзвярэй. Размахвае рукамі. Гаворыць ціха, стрымана, настойліва. Затое на ложку б'ецца ў знямозе хлопец, што рыба на пяску.

Барысаўна зноў заступіла праход, — нічога не ўбачыш. Пасля прычыніла дзверы.

Яны прайшлі назад светлым калідорчыкам. Ён наперадзе, яна за ім.

— Нінка!.. Галіну Фёдараўну мне... Свавольства...

З амбулаторыі кулем выскачыла белавалосае дзяўчо.

— А вас, малады чалавек, дапусціць не магу. Хопіць сёння аднаго самадумства. Мы адказваем за хворых. Нінка!.. Халат у мужчыны...

Барысаўна была ўжо ў канцы калідорчыка, ля тых дзвярэй. За ёй пабегла белавалосае дзяўчо.

«Што ён робіць там, што ён робіць?.. Без падыходу да хлапца, без падыходу...» — дзед Тодар скаціўся з ганка.

Белы снег калоў вочы, хоць ты праз пальцы глядзі на сцежку. Праз бязлістыя ліпы, як праз рэшата, цадзілася вострае сонца. На паркане застылі два насцярожаныя пеўні.

Было свежа, ціха і цёпла. Недзе пад Закалюжжам балбатаў цецярук, аж тут чуваць. На блізкую вясну...

«І што сказаць старшыні? Часу столькі ўгробіў...» — дзед Тодар чмыхнуў — сагнаў пеўняў з паркана. Ад злосці.

Акно дзёрлі галінкі бэзу. Збялелі, зледзянелі, сцёбалі па шыбах, як дротам. Ад ветру.

Звечара была адліга. Яе прыгнала ветрам з выганчыка, дзе за Крашчанскім лесам ніколі не замярзала Вілія. Там вырывалася з балота Жоглаўка — рака-крыніца. Варушыла ваду, гнала, не давала астояцца.

Ноччу зачаў дождж. Хваставў па сценах, стрэпаў, дзёрся, нібыта там на двары, як бывае перад вялікім ветрам-бурай, каты вастрылі кіпці аб бёрны. Пад рань дыхнула сіверам. З Цянёў. Зноў стала на марозе. Сёлетняя зіма не цярпела слёз.

Сцяло намоклыя дрэвы. Яны скрыпелі ад ветру. Бразджэла голле, як жвір у бляшанцы, калі яе стаць адмываць ад іржы; шамацела, бы гэта на двары пад падстрэшкам вецер ганяў вянкі сухіх баравікоў. Усё было чуваць у хаце.

На дварах было бела. Як шкляныя, блішчалі ля застрэшша правады. Здалёк, там, дзе яны цягнуліся да школы і на ферму, — былі белыя, што ватныя ніткі. Нібы гэта за ноч калгасныя манцёры неўпрыкмет знялі адны — чорныя, іржавыя — і павесілі новыя — алюмініевыя.

Цяжка было, відаць, хадзіць вуліцай, бо дзед Тодар праехаў з лагожамі з фермы да школы і да бальніцы, пасля скіраваў за мост у вёску, — пасыпаў пяском сцежкі.

Раман стаяў ля акна.



На двары — жыццё. Нейкае зусім іншае, як раней. Гэта мо' ад таго, што два тыдні — ні з пасцелі.

Два тыдні адабрала хвароба. Дрыжаць у каленях ногі, галава цяжкая-цяжкая, часам бывае заныe пад вечар — тады блажыць. Слабасць яшчэ.

Не пускаюць адгэтуль, не выпісваюць.

На двары трашчыць голле. На двары — вецер, гудзе, стукае ў шыбы. Блішчыць далёка дарога. Не спіць. Прайшлі з фермы ў вёску жанчыны, з вёдрамі. Пра нешта былі справілі лаянку, бо паставілі на зямлю вёдры, пасталі ў круг і доўга махалі рукамі. Раман пазнаў Ульяну — Аркадзеву маці. Яна нешта ўсё даказвала маленькай Волечцы. Успомніў і сваю, састарэлую зусім за гэтыя дні. Сама яна не магла прыйсці да яго ў бальніцу. Яе прывозіў на калгасным кані дзед Тодар, аж чатыры разы.

О-о, стары... Знае ўсё, відаць. Глядзіць такімі вачыма і бараду ўсё скубе. Ніколі ён так не робіць. Учора спецыяльна, казалі, прыходзіў. Добра, што не пусцілі.

З-пад Бусліных сосен некуды шалёна паперлі трактар. Аркадзь. Хто ж яшчэ? Па рыўках на павароце адразу пазнаеш.

Скора вясна. Зноў за плугі...

Нешта балюча пацягнула дадому, на летнія лавацкія палі, калі пасля работы саскочыш з плугоў увесь белы, наеўшыся пылу, і бухнеш на лагу на халодную траву. Млеюць ногі, млее душа. Хочацца свежага малака і маладой, але ўжо сыпкой бульбы-паспешкі, укапанай у гародзе пад рэчку і зваранай у саганку на двары ля дрывотні.

Ён аперся на падаконнік і прыхіліўся да зледзянелай шыбіны.

Халодны лёд, халоднае шкло... Ён адагнуўся ад акна. У сполаху і насцярозе.

Вярнулася трывога: што будзе?

У вёсцы жыццё, работа, летнія вечары. Там не месца яму. Усё выплыве, калі яшчэ і ціха дагэтуль. Дазнаюцца. Чалавека будуць шукаць, не кінуць так. Наткнуцца на лася, калі ўжо не наткнуліся. Тут спакой, тут нічым яго не патрывожылі. А мо' таму, што ён яшчэ ў хваробе?

Збег бы, з'ехаў куды на цаліну...

А маці? А дакументы? Цяпер знойдуць усюды.

«Далёка я зарыўся. Абсалютна...»

За акном хрумсцяць галінкі. Выдае — гэта, каб падаслаць карове, маці ломіць у гародзе сухую гавылу. Ён ніколі ёй добра не памог...

Маці... Як яна яго любіць. Знебылася як. А што ён зрабіў добрае для яе? Ласіну пакінуў? Знойдуць — цягаць будуць. З хворым сэрцам не вытрымае...

За акном трашчалі дрэвы...

Стала холадна. Ён зноў адступіўся ад акна. Было ціха і самотна. Нешта гарэла ўнутры. Трывожыла.

— Скажы, Рома, скажы... Ты ж ужо раз сказаў, калі трызніў...

Гэта Нінка. Зайшла цішком. У белым. Чорныя валасы — вузлом ззаду на галаве. Пачырванела з твару. Узрушаная нечым, ці мо' са двара толькі?

Ён маўчаў.

Яму раптам стала дорага гэта дзяўчына, такая цяпер прыціхлая і сарамлівая. Ён не мог глядзець ёй у вочы. Было прыкрае адчуванне, што ў яго лішнія рукі. Дзе іх дзець? У халаце не было кішэняў.

— Скажы... Гэта важна. Андрэя яшчэ не знайшлі. Трэці тыдзень ужо. Раскажы ўсё, дзе ты быў з імі тады... Я не хачу, каб цябе міліцыя

цягала. Не хачу. Рома... Не хачу, каб ты быў такі, каб прападаў... Што ты быў нагаварыў тады Галіне, што? Яна мне расказвала... Дзе твая галава была? Чужой дзяўчыне... Такой дзяўчыне... Каб ты ведаў, што яна для цябе зрабіла... Яна пры табе ночы сядзела, калі ты без памяці быў... Ты з ёй пагаворыш, ты яе папросіш, каб даравала. Яна забылася ўжо, але я помню. Я не дарую... Я не хачу, каб ты быў такі...

У Нінкі на вачах былі слёзы.

Ён суцяшаў яе.

Яна гладзіла яго рассыпаныя кучаравыя валасы і худыя пасля хваробы, вострыя плечы.

Ён не мог не сказаць ёй усяго. Ён любіў яе — гэта смуглявае, сарамлівае дзяўчо.

Адчуваў, як нешта мянялася ў яго ў душы, як адлегла, стала лепей.

Бачыў толькі яе вільготныя, напалоханыя і насцярожаныя вочы. Бліскучыя, што пераспелыя ажыны ўвосень на сонцы.

Душа цяплела. Побач быў чалавек, што разумеў яго; любы і мо' даражэйшы за ўсіх на свеце, і яго не хацелася пакідаць.

Іх перапынілі, не даўшы сказаць усяго і аднаму і другому.

У палату клалі мужчыну. Вялікага, шыракаплечага — не месціўся ў ложак. З леспрамгаса грузчык, Раман яго знаў. Упаў той з пад'ёмнага крана. Зрушэнне мазгоў. Не кратаў ні рукамі, ні нагамі.

Барысаўна адразу за чымсьці паслала Нінку.

Рамана абяцалі выпісаць праз дзень.

Ён і хацеў і не хацеў пакідаць бальніцу. Стаяў ля акна ўвесь час і ўзіраўся ў віднату на заснежанай вуліцы, што вяла ў вёску. Хацелася плакаць.

На двары не сціхаў вецер. Скрыпелі і шасталі голлем дрэвы, як высахлыя і апаленыя.

Раскіс, разжыжаў снег. Расквасіла дарогу. Без пары. Зверху сыпалася імжака, як увосень. Халодная, золкая. Падчас з ветрам хвасталі крупы, і тады выдавала — не белае поле перад вачыма, а перасохлая на сонцы папера — карабаціцца, лопаецца, шамаціць.

Сакавік нёс цяпло. Ранняе, чыстае. Пасля марозаў, што не адпускалі тыднямі, цяпер раптам усталявалася на адлізе, падула з захаду, панесла густым, мокрым снегам, а то і дажджом. Надараўся бывае мароз — на суткі, не болей. Ледзяніў толькі снег, не выйсці, не высунуцца на дарогу. Пасля зноў круціў вецер і нарываў на адлігу. І так ужо во колькі.

Шашой да Дзераўна пад Гальдараду трэба падымацца на пагор'е-перавал. Небрукаваная гэтым месцам дарога заставалася ў калдобінах ад лета. Выбоіны не заносіла і снегам, — яны траплялiся праз кожны крок, глыбокія, ёмістыя, зледзянелыя.

Сюды дзьмула праз усю зіму, дзёрла снег з пяском з поля, несла аж з-пад самых Грынёў. У студзені тут не праехаць было б, каб леспрамгас не пускаў тралёвачныя трактары.

Дарогу расчышчалі, а то капалі занава ў снезе. Яе зноў заносіла, раўняла з зямлёй за суткі. Зноў ішлі трактары. Шаша не аціхала ні днём ні ноччу.

...Раўла машына, захліпалася, натужвалася, дрыжала. Скакала, ірвала з месца, як кабылка, што вунь не хоча вытарабаніць з крыніцы цяжкі воз, які лёг на бок, завяз у гразі...

«Вур-р-ф... Вур-р-ф... Гум-м... Гум-м...» — хрыпата, з кашлем-стрэлам. Ні з месца.

— Раз-два... узялі! Хлопцы, узялі!..

— Не стойце!.. Газу!

Дрыжыць, трасецца кузаў... Напяліся, лопнуць на руках жылы... Стукае ў віскі кроў, як малатком хто. Людзі ў знямозе.

Ні ўзад, ні ўперад.

Да перавалу далёка. Перавал ля самай Гальдарады. Заселі аж ля Дзераўна. Ад самага паўдня прасунуліся кіламетры з чатыры ўсяго, згінь ты, благое, прападам...

На захадзе заблішчэла неба, бы яго хто працёр ад смугі: пажаўцела. Раз'ехаліся хмары, і тады над узвышшам паказалася сонца. Густое, чырвонае, маруднае, цяжкое. Захад адразу стаў малінавы, зардзеліся, папаўзлі над лесам барвовыя палосы. Роўныя, ціхія.

Неба стала задумлівае, спакойнае. Цяжка было згадаць старому Тодару, на што варажыла яно. На мароз ці мо' 'шчэ на гусцейшую слату? Разбяры сёлетняй зімой. Нанач, бывае, разгоніць хмары, ачысціць неба, заскачуць зоркі, захрумсціць пад нагамі сняжок. А раніцай — ускруціць цябе шалёны вецер, ірве страху, сцены гатовы абярнуць і сячэ, цэдзіць па вокнах буйнымі халоднымі слязьмі...

Хутчэй за ўсё паказвае на раннюю вясну.

Сонца нырнула ў хмары, знікла неяк адразу, як чырвоны камень, выгарнуты ў лазні з печы і кінуты ў кадзь з вадой. Стухлі над лесам палосы, счарнела зара над узгоркам. Зашумеў вецер, наляцеў з поля, а здавалася, улёгся...

Зашасталі па снезе колы... Пырснулі ў твар холадам.

Завыў матор. Зноў задрыжала машына...

— Паднапнёмся, дзед!.. Яшчэ раз... Недалёка!..

— Адпусці, дзед, рамень... У чайной доўга сядзеў...

— А ну яе, машынэрыю гэту... Я вам, дзеці, нічога не памагу. Тут на хітрыкі пайсці трэба ці — па трактар. А то ноч агорне... Ну, давайце, ра-а-зам!..

Дзед Тодар падпірае плячом пад кузаў. Дрыжыць машына, дрыжыць у дзеда барада, мокрая, закіданая размяклым снегам.

Леанід бачыць, як круціць галавою дзед Тодар, чырванее, што вішня, плюе і лаецца, тупаючы нагамі.

— Згінь ты, гэтакая машынэрыя, цьфу!.. Ланцугі трэ' было захапіць. Шафёр, называецца... Балагол... — падбягаў ён і фыркаў у кабіну, як трус.

— Калі ж хто знаў, што развязе...

— Па груз едзеш, а не на вяселле. Кумекаць павінен...

Плёхае пад коламі халодная жоўтая жыжа: прадзёрла да зямлі. Дарога тут гліністая.

Пад гару не возьмеш: пад снегам лёд.

Машына налягла на адзін бок. Леаніду здолку відаць, як цярушыцца з-пад брызенту праз борт суперфасфат, што мука. Здаецца, адсунуліся ад кабіны, адскочылі цяжэзныя заднія калёсы да трактара «Беларусь». Іх два. З'ехаў да барта, зарыўся ў «муку» яго чамадан.

Машыну перагрузілі.

Леанід маўчыць. Маўчыць і Аркадзь. Яны ўпобачкі. З левага барта. Аркадзь злосны, сапе ад змору і гарачкі.

Па той бок машыны шамацяць па мокрым снезе гумовікамі Авяр'ян

і Станіслаў Пракопавіч. Спакойныя. Закурылі, бы і нічога не здарылася. Мала, здаецца, і думаюць пра машыну, месяць сабе нагамі халодную зацяруху, рэдзенькую, разжыжаную, і гавораць, гавораць пра бюро. Бясконца. Не спускаюць з языка сакратара райкома.

— А ён за нас...

— А я адразу ведаў, што ён за нас, бо сваімі вачыма ўсю ферму агледзеў, усё лавацкае поле, калі тады першы раз прывозіў мяне. Усё поле, кажу, сваімі нагамі абышоў. Як прыйшлося, дык лепш за нашага агранома поле ведае, а мы...

— А мы што? Зробім усё, Станіслаў Пракопавіч. На вясну сёлета мы не вылезлі, а выйшлі. А не станецца дзе па-нашаму — дык ён за нас гарой... Чуў? Паможа.

— На райком надзейся, а сам хібу не давай... Райком табе не прыйдзе машыну падпіхаць...

На той бок перайшоў і дзед Тодар. Слухаў, не ўмешваўся, курыў, пасля не сцярпеў, зацягнуў, як певень:

— Эх, каб бабка стала не бабка, а дзедка... Была б і вавёрка і свісток. Што вы мне ўсё пра бюры?.. Тое на бюры, гэта на бюры... А ты мне за борт во бяры... Я сам чуў сакратара... А мне, во, цямняецца, людзі...

... — Пачуеш сам, што дома... Нарабілі. Пачуеш... Табе не ўсё напісалі. Выйшаў Раман з бальніцы. Адзін ён расказаў, ды і то не ўсё. Пра Андрэя ён большага не мог ведаць, злёг жа на той час. Без яго рабілася... Цяпер ад следства хлопец ажыць не можа. І з раёна, і з вобласці да яго. Далей лася сцежка не вядзе, абрываецца. А тыя — сваё: «Не знаем, не ведаем — хочаш судзі, хочаш садзі. Завярнуўся чалавек і пайшоў з хаты. Куды і што? Хто скажа. Мы ў яго не пыталі...» — усе ў адзін голас. Вось. Чалавек пайшоў з хаты... — Аркадзь маўчаў быў, не глядзеў на Леаніда, пасля здрыгнуўся, бы і цяпер на твар пырснула халоднай вады з лужыны: — Анэта злягла. Праз два дні з ног звалілася. І сын больш пры нас бывае...

Гаманілі і адтуль і адгэтуль. Лаяўся шафёр.

— Лапату, лапату сюды!.. Падналяжам!.. — даваў голас Авяр'ян.

Зноў напіналіся жылы, дрыжалі рукі. Кідала ў вочы халодным снегам і горкім дымам. Ледзь паўзлі пад гару.

Пад самым пераваламі селі макам. Па вось. Колы залезлі ў калдобіны з жоўтай жыжай, што ў два цабэркі з брагай. Беражніцу не скапаеш. Лёд. Тут трэ' было браць правей. Хібіў шафёр. Нерваваўся цяпер, не злазіў з газу, машыну хутка зацягнула дымам, яна хавалася ад воч. Па лужынах пацягнуліся бліскучыя сінія пісягі — ад масла і дыму. Матор гуў на адной высокай ноце, што раз'ятраны малады бугай, які, бывае, упрэцца ў плот рагамі і ні з месца. Раве толькі. Колы шумелі ў вадзе, пырскалі ўзад, — не падступіцца.

Дарма напружваліся ў гарачцы нервы шафёра і напіналіся на руках жылы ў людзей, якія сцяжалелі ад стомы і работы. Грузу было зашмат для газіка з пашарпанымі лысымі шынамі. Што хочаш рабі, хоць разарвіся...

Авяр'ян са старшынёй астудзілі шафёра і цяпер паціху аб нечым перакідваліся словамі. Старшыня не згаджаўся, каб беглі па трактар, бо мо' машына падыдзе якая, днём жа леспрамгасаўскія дагібелі, ды і са сваёй сілай возьмем, — падсякуць лапатай лёд, паднясуць дубцоў. На гару ж толькі выскачыць. Там лес, чыстая дарога да самай Гальдарады, а ад яе — брук.

Дзед Тодар дастаў з машыны свой новы доўгі кажух, у які ўсю дарогу ад райцэнтра кутаўся сам і захінаў ад золкага ветру «студзента» — Леаніда.

— Сцюдзёна, студзент... У мокрых паўбаціначках... Ай-яй-яй... Малады, думае. Усе яны такія. Пэрчык таксама верх лесу голы насіўся. Скінула было чортава сына. Яно скіне, калі не беражэшся...

Цяпер усе былі мокрыя і халодныя. Ніхто нікога не суцяшаў, не саграваў. Не грэў дзеда Тодара і кажух. Што тыя плечы, калі кірзавікі поўныя вады. Сагрэйся вазьмі. Ён цёпкаўся ў лужыне, цыркаў праз зубы, нагінаўся, заглядаў пад кузаў. Мачыў крылле кажуха ў жоўтай каляіне. Бурчаў пад нос, мо' пеў, мо' лаяў «машынэрыю»... Людзям — ні слова.

Леанід не чуў бы, што мокрыя ногі, каб не пачалі ціснуць паўбацінкі. Выдавала, — стаіш, як на халодным ліпкім камені, босы, у самую халодную восень. Хлапчанё зусім яшчэ, смаркач, якому дазволілі папасвіць на выганчыку свіней толькі таму, што скуголіў цэлую рань, просячыся, адурыў маці галаву...

Пасля неяк мільганулася перад вачыма жанчына, з якой давялося ехаць у аўтобусе з горада да райцэнтра. Жанчына была хворая і, сама таго не ведаўшы, села ў дарогу. Шафёр, рыжы, у рабацінні, з носам — жоўтым гузічкам, —зусім 'шчэ дзіцянё, дастаў з-пад сядзення старую жоўтую ватоўку, якой, ён казаў, «матор ацяпляў» і асцярожна захутаў ёй ногі. Шкадаваў, лаяўся н'ат, што «не работае» печка, што ўсіх памарозіць льга, і што наогул не машына ў яго, а кансерва.

Стала яшчэ сырэй у ногі. Пахаладнела за плячыма: стыла потная кашуля.

Змізарнела ў душы, пачало мерзнуць тое пачуццё, што раней наплыло, якое прынесла некалі з сабою Люда. Была толькі трывога, была адна згадка пра заўтрашняе. Што прынясе вясна, ці верне тое далёкае і ранейшае, якім ён жыў, калі не ведаў, што гэта за Люда? Яна — вецер, які пранёсся — добра, што краем, не захапіў, не застудзіў душу. Пранёсся, знік, — там, адкуль і ўзяўся.

На душы станавілася ціха. Пасля працы і холаду.

Блізка быў дом. Блізка былі надзеі.

І на гэтай разбітай раннімі вясновымі дажджамі дарозе змучаны чалавек адчуў сталасць.

Гэта яна парвала нешта старое і вывела на гэтую разбітую здаўна дарогу.

Уперадзе вясна. Уперадзе 'шчэ золкія вятры, дажджы, паводкі, — пакуль адбушуюць веснавыя буры, што ўзнімаюцца на згон зімы, пакуль абсохне, сагрэецца зямля...

Уперадзе вясна. Уперадзе ўсё жыццё...

— А ну яшчэ, хлопцы-ы-ы!.. Быць не мажа!.. — Авяр'ян разгроб лапаткай снег, выбаўтаў наколькі было льга з калдобін ваду і зноў заняў сваё месца — справа збоку.

Зноў заходзіўся матор, вось-вось захліпнецца, заткне горла...

Выдавала, гула не машына, а раўла ад натугі на загуменні малатарня, у якой дзед Тодар забіў цапы мокрымі снапамі.

Ад натугі трашчалі рукі. Цёпкаліся ў снежнай жыжы насклелыя, намучаныя ногі. Матляліся намоклыя падалы кажухоў і паддзёвак. Ад дыму падступаўся кашаль.

Было відаць, чалавечых рук мала.

Першы кінуў дзед Тодар. Адышоўся проста назад на дарогу, скрывіў галаву, прысеў быў, штось мяркуючы, пасля выпрастаўся, адвярнуўся

і стаў насвістваць нешта старамоднае, даўняе, чаго ў Грынях цяпер не ўчуеш.

— Што, студэнт, нос павесіў? — адвярнуўся ён раптам да ўсіх. Людзі сышліся: трэ' было рашаць штосьці іншае, бо так не вылезеш. Ён жа выбраў Леаніда, падышоў, стаў насупраць, гледзячы крыва на яго, бы ва ўсім быў вінаваты «нешчаслівы студэнт».

— Будзем чакаць машыны якой. Як на ліха, вымерла ўсё, — Авяр'ян быў спакойны, але стала відаць, што яму пачынае брыдаць непатрэбная важданіна на холадзе ў макраце. — І леспрамгасаўскія праскочылі на базу. Калгасных нешта рэдка сёння...

— Дарогу толькі размясілі... — Аркадзь нейкім чынам апынуўся ў сяродку. — Пабягу ў Грыні. Па трактар...

— Пачакай. Такую 'шчэ даль. Мо' лепш мне ў Дзераўно падскочыць самому. Бліжай... — Станіслаў Пракопавіч, відаць, паверыў ужо ў тое, што сваімі рукамі нічога не зробіш, хоць ты разарвіся, і нерваваўся.

— Іхнія ўсе ў эртээсе...

— Пакінем хіба тут гэтую лайбу. У мяне ногі сухія, пацярплю, не змерзну ж мо', пакуль Аркадзь трактар падгоніць... — шафёр высунуўся з кабіны і санліва пазіраў на дарогу, адкуль толькі выбраліся. — Пасплю, хоць і ўсю ноч адбухаю, калі Тодар кажуха дасць. Усё роўна ў ім дадому не дадзяўбецца стары: цяжар, далеч...

— Вось і я думаю, што цяжка і далёка. Тодару да дому кіламетраў з пятнаццаць будзе. От, скажы, каб адна машына насустрач. Тут бы тарканyць каб... — Авяр'ян верыў, што льга і самім добра падналегчы, але ж... Людзі і так змардаваліся...

Звечарэла. Слата не цярушылася, аціхла, не ўгледзелі калі. Сціналася вада ў лужынах, дубела вопратка, дзе была мокрая. Нанач магло прыгнаць ладнага марозу.

— Слухай, студэнт... — дзед Тодар падышоў яшчэ бліжэй да Леаніда і ўзяў за рукаво: — Дарма ты на калгасную машынэрыю садзіўся. Змерзнеш у мокрых паўбацінках... Рук нарваў 'шчэ колькі. Дыбаў бы на сваіх панажах, — даўно ў Гаўрылісі на печы ляжаў бы. Як кот. — Тодар выбраў для размовы Леаніда мо' таму, што нерваваўся і не хацеў гаварыць са старшынёй і парторгам, каб з гарачкі не наплясці людзям, якіх паважаў, абы чаго. — Гляджу я, як яны марыгуляць, во, і думаю... Мала чалавеку машынэрыю выдумаць, мала навучыцца ёю кіраваць. Прападзе чалавек, калі не будзе ўмець яе цераз наша балота правесці. Дарожка мне, называецца. Так і глядзелі... А то, як той Дзедзіха, у прорву ўскочыш... Колькі прайшло ад вайны, а як было гэтта не забрукавана, так і засталося. Дорбуд... Гужтруд... А дзе знак? Дзе язда, ты мне скажы? Ты вось пішаш... А ці напісаў пра такія дарожкі, што як раскалдобяць за лета, то і зімой не праедзеш... Га? Напісаў бы так, як пра Пэрцатады, га? Ніхто ж сюды вялікі цяпер не едзе, дык і не ведаюць там. А хай бы ведалі, як гэта самае ўгнаеннейка на поле з раёна лёгка бывае давезці... Га?

— А нашто, дзед, пра гэта пісаць, скажы?.. Хутка над зямлёй на лайнерах будуць і самі лётаць і ўгнаенне вазіць. Дзед, павер, дарогі хутка адамруць. Дарогі, дзед, перажытак...

— Гм... А што гэтакае лайнер, га? А-а... А бадай ты, як я той лайнер з Лайкай зблытаў.

— Ты, дзед, відаць, хітрэй за ўсіх у вёсцы. Толькі...

— Што толькі? Хітры не хітры, а галаву, мусіць, на карку ма́ю і не га́ню яе. Ты вось сваёй галавой пра лайнера філасофствуеш, а я ўсю жызню думаў, як на бычках снапы лепш з лавацкага поля звезці, каб не абярнуцца ля моста на дарозе. Твая галава і мая. Думаеш, твая надта ўжо далёка адскочыла? Ла-айнер... Я, можа, каб мог, то і на быку хацеў бы адарвацца ад зямлі і лётаць, як на лайнеры. Тваё 'шчэ наперадзе, а я не налётаўся. Адзін раз на «кукурузніку» ў горад ездзіў і то не сам. Пасадзілі, каб у кіно зняць, як калгаснікі на базар лётаюць... Тэк... Мы, старыя, налёталіся па такіх дарожках... Бензіну колькі сёння спяклі, гэта ж на бычках танней абышлося б. А людзей колькі рвалі... Налічы ўсім працадні за гэта, колькі будзе расходу? А што зрабілі?

— Дзед, ад тваёй лекцыі нясе перажыткамі... Ніякіх паветраных быкоў не трэба. Забрукаваць бы гэты правал...

Тодар не даў гаварыць:

— Пачакай, студэнт. Табе жарцікі... Цяпер яшчэ не ліха. Мы пасядзім трохі, у нас груз, другі праскоча з пустым... А пачне разводзіць дарогу, га? Што? Ад раёна адразайся на месяц, як раней? А языком брукаваць можна... Яшчэ і як. Чорт знае што. Цяні высцяліць можна...

Ззаду за імі стукала лапата. Аб лёд. Часта, гулка, са звонам.

Скінуўшы з сябе паддзёўкі, Авяр'ян са старшынёй напераменку ссякалі ледзяны бераг. Моўчкі, без слоў. Пагаварылі былі перад гэтым яшчэ крыху пра бюро і ўсё.

— Ацямнеем. Замерзне лужына за ноч, — пачынаў біду дзед Тодар.

— Заўтра ж машына трэба. Другі рэйс сарваць? Не-е... Ці мо', дзед, расхацелася быць за грузчыка? — падцінаў яго Аркадзь.

— Дабавілі ўгнаення... А каб адмовіцца, не вывезці?.. З рук у другіх старшынь вырвалі, лічы. Каб не сакратар... Марудзіць нельга. Можа з дня на дзень парваць дарогу зусім... Пабудзе ноч без марозу і — канцы.

— Нічога, дзед, дарогу загародзім. Другія не праскочаць. Наша — нам.

Людзі тапталіся, размаўлялі, секлі лёд напераменку, пасля маўчалі, дыхалі толькі зморана і цяжка.

Шафёр вылез з кабіны і вобмацкам стаў калупацца ў маторы. Лаяўся, кляў ваду. Ці не яе нагнала аж у матор?

Дзед Тодар пацёпкаўся быў у лужыне і ўзяўся за «сваё начальства».

— Во... Хай падзёўбаюць. Варта. Пазнаюць, як гэта добра. Я б на іх месцы... Яны ж сілу маюць, іх жа слухаюць і ў райкоме і абкоме. У абкоме ж Перапёлка, зямляк наш. Дык яны і не заікнуцца пра дарогі. Мо' цяпер калі ўспомняць, як свая блыха ткнула. Часцей бы так. І чаго там ужо чакаць ад дзяржавы помачы? Колькі тут угробілася машын... І леспрамгасаўскіх, і калгасных. Скінуліся б гэтыя самыя леспрамгаскія дырэктары і наськія старшыні — брук бы аж заблішчэў. Дык не... Бензін лішні пячы іх справа, а каб на тыя грошы дабро ўсім зрабіць — не іх. Графы, відаць, у цэтліках іхніх такой няма. Не-е... Ты, студэнт, носам не круці і не крыцікуй мяне. Я век зжыў, а ты маіх бычкоў дражніш. А я табе, як Выжлятнік гаворыць, прама, мілы, скажу... Добра, што трактары ў калгасы раздалі. Цяпер засеў на дарозе — бяры свой трактар і цягні сабе. Бычкі адпачнуць. А перш? Увяз — бяжы ў эмтээс. А там... Зноў — няма графы ў цэтліках такой, каб дазваляла машыны з гразі цягаць. Бычкоў гані. Дзе ж, гразкім летам выходзіць было: вышнуруйся ўсяму эмтээсу і стой 'ля Дзераўна... Вось так, студэнт... Матай на свой малады вус. Хаця, што я табе талкую... Ты і сам помніш, як я на сваіх бычках выцягваў дырэктара эмтээсу з гразі... Аж з Гальдарады быкоў гнаў. Талкую вось, бо няма з кім душы адвесці. Каб узяў толькі надумаўся — ды да аднаго сакратара дайшоў, да другога. Памагло б. Нябойсь... Нічога, я з табой пра гэта яшчэ паталкую. Прыйду некалі.

— Не зусім яно ўсё і так, дзед Тодар... Прыйдзі калі — пагутарым... Крытыка твая мо' і правільная, ды яна... Старыя мудрасці. Змудрыў бы, як лепш з яміны вылезці...

— Годзе грэцца на холадзе... — перабілі іх.

— Нанач сабраліся, распеліся...

— Тодару што ў кажусе... А табе, студэнт...

Са снегу з абочыны вылез Аркадзь. Мокры, аж па пахі. Прывалок ахапак альховага голля:

— Што ты ўломіш рукамі... Тапор бы. А снегу ля кустоў...

Голле патрушчылі, прымялі, падсунулі пад колы.

Захлебастаў матор, уздрыгнуў кузаў, — у вочы сыпнула белай мукой...

— Давай, давай, давай, давай, дава-а-ай!..

— Не адступаць!

— Выйдзем!.. Выкарабкаемся... Яшчэ раз!..

— Не здаваць!.. Газу... Газу дуні!

— Ад кола адыдзі! Хто там?.. На аладку расплешча...

— Давай!.. Давай!..

Калаціла кузаў, біла ў рукі...

Ад натугі ў ваччу стала сіне, зацярушылі іскры.

Леанід адчуў, як нешта тузанулася і разлезлася на плячах. Пасля ён праваліўся некуды на дно яміны, выкарабкаўся, дастаў да кузава і пхнуў, упіраючыся знямоглымі нагамі ў слізкую зямлю, колькі мог...

Па твары хлёпала мокрым, праціўным цестам. Гэта шпурляла з-пад колаў раскіслым снегам і глінай.

Знізу патыхала дымам, — стала блага да рвоты.

— Давай, давай, давай, дава-а-й!..

Гаманіў Авяр'ян. Голасна, з натугай.

Заходзіўся матор, бы хто дзе вадзіў палкай па частаколе; рыкаў, як запрэжаны ў плуг галодны аромы бык; ныў, як шалёны сівер у тэлефонных правадах; стагнаў, што скінутая з ног хваробаю жывёла.



— Давай!.. Давай!..

Чалавечы голас бадзёрыў, даваў веру.

Кузаў раптам падскочыў, выпрастаўся ї палез паціху пад гору. Шуршалі колы, пасоўваліся марудна, цяжка.

— Давай! Давай! — крычалі людзі.

Матор роў гучна, роўна. Рассоўваўся, распаўзаўся на баку снег.

Лезлі вышай і вышай...

Пхнулі аж за перавал, далёка ўніз, калі ўжо і не трэба было. Спыніліся, пачалі змахваць з вопраткі снег і ваду. Адзін у аднаго. Былі ўзрушаныя, у радасці, бы нічога раней і не сталася.

— А дзе Тодар? Тодар дзе? — толькі цяпер у голасе Авяр'яна была трывога і неспакой. — Што лыпаеце вачыма? З кім ён стаяў?

Маўчалі. Пасля ўсе, як у змове, пусціліся назад, за перавал.

— Сцямнела, ты глядзі... І не ўбачылі калі... — старшыня намагаўся быць у спакоі. — Застаўся дзед, не бегчы ж яму за машынай, як нам, маладым.

Здалёку чалавека не было відаць. На дарозе цямнелася на снезе купка. Ля самай калдобіны. Падбеглі бліжэй — жывая. Валюхалася, боўталася ў вадзе. Злякнуліся, уздыхнулі. Маўчалі.

— Ты што? — Авяр'ян нагнуўся над ім.

— Ды во, лапаты ніяк не знайду. Падсунуў незнарок... Ручка, глядзі, вунь, патрушчыла яе, што ў жорнах. А лапатка прапала. Куды і што? Ні на дне, ні на вярху. Проста дзіва...

— Кінь, дзед, давай паехалі. Цяпер трэ' хуценька ў цёплую хату заваліцца... — Авяр'ян хацеў падняць яго з зямлі пад руку.

— Табе ўсё кінь, — забурчэў дзед Тодар. — А лапата новая. Дзе шафёр? Хай сам тут пашнырыць, бо вочы мае не бяруць у цемені.

— Дзед Тодар! І так мы знемагліся на гэтай чортавай яміне... Паедзем. Спіша тую лапату Станіслаў Пракопавіч. Паехалі.

— Дзед, а дзе кажух?..

То быў малады, здзіўлены голас. Нейкі высокі, як ніколі. Нельга было пазнаць, што азваўся Аркадзь. Толькі цяпер усе ўгледзелі, што дзед Тодар сядзеў на цыпачках у адной фуфайцы. Ля ягоных ног ляжала мокрая аўчына. Бы гэта стары толькі што вырваў з воўчых зубоў авечку, нежывую, мокрую, убадзяную ў кроў і гразь.

Аркадзь падняў са снегу ласкуты ўпэцканай кажушыны. З іх цякла вада.

Людзі збянтэжана глядзелі адзін на аднаго.

— А вы думаеце, яна б выскачыла наверх па тым голлейку? Не-е... — дзед Тодар падняўся, выпрастаўся. — Давайце закурым і паедзем, калі не хочаце лапаты шукаць. Халерная яміна!.. Я ўжо думаў, што нічога не паможа...

— Давай, дзед, у кабіну да шафёра. Забірай і студэнта з сабой, а мы са старшынёй пад брызент мо' як падточымся. Гэта ж падумаць... Тодар, Тодар...

Падышлі да машыны. Матор сакатаў лёгенька і суцішна, што маладая курыца-нясушка.

Аркадзь закінуў мокрае шмоцце ў кузаў.

— У калгасны музей некалі...

— Я табе дам, верхалаз, музей... Хопіць і так з вас выдумак. Паспрабуй мне языком і на вёсцы пра гэта... Пазнаеш. Сваёй Анці я сам раскажу. А астатнія не павінны знаць. Што гэта? — дзед Тодар быў

сур'ёзны і крышачку мо' злосны. — Давай, студзент, — таўхнуў ён Леаніда, — у кабіну. У цеснаце, ды ў цяпле. Цяпер табе не будзе там наверсе ў што закруціць паўбаціначкі. Змерзнеш. Прыедзеш да Гаўрыліхі і хвост 'шчэ адкінеш. Смяляк такі...

— Не злуй, дзед, — не адступаўся ад яго Аркадзь. — Які ж з цябе грузчык без кажуха? А ўсё наперадзе...

— Без кажуха мне 'шчэ больш на руку. У кабіне буду ездзіць. Са старшынёй. Кумекаеш?

Сіні мрок пачарнеў. Ад Дзераўна да пагор'я-перавалу бліжэй падступіўся лес. Цямнелася цяпер неяк усюль адразу, толькі там, дзе на сконе дня было паказалася сонца, дрыжаў акравак барвянага неба, як ад далёкага пажару.

Ззаду на шашы ўспыхнулі, зжахнулі сутонне і згаслі фары. Даганяла машына.

Занылі ў галёнках ногі, як ад вялікай, цяжкой дарогі. Рукі сталі вялыя; назызлі, счарствелі пальцы. Агрубелі. Патаўсцелі, пахлі глінай.

Леанід ледзь падняўся на падножку...

Перад вачыма ўспыхнула святло, — выхапіла блеклую дарогу, роўную, заснежаную, шырокую. Бы і няма на свеце калдобін, поўных вады.

Шумеў матор, шумелі недзе па счарствелым ад марозіку снегу колы. Шумелі машыны, што прайшлі насустрач, гружаныя сенам. Аж тры.

Недзе далёка-далёка згінаўся пад халодным ветрам залаты смароднік, і зусім жа блізка шамацелі за парканам вяргіні ў цвеце... Усё, як у сне.

Насустрач ляцела ноч, спалоханая агнём ад фар. Было нязвыкла цёпла і мройна. І думалася, думалася. Пра горад, пра дом. Думкі збіваў дзед Тодар, дапякаючы шафёра.

...— Што цяперашні малады свет... Прыйшлося напяцца — і звесіў дзюбку, як шпачок. Добра, што не разявіўся і не хаўкае. Дык слухай, браце... — варушыўся дзед у цеснаце. — Дык вось я і кажу ёй: «Хочаш? Зраблю. Я знаю, што пакласці ў віно. Чарку-другую — і ён твой. Не адыдзецца». «І любога мужчыну можна?» пытае. «І любога», — кажу. «Добра, — гаворыць, — прыходзь». Вось я і пачаў... Падлабуніўся раз, другі. Тыдні са два пахадзіў так. Думаў, зусім ужо забылася пра варажбу. Аж не. Пытае неяк: «Дык што ж усё-такі трэба пакласці ў віно, каб чалавек да цябе любоў пачуў? Гавары...» «А няўжо ты яшчэ не пачула да мяне ніякай любосці, га?» — пытаю і я. «Абманіў!.. Абманіў!.. — крычыць мая Раіна на ўсё горла. — Пранцы на цябе...» Так што было і ў мяне ўсяго, было... — дзед Тодар пакруціў галавой. — Хаця я тады ў хлопцах хадзіў. Не тое, што ты цяпер... Ды і не застаўся я вінаваты перад Раінай. Яна да мяне ўжо колькі гізавала. А мне тады жаніцца час настаў. Дзяліцца трэ' ад бацькі было. Як гарох спелы са струка, пырскалі мы ад бацькоў. Хоць і спешка падганяла, а на такой Раіне жаніцца не мог. І паехалі мы тады ў Камена ў сваты да Анці. Вось ты гаварыў тут, што старая любоў заўжды наломіць дроў, нешта такое... — Тодар зусім павярнуўся да шафёра. — Я калі абвянчаўся з Анцяй — забыўся і ў якім баку Раіна. І не цягнула ніколі. Анця ў мяне была дзеўка добрая... А ад Раіны, бывала, адбою не было. Ці на лузе — дык у капу падкоціцца, ці на таку — дык у снапы пісне. А колькі было, што паўлітэрку паказвала. Ні глянуў. А спакусы было, дзякуй богу. Вось з той пары я ёй вораг, змей. Цярпець не можа... Во якія бабы, ты скажы. А жонцы хіба дакажаш, што ты не ў муцэ? Стань хоць чуць поперак дарогі, дык мая Анця на ўсё Закалюжжа: «Да Раіны вунь!.. Марш! Можаш!» І не начаваў у хаце колькі. На сене ўвосень мёрз, хоць ты, было, да гэтай самай



Раіны чэпай... Во. Так што, брат, твая жонка яшчэ нішто. З хаты цябе за твой мужчынскі грэх не гоніць. А можа і варта было б. Дзяціны бацька... Ты мне ў сыны па гадах, так што скажу без абрэзкаў...

Гаманілі доўга. То моцна, то ціха. Дзед Тодар не даваў шафёру н'ат рот раскрыць... І слухаць не хацеў, што той бурчаў, каб апраўдацца.

Леанід больш нічога не цяміў, што гаварылі побач. Глядзеў на белую-белую пад агнём дарогу, на цёмныя дрэвы, што скакалі ўперадзе ўзбоч шашы, і ўвесь ірваўся дадому. Перад вачыма стаяла Галіна — у тым плашчыку і касынцы, калі ён угледзеў яе ля варот на двары ўранку. Ён і сам не ведаў, што так свежа можа быць яна такая ў памяці. Мо' ад таго, што бліжэюць мясціны, дзе колькі пра яе напамінкаў?

Шумела ў галаве. Стала горача і цесна. Захацелася наверх, у кузаў, дзе свежа. Ён сказаў пра гэта, але шафёр быў заняты сваім і нічога, відаць, не ўчуў. А мо' Леанід і не сказаў, мо' толькі падумаў так?

Шумеў надакучлівы матор, трэсла, падкідвала, — і ад гэтага 'шчэ больш цяжэла галава.

Ад Гальдарады ўжо замігцелі ўперадзе агні. Набліжаліся да Грынёў. Сцямнела зусім. Нельга было ўгледзець гальдарадскія дубы.

У Грыні з'ехалі з горкі ад саду, ціха, нячутна. Як скаціліся. Спыніліся ля маста. На вуліцы было поўна вады, як і на дарозе ў лагчыне за пералалам. Пад нагамі ламаўся слабенькі лёд, хрумсцеў, разлятаўся, звінеў.

Людзі адразу разышліся. Авяр'ян клікнуў дзеда Тодара да сябе нанач. Старшыня загадаў гнаць машыну на праціўню ў свіран, каб заўтра ранкам, не будзячы шафёра, яе льга было разгрузіць. Ускочыў сам у кабінку, — пад'ехаць мо' хацеў да хаты па дарозе.

Леанід пераняў чамадан з машыны ў Аркадзя з рук і запрасіў таго да сябе. Хлопец адмовіўся. Недалёка, ідучы, ужо не змерзне, дома чакаюць, ды заўтра раніцай зноў збірацца на пагрузку трэба, а ў чужых сушыцца не з рукі. І маці попусту знябудзецца.

Яны разышліся за мастом.

...Вароты аселі на снег, не хацелі адчыняцца.

Ён ледзь намацаў зашчапку. Падняўшы на руках вароты, прапхнуў іх па снезе. Дырчала знізу дошка, сунучыся па збітаму, зледзянеламу грунту.

На двары падцяло, было цвёрда і прыступна зморaным нагам. Шасталі адна аб адну здубелыя калошы.

Агню ў вокнах не было, — ён 'шчэ здалёку ўгледзеў. Легла маці спаць недзе.

У гародчыку снегу — роўна з парканам. Ён адышоў ад вуліцы, паставіў чамадан долкі і аперся на частакол. Снег быў цёмны, счарнелы зверху ад вады і пяску, які, мусіць, дзёрла і несла ў вятры з гароду з-за вуліцы. Адсюль была добра відаць ферма, — уся ў агнях, у віднаце. Калі там заглухла машына — чулася доўгая гамонка, далятаў голас старшыні. Яго недзе акружылі жанчыны-даглядчыцы. Ля будынкаў чарнеліся ў шэрым мроку Бусліныя сосны, бы гэта сюды звязлі ўсё сена з Доўгіх і скідалі ў агромністыя стагі, — бліжэй да фермы, а то дзе тое балота за цалюткім светам...

Пад локцем зашамацела, — трапілася нешта сухое, выпетранае. Ён намацаў і выцяг засохлую кветку вяргіні, яна запала была, ушчамілася між адтапыранай частаколінай і лацінай.

«Адцвіло... Змерла... Усё трэ' пачынаць нанава...»

Ён доўга стукаў у запёртыя з сенячак дзверы. Ніхто не чуў. Падышоў тады да акна, забарабаніў пальцам па шкле. Забразджэла шыбіна, —

не моцна была прыціснута цвіком. На руку пацярушыўся адталы кіт. Да акна з хаты прыпала маці. Пасля адагнулася і стаяла, не краталася, каб пайсці адчыніць.

— Гэта я... Адчыніце...

Ён зноў падаўся да ганка, зноў стукаў у дзверы.

— Хто там?.. — голас маці строгі, спалоханы.

— Гэта я... — ён сам цяпер пачуў, што ахрып.

За дзвярамі маўчалі. Не хацелі адпіраць. Маці вярнулася была ў хату. У вокнах успыхнуў агонь.

— Хто «я»?.. — пачулася пасля з хаты, адтуль, аж з парога. На гэты раз спакайней і цішэй.

Яго не пазнавалі.

— Я, Лёня...

— А сынок мой... А бадай на мяне... Са сну гэта я. Сплю і сню, як бы партызаны ў шыбу стукаюць. А што ж гэта я...

Адхінуліся, бразнулі аб сцяну дзверы ў сеначках.

Маці выбегла аж на двор...

Калі ён пераступіў парог, калі запахла памытай падлогай і свежай варанай бульбай, — адчуў, што ён дома, што ад змору не можа стаяць на нагах, што вунь як хочацца есці.

«Хутчэй бы паваліцца на ложак...» — першае, што падумаў ён.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра раніцай у бальніцы яму сказалі, што Галіна ў горадзе. Паехала ўчора. Калі будзе? Хутка...

«Размінуліся...»

Ён доўга стаяў ля бальніцы на вуліцы. Не хацелася ісці дадому.

Вецер, што ўсхадзіўся з начы, аж дзёр снег, гнаў вуліцай тонкія дробненькія ільдзінкі з вымерзлых лужын, шумеў, круціўся ў платах і стрэхах.

Памроілася — недзе ныюць пругкія, шорсткія, стрыжаныя кусты залатога смародніку.

Хацелася ў горад...

На душы было самотна, трывожна.

Ён не ведаў, чаго яшчэ застаўся чакаць на вуліцы.

Дайшлі, дабраліся і да Джвучкі, а то чакалі, аж знебыліся. Пытанне пра яго — апошняе, паперадзе — больш важнае: у поле вось-вось рушыць трэба. А сёлета падышлі да пасяўной не так, як у мінулыя вёсны...

Пра гэта і гаварылі, пра гэта рашалі.

Дайшлі ўрэшце і да яго.

Праўленне — пашыранае, з актывам. Націснулася поўная канцылярыя, аж па дзверы. Каго давілі да сцен, той крычаў, каб перайсці ў клуб, дзе месца, як на полі, — але разгарэлася гамонка, людзі паспелі ўжо зачапіць адзін аднаго за жывое, і ніхто не хацеў нікуды выходзіць. Толькі забаранілі курыць. Галасаваннем. Адзінагалосна. Бо вокны ж не расчыніш яшчэ, хоць і дождж на дварэ.

Усе аціхлі, пасмірэлі, забыліся, што хвіліну назад вярнулі адзін на другога цуды-беды — ніхто не хацеў чуць, што ён гультай — і ні старшыня, ні Авяр'ян тады не маглі супакоіць. Цяпер жа самыя заядлыя «ненавіснікі» сядзелі ціха ўпоплечкі, у цікаўнасці н'ат не кашлялі. Чакалі, што ж там пададзена за заява на самай справе, бо па вёсцы чаго толькі не наслухаліся за дзень і чаго не наплялі ўжо тут, на праўленні. У грамадзе языкі свярбяць.

Станіслаў Пракопавіч стаяў ускрай стала. Малады, зусім, смуглы, з адкрытым, прамым тварам. Валасы зачэсаны назад, ад агню блішчаць. Павольны чалавек, бо стрыманы. Паглядзіце, як разыдзецца... Колькі агню тады, задору, шчырасці. Гутаркі, як вады... Гаворыць заўжды чыста, проста і смела. Нікога ніколі не мінуў. І кожнаму — у вочы. Не любіць, калі хто хоча нагаварыць зачы.

«Прыйдзі і скажы ўсяму праўленню, раз ты такі. Мінуліся часы, калі праўду трэ' было неяк з-за вугла з мяшка па слоўцу церушыць... Праўда — не мякіна, і месца яе не ў мяху. Будзем гаварыць адзін аднаму прама... Не сумеем адразу — вучыцца станем... Выйдзе. Праўда, хоць вочы коле, — ды не любіць завуголля. Вылезем».

Людзі слухалі яго і верылі: чэсны чалавек, з душой, з галавою. А што больш трэба? Хіба не пры лайдаках нагараваліся?

Ён н'ат крыху адышоўся ад стала, каб быць бліжэй да людзей. Мо' хто яшчэ раз угледзеў, — гэты хлопец стройны і цвёрда стаіць на нагах.

Голас у яго не мяккі, але цяпер лагодны. Чытае спавагі: пра нешта ўсё думае, нечага 'шчэ сам мо' не рашыў. Чуваць у сціхлай хаце аж у самым парозе. Да слова.

— «На ўпраўленне калгаса...» Без смеху, там, ля акна. Чалавек пісаў сам, як мог. Нечага ўжо... — старшыня перадыхнуў: — «На ўпраўленне калгаса ад самага радавога калгасніка Платона Джвучкі. Заява. Прашу, як толькі магу, упраўленне свайго калгаса і самога нашага старшыню ўвайсці ў наша сямейнае палажэнне, разабраць заяву і паслухаць, памагчы выкруціцца са штрафу. Усе чулі, што міліцыі стукнула ў галаву абкласці мяне, хаця я таго лася не біў, а біў яго Пэрац. Я і ў міліцыі гэта казаў, дык не слухаюць. А дзе ж узяць сёння мне, самаму радавому калгасніку, гыя тысячы, калі запасу ніякага ў кублах няма, можна злазіць праўленцам на гару паглядзець, з калгаса летась не палучыў. Не раздзецца ж мне нагала і везціся спрадавацца з апошнім...»

— Га-га-га... — смех, як выбух.

— Ля акна!.. Моладзь... Цішэй там! Смешнае знайшлі... — старшыня падняў руку. Нават не ўсміхнуўся. Прадаўжаў: — «Увайдзіце ў палажэнне, а я цяпер буду адрабляць, хадзіць кожны дзень на работу. Нага мая на папраўвак пайшла, паглядзець можна. Буду рабіць. А так — дзе ўзяць? А міліцыя на мяне навалілася з вялікім штрафам незаконна, дык калі помачы не хоча даць калгас, тады хай даб'ецца, каб штраф спісалі. Можа б старшыня ў райкоме сказаў. Аднаго б штрафавалі, хто біў. А то дзе я вазьму? А ў калгасе грошы ёсць, хай памогуць. Прашу і ўпраўленне і самога старшыню. Ад мяне і ад жонкі. А рабіць я пайду. Я ўжо і цяпер сам стаў хадзіць, хай брыгадзір скажа. А грошы, калі ўжо так трэба будзе, возьмеце з майго працадня. Не адкажыце ўвайсці ў палажэнне. Радавы калгаснік П. Джвучка.»

Не давалі дачытаць. Соўгаліся, ёрзалі, варушыліся, адкрыта гаманілі. Цяпер жа цяжка было разабраць, хто крычыць і адкуль.

— Ціха! Цішэй!.. Ціха!.. — старшыня намагаўся ўціхамірыць калгаснікаў. — Нічога не разбярэш... Хто мае слова? Па чарзе. Дайце сказаць членам праўлення...

Старшыню бы не чулі... Трашчала столь. Паўскоквалі ўсе да аднаго, хто сядзеў. Заварушылася канцылярыя. Стала духотна. Піхнулі насцеж дзверы.



Галасы — вадапад, галасы — агонь...
— Нахa-а-бства!..
— Хто яго наразуміў на праўленне падавацца з такой заявай?!
— Во... Карову яму лепшую з фермы за работу... Прэмія!..
— Калі летась не палучыў, мог ісці сёлета ямкі для слупоў капаць... Мог бы зарабіць на цэлы штраф...
— А людцы, а што ж гэта?.. А калі кожны стане такія заявы пісаць? Дык і мне дайце! Можа і ў мяне не хапае сёння тых тысяч?..
— Калгас разнясем!..
— Не збяднее калгас... Памаўчы. У чалавека гора. Дзе ён возьме?
— А ты сваю карову завядзі яму на двор... Памяняй на лася. Добранькі знайшоўся...
— Хай у Выжлятніка возьме. У таго яшчэ папоўскія недзе засталіся...
— Выжлятнік сам па вёсцы бегае, каб пазычыць.
— Га-га-га...
Пасля смеху былі сціхлі.
— А дзе Джвучка? — спытаўся нехта, бы апамятаўшыся...
I зноў бы град пасыпаўся пасля сціханага.
— Напісаў, а сам не прыйшоў?..
— Насмешка!..
— Ды гнаць яго з калгаса! Ён рабіць будзе... Цешыць некага. Гнаць! Як мы яго яшчэ дагэтуль не прапёрлі, я не разумею, старшыня?
— Ён на людзі саромеецца паказацца...
— Ды яны, бандзіты, не толькі лася ўгробілі... Яшчэ нейкай помачы просіць...

Усе неяк прыціхлі, павярнуліся на мужчынскі голас. Зашапталі: «Хто сказаў? Дзед Тодар, га?» Людзі перахварэлі ўжо, хаця не маглі звыкціся, што ў калгасе няма Андрэя Дзедзіхі. Перабедавалі, перагаварылі і цяпер — аціхлі. Што казаць? Пачні — зноў усё спачатку. Следства прайшло. Нічога новага, усё так, як даводзілі Выжлятнік і Джвучка. Андрэй, відаць, рызыкнуў нечага сам, а па п'янцы...

Цяпер, калі пра гэта напомнілі, людзі сціхлі.

— За лася просіць, каб даравалі... А за чалавека? — Гэта сапраўды гаварыў дзед Тодар. — За жывёлу яго наказалі. А за чалавека? Следства закрылі... Няма ўлікі. А гэта не ўліка, што чалавека і цяпер не знайшлі?.. А мо' ў яго чэрап прабіты? Колькі цягалі з яго, скублі, як быў старшынёй... Душу яму атруцілі. З-за іх свет яму мо' нямілы стаў. Я ведаў Андрэя... А цяпер гэты яшчэ просіць нечага. Пры Дзедзіху жыў за калгас і зноў думае тысячы яму калгас нарыхтаваў. Ні рубля!.. Я б яго з канцылярыі выгнаў, каб ён асмеліўся яшчэ тут вочы мазоліць... Лепш Анэце памагчы, з дзяцьмі вунь асталася. Хіба гэта жыццё ў бабы?.. Кожную мінуту чакай... Слухай, дзе што шаркне... Вы думаеце, яна верыць, што Андрэя няма? Яна ж, як на агні, ночы-апоўначы...

— Паслухай, дзед Тодар, зразумей мяне... — старшыня перайшоў аж да самага акна, дзе Тодара абляпілі дзеці. — Не будзем сёння вяртацца да Дзедзіхі. Самі ведаеце, два сходы мы і гаварылі, і крычалі, і рашалі. А што? Улікаў няма. А следства не закрылі, хто табе сказаў? Не закрылі, пакуль чалавека не знойдуць. Як жа? Усе мы ведаем, усім нам хапіла. Мяне ў абком клікалі па гэтаму пытанню. Сам Перапёлка. Не ў нас адных баліць. Андрэй Перапёлку вунь у партызанах ад смерці выратаваў... Узялі ж былі і Куцку, і Выжлятніка з Джвучкам. Узялі і пусцілі. Доказу-то ніводнага... І няма ў нас часу штораз валэндацца з Джвучкам. Пара б сапраўды рашыць: ці з калгасам ён ці... Мне здаецца, што раз у заяве ён абяцае хадзіць на работу і пайшоў, я сам бачыў яго два разы

на ферме з вілкамі, то пачакаем. Не будзем спяшаць. Выкінуць паспеем. Рабочыя рукі нам трэба. А там паглядзім. Будзеш рабіць — будзь калгаснікам. Не будзеш — ты, брат, не малое дзіця, хоць і прыкарэў там у кутку на лаўцы, як камар. А з заявай давайце рашайце, члены праўлення.

— Дзе ён? Дзе Джвук? Тут?..

— Во... У парозе. Пад спадніцу да Раіны схаваўся...

— Цішэй, разумнікі...

— Хай устане, хай раскажа, як было з ласём!..

— Знаем. У сценгазеце ж пісалі...

— Ды ён п'яны... З яго, як з бочкі...

— З гора сербануў...

— Раінінай гáры...

— А ты што, піў з ім, калі знаеш?

— Ды не. У нас цяпер, акрамя Раіны, ніхто не цісне...

— А ты дакажы, Тодарка, калі на тое пайшло. Дакажы. Злаві!.. — Раіна краталася, як адцяты хвост у яшчаркі.

— І дакажу. Не разяўляйся, любоў мая... І дакажу, і злаўлю. Даю слова ўсяму праўленню. Знаю ўсе твае хады і выхады... А Платону ты цяпер дарма падсоўваеш. Чалавек за розум мо' ўхапіўся, то хай галава ў яго будзе здаровая. Лягчэй яе будзе нам павярнуць да сонца...

Зноў зрэзаліся два «старыя прыяцелі».

Зноў схапіліся тыя, што не хацелі быць гультаямі. Доўга дзёрлі горла, колькі маглі. Ніхто не пярэчыў.

Пасля гаварылі праўленцы.

Апошні выступіў старшыня, каб абвясціць усім, на чым пагаджаецца праўленне.

— Таварышы члены праўлення і калгаснікі... Просьбу Платона Джвучкі адхіляем. Але ідзём на ўступку. Будзем даваць яму штодня добрую работу, каб, скажам, з працаднямі яму было лёгка разлічыцца, калі, скажам, ён пазычыць у каго грошай... А з работай вырашыць брыгадзір... А калі Джвучка недавольны чым — хай падае заяву на агульны сход. Урэшце ж, рашаюць калгаснікі, а не адзін, скажам, старшыня ці Авяр'ян...

Ціха слухалі старшыню. Пасля зноў прыняліся за Джвучку.

Праўленне закончылі позна.

Людзі разыходзіліся нехаця.

Гаманілі на ўсе Грыні. Не маглі нагаварыцца ў той вечар.

. . . . . . . . . . .

У клубе, пасля рэпетыцыі, далёка ўжо за поўнач, сабраліся камсамольцы. Сышліся ў купку, акружылі Аркадзя.

— Чулі, што адмовіла Джвучку праўленне? — гаварыў ён. — А хто гэта казаў, што і Пэрцу падаць заяву трэба?..

— Цяпер гэта неразумна. І смешна...

— Хаця Пэрцу памаглі б. Не раўня Джвучку. Рабіў жа ўсё лета на трактары.

— І гутаркі не можа быць пра помач.

— А што ж стане з хлопцам? Хацеў на цаліну з'ехаць, дык маці ж хворая. І не пусцяць цяпер, пакуль штраф за ім. Унясі. Пэрац, Пэрац... Махнулі мы былі на яго рукой...

— Чаго ты? Тады тое было. Ды і заслужыў ён. А памагчы цяпер яму трэба...



— Дайце я скажу... — Леанід саскочыў са сцэны, дзе быў прысеў яшчэ ў час рэпетыцыі. Усе павярнуліся да яго. — Памагчы трэба і паможам мы. Хлопец з бальніцы выйшаў, маці хворая, яна ж нічога не зарабіла ў калгасе. Ды і Пэрац цягнуў, дай божа... Усё гэта так. Але ж, не дасць дзядзька Гірша — дасць нехта іншы. Калі не мы — то Куцка. Той выставіць руку. А тады хлопец не наш. Зусім... Тут, відаць, пара за чалавека даць бой. Як думаем?

— Не возьме ён ад яго.

— А дзе ён возьме?

— Паможам самі. І я, і Васіль Міронавіч. Гэй, Васіль?.. І ўсе... Збярэм?

— Васіль задумаўся...

— Роль напамяць зазубрывае...

— У яго любоў... То не было, то раптам так нахлынула, не ведае, куды дзецць. А дзяўчаты не цэняць гэтага...

— А-а-а... Гэта ж сёй-той адлучыўся з Грынёў... А я ўсё... Што гэта з ім...

— Ён думае, як яшчэ раз супроць Петушонка выступіць...

Васіль Міронавіч быў сумны, і ніхто не ведаў чаму. Ён моўчкі згадзіўся з Леанідам. Згадзіліся і ўсе. Дамовіліся, што заўтра збяруцца ў Васіля Міронавіча перад рэпетыцыяй.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шуміць ноч. Бушуе вецер у адталым ліпавым голлі, ірвецца з выганчыку ў Грыні, ліжа снег — з'ядае. Асядаюць гурбы, што былі ўпоплеч з парканам, з-пад снегу чарнеюць платы, абмытыя халодным дажджом. Свежае, ліпкае жэрдзе; кранішся яго — скаўзнецца рука.

У застаўках, дзе лесапілка, стогне рака. Гэта па той канец Грынёў, пад Закалюжжа. Там, казалі, бачылі ўжо сёння на Тодаравай вярбе, што ў аселіцы ля рэчкі, каткі.

Вясна не чакае.

Жыццё — прабіваецца з-пад снегу, жыццё будзіць і хмяліць настылую 'шчэ зямлю. Сёння бачылі каткі на вярбе, заўтра прынясуць з лавацкага логу падснежнікі...

Вясна дыхае цяплом, вясна саграе зямлю.

Цёмныя, цёплыя ў дажджы ночы над Грынямі ўжо во з тыдзень. Яны расквасілі снег, не саступіць з зімовага прыбітага тору — правальваешся да зямлі, да вады. Калі пад снегам вада — прыйшла вясна.

Булькочуць, звіняць ручаі, рэжуць-крояць на скібы-астраўкі снег на вуліцы і ў гародах. Імчаць да ракі, зносячы туды шуму, трасочнік з двароў і растрэсенае яшчэ зімою, сапрэлае на дарозе пад гноем чорнае сена.

Цяжка прайсці вуліцай у Грынях ля Раінінай хаты, куды нанесла зімою з выганчыку горы снегу. Гурбы аселі, раскіслі. Спрабаваў нехта зрабіць сцежкі полем, у абход, ды там адтала ралля — гразь, калатуха. Лепш тады боўтацца ў вадзе, чым у гразі. Людзі ціснуліся да паркану, скакалі з месца на месца, пакуль не дабіраліся да брукаванай сцежкі ля хаты, дзе жыў Васіль Міронавіч. Тут усю зіму расчышчалі на вуліцы снег.

Неба — нізкае, шэрае. Неба — імжа-туман. Яно праясніцца мо' толькі недзе днём, к поўдню. Тады вылезе з вязкіх аблокаў сонца; апагодзіцца начыста; і забушуюць ручаі, запеніцца снег, — на вуліцы і на дарозе.

А к начы зноў вецер з выганчыку, зноў нарывае дажджу. Паказвала на раптоўную вясну — паводкі.

Шуміць ноч. Гнуцца, крэкчуць таполі, туды, пад рэчку, дзе бальніца. Гудзе далёкі лес, там, за лавацкім полем.

Вясна разбудзіла ноч.

Пад ногі трапляе зямля. Чорная, цвёрдая, яшчэ ўмерзлая. Уранні тут зусім не было прагалін. Ты глядзі, — снег, што карова языком ліжа...

Па свежых праталінах лёгка ступаць. Лёгка нагам і ўсяму целу. Здаецца, памаладзеў, здаецца, ты дзіця. Хочацца пабегчы да маста, дзе вірыць, стогне ў застаўках вада. Чорная, золкая, густая, — верхаводдзе. Таропкая, настырная. Чыстая ад лёду. Крыгаходу ў Грынях сёлета няма. Лёд падапрэў даўно, асунуўся і сплыў ракой яшчэ да паводак.

Гамоняць, не спяць грынёўцы. На ферме звіняць лапаты — скопваюць снег, ачышчаюць дарогу вадзе. Казалі, што там затапіла скляпысховішчы.

Трывожацца, не гасяць агні і гаспадары. Скрыпяць вароты, чуваць, як нехта там на двары, дзе старшыня, сячэ тапаром лёд. Хлынула мо' аднекуль знянацку вада. Цяпер хоць ты і стой заўчасна з лапатай і ломам.

Ля клуба яшчэ адклікаецца гармонік. Гарманіст — назола. А мо' чакае, мо' кліча каго? Ці на злосць усім не дае спаць, бо пакінулі яго аднаго, — збегла якая дзеўчынёха, дзеля каго мо' ўвесь вечар так стараўся?

Ранняя вясна раней трывожыць сэрца.

Леанід з Аркадзем ішлі ўдваіх. Выйшлі пазней, калі ўжо на вуліцы не было чутно ні знаёмых галасоў, ні смеху, да якіх прывыклі за вечар у клубе.

— Туман і ветру не баіцца... Такі, што і агнёў з фермы не відаць.

— А вунь яна, за бальніцай. Там бурае неба. Ад агню... — Аркадзь ідзе поплеч, бліжэй да частаколу. Леанід чапае, не гледзячы пад ногі, — усё роўна паўбацінкі поўны вады.

— Раве як, га? Разлілася. На лесапілцы яшчэ ўчора, гаварыў старшыня, панесла было колькі лесу. Аж пад Закалюжжа да павароту затурыла. Надумаўся ж нехта на самы бераг на згон зімы дрэва класці...

— Я надумаў. Ніхто не чакаў такія паводкі. Ды і цеснавата ля лесапільні. Загрузілі ўсё. — Аркадзь сціх, пасля ажывіўся: — А я люблю, як стогне рака. Люблю слухаць. Тады я нечага чакаю і чакаю... Здаецца...

— Пакуль буслы прыляцяць, чакаеш, гм? — у голасе ўсмешка.

Аркадзь маўчыць, тады пытае:

— Доўга будзеш?

— Месяц які. Дыпломная пара.

— Застаўся б у горадзе. Усё роўна ж не дома. А да раёна па разводдзі...

— Гм... І ты б не застаўся, павер.

Маўчалі.

— А Пэрцу трэба памагчы. Добра гэта... Ён ужо трохі не такі. Ты бачыў яго? Не? Мы ўсе не маглі даць яму рады, а Нінка яго чалавекам зрабіла. Адна.

— Не. Відаць, не адна. Чалавек, Аркадзь, проста перахварэў. Усё перахварэў.

— А ты ведаеш, які ён цяпер з Нінкай? А быў жа...

— Маці нешта гаварыла... Я не ўнік.

— У яе з ім, відаць, сур'ёзна...

— Ну?.. Люблю сур'ёзныя рэчы...



Ім не зусім па дарозе.

— А чаму ты не пайшоў у Закалюжжа праз Лавацкае? Бліжэй.

— Пайду шашой. На полі магло развесці. Ды і цябе праведу.

Выйшлі з-за павароту, скіравалі да маста. Пайшлі шпарчэй, бо па сухім.

За Пракурорышынымі ліпамі ў знаёмым акне ад гароду і адзін і другі ўгледзелі агонь.

І адзін і другі падумаў: «Прыехала...»

Абое раптам спыніліся.

ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## ГАРЭЛІ СІЎЦЫ

Пасля зімы чалавек пазнае зямлю нанава... Сцежкі, што вытаптаны ў познюю восень, калі ўсюль прастор, свабода, — ступай, дзеназе цвярдзей; барозны, якія развярнулі на зіму плугі да жаўтапёску на полі ля дарогі пад Гальдараду і ля Лажкоў у Лаўках; шашу з леташнім жарсцвяком ля маста і ўбітай глінай, якую не знясла воды, — а вясна ж мыла, шаравала, як дзеркачом, асмужаны ад зімы дол; кідаецца ў вочы старая счарнелая крапіва ля рэчкі ў голым альшэўніку, высахлая, зляжалая, з-пад якой адскочыла ад зямлі чырвонае лісце маладога жыцця...

Лісце падымае стары высахлы крапіўнік; ён аж шуміць-лускае, бы гэта, учуўшы цяпло пад ім, варушацца, точацца з сухадолу дажджавыя чарвякі.

Чырвоная крапіва — на цёплую вясну.

Чалавек успамінае, што з чырвонай крапівы пачыналася і леташняя вясна і тая, калі прагналі немцаў, і тая, партызанская, калі грамілі нямецкі гарнізон у Камене, і тая, калі ён першы раз назбіраў пралесак, каб падарыць дзяўчаці, ды не было каму, і аж тая, незлічона далёкая, калі ягоная бабка прынесла ў кошыку ад ракі такой жа чырвонай крапівы, несамнога, з прыгоршчы, і ён — 'шчэ зусім дзіця — палез з рукамі да яе ў фартух...

Чалавек пазнаваў пасля снегу зямлю; чалавек пазнаваў далёкага сябе.

Свежая зямля, — свежыя ўспаміны, свежа на душы, свежыя думкі.

Ля ракі — крапіва, на лозах — каткі, на лавацкіх лагах — чырвоная трава. Дала ў рост за ноч. Востранькая, калючая, бо зусім жа маладая. Высыпалі пралескі — і адразу ж на цвет.

З-пад Цянёў-балота з імшар Раіна прыпёрла ўчора кошык чарнагалоўкі. Карове.

У бары ў Ваўкаўні дзеці спускалі бярозавы сок. Там выспа, — суха, там хутчэй, чым, дзе, грэецца зямля.

Кранулася жыццё.

Чалавек чуў яго. Быў утрапёны, неспакойны. Працавіты, як мо' ніколі.

Бо гарэла агнём не адна крапіва, бо браліся на цвет не адны пралескі...

Бо гарэла душа... Зацвітала на вясну маладая сіла.

Падсохла зямля; забялелася на гальдарадскім убітым жывёлай ржэўі абмытае каменне; палезла ўрост зялёная азіміна на лавацкім полі, — прабівае, точыць, падымае зямлю на чорных галоўках горкі куколь у Ваўкаўні.

Пахне зямля, пахне бульба з пачатых капцоў ля фермы.

Не аціхае, не тоўпіцца ў берагі рака, шуміць, стогне, прыціхаючы днём і ажываючы нанач, калі супакоіцца зморaная вёска.

Устрывожыліся ў Ваўкаўні камары, ці не павылазілі на свет з пустых ям ад бульбы, куды забіваліся на зіму, і цяпер таўклі мак дзень і ноч — аж дрыжала паветра, перасыпалася, што пясок.

Бачылі жоўтых матылькоў, а ўранні ля Ваўкаўні нехта задавіў веласіпедам на сцежачцы тонкага пасля зімы вужа.

Ад сонца да сонца не сціхалі жаваранкі, — на раллі, над полем, над фермай. Ад сонца да сонца плавалі над вёскай буслы. Віселі ўгары, кружыліся над выганам, складалі крылы і няўклюдна шыбавалі на Бусліныя сосны, не баючыся, а мо' і зусім не чуючы, што там пад гняздом на дзядзінцы заходзяцца трактары.

Бусліныя сосны заняты. З начы. Два рухавыя, падцыглястыя птахі сартавалі дзюбамі разгатае голле — недзе паўздзіранае, натапыранае вятрамі, калючае, дубаватае, — не ўлезці ў гняздо.

Двое былі дома, пачыналі жыць і мала зважалі на тое, што вунь 'шчэ шмат каму няма прытулку. Яны ведалі, што гэта 'шчэ не ўсё, што за дом трэ' будзе даць не адзін бой, — таму былі спешныя і настырныя. Бывае, спынялі работу і доўга ўзіраліся ў неба, клякаталі кароценька— для сябе — і зноў варушылі рагачча.

Зверху, з гнязда, сыпалася шматгадовая шума-пацяруха, яе лавілі долках шпакі: яны тачылі пад гняздом свае норы-гнёзды.

Ад відна да відна трапяталася, дыхала жыццё...

Вясна абуджала адвечныя інстынкты ў прыродзе.

Ад відна да відна ракаталі трактары ў Ваўкаўні і ў Лаўках.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ля Ваўкаўні — пясчанік. Туды, пад лес, дзе разыходзяцца дарогі на Асіпаўскае і на Жоўты бераг — выворваецца жоўтапёсак, летам у засуху адтуль гоніць ветрам усё жывое ў лагчыну пад лагі. Ваўкаўня тады гіне. Толькі летась узяла ды збуяла тут кукуруза.

Лагчына — ніжай, пад Лажкі, да рэчкі. Тут яшчэ сыра, а ля самага логу — гразкавата. Сюды пёрла ўсю зіму снег, тут 'шчэ дні тры назад льга было застаць лёд. Зямля толькі адтала і сохла марудна.

Ралля адварочвалася, як размешаная гліна, блішчала на сонцы; пад самы лог у баразнах выступала вада. Плугі лезлі на той свет, як нож у сыры, ацеслівы хлеб.

Толькі тое і глядзі — пад раку круці і круці, каб не выворваць глею; у лагчыне паднімі на сярэднюю праворку; а на выспе пад дарогу — зноў круці, каб не цягнуць наверх жарству, не выворваць жаўцяку.

Раман адкінуў далёка на ворыва шапку, шпурнуў пасля фуфайку, расшпіліў каўбойку, закасаў рукавы, — з-за плеч валіць пара, пот вісне на брывах, капае, як вада з падстрэшкаў у дождж. Сонца бярэцца на паўднёвік, — вострае, аж колецца. Увачавідкі чырванеюць рукі: красавіцкі загар злосны, учэпісты.

Раман не чуе Аркадзя, не слухае, што той бывае крычыць, высунуўшыся з кабіны. Ля плугоў кумекай сам, калі ранавата рваўся выскачыць на разорышча. Не падсохла ж. Плугі цяжкія, бы і ты на іх лішні. Саскоч, — і яны пойдуць роўна, проста, не стануць вязнуць на той свет.

Першы завор прайшлі ўчора. Старшыня вёў з Аркадзем. Бачылі, што гразкавата. Ды стаіць жа на пагодзе, ля Ваўкаўні пыл за плугамі, не разявішся, пяску повен рот, — падсмягне за дзень і ля логу. На лавацкае ж поле ці на Гальдараду яшчэ не ўзаб'ешся. А чаго чакаць? Старшыня так і сказаў: «А чаго чакаць?»

Раман чуе, як раве, заходзіцца разагрэты ад работы і сонца «націк»... Пасля ціхай зімы неяк адразу шуміць, звініць у галаве. Падкідвае, гушкае на сядзенні, бы ты першы раз на ім. Праціўна слухаць, як плугі чапаюць каменне.

На павароце ля дарогі матор аціхае, Аркадзь вывальваецца з кабіны, лезе з пальцамі недзе пад свечы. І калі Раман саскоквае на мяккую, збялелую зверху ад сонца раллю, чуе, што трасецца пад нагамі зямля, бачыць, што дрыжаць цяжкія плугі, — яму тады здаецца: не было зімы, не было супачыну... Яны ад леташняга не з'язджалі з Ваўкаўні-поля...

Трактар будзіць зямлю...

Дрыжыць над ворывам пара, — падсыхае ралля, а пад лог аж дыхаць горача, што ў лазні.

Сонца п'е веснавую смугу, смокча яе з угрэтага поля, з вільготнага прырэчча, з далёкай верасовай пасекі, што ў Ваўкаўні, там, за сасновым перашыйкам пад Доўгія сенажаці — крыніцы.

На лагу, куды хоцькі-няхоцькі ўзаб'ешся з трактарам, каб завярнуцца не па гразі, бо абрыдла ж вязнуць па самую кабіну, — хочацца выскачыць на чорны дол, праз які праклюнулася маладзенькая травіца, сям-там белая, свежая. Выскачыць, — ссунуць з ног нагрэтыя ў кабіне кірзавікі і цёпкацца ў цёплых лужынах, свяжыць угрэтыя за зіму ў цяжкім абутку ногі.

Вада састоялася, пузырыцца, як зацярушаная белым макавым зернем, цёплая, яна-поіць чарнагалоўку, якой на лагу бы хто панаторкваў.

Дрыжаць ад ветру падснежнікі-кветкі на кургані — першая ўцеха вясны. Першая ўсмешка чалавека пасля зімы, першая радасць.

Горача ў кабіне, і кветкі, што толькі зірнулі на сонца, мякнуць, вянуць. З'ездзяць разы са два ад логу да Ваўкаўні ў развілкі, пасцёбаюць аб цёплае жалеза, — счарнеюць.

У кабіне мройна. Ад таго, што роўна гудзе матор, закладае вушы да ўсяго на свеце, і застаешся адзін адным... Відаць уперадзе зямля, шэрая, здрабежаная, чорная, недзе мяккая і слізкая, ралля ўстае ззаду за плугамі; бачыш здаля, як вісне сінеча над асіпаўскім лесам, калі коціш пад Ваўкаўню, і — над выганамі ў прырэччы, як вяртаешся пад лагі; відна ферма з высокім асверам над студняй; а за імі — Закалюжжа, прымружанае, сціхлае, — гэта ад сонца, ад цяпла.

І тады забаліць душа. Боль дрыготкі, мяккі; боль жаданы, гарачы. Ён — 'шчэ ад таго лета. Ён выжыў на вясну, каб вярэдзіць, не даваць супачыну.

Над Асіпаўскім — дымы. Выдае, што ў прыродзе такая ж часіна, калі ён, Аркадзь, не змог сябе першы раз, калі сарамяжна сазнаўся сабе, што пакахаў.

Каханне прынесла адзіноту, трывогу.

Мара часта губіць, калі спакусіцца, аддацца ёй. У думках, у душы ты, бывае, зжыўся з чалавекам, — з ім і на зорцы па расе рука за руку, і ў гарачы полудзень скачаш з Жоўтага берага ў Вілію на віры, і брыдзеш-блудзіш з ягад дадому ў позні летні вечар, калі сціхла, заснула

вёска ад скрыпу варот і гаманы на ферме, калі рэдка-рэдка ўгледзіш каго на вуліцы на прызбе з агеньчыкам-папяроскай...

Хочацца тады, каб той чалавек быў самы шчаслівейшы. А што ён, Аркадзь, зможа дзеля таго? Пасадзіць на трактар Галіну, упэцкаць у мазуту яе чыстыя рукі, халат, твар і адвезці ў амбулаторыю: жагнайцеся! Знахарка!..

Жыў у ім мо' і другі чалавек. Ён кідаў трактар і вёз яе ў халодны свет, у сузор'і... Гэта блазнюк выскаляў зубы. Чаго і што? Падражніцца? Бо тое — фантазія ў неймавернай ступені, калі самая вясковая мара — паступіць на які механізатарскі факультэт хіба цяпер не фантастычная? Ну няхай. Паступіш. А тады? Трактарыст, у мазуце, у гразі... Прыбяжыш за цямном дадому... Адчыняеш дзверы — а табе насустрач кідаецца нехта ў беленькай сукенцы, у беленькай касынцы... Вісне на шыі... Знебыліся па табе, счакаліся. А пасля не спіць усю ноч твой дарагі чалавек — жонка. Топіць печ, гатуе ваду і мые... Мые ўпарта, са злосцю... І *перш-на-перш* сваё. Бо ў *што заўтра* змяніцца, калі ты прыходзіш дамоў такі штодня? А колькі трэба рук, каб абмыць цябе, любы муж-гаспадар?

Не. Ніякая жонка, з якой любоўю яна ні была б, не абдыме цябе ўвечары пасля работы, калі так. Ні разу.

А вазьмі вымый кожны разок рукі, каб можна было расчасаць жонцы валасы ды зашпіліць кофтачку? Дзе ванна? Тапі лазню штовечар... Не, трактарысту трэба жыць толькі ў горадзе...

Салярка ж пабівае ўсе пахі... Усю медыцыну... Чаго добрага, правядзеш раніцай жонку на работу, — а там яе з бальніцы прапруць з такой парфумай.

Аркадзь усміхнуўся. Злавіў сябе на тым, што думае, як Раман Пэрац. У Рамана другое... Ён можа і думаць і гаварыць такое хоць штодзень.

Каханне... Мроі... Кожны дзень адны і тыя ж. Памяць захавала, узяла з сабой, відаць, на ўсё жыццё той зімовы вечар, калі ён сустрэўся ля Галініных весніц з Васілём Міронавічам. Няўжо той мае большае права на каханне і злосць? Сам ён — бо хто? — раструбіў пра сваё няўдалае заляцанне да Галіны... І хто вінаваты, што ад варот паварот? Аркадзь не кпіў з яго. Над сябрам пасмяешся — над сабой паплачаш.

Тады ён доўга стаяў ля весніц. Адзін.

Яна ішла недзе з гароду. У накінутым на плечы паліто. Мо' ад суседзяў? Угледзела — уздрыгнула. Не прывіталася, не адказала. Стаяла доўга па той бок весніц на двары. Не глядзела на яго. Пасля кінула коратка, злосна: «Зайдзі»... Пайшла сама, зачыніла за сабой дзверы, ляпнула-грукнула. Ён ні разу не быў у яе дома, не зайшоў бы і тады, калі б яна не выбегла яшчэ ў адной сукеначцы і не пацягнула за рукаво. Не запрасіла ні распрануцца, ні сесці. Стаяла ля акна ад вуліцы, адвярнулася. Маўчала, тузала толькі, аж ірвала занавеску.

Што яму было рабіць? Шматаць, гледзячы на яе, сваю вушанку?

Загаварыла зноў, не адварочваючыся. Ціха-ціха... Выдала, што са слязьмі:

— Не падумай пра мяне...

Адвярнулася, зірнула на яго, утаропілася, ступіла ў нейкай рашучасці і прыпала яму на грудзі, зашаптала-заплакала:

— Ты добры, Аркадзь... Ты сам не ведаеш, які ты добры... Толькі ты не думай больш пра мяне... Не хадзі... Не трэба. Чуеш? Не хадзі. Я хачу так. Так трэба... — Яна плакала.

Ён трымаў яе ў абдымках першы раз, баяўся, што яна плача, хацеў



суцешыць яе, ён ведаў, што ў яе за гора, і не пытаў. Гладзіў яе рукою па плячах, кволых і цёплых, чуў, як яны ўздрыгвалі і сцішваліся. Ён толькі цяпер выпусціў з рук шапку, якая ціха шпокнула ля ног аб падлогу.

Галіна цяпер маўчала. Падняла галаву, аперлася рукамі яму на плечы, доўга глядзела ў вочы бліскучымі і чорнымі ад слёз і ад агню вачыма, пасля пацалавала асцярожна, ціхенька, — бы гэта матылёк крануўся вуснаў. Адштурхнула пасля, адскочыла сама да акна:

— Ідзі, прашу, ідзі, Аркадзь... Забудзь пра ўсё.

Вочы яе патухлі.

— Ён пакрыўдзіў цябе? Ён? Скажы... Я сустрэў яго...

— Бачыла. Не пытай. Я хацела мець сябра. Няма яго ў мяне...

Яна стала строгая і злосная.

— Ідзі цяпер, Аркадзь...

Яна падыходзіла да яго. Не, яна мінала, ішла адчыніць дзверы.

— Не крыўдуй... Я не помню, што рабіла. Магла нарабіць не гэтага...

Ён бачыў з вуліцы, што яна стаіць ля акна, мо' хочучы ўбачыць каго. «Не, — успомніў ён, — ад агню ж на двор нічога не відно». Яна засталася адна, сама сабой, як і ён тады, — неразгаданая, незразумелая, блізкая і зусім-зусім далёкая. Чужая.

Пасля таго было горай, было невыносна на душы; пасля цягнула да яе, — не знайсці месца. Тады прайшло, уляглося — тое стала, як сон, як згадка. Галіна была суровая, задумлівая, — незнаёмая. Такая, як і напачатку, калі толькі з'явілася ў Грынях. Рэдка бывала ў клубе, — і штовечар далёка за поўнач у яе акне свяціў агонь.

«Доктарскія кніжкі чытае. Вучыцца яшчэ паедзе...» — шаптала пра яе Пракурорыха на вёсцы.

Было — прайшло. Надышлі выбары, — і зноў яна сядзела ў клубе ў прэзідыуме разам з Васілём Міронавічам, разам з ім хадзіла па хатах да выбаршчыкаў, заставалася дапазна ў клубе на рэпетыцыях і танцах. Зноў магла быць з Аркадзем, гаварыць з ім цэлы вечар.

Але мінулае недзе памяталася. Дзеўчына была адна-адной. І доўга. А тады прыехаў Леанід.

... Баляць рукі ад рычагоў. Сёння іх давялося паняньчыць.

Ные спіна ад доўгай седні. Шуміць галава ад грукату. Трактар — не конь: іржэ без сціханага, горла яму не заткнеш.

Чарнее ўзвернутае поле. Стала шырокае, як вунь які абшар; сасновы перашыек адсунуўся аж куды — пад самыя Доўгія, на пасеку. А мо' гэта яны за дзень наблізіліся да Закалюжжа? Упобачкі ўжо сядзіба канцавога Дзедзіхі на дзядзінцы пад ферму.

Ля логу стала зусім цяжка праехаць. Раман пускае плугі аж паверху. Грузне трактар, чэрпае лентамі гразь і глей. З кожным кругам усё глыбей лезеш у сівы сіпак, у падзолу. Побач на лагу — вада. Цэлая сажалка.

Іржавыя плугі валакуць гразь аж да Ваўкаўні, суцуць перад сабой пясок, не хочуць адкідваць скібу. Зноў спыняйся, адсядай, падымай плугі і шаруй іх разводным ключом...

Сонца ацяжэла; яно над самым Закалюжжам. Пабольшала, плыве за вёску, на лес, туды, дзе дымы над грынёўскай смалакурняй. Гусцее над выганам смуга, цямнее далёкае Асіпаўскае. У надвячорку неяк шалёна ракоча матор, а мо' што вязнеш у размяклай зямлі?

Чуваць, як крычыць Пэрац. Падымаецца, грыміць кулаком у кабіну, — гэта калі не паспее выхапіць з зямлі плугі. Трактар не чуе, —

верне ўсё наверх: глей, іржавы сіпак, белае каменне. Налучыш на валун — угробіш плугі...

Спыняюцца, адсядаюць. Робяць з горам разварот, — і зноў пад Ваўкаўню, пад гару, па сухім. Натужна раве матор, з перахлопамі, са стогнам. Матор — звер...

Зноў ад логу да Ваўкаўні... Зноў на лог... Шпарчэй, чымся днём.

Ірвецца ў халадку трактар; ажывае душа, спявае ў лад матору.

Ад Ваўкаўні да логу, ад логу — да Ваўкаўні...

Селі неўспадзёўку. Раман барабаніў ключом па кабіне — значыла — адсядзь назад. Пакуль Аркадзь пераключыўся на задні ход — заглох матор. Не машына ж, не старцёр пад нагой, — вылазь, корпайся. Зноў захлопалі цыліндры і зноў змоўклі. Аркадзь скокнуў на раллю, увяз па калені. Плугоў за трактарам не відаць — адна рама ляжала на гразі.

Валэндаліся з пускачом, завяліся, адселі ўзад, паднялі плугі, вылезлі на лог і заглушылі матор. Падыбалі да лужыны абмыць ад гразі і глею рукі і боты. Аж па пахі абкарэлі. На новы заезд не збіраліся. Што тут ля логу за ворыва, калі праз плугі вада пераліваецца. Ссохнецца глей — як на таку будзе. Ды і годзе, напорkаліся за дзень. І логу напсавалі, і саляркі лішніцу спяклі.

— А я ўжо думаў, селі. Абсалютна. Тут можна заваліцца, што ніякі кажух старога Тодара не выручыць. Больш заязджаць — рызыка. Для чаго? Лета ўсё наперадзе. Справімся надарваць і матор і жылы. Абсалютна. Упэўнен. А кажух старога нашумеў. Аж у газету трапіў. Гэта ж наш Лёнька пісаў? Гм?

— Ён жа. А хто. Давай, Раман, закругляцца. Трактар пад Бусліныя сосны я табе гнаць не дам, запром на нашу ферму. А сам пачэпаеш паціху. Пылу няма. Лёгенька. Да захаду 'шчэ на вячэру свежую прыскочыш.

— А я думаў ужо, сядзем. Навечна зарыемся тут. Як і я...

Рамана, відаць, упарта грызла нейкая свая думка. Ён уздыхнуў, адагнуўся ад лужыны і стаў выдылінгваць па траве ў бліскучых мокрых ботах. Пасля супакоіўся і загаварыў, гледзячы ў вёску і абтрасаючы ад вады рукі:

— Я сёння ўвесь дзень думаў. Пра сябе. Ну... і пра цябе. Асеў я — назусім тут. На трактары. І хай дае бог, ці яго няўдалы слуга ойча Сабольскі, перасесці мне калі за шафёрскі руль. Уграз я, як мы сёння. А ты... Ты пойдзеш вучыцца. Паступіш. У цябе дзесяць, стаж. Бяруць такіх. За інжынера выйдзеш. А ў мяне сем. Цяпер і калгаснік з маё — не мода. Мо' калі яшчэ раз захочацца свету пабачыць — гайсану зноў на торф. Ды мне і асесці пара... Ведаеш. Не знаеш? Во-о... Нінка мне нічога не кажа, а бачу — будзе ў мяне сын. Абсалютна. Такое яшчэ чорнае цыганя на свет з'явіцца, як мы з ёй абое. Парадуе. Абсалютна. І мяне, і маю Ганулю. Адгуляў я сваё.

— Браў воўк і ваўка ўзялі, кажаш?

— Ты думаеш, мне надта ўжо і дзеўкі былі ў галаве? Зусім я пра іх і не думаў. А пападзецца, бывала, якая пад рукі, дык... Не так, як ты, хоць з большага прыцісну. А ты ці прызнаўся хоць Галіне, што любіш? Маўчыш? Дзе ты скажаш... Што ж, віні сябе. Калі дзіця не плача — маці не чуе. Цяпер хоць на ўсю вуліцу раві і стагні, што любіш, дзяўчаты не вераць. Абсалютна. А ты хочаш, каб табе па вачах паверылі... Нічога, вывучышся, прыгабардзінішся, не такая 'шчэ знойдзецца. Сама тады прызнаецца. А Нінцы я прызнаваўся. Не верыла спачатку, ані. Не папускалася. А тады.... Гаворыць раз, што сніла сад. Яблыні ў такім цвеце, не прайсці... І я там з ёй. І ўсё пасля гэтага... Вось і разбяры дзяўчат. Не мне, а ў сон паверыла. Ды я-ткі яе палюбіў. А да яе і любві той не ведаў. Цягнула толькі дзяўчыну якую лапнуць. А душа сухая была. Ніводнай слязіны не выціснула. А цяпер часам і вільготная стане... Толькі я Нінцы пра тое — ні гуку. Скажам, мы ж з Нінкай адхіліліся ад дзедаўскай нормы. Вяселле ж не згулялі. Але, маўчу. Сын будзе, ведаю, ды не кажу ёй гэтага. Хай сама яна пра ўсё мне скажа, бо падай моду, што з паўслова яе разумееш — уссядзе потым. Абсалютна. А ўперадзе многа жыць. А папусцішся чуць — ужо табе не быць самім сабой... Канешне, буду яе слухаць, і вяселле можна будзе грымнуць, калі грошай збяру...

— Спазніўся ты з вяселлем. Сабольскага няма абвянчаць цябе...

— Тэк... А ён бы мяне абвянчаў... Бо я ж яго, лічы, бацька хрышчоны, ці як гэта. У Чар-чагу неяк давялося яго пераЖагнаць. Ды і ў царкве хрыстануў разок і яго і бога. Было...

— Ну-ну...

— Праўда, не было тады ў Чар-чагу за што душу пэцкаць. Знаў бы — не сунуўся. Выжляціна рукі пагрэў, а мне — выкінуў там.... Я нават сёння гатоў аддаць Сабольскаму тое назад, каб гэта ягонае было. Але ж і ён награбіў.

— Гавораць, аднёс у прамгас заяву, а на работу не ходзіць. Ды і царквы 'шчэ не кідае.

— Не адважыцца. Лесу пасля «Чар-чагу» баіцца...

— А мо' і не ўзялі?

— Узялі. Раіна казала. Ды такія шырокія плечы каб не ўзялі... Так яшчэ будзе ля дрэва ішачыць, што чарцям моташна стане...

Раман памаўчаў, пасля зноў за сваё:

— Знаеш што, Арка, я ўжо свае зажымончыкі адрэзаў. Годзе. Сам кажу. І ведаеш, пасля першай блізкасці з Нінкай неяк мяне перастала цягнуць да другіх. Абсалютна. Утаймаваўся. Тут, відаць, ёсць розніца, калі па любві і калі не. І што я табе магу сказаць. Ты ў мяне пытаўся ўчора, ці доўга я 'шчэ думаю жыць са сваімі перажыткамі... А я скажу — не з перажыткамі, а са сваім характарам. А характар мой — гэта мой. Благога я ў жыцці не зраблю. Піць я многа не буду, лаяцца таксама. Нінку люблю. Будуць сыны. Да чужых жонак, відаць, не пайду. Пападзецца мо' калі якая пад рукі — успомню маладосць. А мо' і не ўспомню, хто знае. Не цягне мяне да другіх, я ж казаў ужо. Мне ўжо, мусіць, як старому трактару, толькі па мяккай раллі хадзіць... Табе трэба, Арка, маё месца займаць. У цябе ўсё наперадзе — вучоба, любоў. Падумаеш, нейкая там белагаловая сказала, каб за ёй не бегаў... Плюнь. Не такая яна і... Абсалютна. Знайшлася мне... Васіля даўгалыгага адшыла, цябе... Шукае некага. Я ж казаў, што яна гарадскога мае. А мне яна не падабаецца. Першы раз кінулася ў вочы, а прыгледзеўся — як і ўсе. Мая Нінка — не горш яе. Слухай, Арка, любоў браць трэба, галовы скручваць другім з-за яе. Скажам скруціў бы ты галаву Васілю Міронавічу ў той вечар — Галіна мо' на цябе і другімі б вачыма зірнула. Любоў, брат, браць трэба. І ў сапернікаў, і ў саміх каханак-галубак. Нінка мне гаварыла, падабаешся ты Галіне, толькі нешта яна цябе палюбіць не хоча. Абсалютна...

— Добра, што табе ўзяць удалося. А адзін браў, дык вунь морда апухшы была... Нінка не расказвала?

— Гэ-э-э... Гаварыла. Знайшоў па кім раўняцца. Ты, брат, на мяне, на мяне кірунак бяры.

Раман зноў пачаў паласкаць рукі ў цёплай лужыне. Нагнуўся над вадой і Аркадзь — глыбока-глыбока на чыстым блакіце замітусіўся ягоны цень і знік.

— Арка, а я чуць быў не папаўся са сваімі любоўнымі штучкамі. Абсалютна. Я табе даўно маніўся расказаць. Цяпер я нават вунь як рад, што жанюся з Нінкай. Мяне ж Выжлятнік з Куцкам у Камене ў прымы да Антыкавай Амалгосі хацелі задэчыць, да паліцая да таго. Ну, ты знаеш... У яго 'шчэ золата яўрэйскае ёсць, ад нямецкіх пагромаў засталося. Дык яны на гэта білі. Дачка — носаль. Перастарак. За мяне мо' ўдвая. І не дзеўка ўжо была. Недзе з паліцаямі пры немцах... Абсалютна. Толькі мяне да паліцэйскіх на залатым ланцугу не зацягнеш. Дарожка да іх хрэнам зарасла. Абсалютна. А быў колькі разоў, бо п'яная галава ўсё рабіла. Выжлятнік яе паварочваў. А Антык — падкалоднік яшчэ той. Адседзеў за кроў людскую дзесятку, вярнуўся і плявузгае п'яны такое, што... «Прыйдзе наш час, — кажа, — аддзячым, аддзячым. Тшымай, Антэк, цэну...» Во што ў яго ў галаве, паліцая кавалак... — вылаяўся Пэрац, — аддзячыць збіраецца... У Польшчу з Куцкам усё рыхтаваліся, шушукаліся. Ну, і я з Амалгосяй рушыў бы тады... Ха-ха-ха!.. А ў Польшчы цяпер тое, што і ў нас. Такім і там не месца. Не разгуляюцца...

Раман раптам утаропіўся ў бок рэчкі, дзе кусты. Яны вялі ад сасновага зашыйку паўз лог. Прыўзняўся, заціх, кратаў мокрымі пальцамі, пасля стаў выціраць рукі аб штаны.

Аркадзь зірнуў праз плячо. Ля Ваўкаўні чарнела поле. Мо' ад гэтага ў тым баку над лесам цямнела чысцей неба, а мо' таму, што сонца вісела над Закалюжжам над самымі хатамі, круглае, густое, цяжкае. Застыла, не ўздрыгне. У кустах пад рэчку забялеўся надвячэрні туман, распоўзся, як дымок ад стухлага вогнішча. Там недзе кракталі жабы. На Доўгіх крыніцах плакаў адзінокі жораў. Галасна, настырна, — чуваць ажно тут, ля вёскі.

Аркадзь нікога не бачыў.

— Гэй, рыбка!.. А ну, плыві пад наш бераг...

Раман некага клікаў.

Аркадзь яшчэ не скора ўгледзеў яе. Яна тулілася ля кустоў, кралася з Ваўкаўні сасновым зашыйкам, кіравалася логам да рэчкі, да маста. Дадому, у Грыні. Ішла цяжка, паволі. Тарабаніла пудовы кошык. Згіналася была, шчыпала травіцу, рэдкую, маладзенькую. Дыбала аж ад калгасных капцоў, з Ваўкаўні, дзе, відаць, па нараду разам з закалюжанскімі жанкамі перабірала бульбу ці што там. Але ж адтуль усе даўно пабрылі ў вёску.

Яна б і не прыйшла да іх, божа ўпасі, калі б Раман не падскочыў да кустоў і не ўзяў у яе з рук кошык. Прынёс яго да Аркадзя, да лужыны, сеў на ручку, глядзеў Раіне ў вочы і свістаў. Пасля прыплюшчыўся:

— Што, дарагая, на лажку робіш пасля працы? Арамацікам дыхаеш? Муражок маладзенькі шчыплеш, га? Ранавата, раненька на ўловы выходзіш... Сонца яшчэ добра не прыгрэла...

Яна маўчала, хавала пад фуфайку рукі. Нарэшце, загаварыла, злосна, голасна:

— Крапіўкі назбірала. Што сляпы? Мо' ў мяне есці вясной няма чаго!..

— Ды я не сляпы, бачу, што і пад крапіўкай у цябе, Раінка...

— А ты не сунь, пляменнік, носа не ў сваю дзірку...

— Ціш... Пацярпі, рыбка, пацярпі, пакуль мы табе кручок з жабраў вынем... — Раман узарваўся з кошыка і перавярнуў яго ўверх дном, пасля адкінуў на лог нагою. — Да крапіўкі, значыць, бурачкоў калгасных, га? Свежанькіх, з капца толькі... Чырвоненькіх, — рэпкі той надкідвала. А-а-а!.. Гэта ж табе нарад насенне адбіраць быў. Адабрала, значыць... Ну як, думаеш, добры халаднічок звáрыш? Гм!.. Цікава, што цяпер запяеш?

— А, бандзіт... А гладамірнік... Хай ужо старшыні бяруцца, а то і саплюкі пачынаюць... А-а-а... Хабаль... Бабнік... Ты нашу Нінку сапсавáў, свет дзяўчыне завязаў... Чаму не жэнішся? Кінуць так хочаш? Не ўдасца. Судзіць будзем...

— Цішэй, рыбка... А то зноў на кручок! Знаеш, чаму не жанюся? Дзяўчатак шмат на свеце. Чула? З'ела? Можа я і думаў калі Нінку браць, а цяпер, якая мне хэнць радніцца са зладзеямі?.. Скажы, га? А пра суд ты праўду запела. Бачыш, хто ля трактара стаіць? Аркадзь Дышлевіч. Як ты думаеш, у яго вочы павылазілі ці не? Сведка першакласны. Чалавек чэсны, чалавек — душа, калі мо' я не падыду, каб на цябе ў суд падаць. Хаця аднаго сведкі на цябе малавата. Пагляндзі, хто ад рэчкі едзе? Бачыш?.. Гэй!.. Платон! — Раман замахаў рукамі. — Вярні на халтурку. Тут самагонкай до-о-брай запахла...

Аркадзь маўчаў. Перакочваў нагою буракі. Памыў быў адзін у лужыне і падсунуў да Раіны:

— Нішто. Адборныя. На гародах ля фермы, здаецца, раслі. На суперфасфаце. Спецыяльна для цябе. Слухай... Дык я ж цябе ўчора такой парой з гэтым самым кошыкам ля ракі бачыў... Крапіўку ўсё, як і сёння, шчыпала. Ясна. Каторы ўжо дзянёк...

— І ты?.. А граматны, а культурны... Вучыўся яшчэ. А каб уважыць старой бабе... Усе, усе... Усе на маю галаву. Наце, ешце мяне! Усім калгасам!..

— Рыбка... — Раман цёпкаўся ў лужыне: танцаваў-віхляўся ля Раіны. — Есці гнілушачку ніхто не разявіцца... Мы цябе самую накормім калгасненькім акуратненька, што адверне на ўсё жыццё, рыбка. Га?.. Га-га-га...

— А не адна я... А не адна я...

— А ты, рыбка, хаўкнеш разок-другі — і мы пачуем, хто яшчэ.

— Гануля... Гануля мяне выдала. Свае — вось хто яму раней другіх рые. Бач, расплявузгала сынку і старшыні недзе ў вушы ўвяла. Сама не зачапіла. Богачка такая...

Пад'ехаў Джвучка.

Ён з вясны вазіў з фермы жыжу на лавацкае поле. Прымайстраваў сам у кузні да цялежак бочку і праклаў ад кароўніка ля плоту дарогу да маста. Цяпер ён сядзеў на пустой бочцы, як балагол. Загарэў, стаў зусім буры. Выдавала, на вясну памаладзеў, паспраўнеў. Пад'ехаў да самага трактара. Саскочыў з цялежак. Падышоў да іх, моўчкі стаў ляпаць пугаўём па парожнім кошыку.

— Ну дык збірай, Ваіна, свае ягадкі. Парассыпала... Ды адвязу на ферму. Месца знойдзецца... Там якраз старшыня недзе...

— А-а-а... І ты, гнаявоз, за старшыню? Выкінулі табе скарынку на сходзе, дык ты і ў гнаі гатоў па вушы лезці капацца... І ён ужо за старшыню, падумайце толькі... А той што? Не помніш, як табе фігу на праўленні ткнуў быў? Гэта мы, калгаснікі, табе памач далі, а не ён...

— Бачу, Ваіна, не хочаш ты згінацца... — Платон прысеў і пачаў кідаць у кошык па бураку. — Не-е... Старшыня мне памог тады са штрафам расплаціцца. Каб не ён, і людзі б не сказалі за. Памог. Пагледзеў, як я жыву, уважыў і памог. А кошык твой у кладовую завязу. Пераначуе калі які раз і не ў цябе дома... Хе-хе... Памажы, Ваіна. А то палец баліць, учова сок з бявозы спускаў, пасек здовава, човт...

— А-а-а... Сам жа быў такі... — Раіна аж шкуматала на галаве



хустку, з-пад якой выбіваліся растрэсеныя чарнявыя валасы. — Не мы з табой ад малатарні пшаніцу пёрлі? Не мы? А цяпер... Думаеш, палепшаў? Знаю, чаму ў гнаявозы палез. Конь свой у руках. Часу хапае. Летам зноў будзеш дзялачкі абкошваць у Цянях і звозіць сянцо на коніку... Во-во... Ён перашарсціўся, скажы ты. Я ўжо ў яго злодзей. А сам чысценькі...

— Ну-ну... Не помніць свіння палена, а помніць, дзе ў чужым карыце ела... Не нас з табой пад суд аддавалі? А мо' мне ўжо абвыдзела па судах цягацца?... Мо' мне тыя суды, як горкая рэдзька, жывот пваелі? Мо' я і табе хачу тое самае сказаць, га?

— А мо' і я апошні кошычак узяла, адкуль ты знаеш?

— А пва гэта ў цябе распытаюць, будзь здаровў...

Конь з бочкай звярнуў ад трактара і пакратаўся дарогай к плоту.

— Тыр... Тыр... А гэта ад пваўлення залежыць, Ваінка, як яно паглядзіць на цябе і на мяне... — Джвучка з кошыкам, кульгаючы, улёг за канём.

Ля Раіны засталіся хлопцы. Стаялі ўпобачкі, крычалі на ўвесь лог. Жанчына рвалася «расчапіць галаву» Платону. Яе неяк трэ' было ўціхамірыць.

— Слухай, Раіна... На свеце ёсць бог... Бо пра каго пазвонім, таго чэрці гоняць. Глянь, хто там ля зашыйка... Каня, вунь, у руках вядзе, Станіслаў Пракопавіч. Глыбіню нашу замярае... Сюды кіруе... Рукой махае здаля. Мо, рыбка, яго пачакаем? Пабалакаем?..

Пэрац змоўк, і на лагу стала ціха.

Раіна патрусіла ля платоў да маста.

Хлопцы пастаялі і пайшлі раллёй насустрач старшыні.

...Трактар заглух на ферме. Цішыня занялася цяпер на ўсю ноч. Пачынала шарэць, па-вясноваму густа; з камарамі і мошкамі. Туман сноўдаўся ля рэчкі, валокся да маста, цягнуўся ўздоўж платоў аж у вёску.

Пахла дымам, сырой зямлёй, раллёю. Рыкала скаціна, і нехта моцна галёкаў па канец вёскі. Рыпелі асверы, і крычалі на вуліцы дзеці. Ракатала рака, суцішна, паволі, — уляглася, улезла ў берагі пасля паводак.



На выгане было сыра і халаднавата.

Раман пусціўся шпарчэй, думаў мо' дагоніць на лавацкім полі Раіну. Яго доўга 'шчэ бачылі з загумення Аркадзь са старшынёй.

На Доўгіх крыніцах крычалі гусі.

Калі яны змаўкалі — тады плакаў, не знаходзіў сціханага адзінокі жораў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сцінаецца дзень. Над лесам, у бок Камена, тлее вогнішча, над ім праразаюцца вострыя барвовыя палосы. Бялеюць і спаўзаюць да зямлі паволі-паволі.

Стухлі воблакі, сцямнеў лес.

Сеецца, дрыжыць мрок. Здаецца, чутно, як нехта ўгары водзіць даланёй па шурпатым палатне-рэшаце. Гэта ад нязвыклай цішы пасля трактара шуміць у галаве.

Лавацкія сады застаюцца ў баку. Раіна звярнула на сцежку і схавалася за шэрымі дрэвамі. Ён не пойдзе следам, яму не па дарозе. Скіруе на лог, на шашу, адразу выйдзе на другі канец Грынёў — гэта ля самага дому.

У садзе і на лавацкім полі — туман. Ля самай зямлі. Бы гэта днём там падсявалі сухі суперфасфат, надалі пылу, і цяпер ён доўга не хоча ападаць долу, хоць паветра набракае начной расой-сырасцю.

На лагу, дзе была некалі сажалка і дзе цяпер у чорнай яміне, што высыхала штолета, поўна верхаводдзя: аж заходзяцца жабы. Манатонна, дзяркатa. Яны збіваюць думкі; турчаць, як матор на вялікіх абаротах, — вушы затыкай.

Сажалка — у вербах. Гэта чырвоныя вербы, помніць Раман. Разгалістыя, з доўгім веццем, што вісне аж на лог у цішу, што шалёна трапеча і свішча пад ветрам. На лагу адны вербы. Толькі ўжо далей, туды, пад Грыні, ля шашы, атабарыліся прысады.

Вербы блізка ад сцежкі; вербы ў катках і таму ў мроку — белыя, як у снезе.

Ад іх цягне мядункам, што летам з поля ад грэчкі; набрынялыя пупышкі патыхаюць смаліцай; пахне зямлёй і леташнім старым сенам лог; як свежа спечаны хлеб, зрывае нос падсохлая ў садах ралля.

За Грынямі, пад Гальдарадай, ракоча трактар: ціха, дык і чуваць здаля. Тыя, глядзі, і нанач выехалі, не спіцца. Хаця з імі не зраўняешся. У іх сушэй. Уз'ехаў на гару і — што па печы. І ўдзень і ўночы вярні.

Нарэшце змоўк трактар. Доўга чмыхаў і захлынуўся.

Свежая ціша зноў наганяла мроі.

Несуладдзе ў душы, што прыйшло з вясной, змушала ў які ўжо раз зірнуць на самога сябе недзе збоку, — бы ўсё адно, як з дарогі на маладую прысаду, якую сцябалі, гнулі, ірвалі з карэннем з зямлі вятры; грызлі, скублі з камля козы і зайцы. А яна расце, цягнецца ўвышкі, сталее, выроўніваецца на астатнія дрэвы.

Пара прыйсці да галавы па сталы розум...

Не-е... Ён не хутка забудзе маленства, ён не хоча кідаць яго.

Ад дарогі на лагу — бугрына, дзірван. Узвернутыя трактарам дзернякі стаялі ворахам праз лета, і сюды не дайшла каса. Збуяў сівец, яго не спасвілі скацінай: улетку хапае травы і апроч запыленага дуддзя ля дарогі.

Сівец высах ад сонца і вострага вясновага ветру. Шуршыць пад нагамі, што свежае ржышча; пыліць. Не стрываць, цягне, аж згінае да зямлі, — хочацца ткнуць агню. Хай выкаціць сухая гніль і травы-перасаркі, — вунь як тады пасля цёплага дажджу зазелянее лог... Так было ўсе вёсны...

Запалкі пад пахай у кішэні. Шашчыць карабок, калі мацаеш за грудзі.

Раман прысядае на калені. Лускае запалка, ломіцца, але ўспыхвае і гарыць. Ён тыча яе ў натапыранае ахвосце сіўчыны. Трашчыць леташняе разнатраўе, пішчыць, сквярэцца, не хоча гарэць: спадыспаду сырая зямля. Яшчэ каб днём, ды з ветрам...

Запахла смаллю. Над логам павіс ахапак дыму, як белай ваты, і паваloкся, расцягваючыся па лагчыне пад сажалку.

Сівец не ўзяўся гарэць і вышэй, аж сюды ўжо, дзе шаша. Абрыдла попусту згінацца.

Раман закурыў. Дастаў папяросу з кашалька, вялізнага, скуранога, чорнага. Ён пуставаў колькі ўжо без грошай і служыў за добрае сховішча для папярос, калі згубілася была лёгенькая алюмініевая табакерка, — 'шчэ летась вытраслася з кішэні і недзе папала пад плуг у баразну.

Папяроса — апошняя. Скурылася ўсё за дзень. Ды і Тодара раніцай частаваў у канцылярыі.

Кашалёк пусты. Матляецца ў руках, што ануча. Даўні ён. Колькі год у яго. Чужы... Не ягоны ж...

Раман часта думаў, якім варункам яму давялося прыдбаць гэты «партманет», як назваў быў яго Тодар, угледзеўшы сёння ў канцылярыі, — але ніколі раней не змог бы сказаць, што ён крадзены.

«Ці не такое вырвалася пасля гутаркі з той рыбкай, га?»

Раман таптаўся на ўздарожжы і не заўважаў таго. Адчуў, як невыносна засвярбела падпашша, дзе колькі год муліўся, грэўся такі набытак.

Ён пацерабіў пад пахай. Скура гарэла агнём, смылела...

«А мо' загарэлася вата, калі паліў сівец? Гм...» — падумаў, агледзеў сябе і адразу забыў на тое. Тады галаву пачалі мучыць успаміны.

... У горад прыехалі ноччу. У самым прадмесці пераняў дождж, вымачыў да ніткі і Рамана і Платона. Яны ўдваіх туліліся ў кузаве на мяхах. Брызенту не было. Шафёр не калгасны,— тады, колькі год назад, пасля вайны ж, лічы, машыны 'шчэ ў калгасе і звання не было,— прысланы на ўборачную, Раман не ведаў адкуль.

Везлі нарыхтоўку. На дзвюх машынах. На другой быў Мірон Выжлятнік, тады ён 'шчэ ў калгас хадзіў.

Яны — грузчыкі. Ім толькі скінуць мяхі на склад і на тых жа машынах справіцца ў зваротны рэйс. Калгасы не спалі ў тую пару. Цяжка было размінацца машынам на дарогах.

Прыехалі на склад недзе на Даўгабродскай вуліцы. Сталі ў чаргу. Шафёр счапіўся быў лаяцца за месца: яго падцiскалі з двух бакоў «палутаркі».

Стаялі з гадзіну. Дачакаліся чаргі. На машыну ўскочылі дзве лабаранткі ў белых халатах. Узялі пробу. Вільготнасць — дзевятнаццаць. Склад не прымае, як ні прасілі доўгабародага інтэлігентнага лабаранта. Трэба сушыць, не везці ж дамоў. А дзе? Як? Няма брызенту. Нервуецца, лаецца шафёр. Нарэшце барадаты лабарант сам прывалок аднекуль брызент, памог адваяваць у нейкага калгаса месца пад паветкай. Цягалі



мяхі з дзвюх машын усю ноч. Назаўтра распагодзілася толькі пасля поўдня. Толькі рассыпалі ячмень па брызенту — вечар. Схмурэла. Хутчэй зграбаць у кучу ды накрываць сталі. Другі дзень быў увесь хмуры. Зрання да вечара. Рабі што хочаш. Хоць гвалт крычы. Апагодзілася яшчэ праз дзень. Ячмень падсох, узялі зноў пробу. Не праходзіць: засмечаны. Далі трыер — чысціце, калі не хочаце назад везці.

Зноў пачалося спачатку. Апрыкрыў гэты ячмень, як ліха якое. Толькі Выжлятнік з Платонам ані шманалі. Першую ноч трывожыліся ўсё, цмокалі, што грошы з сабой як на суткі, кідаліся сюды-туды, пакуль нарэшце не прыцягнуліся аднекуль з бараку п'яныя. Тады і пачалося. Дождж — няхай сабе дождж. Чысціць — давай чысціць. Абы даўжэй гаспадарыць пры дабры.

Скажы ты, памятаецца ўсё, жыве ў мазгах ад таго. Мо' што Раман тады першы раз трапіў у горад? Нават у галаве стаіць і нейкі капітан, што ціскаў штовечар тоўстую лабарантку ў мяхах пад навесам. Адкуль з'явіўся і чаго там быў — невядома.

Выжлятнік тады адразу заявіў:

— Галадаць не будзем, скажу прама.

Яны і не галадалі. Галадаў Раман, круцячы ручку трыера і лапацячы збожжа. Выжлятнік прыносіў яму да хлеба яршыстую камсу, якую не глынуць.

— Мілы, сумесь сялёдкі. У гастраноме бралася. Дваццаць шэсць за кіло.

Ад «сумесі сялёдкі» толькі страшэнна хацелася піць.

— Мілы, на ваду часта брэшаш. Паменш трэ' давіцца...

— Не памрэш за дзень-два. Прывыкай...

Раз уночы ён наткнуўся на капітана. Той соп за мяхамі...

Тады, у тую ж ноч, Раман налучыў і на Выжлятніка з Платонам. Яны насыпалі ў мяшкі ячмень з-пад трыера.

З яго ўзялі слова, што «нідзе не пікне». Пасля гэтага перасталі марыць «сумессю сялёдкі», клікалі да сябе. І елі і пілі разам. Дзялілі і грошы на траіх. Раман помніць, колькі перапала яму. Купіў тады шэры брызентавы плашч, бо куплялі яны, узяў у ларочку і скураны кашалёк, бо бралі і тыя...

Згарэў даўно ля вогнішча плашч, тады, калі ён першы раз плугарыў ноччу...

Раман жмакае ў руках халодную скуру. Вынасілася, зрудзела, працёрлася. Павыцягваліся з беражкоў ніткі, згнілі ад поту. І сама скура чуць ліпіць. Ды жывая памяць...

Халодная чорная скура пячэ пальцы. Пахне махоркай і яшчэ нечым старым, кіслым...

Раман размахваецца з-за пляча...

У сажалцы заплёскала, пасля боўтнула, бы на дно пайшоў цяжкі камень. Аціхлі жабы, — іх знячэўку патрывожылі.

Раман выйшаў на шашу, звярнуў да дому. Было сцішна на душы, лёгка ступалася па свежай пасля зімы сцяжыне.

Раптам забылася ўсё на свеце — і Раіна, і Выжлятнік, і той кавалак скуры, купленай за крадзенае, якую цягаў з сабой колькі во. Захацелася да Нінкі, моцна-моцна, як мо' ніколі раней.

«Пераапрануцца б толькі, ды павячэраць...»

У вёсцы ўспыхнулі агні.

Веснавая ноч застыла над Грынямі.

У альшэўніку, што за шашой пад рэчку, дзе вадастаў, — прачыналіся нанач дразды.
Хлопец спяшаў.

Красавік — месяц паху.
Зямля ажыла, угрэлася, набухла, як цеста на дражджах; здаецца, падышла на полі ўзмешаная з восені ралля: нахіні долу вуха, — чуваць, як пыхае, ходзіць хмель-жыццё. Яму цесна ў зямлі, ён не сціхне, не ўратуецца ад сілы, — ірве на волю.
Зямля пахне хмелем.
Лес апяклі суравыя, калючыя ад гарачага сонца вятры; асушылі яго ад слізкай смугі, атрэслі адмерзлае за маразы шылле; загулялі-загулі на чорствых верхавінах, бы гэта пабегла па смалістаму сухаверху трaскучае полымя.
Лес загарэў пад вясновым сонцам.
Лес пабурэў ад ветру.
Лес пахне воскам.
Высахлі, высыпаліся верасы, — адно дуддзё. Але гарыць сям-там маленькая бусінка-вочка ад леташняй асенняй верасовай кветкі, ірдзіцца барвінкай-кропелькай. Крані нагой сухую галінку — вочка пырсне на жоўта-чырвоны падапрэлы пад снегам брусніцнік, пакоціцца з лістка на лісток і стухне недзе ў счарнелым імху.
Угрэтыя верасы пахнуць чаем.
Тырчаць сіўцы скрозь па ўздарожжы, высокія, густыя. Зялёныя ад зямлі, бы і маразоў не было ўвосень. Пасека аж белая ад іх, — бы гэта не сіўцы, іржышча выгарэла было на сонцы, адлежалася пад сонцам, вымакла, як пянька ў вадзе, а цяпер зноў узнялося шчоткай, натапырылася.
Высахла папараць. Паўставала з зямлі, прычасалася. Зусім маладая, бы і не змёрла, а толькі змяніла колер за зіму. Выдае, хай пройдзе суткі цёплы дождж, яна зазелянее, пусціцца ў рост і дагоніць малады сасняк.
Папараць жоўтая, буланая, палавая; а то чырвоная, як агонь.
А мо' лісіцы туляцца ля ялінак, натапырыўшы хвасты?
Сухая папараць шорсткая пасля зімы, як і лісіны хвост.
Асмаргні ветку — абрэжашся.
Ад сухой папараці патыхае сухім дрэвам.
На ўздарожжы — лужыны. Пад ялінамі, што звесілі каструбаватыя лапкі долу — яміны, поўныя вады. Яна жоўтая, рудая, як жыжа, — верхаводдзе, настоенае на баравых імхах, ашчэраных жоўтых яловых шышках, ацярушаных багунах, верасах і кіслых-кіслых з-пад снегу журавінах. Яно поіць засмяглыя ў сіверы і цяпер прагныя жыцця старадаўнія яліны і сосны ў спакойным Чар-чагу, у цёмным Асіпаўскім.
У гушчары, у ямінах-лужынах кісне снег, вада пеніцца, як саладуха, па ёй плаваюць кавалкі ільду, што праснакі.
Пахне цёплым бярозавым сокам, свежай рошчынай.
У бары высыпаў сон-трава. Блакітны, ён пабялеў ужо ад сонца. Гэта ўчарашні. А сённяшні — цёмна-сіні — заслаў суквеццем мох, парыжэлую дзеразу, зялёны чарнічнік і шэрыя сасновыя шышкі-грушкі. Лезе з зямлі і сам не ведае дзе — на ўспоратай леспрамгасаўскімі цягачамі-тралёвачнікамі пясчанай дарозе, на ўтаптанай-убітай сцяжыне; уздзірае, варушыць жоўтыя бугаркі пяску над кратовымі норамі, бы гэта ніяк не асмеляцца пасля зімы выткнуцца на свет заспаныя, схуднелыя зямныя паркуны.



З пасекі цягне свежай, сырой зямлёй. Абсыхаюць пні, лаўжы, — ад іх тхне смалою, палыном.
Ля пнішча на шорсткіх белых імхах — першыя грыбы, смарчкі. Цёмныя, мокрыя, слізкія — млосныя ад цяплэчы і сырасці. Ад іх пахне грыбным летам.
Ад пасекі пад Ваўкаўню, калі мінаеш Чар-чаг, — узбоч дарогі старыя партызанскія акопы мінулай вайны. На дне іх — вада, здалёку чорная, бліскучая. З накопаў-брустэраў спаўзае, цярушыцца на ваду пясок, булькае каменьчыкамі-жарствой, — ён сохне на сонцы.
Акопы параслі маладым бярэзнікам. Высокім, гонкім, разгатым. Тут зацішна, на сонцы аж горача, і на галінках выскачылі, наклюнуліся пупышкі, павыступалі кроплі вады-соку. Бярэзнік угрэўся, спацеў. Пахне распаранымі бярозавымі венікамі, — што ў лазні.
Ад дарогі, ад старых акопаў аж да Доўгіх імшар лясніцтва на ўсёй пасецы высадзіла малады лес. Залеташнія разоры пасля снегу зусім свежыя, як учарашнія. Ля мізэрных на пяску сасонак, што 'шчэ як трава-кукаль, зелянее шыракалісты паземачнік — першы ягаднік вясны.
На сухіх сіўцах і верасах, на высокай лясной жоўтай мятліцы пад сонцам звіняць мухі, трымціць павуціна. У паўдзённай смузе з чыстага неба сыплецца сухі звон жаўранкаў. Стогнуць за лесам Доўгія балоты— іх дзеляць журавы.
Заходзяцца па лесе, аж разрываюцца дразды-белабровікі і берасцянкі. Вылазяць на сонца пчолы, ныюць рэдка, дробненька, поўзаюць па верасах, як нежывыя. Яшчэ не тая іх пара.
Дарога з Чар-чагу ў Ваўкаўню вільготная, зыбкая. Як лёгка і вольна ступаць, як звычна на душы з вясной у лясным краі... Здаецца, тут жывеш здавён, а далёкі горад — успамін, мроі. А мо' наадварот — гэта сон? І лес, і вясна, і людзі, што растрывожылі душу, — мо' толькі прывіды?
Далёка наперадзе тарахцяць па карэнні калёсы. Ляскочуць глуха, дробна: днём знямела рэха. Там Мікіта з падводай.
Галіна ішла пешшу праз увесь лес ад Краснага. Саскочыла з воза, нічога не сказаўшы Мікіту, а той, як гаманіў-бурчэў усю дарогу, так і паехаў далей. Пасля недзе агледзеўся, што адзін, пакрыўдзіўся, бо не кліча сесці вось ужо праз увесь Чар-чаг, не адгукнецца. Сагнуўся на возе, знелюдзеў, н'ат не аглянуўся, але ж не пагнаў каня ні разу, хоць у яго на гэта поўная воля.
Здалёку з-за дробнага сасняку забяleліся новыя будынкі ў Закалюжжы, пасля адразу ж выкацілася на горку ўся вёска.
Галіна дагнала падводу і ўкулілася ў брычку. Зашамацела сена, клятчатая коўдра скамячылася, скруцілася, з'ехала недзе ў ногі. З-пад колаў уставаў пыл ад перасохлага ў Ваўкаўні жаўтапёску, лез у вочы. Конь ступаў цяжка, было пад гару.
Мікіта доўга 'шчэ маўчаў, не глядзеў на яе, потым пачаў сваё з таго, чым кончыў. Гаварыў толькі гучней і шпарчэй, каб мо' выгаварыцца да вёскі і больш не чапаць задумлівага сёння дзяўчаці.
Яна напачатку не слухала яго. Успомніліся сённяшнія роды, рыжаволосая дзяўчынка, што з крыкам на ўсю хату запела пра сваё права жыць. Білася цвёрдымі ручкамі, пальчыкамі, стрэпалася. Моцная, дужая, камлюкаватая. Звычайна, такія з'яўляліся толькі хлопчыкі.
— Гэта, што без бацькі... — не зразумець: усміхаецца Мікіта ці мо' зусім незадаволены гэтым. — Ад леспрамгасаў. Можа н'ат ад таго здаравілы, што ў нас ляжыць. Яны, леспрамгасцы, такія. Дзе ў вёсцы пастаяць... Я табе проста кажу пра такое, бо не люблю таго. Але,

скажу, дзяўчына, скажу, Галіна Фёдараўна, што цяпер, калі дазволена раней недазволенае — на свет меней раджаецца. Сто рублёў якая нагуляка ў зубы — і ў радзілку. Ох, няма каму лупцаваць гэтакіх... Дык вось раней, калі не выйшаў яшчэ абортны закон — Барысаўну я ледзь спраўляўся вазіць да радзіх. Тады яшчэ і бальніцы ў нас не было, і радзілкі. Адна амбулаторыя стаяла,аднымі рэцэптамі лячылі. І вазіў Барысаўну да каго б вы думалі? Да гэтай самай Волькі ў Краснае...

— А ў яе прыгожы хлопчык вырас, — Галіна падсунулася бліжэй да Мікіты, той усміхнуўся і ў душы мо' ў гэты час дараваў ёй крыўду. — Прыгожы, але ж разбалаваны, не дай бог. Ты падумай... Крычыць, што не будзе калыхаць «дзеўкі». Ты скажы. «На чорта яна мне! — галяшыць на ўсю хату. — Каб хлопчык. А то — дзеўка...» Во, што значыць расці без бацькі пры «добрай» маме. І як яна, гэта Волька, думае гадаваць дзяцей? Маці ў яе старая, хворая. Сама Волька на работу цяпер не пойдзе. На адну дзяржаву спадзявацца...

— Вы ж чулі, што яна кажа. Не? Гаворыць, замуж мне ўжо не зайсці, дык хай хоць дзеці будуць. За кім на старасці жыць, калі «дзеда» няма? Жартуе, а таго не знае, што праўду кажа.

— Я яе ўгавару, дзядзька Мікіта, хлопца ў школу-інтэрнат уладзіць. Там з яго чалавека зробяць. Тады і маці на старасці будзе за кім жыць. А так не. Ты падумай. Гаварыць добра не навучыўся, а ўжо лаецца. Во каго біць трэба. Дык жа маці шкадуе, сынок яе, любы 'шчэ. Кажа, нікуды не дам сваё дзіця. Як гэта, кажа, ён будзе расці не на маіх вачах? Я ж і па ім знябудуся, і ён мяне адрачэцца, счужаецца. Зноў адна буду на старасці. А сама не ведае таго, што, гладзячы, калечыць хлапчанё. І паспрабуй тады вучы яго ў школе. А ў інтэрнаце — другое ўсё. Чалавека зробяць. А чалавек бацькоў помніць. Не, я сама ўсё-такі ўгавару аддаць хлопчыка ў школу-інтэрнат. Угавару, як бы там ні было. Ды і ёй жа лепш, лягчэй будзе, дзіўная яна.

— Вы ўсе за інтэрнацкую школу, знаю. Але ж у бабы сям'і не стане, калі забраць дзіця. Гэта не работа. Нікуды не гадзіцца. Мы ўсе спрадаўна сем'ямі раслі. Хоць без бацькі, дык пры матцы. Сям'я — гэта сваё гняздо. Гэта — прырода. Нашто бурыць яе...

Перад самай вёскай, ля фермы, дарогу перабег заяц. Цыбаты, ён выскачыў недзе з саснячку з Ваўкаўні, дзе раскрытыя на вясну капцы з бульбай і буракамі, пратанцаваў праз пясчаную дарогу і лупянуў за ферму па чорнай раллі. Шэры, доўгі, падцыглясты, беланогі і белавухі, ён 'шчэ доўга мітусіўся на чорным ворыве, пакуль не шмыгнуў у лазнякі на загуменні.

— Ох... кату твайму мышку!.. — аж падскочыў Мікіта. Здавалася, што ён рады зусім і не таму, што так разгаварылася Галіна, а гэта яго заяц раптам вывеў са спакою. — Прырода якраз уладзіла ўсё. Ёй усё роўна, замужам хто ці не. Яна свайго патрабуе, сваё гне. Прырода — гэта... такая штука, што яна не глядзіць табе ў пашпарт, ці ты муж па закону, ці ты пастаялец-леспрамгасец... Усякая любоў канчаецца прыродай. Вось як, дачушка, вось як... Галіна Фёдараўна. Так што тут і на тую Вольку, вярні цуды-беды як хочаш... Так што тут і на яе і за яе... Прырода — гэта... — Мікіта зачынаў сваю філасофію на некалькі дзён. Галіна адчула гэта па тону і па задумлівай заклапочанасці ў сівых вачах, што заблішчэлі нейкім знаёмым ужо ёй агнём. Так загараліся вочы ў дзеда Тодара, калі ён кідаўся ў развагі. Так, відаць, яны свецяць ва ўсіх старых, якія думаюць, што ў кожным іхнім слове — новая мудрасць, што абапіраецца на іх сямідзесяцігадовы вопыт, новы закон; не ведаючы і не падазраючы падчас, што мо' маладым свет за больш кароткі час пераступіў іх мудрасці, з якімі яны самі ніяк не хочуць расстацца і перадаюць нашчадкам, як нешта ўстаялае, без чаго і кроку нельга ступіць; перадаюць, паўтараючы з дня на дзень адно і тое ж, часта назойліва і надакучліва, выклікаючы ўсмешку і спагаду, якая б зусім не цешыла старых, каб яны маглі яе ўбачыць, апазнаць.

Мікіта са сваёй старэчай філасофіяй брыдаў Галіне. І яна не першы ўжо раз уцякала ад яго з воза. Не, і старыя бываюць не падобны адзін на другога, хоць і вочы іх мо' свецяць адным і тым жа агнём. Стары Тодар заўсёды заставаўся бадзёры, малады, гарэў на рабоце і ў бальніцу з'яўляўся толькі за тым мо', каб дазнацца ў любых дактароў, як гэта льга абмаладзіцца на старасці жыцця, бо ні ў якіх знахароў ніколі не верыў ні сам, ні яго бацька, ні дзед, які вунь калі 'шчэ быў у роце лекарам, калі служыў цару. Калі б лепшыя гады ў жыцці дзеда Тодара, хто ведае, мо' і ён быў бы ўрачом? Мо' сёння ён якраз бы і думаў, як абмаладзіць чалавека?

Мікіта не такі. Мудры па-свойму. Для яго дзень — пажытак. Прыйшла старасць — ён і ёй рады. А тое, што ён бачыў, што перажыў — закон. Для яго і для іншых. Добра ж, калі чалавек ішоў чалавечай дарогай. Але, відаць, не зусім, бо ў яго філасофіі колькі вунь знойдзеш апраўдання і Выжлятніку, і Джвучку, і ойчу Сабольскаму. Ягоная філасофія мо' і хіне яго да Раіны. Ён і недалюблівае Тодара праз яе. Як жа — сапернікі. Пракурорыха ж не раз апавядала. Галіна ўсміхнулася. Ты падумай, да дзядоў ніяк не ідзе слова «сапернікі», хоць яны мо' недзе і вунь 'шчэ якія заядлыя.

Мікіта быў і няўстойлівы ў сваёй філасофіі. Толькі што ён збіраўся апраўдаць Вольку, спасылаючыся на прыроду, як зноў жа пачаў мяшаць яе з пяском і граззю, спасылаючыся на неба.

Галіна зноў не слухала яго.

Яны ўязджалі ў Закалюжжа. Мікіта са злосцю пагнаў каня. На рысі мінулі хату Дзедзіхі. Галіна ўгледзела, як з двара выскачыла дзяўчынка з блакітным банцікам у ручках, — за плячамі ў яе рассыпаліся расплененыя валасы. «Цёця Галя... Цёця Галя..» — лапатала яна. Галіна пазнала маленькую Верачку. Хто ж яшчэ... Яна. Саскочыла на хаду з калёс на пясок сярод вуліцы. Дзяўчынка пацягнула яе за руку дадому.

Калі яна была на двары ў Анэты, угледзела, як з лесу выскачылі і махнуліся ля варот два веласіпедысты. Першы быў шыракаплечы мужчына, сядзеў па нейкай дурной звычцы, звесіўшы галаву, калі цяжка пазнаць, што гэта за чалавек; другі змусіў уздрыгнуць. Другі быў Леанід. Не бачыла ж яго цэлы тыдзень. Паехаў у раённую рэдакцыю,— так ён сказаў,— і прапаў быў дасюль. Ні слуху, ні духу.

Захацелася выбегчы на вуліцу, і Галіна спынілася ля парога. Доўга пасля не рашалася зайсці ў хату, аж пакуль Анэта не паказалася сама з хлапчанём на руках.

Галіна нешта адказвала ёй, мо' дзякавала, а сама думала пра тое, што, каб была на возе, не саскочыла, то яны б нізашто не размінуліся б. А мо' пабегчы? Дагоніць, калі 'шчэ здалёку аклікнуць.

Хацелася бегчы, а ногі не краталіся з месца.

А дзе ж Мікіта? Не відаць каня. Схавалася брычка недзе за вярбой, што на паваротцы. Мо' ён кінуў яе і адзін, зазлаваўшы, скіраваў на Грыні?

Не, Мікіта не кіне. Чакае недзе, а тады і сам падыдзе клікнуць.

Толькі хай бы ён прыбег і клікнуў цяпер. Яна тады не змушала б сябе заставацца на двары. А так... Несціся па пясчанай дарозе за ўпыленым веласіпедыстам?..

Яна стала супакойвацца. Учула, што зусім блізка, недзе там ля лагоў, заракатаў трактар. Па вуліцы пранёсся вецер, закруціў салому з пяском і шпурнуў на двор, у вочы.

Яны схаваліся ў хату. Галіна пераняла на рукі малое і пачала выціраць яму хусцінкай вочы. Хлопчык невыразна гаварыў «ма-ма».

Відаць счакаўшы, каб аднаму вылаяць усю злосць, праз колькі часу ў шыбіну ад вуліцы забарабаніў пугаўём Мікіта.

Трэ' было спяшацца, бо пасля гэтага ён мог паехаць адзін. Хаця, не вялікае шчасце гэтая бальнічная каламажка, якая за вясну адбарабаніла ёй па калдобінах галаву і адбіла бакі.

Але Мікіта не з'ехаў і другі раз зайшоў за ёй аж у хату.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Расчынена акно.

З двара ў сцяну б'ецца вецер, сюды, у акно ад вуліцы, ён далятае зусім аслабелы — ледзь дыхае. Кратаецца бела-сіняя фіранка ля шалёўкі.

На рэдкім палатне застыў жаўтаваты васьміногі павук. Цяжкі, — стары. Выдае, гэта не вецер гуляе з фіранкай, а насякомае люляецца на цяпле і волі — знайшло забаву!

Павук — гэта навіны, гавораць у Грынях.

Ціхі, у сонцы вечар сыпле з-за акна мроі. Нясе іх адтуль, з поля, з-пад лавацкага саду, дзе дзявочая песня, з прырэчча, дзе разгалістыя старыя ліпы-прысады, — бальніца.

Бальніца — у садзе. Толькі сад вымерз у фінскую вайну, гавораць грынёўцы, засталіся разложыстыя, векавыя ліпы, што буялі на грынёўскай зямлі, шумелі-гаманілі над бальнічнымі дахамі. Далей ад бальніцы — школа. Яна збудавана нанова, пасля вайны, таму выходзіць за межы саду. Там, пад раку, на дзядзінцы — вальней. У прысадах — толькі адзін будынак школы — майстэрня. Пачалі яе на згоне зімы, падвялі пад кроквы і бадай канчаць да лета. Што тут ужо засталося.

Прысады зусюль абступаюць бальніцу. Прысады — у два рады. Між — алея, — дзе праз усё лета густы, духмяны цень.

«Алея — любае месца Васіля Міронавіча...»

Галіна ўсміхнулася. Гэта тут ён ёй прызначаў спатканні нават зімою, калі трэ' было мясіць снег па цаліне, калі сад зімой пуставаў, быў сіратлівы, а ў адліжныя дні — шэры, нудны.

Алея ажыла з вясной.

Першая вясна напаткала Галіну ў лясным вясковым краі. Яна нанова змусіла ўстрапянуцца душу; свежа, не як тады ў запыленую восень, дыхнуць грудзьмі расяны водар халоднай 'шчэ адвячоркамі зямлі.

У акно, у шыбіну, б'ецца жоўты матылёк. Успененае веснавым хмелем паветра тхне ў хату, цягне з сабой матылька — пустое дзіця вясны.

З акна Галіне відаць бальнічныя прысады, лог, ферма, Бусліныя сосны і край лавацкага поля-саду.

Над логам ля ракі крычаць кнігаўкі, сыплюцца, недзе адтуль, з Лавак і знікаюць за ліпамі. Песні іх узбуджаныя, устрывожаныя. Яны мо' больш, чым другое птаства, чуюць радасці вясны, — ад таго іхні неспакой. Яны падаюць за дрэвы, узлятаюць зноўку, — бы адтуль, з зямлі, вецер шпурляе ўгору леташняе высахлае чорна-белае лісце.

На ферме гудуць машыны, сцішана, мякка, не так, як зімою, — гэта што не на марозе. Недзе ў тым баку глуха і рэдка страляе трактар.



Аж стогнуць Бусліныя сосны, — даўганосыя птахі вясны сёлета ці не занялі ў Грынях самадумам чыё шматгадовае прыстанішча, бо ўжо во які дзень не маюць яны спакою ад несціханых іназойлівых, зморaных і злосных сваіх бяздомных суседзяў, з якімі мо' нядаўна ледзь валюхаліся, прысталыя, праз вятры, горы і вёрсты ў гэты ж край.

А мо' то вечны закон прыроды — ісці боем за жыццё?

Буслы мітусяцца, клякочуць, шыбуюць на лагі, за прысады, пасля ўзносяцца ў высь, іх ледзь угледзіш, і, склаўшы крылы, падаюць кулем на сосны, зусім, што каршуны. Іх во шмат. Ці не аж са тры пары мкнуць абрадаваць Грыні сваім прыстанішчам...

Але сціхае бітва, знікаюць назойлівыя птахі, пусцеюць сосны.

Высока над Грынямі ў бясхмар'і вісне адзінокі бусел.

Гусцее над далёкім полем вячэрняя сінеча. Вецер ці не зласней скубе фіранку, — нервуецца, спяшае, каб хутчэй мо' тады аціхнуць нанач.

Плача, замірае, ажыве-ўстрапянецца і зноў стыне віяланчэль... Сцішана, бы дзе далёка, — бо прыкручаны рэпрадуктар.

Цягне з хаты; кліча пайсці, згубіцца ў вячэрніх дымах на далёкім полі, застыць там, слухаць самотную цішу начы, глядзець на лясы, дзе згарае-тухне зара, пераймаць цёплыя туманы, што плывуць з асмужаных асіпаўскіх лясоў.

Стаяць, слухаць, марыць, чакаць. Згубіцца ў бурай начы, калі падкрадуцца туманы і завалакуць сцежкі і толькі свецяць-ірдзяцца зоры,— гараць недзе, як і твае вочы.

Згубіцца — і каб цябе шукаў той, хто дагэтуль мо' нават і не думаў, не марыў цябе знайсці, і дзеля каго ты гатова трымцець усю ноч у тумане-холадзе, як і тады ўвосень.

І чаго з'явіўся ён?

Каб не спаць начэй і цягнуцца, ірвацца да яго?

Галіна ўздрыгнула. Перад вачыма ўсё адно, як хто змахнуў даланёй спатнелую шыбіну. Заблішчэлі на вуліцы белыя камяні, што ляжалі ля частаколу.

Галіна адхінулася ад акна: на плячо нехта асцярожна апусціў руку.

«Ты падумай... І дзвярмі не было чуваць, каб скрыпнуў».

Яна павярнулася, утрапёная,— Нінка.

— Ты што?..

Дзяўчына апусціла вочы. Ад гэтага яе чорныя вейкі выдаюць 'шчэ больш загнутымі ўгору. Твар пахмуры, вільготны, што пасля слёз. Каса распаўзлася, звісла на плечы.

— Чаго ты маўчыш, Нінка?

Тая ні слова. Камечыць толькі рукамі зялёны плашчык, відаць, леташні, бо стары і цеснаваты. Нінка хутка расла ў яе гады.

— Што з табой?.. Чуеш? — Галіна была побач.

Дзяўчына ўздрыгнула. З касы выпала шпілька і шпокнула на падлогу. Зноў ні слова.

— У бальніцы што? Здарылася? Гавары... Не трывож...

Тады на Галіну зірнулі вочы. Чорныя, вялікія, не такія, як заўсёды, мо' што дзяўчына падышла так блізка; вільготныя, бліскучыя, як мокрыя спелыя вішні на сонцы пасля дажджу. Што ў іх — слёзы, туга, роспач? Усё, відаць, разам.

— Не... — загаварыла дзяўчына ўшэпт. — Я прыйшла дзеля сябе... Я хацела цябе застаць адну дома. Мне ты трэба... Я... Я не ведаю, што рабіць... Не ведаю, як быць. Я...

Пасля шэпту — раптоўны плач на ўсю хату. Пасля плачу — зноў шэпт, ціхі ўзрыд:

— Мне помач трэба. А як зрабіць, як рашыцца? Куды кінуцца?.. А тады што са мной?.. Нашто ж я гэта надумала? Надумала, а цяпер не магу. Не магу. А я не хачу, каб нават хто знаў. Каб маці ці каб ён. Я не хачу яго!.. Я не хачу мець ад яго... Колькі мне тут год, а як жа жыць тады? Мы ж не запісаны. Я не кажу яму... Маўчу... А што, калі ён тады зусім шчураецца? Скажы, кіне ён тады мяне? Кіне, кіне... Сама знаю. Нашто яму сям'я. Ён вольны, ён вецер... І нашто я яго палюбіла...

— Супакойся. Вада вунь у парозе ў вядрэ. Выпі і перастань хліпаць... — сурова, строга, што на хворага.

Нінка супакоілася. Галіна пасадзіла яе на лаву ля акна.

— А ты адкуль знаеш, што ў цябе?..

— Не было ўжо... Учора рвала ўсю ноч... І перш блажыла...

— Ну, ясна... Цяжарнасць на першых тыднях... Сядзі, сядзі, не ўзрывайся. Я ж яму, галубочку, сама задам, калі ў цябе язык адсох... Ты падумай. Сказаць яму слова — баіцца, а на вунь што—рашылася. Ты ж ведаеш, колькі жанчын пасля таго — бяздзетныя ўсё жыццё... А ты — дзіця. І не знаеш, што такое сям'я. Не глядзі так — не гады, прафесія дазваляе мне такі тон. Я за сваё на рабоце ніводнага аборта такога нікому не зрабіла і не зраблю... Мо' толькі па няшчасцю выпадзе. А ты... Дзіця горкае... А скажы, чаму ты прыйшла іменна да мяне? Заўтра ж — да Барысаўны на прыём, яна ўрач, яна хай абследуе і дае накіраванне. А я нічога не хачу і знаць. І не надумай шукаць якую бабку з нямытымі рукамі ці глытаць што сама. З тваёй дзіцячай галавой і з тваімі ведамі — на той свет ступіш. Ты падумай...

— Галіна Фёдараўна... Галіна... Галя... Як жа я скора пакажуся на людзі... На работу... Я ўсё роўна не перанясу... Ты паможаш, я знаю... Ты толькі так на мяне крычыш... Не крычы на мяне... Што я, вінавата...

— Гм... Ты падумай... Я, па-твойму, вінавата? Я за цябе не ўстаяла перад якім? Ды ты і не па таму адрасу прыйшла сазнавацца. Пэрац жыве на той канец вёскі. Яму самая пара слухаць такія песні. Ты скажы. Во скромніца. Ні слова мне пра яго сур'ёзнага ніколі, а ўжо. Хаця я заўважала яшчэ зімой, у палаце, калі ты пры ім крукам выседжвала. Скажы, любіць ён цябе?..

— Гавaрыў жа... — праз слёзы, з дрыготкай, і ад таго смешна.

— Значыць, ён твой муж і бацька дзіцяці. Табе самой не прыходзілі ў галаву такія словы. Маўчыш? Ну дык вось і добра зрабіла, што да мяне прыбегла. Ты іх тут пачула. А цяпер рушыш дадому, выспішся, і заўтра раніцай, перад зменай чыстая і свежая з вясёлымі вачыма занясеш сваймy Раману ў той канец Грынёў радасць. Чуеш? Занясеш радасць. І хай ён толькі спрабуе што сказаць.

— Не. Не... Што хочаш, а не пайду. Я з сораму згару, я рот не раскрыю, каб сказаць...

— Ты падумай... А тады табе не было сорамна?

— Я любіла яго, я люблю яго... Я баюся, баюся, што ён тады адрачэцца. Ён такі, ён шчурацца можа. Чым дакажу? Я не знаю, што зраблю. Ускочыла... — Нінка раптам загаварыла раўней, рашуча. — А тое... дык чаму ты так... Цяпер жа дазволена. Барысаўна зробіць. Цяпер дазволена.

— Не ўзнімай крыку. Барысаўна ціхенька ў цябе за печчу не стане такога вытвараць. А ў Грынях сакрэты ніколі не плеснелі.

— Сама зраблю. Напляваць мне на такога мужа, як Пэрац, напляваць мне на ўсіх...

Нінка плакала на ўсю хату. Ірвала, скубла чорную тоўстую касу, колючы рукі аб шпількі.



— Сціхні! Хочаш? Атрымаеш па шчацэ! І так, што з ног зляціш, і мужа табе не трэба будзе... Дурасць якая... Ты падумай... Не адскочыла ад зямлі, а ўжо і ёй такога паспытаць хочацца. Ты спачатку радзі, памучся, як твая маці, калі цябе раджала... Яна з сораму згарыць... Падумаеш. Не трэ' было падсоўваць! Я цябе не баюся абразіць, калі ты сама сябе не хочаш паважаць.

Нінка плакала наўзрыд.

— Слухай, дзяўчынка. А чаму ты так смела гаворыш, што твой Пэрац не захоча стаць бацькам? А помніш, што ён на сходзе камсамольскім сказаў?..

— Тады... Тады яму памагалі, тады яго сарамацілі.

— Не. Тады з яго чалавека рабіць пачалі.

Нінка ўсхліпвала, выціралася хустачкай. Твар яе, усчырванелы, гарэў, як сонца за акном на захадзе.

— Чалавека... Які з яго бацька. У нядзелю вунь... Прывёз аднекуль з лесу снегу на багажніку... На веласіпедзе ездзіў, відаць, шукаў спецыяльна. Прывёз да клуба і цэлы вечар у дзяўчат шпурляўся. Бацька... Дзіця горкае. Абрадаваўся сняжку ўлетку... А я яму ў галаве? Прыбяжыць, павыскаляецца, нагаворыць, што любіць... А ўчора? Абрадаваў. Раіну збіў... Раіна за даведкай да Барысаўны прыбягала, раўла на чым свет стаіць, сінякі пад нос тыцкала. Яго ж зноў судзіць могуць...

— Не гарачыся. І даведкі той Раіне ніхто не даў, і сінякі ў яе чорт ведае якой даўнасці і чорт ведае ад чаго. Пракурорыха гаворыць, што яе на тым тыдні ля калгасных капцоў нехта ноччу добра пабіраў...

— Калі ж гэта так... — Нінка сціхла, насупілася. Глядзела, не мігаючы, за акно, дзе тырчала з-за частаколу зламаная некім увосень яблыня-дзічка, якую абсыпалі почкі-пупышкі, што пчолы. Дрэва зачынала расці нанава, пускала атожылкі з камля. На дрывотніку, што ля студні, куры разграбалі трэсачнік і пілі ваду з-пад лёду. У густой смузе над рэчкай вісеў каршун.



Нінка раптам уздрыгнула, падалася да Галіны, быццам дыхнула з двара ў акно гарачым ветрам... Бразнула ў сенцах клямка. Пастукаў хтось у дзверы. Асцярожна, але настырна.

Галіна адчыніла сама.

— Здаровы, дзяўчаты... Добры вечар... — з-за парога выскачыў Раман Пэрац, што певень адкуль з-за плоту. Пастаяў ля грубкі, шнараючы вачыма па хаце. — Можна прайсці? — спытаў. Не дачакаўшыся адказу, падышоў да Нінкі. — Ледзь знайшоў. Усё-такі людзі ведаюць, дзе ходзіш. А ну, убраць слёзы! Сёння павінна быць на душы, як на двары... Абсалютна... І чаго гэта ты сюды слёзкі пускаць прыбегла? З якой пары? Я думаю, магла знайсці і больш раднейшага чалавека,

праўда, цётка Галіна Фёдараўна? Думаю, што я маю права на яе слёзы. Большае, чымся вы. Абсалютна.

Нінка маўчала. Не падняла на яго воч. Ні разу. Раман доўга сачыў за ёй, тады ўставіўся на Галіну.

Было ціха. Выдавала, людзі сышліся паслухаць сімфонію з рэпрадуктара, што цяпер прыглушана стагнала ў мажоры.

— Уставіўся... Непрыгожа рот раскрываць... — Нінка ледзь варушыць вуснамі, шэпча.

— Гляджу на таго, хто воч не хавае. Ды прыгожая дзяўчына — як сонца. Калі на яе глядзець — рот сам раскрываецца.

— Значыць, калі на цябе глядзяць разявы, ты прыгожая? — Галіна не церпіць.

Рассмяяліся. Моцна, шчыра. Пэрац — на ўсю хату. У Нінкі ўздрыгнулі бровы, пасвятлеў твар.

— Не будзем, Галіна Фёдараўна, прыціхнем. І я, і вы. І вы можаце, і я магу. Не да таго. Сёння прыйшоў да вас — за мірам. Гм... Забыўся н'ат, што першы раз у вас. Здалося, што я тут бываў. Вось, гляджу на вас, думаю. У нас жа было нядрэннае знаёмства, калі вы да маці ўвосень прыходзілі. Абсалютна. Па шчырасці. Душа нарасхрыст. Не ведаю, мо' я і ў дурня тады згуляў. Ды вы ўжо недзе і забылі. А калі б я сябе ямчэй павёў, ну як студэнт які, па-стыляжнаму так, мо', Галіна Фёдараўна, вы ўжо і за мной апынуліся б, га? Ну так, па-шчырасці? Ну вось... Даў тады хібу, калі так. Засыпаўся. Эй, бярозачка... Абсалютны пралік даў. А цяпер позна. Векаваць за мной будуць другія. Так што трэба некаму тут маліць бога за маю грубасць, хай даруе мне, Галіна Фёдараўна, і хай нехта пагладзіць таму богу яго кудлатую бародку за тое, што Галіна Фёдараўна не кінулася тады Раману Пэрцу на шыю... Уключыце святло, слёзы хутчэй у маёй бярозкі высахнуць. Уключайце, шарэе ў вёсцы...

Святло было зыркае, густое. Па хаце запырхалі два жоўтыя матылькі, што былі недзе стуліліся на падаконніку.

Нінка хавала ад агню твар. Ён быў цяпер зусім белы. Мо' ад таго, што яна перакінула на грудзі чорную касу?

Змоўкла музыка. З рэпрадуктара пасыпаліся сігналы. Усе зірнулі на стол, на будзільнік.

— А цяпер дазвольце, Галіна Фёдараўна, забраць у вас сяго-таго. Адны вы пасумуеце, мо' хутчэй тады якога другога Васіля Міронавіча нажывяцё ў нашым баку. Ну, Нінуся, пара нам да дому патэпаць. Годзе галоўку дурыць Галіне Фёдараўне. А я 'шчэ зайду да вас, Галіна Фёдараўна. Зайду-зайду... На вяселле зваць. І сведкай у наш сельсавецкі загс пойдзеце... Ну, гэта ўжо вас Нінка прасіць будзе. Абсалютна. Рашыў ачалавечыцца. І матцы сказаў. Ну, бярозка, рушым. А дома параімся, чаму ты чужым людзям слёзкі льеш. Мо' за мяне не рашаешся? Мо' думаеш, знайшла паваляку?.. Ну-у... Нічога — сышліся на скорую руку, дык на доўгую муку. А мужык будзе добры: даўся ні ў бацьку, ні ў матку, а ў праезджага дзядзьку... Галіна Фёдараўна, не сумуйце... А мы, бярозка, парадуем яшчэ грынёўскую Ганулю сёння. Пацалуешся са свякрывёй на ляту, паглядзіш, што да чаго, і ў сельсавет заўтра. З ног збіўся, шукаючы. Ну-у... Сядзіць, надзімаецца, што ў лапці абуваецца. Не па душы, бярозка, што не дома сватаю? Дома толькі вар'ююцца, а на людзях зглузду едуць... Дай я цябе пацалую, мая бярозка... Га?

— Кінь, Раман, выскаляцца ў чужой хаце. Пацалую... — Нінка асцярожна, але строга зірнула на яго.



— Ну-у... запела... Ад гэтага осы не завядуцца...

Здавалася, яму не было сціханага. Хлопец быў у вялікай радасці. Падняў Нінку з лавы, прапусціў у дзвярах наперад і ўзяў на вуліцы пад руку. Ішоў, расказваў штосьна ўвесь голас і махаў рукой. Аж падскокваў.

Галіна стаяла на вуліцы, пакуль не адчула, што зябне. Свежасць плыла ад ракі, з лавацкіх садоў. У канцы вёскі сівеў туман, якраз там, дзе села сонца. Неба над Грынямі было свежае і празрыстае.

Ракатаў трактар, турчалі жабы. На шашы ляскалі машыны. Ля клуба стукаў рухавік. Дзяўчаты гукалі ў халоднай і ядранай маладой начы.

На тэлефонным провадзе, што хаваўся ў жоўтых кустах старой вярбы, аж звінеў шпак, бы гэта хто пальцам пстрыкаў па дроце, як па струне.

Недзе ў бальнічных прысадах плакалі кнігаўкі, не ўкладаліся 'шчэ на ноч.

Забывалася пра Рамана і Нінку, думалася пра аднаго чалавека, які даўно стаяў у галаве.

Ад маста, з-за павароткі, выскачыла машына, абдала холадам і дымам. З кабіны кіўнуў галавой Станіслаў Пракопавіч.

Не хацелася ісці ў хату. Галіна ўгледзела, што агонь гарэў 'шчэ толькі ў яе адной. Яны вярнулася, каб патушыць святло і захапіць паліто.

— Паслухай, Лёнік. Дык ты ўжо іх у газету прапусці. Добранька. Ад мяне. Яны ж спаслі старую. Дзякуй ім, усім дактарам. Очынь совісна лячылі месяц. За іх совісныя адносіны... Хвала богу, нічаво сябе чую. Я прыпаўзла сама ўжо да цябе, бо пісаць жа ў руках алавіка не трымала, лічы. Дзеткі, зрабіце. Я на вас буду помніць доўга ласку. Старшыня казаў, завязе мяне да цябе, дык мне дрогка, блажыць, ехаць нільзя. Памаленькі плыву во, праз нагу пераступаю. І на работу так. Вось благая хвароба па гэтай сардэчнай балесці. Яна ж з ног валіць. Ні рукам, ні шыі не дае варухнуць. А ў калгасе ж раней і каса была за мной, і конікі за мной, і лянок за мной. А цяпер сэрца зусім ніякае. І жыву з хлопцам удваёчках. Дзякуй жа старшыні, што саўсім не кідаюць мяне. Помач выпісалі. Я і цяпер іду, куды магу. А ў мяне так — узяўся рабіць, дык дзень і ноч. Ці ў коле, ці ў мяле.

Дык ты апішы пра іх. І пра дакторку самую, пра фельчарку і сястру, што пры іх. Тую, якая пры мне была. Нінка. Яна ж і адзене, і абуе, і націранне зробіць. Божачкі, што за людзі... Гэтак мяне цэлы месяц лячылі. Хвароба яна не такая, што лажыся і паздаравеў. Але ж добра мне цяпер. Я ж і ўвосень ляжала і зімой мяне ўзялі на месяц. У мяне ўжо сэрца станавіцца было зачало. А цяпер і хадзіць далёка магу і кошыкі насіць.

Яны ж мяне, матка боская... як глядзелі... Дык ты пра ўсіх дактароў састаў, за іх аднашэнія. Што я ім? А яны як усё роўна сваё радзімае, як сястру, калі каснулася дзела. А я найперш дурная была. Баліць — а не ішла да іх. Плакала дома. На людзях ныла. А яно ж так: баба—бабе, жаба—жабе, — хадзі па шаптунах, кажуць мне. Было ж. А сэрца — яно і тахкаць перастала. Самлела недзе ад балесці. Я і на шаптуноў наглядзелася. Паскуднікі, во хто яны.

А ўрач — золата. Што за жэншчына... Яна ж заўсёды зойдзецца да мяне. «Як вы? — пытае. — А ці даюць якую пэнсію з калгасу? — інці-

рысуецца. — Як жа жыць без пэнсіі? А сын, Раман, ці пасталеў»? А ён жа ў мяне добры які. Надта харошая жэншчына. А што я ёй? Няможна ж богу грашыць, за іхні прывет. Дык ты ўжо ж глядзі, дзеткі. Адшкадуй ласкі для мяне...

Насакатала бабка і пайшла. Звініць у вушшу, не сціхае...

Самотна аднаму ў хаце вечарам...

Праз шчыліны ў акне цягне гарам — у агародзе маці паліць смецце і сухі бульбоўнік. У шыбіну б'юцца бярозавыя жукі; на мокрыя рамкі ліпнуць камары: таўкуць жа мак плоймай над парканам.

У гародчыку пад акном лезуць з-пад прызбы зялёныя парастачкі дзікай вяргіні, што цвіце жоўтымі кветкамі і ў зямлі не баіцца зімою марозу.

... Дзверы расчыніліся асцярожна, далікатнай рукой. У парозе зашыпела, затрашчала; зачмыхала, бы дзе захліпаўся матор, — чалавек сказаў «добры вечар»...

Леанід даўся дзіву, угледзеўшы ойчу Сабольскага. Той стаяў, маўчаў, чакаў мо', што папросяць сесці. Пасля падышоў да застолля, сеў сам.

Леанід спачатку не глядзеў на ойчу. Сядзеў, апершыся локцем на падаконнік, слухаў, як размашыста і суха шаркалі на сцяне ходзікі, і думаў пра сваё. Якая ў Рамана маці... Душу па ім роніць. На дарозе сёння раніцай пераняла... Думаў пра Краснае, куды выпала наведацца, пра людзей, што сустрэліся ў дарозе і моцна заселі ў памяць.

Ойча Сабольскі напыжаны, рухавы, — відаць, ад нервовасці. Барадка кароценькая пасля ножніц, падсечаны ззаду і валасы. Вочы чырвоныя, — ад гарэлкі ці ад бяссонніцы, — пранізлівыя. Голас нізкі-нізкі пасля гарлавой хваробы, на высокім тоне — сіплы. Прыхінуўся чалавек да сцяны на лаве пад ходзікамі, пэцкае спіну ў пабелку, не заўважае. Маўчыць. Думае мо' недзе: «Чаго прыйшоў? Сталася ж вось так...»

Рыпнулі дзверы.

— Мама, пакінь нас адных... Гаварыць чалавек, відаць, нешта мае.

— Каб жа веданне — не адчыняла б...

Зноў ціха. Чуваць, як на вуліцы крычаць дзеці; стракочуць палкі па частаколу.

Сталі былі ходзікі. Леанід падняўся, падцягнуў гіру, крануў маятнік. Прайшоў па хаце і сеў у крэсла, што ў куце. Падпёрся.

— Прызнацца, ойча, я вас не чакаў...

— Дзякуй, дзеткі, за праўду. Але ж і я вас тады, помніце, не чакаў убачыць. Заварылі кашу — памажыце пахлябаць.

— Добра. На чым мы тады разышліся?..

— Я, помніце, з вамі не вельмі мяккі быў. Вы маладыя, даравалі недзе. Тады я на Пэрца ўсё падазраваў... Хацеў вас прыперці, як вашыя камсамольцы мяне... На тым мы і разышліся.

— Ага. Пра Пэрца я не блага думаю, ойча. Паштукаваўся некалі хлопец... Было... Ну і што?

— Стойце. Вы ведаеце, чым ён кончыў, пачаўшы з Чар-чагу?.. Пра гэта ўвесь раён чуў. З'явіўся на запусты ў царкву. П'янюсенькі. Разапхнуў людзей, пралез да кліраса і зароў, як жывёла: «У бога маць... дзе Сабольскі?!» Гэта ж нячыстая сіла... Гэта ж у суд за хуліганства мог падаць на яго. Свінчо... Пакруціўся перада мной, жагнаючы мяне, бачыць, не спалохаўся, не ўцякаю, — давай багамазіць на прыхажан. Дажылі. У царкве ў бога маць крычаць. Ты інтэлігентны чалавек, скажы. Меў права ваш камсамол на такую вайну з царквой?.. Не меў. Дакумент ёсць, дзе за нас заступаюцца. А пасля таго Пэрца семнаццаць чалавек я толькі налічваў. Больш не ішлі. На чым было жыць царкве? Адно свінчо нагадзіла столькі...



— А можа мы далікатней будзем пра людзей?.. Ды і па-святому ж так: прыйшла бяда — не гані яе...

— Слухайце! Я з вамі не спрачацца, параіцца хачу... — Ойча Сабольскі ўздрыгнуў: гаварыў мо' не тое, што хацеў, і доўга не рашаўся.

— Райцеся...

Ойча Сабольскі пакідаў царкву...

Леанід зноў не слухаў яго. Глядзеў за акно, за дарогу, дзе на дзядзінцы здалёку свяціла каменне. Белае, пад пунсовым на захадзе сонцам, яно выдавала, як распаленае. Яно валялася колькі ўжо год пасля таго, як спяклі ў блакаду школу-дзесяцігодку. Вялікае, белае, пашчапанае, патрэсканае.

Успомніўся такі ж да болю ў вушшу ціхі і трывожны летні адвячорак той далёкай пары, калі малінавы захад засцілі бурыя дымы ад пажараў; і сівы, густы, як хмара, пыл хаваў ад воч шашу — паўнюткую фашыстаў. Школа згарэла самая першая — з яе адстрэльваліся параненыя чырвонаармейцы. Пахавалі іх праз дзень — пахавалі тое, што знайшлося ад людзей. Колькі дзён грынёўцы абыходзілі пажарышча, ад якога валасы ўставалі дыбам...

Дзіцячая тады памяць забрала з сабой на ўсё жыццё тыя бурыя пасля агню каменні, крывавы захад за грынёўскай смалакурняй недзе на Віліі, буры пыл на шашы пад Гальдараду, дзе тырчалі дубы... Тады доўга стаяла ў дзіцячых вачах чырвоная, іржавая ад фарбы, пакручаная, пагнутая бляха са школьнага даху, — пабыла ў агні. Яна ляжала тады ворахам — вострая, калючая, ірваная, кручаная, — ляжала на відку ўсёй вёскі.

І тады на яе наляцелі, не даўшы н'ат добра астыць. Сталі цягнуць, ірваць кавалак ад кавалка, грузіць на вазы і звозіць на Гальдараду, — запыленай 'шчэ шашой, услед за немцамі.

Выжлятнік і Сабольскі адсяляліся ад вёскі на хутары ў Гальдараду. Будаваліся, укрываліся гарэлай бляхай.

Гарэлая бляха гарэла яшчэ раз. Праз год у блакаду немцы спалілі хутары — бо тыя былі далёка ад вёскі і блізка ад лесу...

Ойча Сабольскі адракаўся царквы...

А ці адрокся ён у душы ад усяго таго, што напамінае пашчапанае ад агню каменне... Ды і ці толькі гэта...

— Мы розныя людзі, дзеткі... Што значыць для мяне царква і для вас... Ведаю...

— Так. Мы розныя людзі...

Ойча на нейкі момант асекся: перабілі раптоўна, смела і груба.

«Скажы... Нават не ўзрадаваўся шчанюк, а яго ж узяла, лічы».

— Думаеш, калі ты пяеш — мы падскокваць павінны? Мы розныя людзі. Раскажы толькі, адракаючыся, пра ўсе свае грахі — царкоўныя і дацаркоўныя — судзіць можам. Табе здаецца мо'...— Леанід захваляваўся і пераскочыў на ты, — што нам вялікую ласку спускаеш з горкі? Даказваеш, што царква распадаецца ў нашы дні, людзі не ідуць... Гэта і да цябе ведалі, і табе штодня чаўплі і праз газеты, і праз радыё, і праз што толькі маглі. Не даходзіла да цябе, пакуль людзі ішлі. Адсыпаліся — тады ўжо дайшло. Выгаду, думаеш, нам падносіш. Вось як... Выгада не наша — твая. І тут ты хочаш выгадаць. Некага ў дурнях кінуць. Ну-ну. Давай-давай. Чашы. Быў бы ты выгадны поп для царквы, ды адрокся, а то... Хочаш нашумець, бо такім даюць дарогу, рукі падаюць і ў раёне і ў вобласці. Возяць, паказваюць. На работку на добрую ўладжваюць.

І ты, відаць, хочаш у леспрамгасе ці дзе там на што-небудзь лёгкае і выгаднае наскочыць. Як жа, пасля такога можна, чаму ж не. Не толькі ў леспрамгасе.

— Дзеткі, менш гавары, больш пачуеш. Можа і лішне голас нам павышаць. Вы ж самі насядалі тады ўвосень. Удваіх прыходзілі. А цяпер...

— Думаеш, прамы прапорацца, а крывы пройдзе? Маніць, ойча, грэх. Успомні, хто насядаў? Тады ты быў яшчэ поп, а цяпер твая споведзь — пшык. Сазнаешся, што ў бога не верыш і не верыў? Дык мы і без цябе ведаем, што папы ў бога не верылі ніколі. Але ж, вядома, пасля споведзі будзеш мець большую вагу. Ці не так? Тапор леспрамгасаўскі ў руках пацяжэе адразу. Мах — і няма сасонкі. Рука напрактыкавалася ад крыжа... Што ж, думаю, табе цяпер лёгка будзе правесці рыжага сабаку ля апостала Пятра... Епіскап такога за рызу не стане навязваць. Што крывішся? Хіба не з тапаром рашыў у леспрамгас ісці?

Ойча Сабольскі перапыніў Леаніда — працягнуў руку, загарадзіўся даланёй. Пасля сагнуўся, апусціў галаву і ўтаропіўся ў падлогу — злосна і прагавіта.

Маўчалі. Чуваць было, як на двары рыпяць вароты і бразджыць вядро. На вуліцы тарахцелі па бруку калёсы. Несціхана. Ішлі падводы.

Леанід варушыў памяць. Дзе ён бачыў гэты твар і гэтага чалавека?.. А-а... Ды гэта ж стары Тодар расказваў. «Ты скажы, тады мне ўявіліся такія ж злосныя і прагавітыя вочы, такія ж...»

...Дзед Тодар заўжды рагатаў, калі пачынаў пра тое «баяць». Пачне — і ў смех.

— Ехаў я са старшынёй. З новым, толькі выбралі мы яго. Авяр'ян з намі быў. Пад'язджаем сабе да дому. Па брыгадах цэлы дзянёк марокаліся. Дзедзіха калгас перадавае. Якраз мы з Закалюжжа выехалі і так вось паўз лесапілку і праз шашу падаліся на Грыні. Думаю, ссаджу ля маста Авяр'яна, адвязу старшыню на кватэру і — на ферму адпрагацца. Усё як мае быць у галаве распісана. Едзем сабе, талкуем. Дзе што бачылі, дзе што на полі за гумнамі ў лазе валялася, дзе што мокла і гніло без дагляду... Апусціліся рукі ў Дзедзіхі. Забегаўся, задыхаўся, увяз. Што рыба ў лужыне — і жывая, і ледзь хаўкае. Людзі не слухалі. Мяркуем, што трэба прыхінуць на зіму, што адрамантаваць, наладзіць. Авяр'ян слова ўкіне, я, бывае, не змоўчу. І так усю дарогу. Адвёз іх, звярнуў праз рэчку на ферму. Пазнавата ўжо. Сяджу, бумчу сабе пад нос думкі розныя. Чую раптам нейкі гаманок на могілках—гэта між Грынямі і Закалюжжам. Дзе лагчына, брадок у рацэ... Ну, ведаеце, дзе царква ў ляску. Царкве ў нас месца толькі на могілках. Была і лепшая, у самых Грынях стаяла, пры дарозе, побач з клубам. Закрылі былі яе, як у калгасы пайшлі, кладовую зрабілі, збожжа ссыпалі. Спалілі яе немцы разам са школай, салдаты нашы адтуль кулямётам адстрэльваліся. Масціўся ўсё Сабольскі, каб царкву тую нанава ў ход пусціць. Ой масціўся... І хітрыў, і маніў, глытаўку дзёр. А — дулю!

Дык вось, чую я гаманок такі злосны на могілках. Вечарок асенні, ціхі. Тыр-р...— спыніўся ўзяў. Пасядзеў, счакаў. Лаюцца людзі. Добра ж, калі добра. А то пайсці ўціхамірыць трэба. Злез. Цішком, крадком — мне там кожны сук свой. Прыбліжаюся. Гляджу і не веру: сядзіць на каленечках поп, ускудлачаны, валасаты, злосны. Пад ім — Саўчык, белагаловы такі, гарбаценькі мой аднагодак з Грынёў, да Раіны разам хадзілі. Хліпае той, задыхаецца. А ўпобачкі абрус беленькі на травіцы. На абрусе — грошы, як лісце кляновае ў кучках.

«Не падзеляць, — змікіціў я. — Душу, думаю, адзін у аднаго дабудуць за капейку... І што ж, — думаю, — людзі за хлеб, дык і я — не



слеп». Нагнуўся ціхенька з-за кусціка, згроб абрус, склаў яго акуратненька ў чатыры столачкі і — будзьце здаровы. А яны — качаюцца па траве, якочуць, што сабакі па снезе ў паганую пару. Саўчык — ледзь клёвае. «Сунуўся, — думаю, — на воўка з цялячым хвастом, знай». Не спускаю так гэта з іх воч, сам задам, задам ад сасонкі да сасонкі. А яны якочуць, а яны заліваюцца.

— Паганец... Злыдзень... Сасматыка... Недавярак... Хрыстапрадавец... Крывапівец... Анафема... Каін... Каб табе лысы ксёндз аблаткамі горла заткнуў прагавітае, як ты на царкоўныя грошыкі разявіўся... Мала яму, мала! А на царкву? А на рамонт? Царква ж цячэ, Іуда! Каб на тваю галаву патоп. Ну, ладна ж... Цяпер то я цябе прапру з царквы, годзе. А я думаю ўсё, дзе грошы дзяюцца. А тут адкрыта палез — дай яму тое, што і мне. А во! А во! Каго ўгодна вазьму... А цябе — вон!

— Я ж толькі на сто грам папрасіў... На сто грам... — сіпіць з зямлі Саўчык, плюецца, пяску, відаць, наглытаўся.

— На сто грам, кажаш? Тут усё на маёй галаве... Тут, во, шчыплеш гуся так, каб ён, божа барані, не закрычаў. Не тая восень, каб з нашым носам дзяўбаць спелую рабінку. На налогі не хапае. А рамонт? Царква ж цячэ. За карак капае. А сама больш чалавек трыццаць сем прыходзіць на абедню. А то — семнаццаць. А яму сто грам... Крыж святы паганіць? Зараз я іх табе ўсе ў горла... Гы-ы-ых!..

Чуў я пасля, як падняў вэрхал Саўчык па ўсяму ляску — бег з могілак, ратуначку шукаў...

Я толькі справіўся ўкуліцца ў калёсы... «Галодны воўк, думаю, дужэй за сытага сабаку...»

А назаўтра прынёс грошы ў канцылярыю. Апрыходаваў. Пасля ўсе жываты рвалі ад смеху.

На гэтым дзед Тодар заўсёды канчаў «баяць».

Леаніда схапіў смех, — смяяўся, заходзіўся; ойча Сабольскі не падымаў галавы. Хацелася ў яго спытаць: праўду «баяў» на вёсцы дзед Тодар ці не. Не сцерпеў, спытаў.

— Праўду, — адказаў ойча. — Я яго тады і ад царквы адлучыў і анафеме аддаў, за выдумку, грошы тыя не прызнаў, а стары праўду гаварыў. Хто я быў? Абдзіртус. Праўда, мая работа царкоўная была такая. Але ж я абдзіраў па добрай волі. І не такі я ўжо бандыт, як ты, Лёнік, мяне летась перад людзьмі прадставіў. І не хачу, каб век на мяне так глядзелі людзі. Ты тады каменскім рабункам мне ў вочы тыкаў. А я — самаахоўца бамбіў. На Куцку зуб меў, памыліўся толькі ўначы. Усё роўна ж на самаахоўца наткнуўся. У Камене іх было, што чарцей у пекле. Куцка, вунь, не так мяне грабянуў у апошнюю блакаду. Дар — за дар. А я хоць і самаахову лупянуў, ды, прызнаюся, зрабіў чыста. Па адзінаццатай запаведзі. А ты — фантазіраваў. Было прасцей і рана мая балела больш, чым у тваіх расказах-андрымонах. Ды годзе, бог з табой. Я ніколі не быў царкоўным папом. Па барадзе маёй — дык хоць у пекла... І не так я ўжо многа лупіў. Слухай, ты абяцаў, што пра мяне яго праасвяшчэнства будзе знаць. Дазнаўся. Мне ўсё роўна праз каго. Толькі чуў, ведаю — на маё месца другога зашлюць. А я кідаю гэтую музыку раней. А пастуха не будзе — авечкі распаўзуцца. Хлеў — цячэ. А тады іх не збярэш і ў хлявок не загоніш. Ды такую будыніну можна будзе і разбайдаваць. Слухай, я пра ўсё напішу. Толькі з маёй грамаццю... А я хачу, каб было разумна, каб людзі не смяяліся.

— Каб было выгадна?

— І вам і нам.

— Нам? Прабачце. Сабаку і хвост адсячы, ён авечкай не стане.

Ойча бы не ўчуў.

— Мне выгады такой не будзе, як была за амбонам. Я іду ў леспрамгас. Ты паслухай... ты напішы за мяне. Я мог бы пайсці ў сельсавет ці да Авяр'яна, але... Ты ж некалі сам... Ну дык вось. У мяне не выходзіць пісьма. А хай ведаюць усе. Праўда, менш зарабляць стану, але з людзьмі буду. Ды я надта і пасля вайны ў царкву не лез. Людзі пайшлі. Улада дазволіла. А ад мяне пасля тваіх чытак адсыпаліся. Семнаццаць чалавек пастаянных, лічы, меў.

— Дык што ў вас ёсць? Давайце. Заўтра буду ў раёне. Перадам у рэдакцыю.

— У мяне... У мяне нічога няма. У галаве толькі.

— А-а... Не выветрыць за ноч?

— Што? Чаму? — чалавек настрыўся.

— А заўтра ўстаньце раней і разам у райком. Ойча, не круціце галавой. Вы знаёмы з першым сакратаром? А-а... Бачылі толькі... І знаеце што, за ноч вытрасіце на паперу ўсё, што ёсць у галаве. Самі. Каб не было потым, што я вас гвалціў, што я вашай рукой вадзіў.

— Што ты? — ойча падняўся, затупаў па хаце, бадзёра і смела, што казёл па двары, выбраўшыся са шкоды. — Што ты?.. Згодзен. Згодзен. Толькі вось у райком не адчаюся ісці. Гэта ж...

— Веру. Райком — гэта куды чыстым людзям ісці прыступна... Але ж райком, як кажа дзед Тодар, там дзе за нас з табой добрыя людзі душу роняць, дзе з-за нас з табой людзям галовы баляць. Дамовіліся?..

— Толькі...

— Толькі не будзем ацілягвацца. Сасуліць — яно можна. Але на кожнае божае «чмых» не наздароўкаешся. У мяне сёння... Не магу ж я... Думаю... Даб'ем бога заўтра ў райкоме...

— Нічога, дзеткі... Добра. Заставайся. Я сваім вокам угледзеў — яна прайшла ля варот. Ведаю. Прыходзіла тады агіціраваць разам, шчабятала. Вострая. З галавой дзяўчо. Не здзіўляйся, у папа большае вока... Праз акно ўгледзеў...— ойча Сабольскі ўсміхнуўся сам сабе.

Выйшлі з хаты з цямном. Пастаялі яшчэ на вуліцы ля варот.

— А мо', ойча, лепш самому перад прыходам кінуць слова?.. А пасля ўжо...

— Так сказаць, афіцыяльна рызу з сябе сарваць?.. Не выйдзе. Яно можна, ды не выйдзе. Дзе ж сведкі? Як той цыган казаў — толькі жонка ды дзеткі. Афіцыяльна адлучэнне, лічы, яшчэ з восені недзе адслужылася. Само сабой. Тады і горла наруку сыграла. А цяпер нават каб і званіць стаў увесь дзень — усё роўна больш семнаццаці баб не склічаш. А мо' як і ў пазатую нядзелю — адна Раіна прычапае. Самая набожная. А шкляначку цягне, як цялушка... Тэк... Хіба толькі старога Саўчыка па хатах спасылаць, каб загадаў сабрацца. І то на смех падымуць і носа не пакажуць. А тут я хачу на ўсіх людзей гаварыць. Як ні як, а я — поп. І з мяне ніхто яшчэ чыну гэтага не зняў. Я маю права выступіць ад грынёўскай царквы? Маю! А перад кім? А ў газеце не ўмею. Вось чаго і прыйшоў. І добра, што ты сказаў самому напісаць. Напішу. Ноч буду не спаць — а напішу.

Маўчалі. А што было гаварыць? Хіба яшчэ там, у хаце, яны не сказалі адзін аднаму, што думалі?

Стары чалавек павярнуўся ад варот узрушаны, жвавы. Па вачах было відаць, што яму хочацца гаварыць і гаварыць. Недзе хоць усю ноч.

Яго зноў аклікнулі. Дагналі. Удваіх ужо.

Яна стала ля нечых варот. Глядзела здалёку, усміхалася. Кіўнула галавой — дала здароўе. Рослая, стройная, вышэйшая, чым была тады ўвосень.

«Падрасла...» — усміхнуўся ойча Сабольскі і неяк няўцям для сябе ўспомніў, што даўно перастаў быў так глядзець на людзей.

Падышоў толькі Леанід:

— Мне здаецца... Знаеце што, трэба будзе, як сабе хочаце, а падстрыгчыся і скінуць бараду. І касцюм каб... З'явімся ў раён, як людзі. І не заспіце. Прыходзьце з усходам да мяне. Ад мяне на шашу бліжэй.

— Ах, каб табе свет збрыдаў...

Абодва апошні раз змералі адзін аднаго вачыма. Усміхнуліся.

Абодва разумелі адзін аднаго.

Бачылі адзін аднаго наскрозь.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Праз дзень у раённай газеце грынёўцы чыталі «Пісьмо ў рэдакцыю». Ойча Сабольскі адракаўся ад царквы. У той жа газеце ў вочы кідаўся артыкул «Абрыдла махаць кадзілам — памахаю тапаром».

Гаманілі грынёўцы, крычалі, здзекаваліся. Хтось хацеў угледзець яшчэ і партрэт Сабольскага, хтось даваў яму «Героя Працы», а дзед Тодар раіў угаварыць яго ў калгас,— нашто, каб леспрамгас перахапіў «такія плечы», калі яны і ў калгасе трэба, і шукаў спецыяльна Станіслава Пракопавіча, каб па «гэтай штучцы» склікаць праўленне.

Тры дні 'шчэ запар гналі з хат Раіну, якая, падняўшы спадніцу, з пенай на барадзе бегала па людзях клясці Сабольскага, і на гэты раз больш бога, чымся яго. Баба шалела. Чаго і што. Хаця — не выйшла на работу і ёй не было занятку.

Цёмная, аж чорная вада. На дне чырвоны, што кроў, пясок.

Стогне Вілія, варушыцца, адклікаецца здалёку-здалёку з-пад Камена. Ёй цесна. Яна рве, шматае беражніцу, цягне з кустамі, з травой узапрэлы пасля зімы мяккі тарфянік — глытае яго і тады чвякае, што звер ляпай. Грабе пясок з-пад Жоўтага берага, па ахапніцы, — мяккі, слізкі — што карова языком вылізвае. Плюхаецца ў густую ваду-мазуту леташняе рудое дзірванне, што мо' калі вісела над ракой, нарэшце адмякла, адвалілася. Гнецца, варушыцца, сцёбае па вадзе прыбярэжны вербалоз — голы, рэдкі, падатлівы. Бо шалее рака. Пасля разліву ёй цесна ў берагах, — ёй волю зноў дай, прастору...

Яна — сіла, што бруіць напорна адтуль, з-пад сініх у далечы лясоў — Паліка. Яна глынула ўсё верхаводдзе з улоння зямлі — апраглася, і ёй 'шчэ ўсё роўна мала. Яна змагла б, каб льга было, пагуляць праз усю вясну, змыць, сцерці, знесці з воч Жоўты бераг, — выспу, што перагарадзіла дарогу, — мінай яе, збівай імпэт на паваротцы, губі сілу.

Вілія стогне, бо злуе. Мо' ад злосці яна і нястрымная ў быстрыні, — гэта тады, калі вырвецца з-пад Камена на лугі з-за Жоўтага берага і нясецца ў шалёных вірах на захад.

Сцюдзёная, слізкая вада,— гэта мо' 'шчэ дзе на Паліку ці ў Асіпаўскай пушчы пад лаўжамі і на імшарах, пад яловымі лапамі і карчамі на пасеках растае лёд, цвёрды, чорны ад попелу з выгарын, жоўты ад размяклага імху, буры ад кары, што адапрэла ад пнёў і апаўзла, адвалілася разам са снегам у першыя вясновыя адлігі.

Вілія сушыць лес, смокча імшары. Вілія мялее і ад таго цяпер прагавітая, — не хоча апасці ў берагі, дзе паволле, лень і санлівая спакаята.

Вясна для яе — стыхія. Вясна — яе жыццё, страсць, яе бура...

На чорнай плыні — віры і віркі. У затокі прэ пену, яна ўздымаецца, варушыцца, разлятаецца ад ветру, тухне на сонцы. Выдае, укіслі вясною затокі, запеніліся, падняліся, папаўзлі ўгару, схавалі ў пене-бразе белакорыя вербалозы і бурае карэнне-карчэўе, што агалілася і вытыркнулася з беражніцы, бы там шкілеты змёрлых у мінуўшчыне рыб-страшыдлаў. У затоках чарней вада, што каланіца; у затоках яна і цяплей. Ля іх на занесеным белым сіпаком узбярэжжы пратыркаецца асака і травасмычка.

Калі яснее неба — у вадзе ад вербалозу рэдкі шэры цень — адбіваецца на жоўтым пясчаным дне. Выдае, гэта падставіў сонцу рабую бакаціну азяблы ў халоднай вадзе шчупак-перастарак.

Пад сонцам на дне Віліі ля берагоў мільгае белае каменне. Яно такое ж, што і пузыры на вадзе ў вірах, там, дзе ўпала падмытая альшэвіна і знікла пад вадой. Чырванее толькі ля берага абдзёрты ад кары чырвоны камель. Альшэвіна вывернутая жывасілам. Пэўна не ўлежала ў шліхце бярно, скацілася, падвярнула пад сябе хілае дрэва, згубіла яго, і знікла само, бо вунь і другое вісне на валаску ўгары над вадзяной проргвай. Ці не асеў пад невыносным цяжарам дрэва адталы і размяклы грунт? І глядзі, каб шліхты, што над самай вадой, не аб'ехалі з пяском у раку...

Дрэва з-пад снегу шэрае, чырвонае, абветранае і абсохлае. Здаецца, яно лёгкае-лёгкае, кінь на ваду, — закруціцца, як запалкі, яго падхопіць стрыжань і пацягне за сабой, панясе, як тыя саломінкі.

Шліхты падсыхаюць на вясновым ветры, — чакаюць плытагонаў. Жоўты бераг іх прыстань, — пачатак бясконцай бурлівай дарогі.

За Жоўтым берагам Вілія коціць далінай — лугамі. Яна блішчыць на сонцы на ўсім працягу, аж пакуль не забірае зноў за лес. Луг пад раку — дзе ў куце лучкі не высыхаюць і летам — усыпалі журавы. Асеў, відаць, вырай нанач на папаску, бо далёка 'шчэ на поўнач ягоны шлях. Галодныя, схуднелыя і змораныя пасля нуднай дарогі птахі, глядзі, во, не знаюць супачынку. Носяцца лугам, што ўчадзелыя, бо дзе той 'шчэ корм надта.

Падсох на берагах намыты пясок, на самай выспе Жоўтага берага аж курыць. Павылузвалася голае каменне, абсохлае, выветранае ад пяску і гліны. Чырвонае, белае, зялёнае, што глей; бурае, як бярозавы цэр, ад жалезнай руды, якая разбаўлена ў пясчаніку — яно ляжыць дробнае, круглае, доўгае, — птушыныя яйкі размаітай формы і колеру. На пяску — сасновае іголле: жоўтае, леташняе; кара, прэлая, патрушчаная; трэскі — адшчэпы ад бярвенняў. На пяску свежыя чалавечыя сляды — ад ботаў-кірзавікоў, што на шыпах. Чалавек ішоў уздоўж берага і цяпер амаль не відаць следу — выспу раўнуе вецер. Бывае, аж на ваду шпурляе жарсцвяк, — як сухі гарох на бляху, каб пражыць пасля ў печы.

У вёсцы па слядах на пяску пазнаеш, у што абуваюцца людзі. Па слядах апазнаеш і людзей.

Кірзавікі на шыпах насіў дзед Тодар.

След вёў з-пад Камена; блытаўся на шляху ля шліхтаў на Жоўтым беразе, адтуль стары ўзіраўся на захад, куды пёрлася рака; і губляўся на беражніцы ля броду, дзе зелянелася трава.

Дзед Тодар нёс на руцэ кажух-павалаканец, скінуўшы з плеч па поўдні, валок ногі, не падымаючы ад зямлі: хапіла ім ад усходу сонца. Скалясіў за скацінкай, дзякуй богу. І пад Доўгімі быў, і ў Ваўкаўні набегаўся, і ў Асіпаўскім нагалёкаўся, аж горла балець зачало. Жывёла шалее ад вольнай хады на вясновым раздоллі пасля зімы. Толькі і ёй урвала дагэтуль. Не сунулася на луг да ракі — гола, буй. Не парасла трава. А ў лесе, на пасецы, што перад лугам — верас, сіўцы. Па зіме яно 'шчэ і язык больш прывыклы да сухога гавылля.

Скаціна ў лесе — рассыпалася, распаўзлася.

Дзед Тодар адзін на выспе, — дзе дыхае вясна хмелем і парнасцю, густымі і цёплымі вятрамі, дымам, гарэлым сухоллем.

Вясна — рака. Яна мчыць у свет, бурліць, стогне пакуль не сціхне, не застыне ў берагах, не ачахне.

Дзед Тодар памятае Вілію з маленства. На гэтых лугах ён мо' дзе нават не раз валяўся ў капе сена, калі 'шчэ зыркаў на свет дзіцячымі вачыма. Запомніў Вілію з той пары, калі тут не было граніцы. Пасля раку перагарадзіў калок на самай сярэдзіне. Да яе не падпускала града, што ішла Асіпаўскім перад лугам. Тады ездзілі касіць лугі пад самы нос да палякаў. Крычалі за Вілію аднойчы, як цяпер ён помніць: «Ганіце пэйсатага са шнуроў, ідзіце закурым!...» Ці не поп у той дзень там свянціў палоскі-шнуры перад касьбой?

Касілі грынёўцы калгасам. Гоніш, бывае, пакос, спяшаеш за пярэднім, разгонішся, не падымаеш галавы, — глядзіш, а перад табой, як з зямлі, пагранічнік вырастае. Што грыб які зялёны...

А як гарэў быў лес у трыццаць сёмым і агонь падыходзіў да кардону... Аж з гораду мчалі пажарныя...

А праз якія гады два знялі кардон, выл і пустымі вокнамі будынкі заставы, аж пакуль вайной не пусцілі іх дымам.

Па вайне тут толькі лес, луг і рака. Ніякай заставы ці грады. Па вайне тут — вясна, лета, восень і зіма. Ціхія, без пагранічнай трывогі ўначы.

Пра мінулае цягне думаць выспа — Жоўты бераг, узбрыдзі толькі на яго. На ім ты, бы на маяку, адкуль відаць далёка-далёка, што там, унізе... А спусціся, сыдзі да затокаў на луг, на траву, як адразу — другія думкі. А ці шмат было вады сёлета на лузе, а ці густа возьмецца межыперсніца і канюшынка, ці паляжа сінюха ў лучках, ці дастане да пах мятліца... А колькі больш стане стагоў, чым летась, а ці іх будуць «кідаць», як і раней, круглыя, ці мо' пярэйдуць на чатырохкутныя, якія лепш за яго, дзеда Тодара, ніхто не мог вяршыць.

Круглыя — толькі стажкі.

Чатырохкутныя — во, гэта калгасныя стагі.

Тодар «кідаў» стагі кожнае лета, калі выязджалі на луг.

...З чэрвеня на ліпень лугі губляюць краскі. З чэрвеня на ліпень у Грынях касьба.

Трава ў пояс. Ад самай ракі да лесу. Мятліца, канюшына-дзяцеліна, рабінка, жоўтая медуніца, павітуха, зайцаў гарошак: закладзеш касу — не сцягнеш. На ўсе рукі бяруць толькі мужчыны — вясковыя плечаўні, касцы-двухнормавікі, якіх вядзе Авяр'ян. Ад зоркі да мроку, з перапынкам на полудзень... Ад ракі да лесу — без спачынку на пакосе. На ілбе пот, млеюць рукі, баліць пуп, — стогнуць, крэкчуць ззаду старыя грынёўцы, якіх яшчэ летась вадзіў за «авяр'янавым шнурам» дзед Тодар...

А ноч на лузе, — калі туман 'шчэ з вечара схавае з воч касцоў, што завінуліся днём і цяпер дабіваюць у лучцы сінюху.

Кладзецца мрок, ападае раса, лезуць у вочы камары, стыне на беразе ля будана ў катле вячэра. Ціха ля агню, толькі трашчыць вогнішча, ды ўнізе, у лозах, у вадзе, што злецілася ад сонца, з цямном купаецца рыба. Далёка, за туманам, бы за сівымі лозамі, пяюць косы, гамоняць, эхаюць мужчыны... «Давай — давай!.. Падрэжу... Хваліў сваю васьміручку...»

«Мая новая і сёлетняя... А ты сваю царскую ў Вілію закінь, хай жабы аб яе лапкамі стрэпаюць... Манікюрацца... А я са сваёй сёлетняй дзве нормы...» «Яна ў мяне 'шчэ ў магазіне як брытва была... Язык жа парэзаў, калі выбіраў». «Яшчэ на пуħ — два заходы. Не лопне...» «Не ўцерплю... Да катла збягу». «Га-га-га...»

Па вячэры касцоў морыць сон. Ноч на пагодзе, халодная. Ціснешся ў будку пад стары шынель, дзе накурана ад камароў, і мо' ад таго цяплей. Пахне падсохлай за дзень травой-мурагом. Ціха. Бразгае толькі нехта конаўкай ля вядра, гамоніць напаўголаса, каб не палохаць сон, што цёпла і млява лезе ў будкі пад коўдры, павалаканцы і старыя-старыя ўжо шынялі...

Крычыць пасля драч, пад бокам, у лазе. У затоках чыркаюць качкі — выйшлі на жыр. Сёння іх не ўгледзіш — ніводную, не то, што ўчора: такі туман.

Пад раніцу ён гусцее, ападае на дол, мокрыць расой усё на свеце. Халоднай-халоднай, — не ступіш босай нагой у траву. У зубы коле. Падымаешся, калі неба на ўсходзе толькі пабурэла. Клепеш касу, а побач Раіна ці Ульяна, закасаўшы рукавы, шаруюць катлы, разводзяць нанава агонь — на ўвесь дзень. Дыму не відаць у тумане. Туман і холад — на пагоду.

З усходам сонца з Грынёў прывозяць дзве касілкі... Кажуць, з адной пойдзе трактар... Гэта падмога касцам, што прыехалі ўчора на закоскі. Ды і нямаведама, хто каму стане цяпер на помач.

На пракосы сыплюць жанкі... Гаманкія, задзірыстыя, языкатыя. Рупныя, бо сквапныя на працу. Выразаюцца з лесу — гэта дыбалі праз кладкі на Цяні-балота; саскокваюць з фурманак — гэта каму ўдалося ўладкавацца, хто парупіўся, не заспаў падбегчы на ферму; другіх прывязе машына, тых, у каго дзеці і другой работы ля дому светніца... Так было летась, і год, і два назад... Так, здаецца, заўсёды пачыналі касіць...

Тодар любіў касьбу. Першы прыязджаў з касцамі, і апошняга яго пераймалі долкі са стогу.

Люба бывае да шчырасці і радасці на душы пусціцца па лузе са скацінай пад восень, калі ціха, пагодліва, калі луг шырокі-шырокі, пусты і сіратлівы... Калі абсядуць плячыстыя стагі, калі аднекуль возьмуцца ды вытапчуцца па лузе сцежкі... Мо' гэта буслы іх выдратуюць, бо танцуюць дзень і ноч у чародах па лучках і прырэччы. Тады чакаеш няскорага 'шчэ лета, пачынаеш чакаць з самай восені...

Дзед Тодар ступае па беражніцы над бурай пеністай вадой; яна, беражніца — торф; мяккая цяпер пад нагамі, што сырая гліна, вось увязнеш. На вадзе плавае-снуе мошка. Дзіва, на такой круцечы.

Дзед Тодар сасморгвае шэрыя каткі з лазовага дубца і сыпле іх, што гарошак, на ваду, бы корміць рыбу... Над галавой разявілася кнігаўка, крыкнула-загаласіла, мо' шкадуючы, што чорная рака глынула яе крошкі-ежу.

Адзінокая, невядома кім узрушаная.

Дзед Тодар спыніўся, азірнуўся. Скаціна высыпала з лесу і пакіравала на Жоўты бераг. Ён не згадаў, думаў жа, што выйдзе ёй напярэймы. А дзе ж Волечка? Ага, аж вунь, ля самага лесу. Ледзь варушыцца...

Рыканне напачатку было ціхае, далёкае. Яно данеслася, як успамін... Успамін першага дня вайны, калі на ферму ночы пала бомба... Выбуху дзед Тодар тады не ўчуў, — яго ўскруціла з ложка нейкая шалёная сіла... Лопаліся, звінелі шыбы... З коміна на падлогу аж да стала шуганула чорная сажа. Завыў на двары сабака... Сарваўся і бег у лес, у Ваўкаўню...





Дзед Тодар у чым быў выскачыў на двор. Гарэлі на ферме сцірты саломы. За дымам не відаць было кароўніка... Не, яго зусім ужо не было. На ферму беглі людзі. Дзед Тодар кінуўся па раллі праз гароды да кароўніка. Помніць, бяжыць на агонь, глядзіць, — топча нейчую познюю бульбу, якая вунь як навастрылася ноччу расці, натапырылася, лезе з зямлі, — і ён заварочвае назад і бяжыць кругом, дарогай. Аднекуль з дыму з-за платоў выскачыла на яго чорная карова, з доўгім ланцугом на шыі, які канцом звінеў на камені, збіла з ног і, равучы, скочыла ў Ваўкаўню, туды, дзе згінуў з двара сабака.

Раўлі каровы, бушаваў агонь...

Раўлі над загуменнем самалёты, паўзлі з захаду, з-за лесу...

Успамін — імгненне. Гэта пакуль не ачуняе ад трывогі збіты са штыху чалавек.

На Жоўтым беразе раўла скаціна, як і тады ў агні. Такая ж чорная карова-ялаўка і звярына на ўсю ферму — насілася беражніцай, як падбітая. Рыканне было дзікае, ашалелае — ад яго браў шорах. Каровы збіліся ў кучу, таўкліся, паролі, ірвалі адна другую, ускідалі на рогі. Угору напачатку падняўся пыл, пасля паляцела цёмная зямля: скаціна драбяжыла бераг, рыла, парола капыццем.

Дзед Тодар з голымі рукамі кінуўся ў стада. Недзе пад лесам нема крычала маленькая Волечка.

. . . . . . . . . . .

Скаціна была звернута на дарогу. Пусцілася пад Асіпаўскае пад дом. Каровы ішлі панурыя, змораныя, мокрыя ад пены і крыві. Рыкалі зрэд

на ўвесь лес. Над вечар далёка было чуваць. Рэха крычала сухое, калючае: доўга не хацела давіцца — заткнуць прастуджанае ранняй вясной горла.

Волечка пайшла следам за скацінай і неўзабаўку схавалася ў лесе.

Тады астыў, апамятаўся дзед Тодар. Знямоглы, ён, стаўшы на калені, паволі-паволі схіліўся над берагам і крануўся рукамі халоднай, густой і ліпкай, што каланіца, вады.

Там, дзе Вілія, абагнуўшы Жоўтую выспу, вырывалася на лугі, на паваротцы ля затокі, на леташнім цёмным і цяжкім бярне, што прыбілася да берагу ў вербалозы, перагнуўшыся ў паясніцы, гібеў прыліплы чалавек.

І рукі, і галава, і ногі — былі ў вадзе. Толькі гарбом вытырквалася спіна.

Дзед Тодар па кажуху пазнаў Андрэя Дзедзіху.

Сярнічка трэснула ў пальцах і пырснула долкі.

Пад нагамі шуршаў высахлы пад вострым сонцам сівец, шорсткі дзідаваты верас; шамацела, што папера, выпетраная рудая папараць.

Ён у шаленстве ламаў нагамі сучча, гнуў-камячыў малады 'шчэ зусім, маленькі, як кукаль, саснячок — пазалеташнюю пасадку.

Яго выгналі з лесу, што звера. Ён стаў баяцца пушчы, якая колькі год засланяла ад людзей і ад сонца ягоныя рабункі, стаў дзічыцца, палохацца дрэў, што, выдавала, нагінаюць увачавідкі дзіды, каб праткнуць-прасадзіць навылёт нутро. Чалавек узненавідзеў пасеку, дзе пазалетась сам садзіў маладую сасну, — яна апрыкрала яму. Мітусілася ў ваччу, калола ў твар шыллём, здавалася, даставала і стрэпала-дзёрла суччам грудзі пад фуфайкай і кашуляй, рэзала карой, як стамескай, па спіне між лапатак.

Выжлятніка прагналі з лясніцтва. Прагнаў новы ляснічы, які па прыездзе ў Грыні 'шчэ вунь колькі цярпеў мо' яго ці проста не хацеў паспешна што рашаць, пакуль не расследаваў і не разабраўся сам, што тут якое і да чаго.

«Далі пад зад каленам...»

Цяжка сазнаваць без злосці і нянавісці да ўсяго на свеце, што мо' лясніцтва было для цябе самай важнай палкай у жыцці, і якую цяпер, глядзі во, выбілі з рук.

Яшчэ хруснула ў пальцах сярнічка, адскочыла далёка ўбок, у кучу разрытага некім уначы мурашніка.

Мірон Выжлятнік збіўся са штыху, — поўзаў ад рання па Асіпаўскім, падаўся быў пад Вілію, звярнуў пасля на Доўгія балоты. Усюды была вясна. У пушчы над асохлай зямлёй, на пасецы над асмоленымі пнямі, на Доўгіх балотах над лужынамі і крыніцамі, што поўныя чарнагалоўкі, — стаяў густы водар зямлі і лесу. Ён хмяліў, зрываў нос, кружыў голаў, — ад таго скакала сэрца. А калі аціхала — балела. Совала ў яго вострым болем, бы туды, дзе яно ў грудзях, насыпалася сухога і калючага сасновага іголля; тады, калі ён прадзіраўся праз засохлы ад леташняга пажару малады сасняк у Чар-чагу.

Вясна была на зямлі, а ў душы чалавека ёй не было месца. Яна мінала яго. Яе адбівала ветрам, сухім і густым, зносіла ў лес, у бары. На душы прыкарэла злосць — як бывае чорны нагар ад вогнішча на балоце, дзе ўсю ноч курэўся торф.

Дрыжала рука. Круціла, ламала карабок з сярнічкамі, совала іх у зубы, парола да крыві дзясны. Чалавек сплёўваў на чысты пасля дажджоў і сонца мох рудую сліну.



Выжлятнік паверыў — нішто і ніколі не верне яму таго, дзе ён быў гаспадар, дзе яго душы было і сытна і аплавітна. Без лесу, як без рук. «А што тыя рукі? Вось яны, жывыя, здаровыя, сціскаюцца ў кулакі... — Выжлятнік падносіць іх пад нос, пазірае ваўкавата на іх, аброслых рудой шчэццю, як сіўцом, аж па самыя пальцы... — А дзе дзець цяпер рукі? За што зачапіць? За калгаснае што? Пайсці ў леспрамгас, узяцца за бомку і стаць перакочваць шляхты, дзе дрэва ў абхват? Хм-м... Знайшоў казу ў золаце, прама скажу... Хаця цяпер нешта варушацца ў калгасе, забегалі на тую работу, як мураўі з мурашніка дзе па зерне, калі яго натрэсена ля дарогі. І старыя, і малыя. А чаго? Ды ім лепш відно. Хай бягуць. Хай напінаюцца. У іх сваё. А што мне да іх? Ды і чаго гэта мне накасаў нехта думаць пра гэты калгас? Думкі, як пчолы тыя, лезуць адусюль. Бы яны не думкі, а, праўда, пчолы з новых калгасных вулляў, што з вясной выставілі ў Ваўкаўні на пасецы... Знаю я, што такое калгас. Быў... Але ж тады людзі не ішлі рабіць. А цяпер пруцца. Нешта іх укусіла. Пчолы тыя... Жыць пачалі... — усміхнуў ён, — пчолкі завялі. Мядку ўжо захацелася. Перш граму якому на працадзень былі рады, а цяпер мядок ужо разводзяць. На балота яшчэ палезлі. Асушку выдумалі. Туды і ў поле рэдка калі ганялі, а тут... Ад самага выганчыка ўклюнуліся. Канавы парылі. І вада, глядзі ты, пайшла ў рэчку. Трактараў нацягалі, экскаватар прыпёрлі. Да Доўгіх крыніц за лета дабяруцца. Мала таго, што кустарэз пішчыць праціўна дзень і ноч, дык нават бабы з дзеўкамі тапорыкі на плечы і з подбегам на Доўгія... Трэску, стуку нарабляць... Чорт яго знае, што там у іх, прама скажу. Хаця, на жывой касці мяса нарастае. Мо' за гэты час у іх свіння бабра нарадзіла? Лётаюць жа, носяцца з новым старшынёю, як чортведама з чым, крычаць. Сходы, праўленні... І выязныя, і расходныя. Жонку сталі цягаць. Пад гарод падкопваюцца. Мусіць трэба, каб жонка ступіла разоў колькі ў калгас цяпер, калі за гароды ўзяліся. Каб засеяць паспець, а тады... А то чахнуць цяпер па вуглы — скажы тады. Вылезь са штаноў — управы не знойдзеш. А што чахнуць — гэтага ў іх не купіць, прама, мілы, скажу. Калі так звоняць — імша будзе. Будзе... Цяпер не тое праўленне, што пры Дзедзіху... Н-тэк... Рашай, Выжлятнік, прама... Калгас ці прамгас. А на пуп і там і там узяць трэба... Гэ-гэ... На пуп... А скулля, прама скажу. Не для таго ён у мяне, каб трашчаў штодзень... Яшчэ, каб... Але ж цяпер да іх у лёгенькае не ўлезеш. А ў леспрамгасіку — норма. Там табе ўжо даведзена, колькі ты свой пуп за дзень павінен напяць. Норма — ёсць норма. Яна роўная і сёння і заўтра, як чарка тая. А як цяпер у гэтага Станіслава Пракопавіча? Гм... Трэ' будзе ў жонкі распытаць, яна ж бывае лыхае па вёсцы...»

«Калгас... Леспрамгас...» — лезлі чалавеку ў галаву думкі.

С-с-с... С-с-с... — свісцелі боты па густым суравым сіўцу.

Думкі білі злосць і трывогу.

«Дзе ўладзіцца? Хаця, будзе ранне — будзе і сняданне, але пакуль сонца ўзыдзе... А цяпер... Кожны крок, які ступіш да вёскі, гэта ўжо не твой ззаду кавалак, не твае сосны, не твае пні. — Ён ніколі не думаў, што гэта дзяржаўнае. Дзе ён — там яго. — І ўсё гіне — пераходзіць ад яго другому. Не вернеш, прама скажу... У кішэні — загад. На тоўстай паперы, машынкай адстуканы. Муліць, рэжа падпашша, бы там сухая яловая карына. Загад... К чорту матары!.. Начальства!.. Басякі!.. Бандзіты!.. Распарадзіліся... Хаця, на іх няма ўправы. У іх — усюды свае рукі. Дакажуць, дойдуць, ты віноўны станеш. Прыпішуць з-за якой сасны, што

ты ўвесь лес распашорыў, што ты і чалавека з-за дрэва пад лёд пусціў. Ім можна...»

Чалавек цяпер не думаў, хто ён. Ён ніколі пра гэта не думаў. Ён для сябе слыў чысты, чэсны, ён для сябе правільна жыў.

«Краў? Піў мо'? Свайго глядзеў? А хіба не ўсе такія? Гаварыце, гаварыце... Другім, во, басякам стала недзе разгарнуць рук — вось і цябе з дарогі. Новаму ляснічаму трэба таксама абжыцца... Домік адбудаваць, ды і так ляску перакінуць за грошыкі. Мала каму што нажыць уздумалася — матацыкл мо' займець, як і старому ляснічаму. Прыслалі заразіну, скажы. Ён і старога ляснічага выпер. Выжыў. Недзе яшчэ, быўшы ў горадзе, вынюхаў, куды палец ткнуць, каму пад бок падсадзіць. А за тым жылі. А цяпер, дзе той чалавек? З'ехаў недзе, кажуць. Хаця, не прападзе нідзе. Абрыў меў не малы. Варта яму. З нас за праданы пень працэнты ўжо стаў было скрабсці. Ажно самога за вантробы рванула. А гэты... Зялёны, гарачы. Праўды ўсё даходзіць. А сам — такі ж стане, прама скажу. Ад мяне не схаваешся. Прайдоха, аж вочы круцяцца, 'шчэ далей таго пойдзе, папомняць маё. А тут, а цяпер... Загад... З работы за рознае браканьерства гоніць. У давер аж ліпне, аж млее, як хоча ўлезці перад лесгасам. І ўлезе. Такі ўлезе, а тады... Не тое 'шчэ вытварыць, прама скажу... Загад!.. Ён мне загад у зубы тыча! А я тым загадам падцёр... Чуеш ты, сукін сын, чуеш?»

Смажыла, сушыла ў горле, горка было на языку. Бы пад нагамі пылілі не верасы, а трашчаў-малоўся на муку палын. Сонца вярнула з поўдня, пякло, паліла твар. Усхадзіўся быў вецер, падуў з Асіпаўскай пушчы і сціх, як бывае ў асмужаныя пагодныя дні пад вечар.

Яго цягнула курыць. Ён сплюнуў сярнічку, якую грыз, што саломіну, і палез у кішэню. Сеў на пень на ўскраі пасекі, якраз на лініі-расцяробе, што адразалаВаўкаўню-пасеку ад Асіпаўскага і вяла на Доўгія балоты.

Ля ног сівец, верасы, кара, усыпаныя сухімі кропелькамі сасновай смалы, што пшоннымі крупкамі. Чалавек глядзіць пад сябе і нічога не бачыць — баліць галава, не зварыць гора, што ўпала на яе, як дрэва ад перуна.

Чалавек дастае сігарэту з пакамечанай пачкі, тыча ў зубы, прыкурвае і не ведае, куды кідае з агнём сярнічку. Пасля ўздрыгвае — у руках раптам бачыць цвёрдую паперку, замусоленую за дзень у кішэні, паколатую шмат дзе тупой іглічай. Загад...

«Сам друкаваў той ляснічы ўвачавідкі. Пры мне. Адным пальцам стукаў некуды ў машынку, што ў сэрца дзяўбаў цэлую гадзіну...»

Тоўстая папера камячыцца ў руках, што бяроста, аж пальцы рэжа. Карына-карыной...

«Згінь ты, благое, прападзі... Думалі, спалохаюць, у казіны рог скруцяць... Мо' ты і вялікі дуб, а для мяне разгач, дупло... Сук!»

Стрэліла сярнічка. Пырснула агнём у шыю. Чалавек зжахнуўся, бы спалохаўся таго, што робіць.

Папера чарнела і спачатку не было відаць, што гарыць.

Запякло ў пальцы... Чалавек вылаяўся і адкінуў полымя далёка ад сябе. Стаяў, бы чаго забыўшы, пасля падыбаў асцярожна, што воўк, паўз пасеку, каб выйсці на дарогу пад дом.

Стала духотна, гарачыня сцяла грудзі; ён ірвануў кашулю, — у сівец пырснулі гузікі, бы гэта адкуль зверху з бярозкі ўпалі жучкі. Ён 'шчэ доўга глядзеў на бярозку, якая пускала лісце, — што хацеў угледзець — і сам не знаў.

Быў ужо ля дарогі, калі за карак горача дыхнуў вецер. Чалавек азірнуўся — па твары сцебанула дымам, што суравым, невыбеленым палатном. Пасека была ў агні. Полымя бушавала пад самай лініяй-расцярэбам, лізала дол, лезла ўгору па маладым сасонніку.

Ён бег назад, ірваўся са скуры, напачатку не ведаючы, куды і чаго.

Агонь гудзеў, глытаў сівец, што галодная карова. Трашчалі верасы, заняліся смаляныя пні. Ля расцярэбу бушавала полымя — кіпела леташняя шліхта карчоў.

Вецер дзьмуў наўкось цераз пасеку. Агонь поўз на Ваўкаўню і на Доўгія балоты. Агонь нішчыў малады сасняк.

Дыхнула полымем аж у самае горла. Ён закашляўся, адскочыў быў, атарапеў. Яго ўзяў страх. Здалося, што полымя халоднае-халоднае і яно лізнула плечы.

Ён 'шчэ не мог дайсці да думкі — ад чаго гарыць? Выламаў быў сасновую галіну і сцёбаў па сіўцы, ашалела, часта, заядла, да знямогі, да адрантвення рук. Не было чым дыхаць, здавалася, вось захлынешся, распластаешся долках і сам успыхнеш, зоймешся, як і перасохлы ад ветру і сонца сівец. Ад гáры і чаду пачынала блажыць, замітусілася ў ваччу.

Супраць ветру нельга было ўстояць. Гнала гарачае, як вар, паветра, шпурляла іскрамі і чорным дымам...

Быў момант, калі ён падумаў, што агонь — ад ягонай рукі, што агонь згуба, які гатовы глынуць і яго, — ён кінуўся, ірвануўся быў на шалёнае полымя, як паранены звер на свайго ворага... Быў момант, калі яму здавалася, што ён распластаецца на зямлі, а зможа, задушыць агонь, перацісне таму горла. Тады аднекуль бралася сіла, якая кідала яго ад пня да пня, ад куста ў агні да смалянога карча, ад сухой ляжалай вархавіны да чорных вехцяў верасу, да задымленага ягадніку і «воўчага вуха», што гарэлі марудна і трымалі агонь, бы зусім дзеля распалкі...

І калі чалавек у знямозе ўпаў на зямлю і, задыхаючыся, падняўся і ўчуў, што тлее недзе ззаду ватоўка, — да яго зноў падступіўся страх. Калючы і дзікі, як абгарэлыя дзіды, што тырчалі перад носам; едкі і праціўны, як вогнішча; шалёны і ўз'юшаны, як агонь, што глытаў цяпер, здавалася, увесь свет.

Падняўшыся, ён угледзеў, што абараніў толькі кавалачак сіўцу ад агню пад сабой, калі ўпаў быў, згубіўшы сілу. Пасеку каціў пад ветрам агонь. Ішоў туды, — пад вёску і на Доўгія крыніцы.

І толькі цяпер ён усвядоміў, што адзін не дасць рады агню. Яму раптам здалося, што гарыць твар,—гэта кроў хлынула ў галаву. Ён памкнуўся выцерціся ад поту і гáры — рукі ліплі да твару. Былі ў смале.

«Выгарыць пасека... Сасняк... Агонь можа перабрацца ў пушчу... Такая суш увесну... Людзі, толькі людзі могуць уратаваць лес!.. Толькі людзі могуць заступіць дарогу агню!..»

— Людзі!.. Людзі!.. — зароў чалавек на ўсю пасеку. Глуха і сіпла. Надрыўна. Рэха не было. Пасека гудзела ад агню, — яна глынула і голас і рэха.

Ён кінуўся да вёскі, услед за агнём. Выскачыў на дарогу, злякнуўся і павярнуў назад. Бег цяпер у асіпаўскія пушчы, адкуль толькі быў выйшаў да пажару.

— Людзі!.. Людзі!.. — крычаў ён, бегучы ад агню ў лес.

Спыніўшыся спопаразку, учуў раптам, як ззаду гудзе зямля і недзе далёка за лесам бешана раве скаціна.

Ён спалохаўся пушчы і звярнуў паўз Ваўкаўню на лозы, што падступалі да загумення. Калі выткнуўся з сасняку, угледзеў, як запылілася ў Ваўкаўні дарога, убачыў 'шчэ, як верхам на кані мчаў на пасеку, мусіць, Авяр'ян; той жа сёння быў пры бульбе на загуменні. Сеялі ж. З-за

фермы раптам вырваліся людзі і, крычучы немаведама што, беглі за тым услед.

Апусцела загуменне — стала ціха.

Выжлятнік яшчэ раз учуў, як за Цянямі раве скаціна.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Звечарэла. Сцямнела неба. Сцішылася Закалюжжа, нарыхтавалася спачыць у цёплай начы.

За ракой турчалі жабы, недзе далёка, аж у куце на лагу іржалі коні, там начлежнікі распальвалі нанач учарашняе вогнішча, — ля агню мітусіліся цені, як вялізныя чорныя матылі. Туман дапоўз да ракі і збаяўся мо' вады, не асмеліўся пералезці праз платы ў гароды.

З туманам прыцягся ў вёску пах гары.

Па канец вёскі, калі глядзець на Ваўкаўню, мігалі далёкія водсветы начнога пажару. Гэта на Доўгіх балотах, за лесам.

Цёпла, ціха на двары пад прызбай. Лезуць у вочы камары, што і цямна няма на іх — таўкуць мак ля хлева; звіняць над панадворкам жукі, шлёпаюць аб сцяну, шпокаюць долкі — Выжлятніку пад ногі.

У чалавека неспакойна на душы. Не сядзіцца ні ў хаце, ні на двары. Па вячэры ён выпаўз на прызбу і курыў без аддухі. Ці камароў ганяў ці сваю нуду гнаў прэч, — і сам не мог згадаць. Курыў жа да гаркаты, да рвоты.

Парою ўздрыгваў. Гэта калі шлёпаліся побач жукі ці ляпалі дзверы — Волька злосна клікала класціся спаць. Другі ўжо дзень, калі пра звальненне дазналася. Адразу яе верх у хаце, глядзі во. Качаргу збіралася паламаць на спіне разы са два. Стану на ногі — адрыгнецца. А цяпер... Хаця, парадаваў сям'ю, што скажаш?

Пра гэта хутка забывалася. У ваччу ўсё стаяў агонь — шалёны, сухі, калючы. Смылелі папечаныя пальцы. Пахла дымам вопратка, аж блажыла; і глыбока-глыбока ныла душа. Што будзе? Што будзе, калі дазнаюцца? Што, калі хто бачыў ці проста па чым-небудзь западозрыць? Пачнуць капацца. А тут 'шчэ Дзедзіха вісіць над галавой. Што будзе? Раптам не захацелася ні класціся спаць, ні ўставаць заўтра раніцай...

Стукнулі вароты. Ён аж здрыгануўся. Нехта ішоў з вуліцы. Аўяр'ян? Чаго гэта ён мог надумаць зайсці? Выжлятнік хацеў падняцца, але не змог, адсунуўся толькі на другое месца на прызбе.

— Добры вечар у хату...

— Здароў. Не сядзіцца ў хаце цяпер...

— Ага, — Аўяр'ян спыніўся насупраць і глядзеў на Мірона зверху ўніз, — вясна. Ціша такая, цяпло. Зямля дыша. Пасядзець цяпер добра на прызбе пасля работы, калі рукі ныюць... На, закуры маіх. А то сігарэты — толькі ж хіба ад камароў.

— Не хачу. Сваіх насмактаўся, прама скажу...

— Ну, то дай прыкуру. Ды мо' пасядзім крыху разам? Паталкуем.

— Талкуй, калі інтарэс маеш... Калі ён у цябе да мяне ёсць. З чаго б гэта? — Выжлятнік адсунуўся 'шчэ далей, нібы даючы ля сябе месца Аўяр'яну.

Аўяр'ян сеў на прызбе крыху воддаль ад Выжлятніка і доўга глядзеў праз гароды па канец вёскі, туды, на Ваўкаўню.

— Ледзь збілі агонь. Гэта ж падумаць. Каб не падаспелі з вёскі — увесь бы маладняк дымам пайшоў, Уся пасека... Каб веданне, хто падаткнуў агню — судзілі б. Без ніякай шкадобы за гэта. Столькі ўрону.



І на балоты агонь вырваўся з ветрам. Праз крыніцы. Такая суш. І ноччу вунь кіпіць, бачыш. Хаця там варта. Уся старая гніль выкаціць з дымам. І леташняя і пазалеташняя. А то дзе былі тыя гады не касілі — касы не ўткнеш. Такое дуддзё... Што сучча. Толькі ж гарэць. А лес... Лесу, знаеш, шкада. Хапіла б і калгаснаму і Асіпаўскаму, як бы і адтуль не пераступілі. Ніколі б не даў веры, што вясной такі пажар зачацца зможа. Не, брат, за гэта наказваць трэба, судзіць. Любога...

Выжлятнік грыз у цемені сігарэту. Звесіў галаву; пароў каблуком зямлю ля прызбы. Маўчаў. Каб чорна, каб бела. Соп.

— Слухай, Мірон. Я ў цябе сёння ўжо быў. Перад пажарам, 'шчэ. Не застаў. Ды няма выгады адкладваць гутарку. Нам рукі рабочыя на вясну трэба. Вунь як трэба, ты нават не ведаеш. Хоць ты кожнага і ў кола і ў мяла—усё роўна, здаецца, усяго не зробіш, што хацеў бы. А рабіць многа трэба і — зробім. А ты цяпер вольны. Чулі мы ў праўленні, што ў леспрамгас хочаш падацца. Справа яна рабочая, грашовая, а я сказаў бы — не хадзі. У калгасе ты большае будзеш мець. І гарод у цябе будзе, як быў... Ды ты і вырас у калгасе. Дык нашто на старасці пакідаць?

Выжлятнік заёрзаўся:

— Я, мілы, прама, мусіць, скажу... Гм... Хаця... Давай адкладзём гутарку на лепшыя часы. А то... Ды і ноч ужо на дварэ, а нам з табой агіціравацца выходзіць... Што нам дня мала? Хопіць часу.

— Не, не хопіць. І ніхто да цябе не прыйшоў дзеля агітацыі. Пра цябе ж думаем. Чалавеку бывае, спатыкнуўшыся ў жыцці,аднаму цяжка на дарогу стаць. А нам людзі рабочыя трэба, за гэтым і прыйшоў. Каб можна было, дык бы і на завод якія за імі з'ездзіў. Сам знаеш, колькі закалюжанцаў ды грынёўцаў асела па заводах у горадзе за тыя гады. А гэта ж усе нашы людзі, што хлеб рабілі. Машынамі людзей усіх не



заменіш. А ў нас цяпер і машынам работы заваліся і людзям па самае горла. Слухай, многа гаварыць не буду, адно скажу — ідзі на балота. На асушку. Да машын. Там мужчынскія рукі трэба, як не ведаю што. А заробіш больш, чым у любым леспрамгасе, кажу табе, як камуніст. Ну дык як? Куды маеш чапурыцца? Я думаю, тут марыгуліць доўга няма чаго. Да нас, да нас ісці трэба. Хіба не бачыш, як людзі цяпер рабіць ідуць? А будзеш добра рабіць—ніхто і пальцам у твой бок не ткне. Я ведаю, пра што ты думаеш. Некалі ж трэба выкарабкацца і на сухі бераг. І мяркую, час ужо адумацца, ачалавечыцца. Вярнуцца да людзей трэба з лесу. Нечага быць, як шарсцень. За гэтыя гады, што ты ў лесе, людзі ў Закалюжжы змяніліся. Моладзі колькі нарасло, свет зусім другі. Выйдзі на работу з усімі, угледзіш, што гэта за людзі. Падыдзеш заўтра ў Грыні, у канцылярыю. Праўленне ў нас... Пра цябе гаварыць будзем. Калі мне сёння не хочаш даць слова — заўтра ў цябе 'шчэ цэлы дзень. Падумай. Хай Волька сваё скажа. Удваіх працуючы ў калгасе, вы.... Ды што табе гаварыць. У самога ёсць і галава і вочы.

Ужо добра сцямнела. Пацяснеў двор, бліжэй да хаты падсунуўся паркан. У Ваўкаўні занялася зара — дрыжэла, мяняючыся: то расла, то спадала — калыхалася.

— Гэта на Пагурку. Сіўцы гараць... — Выжлятнік не мог памыліцца...

— Дождж абмые выгарышча — такая трава шугане...

Маўчалі. Закурылі яшчэ. Кожны сваё.

За ракой гаманілі начлежнікі. На грэблі ўспыхнулі агні і сцебанулі аж па вярбе, што ў Выжлятніка на гародзе. З раёна варочалася калгасная машына. Значыць, і старшыня ўжо дома.

На лавацкім полі пад Грынямі заракатаў трактар. Адгэтуль, з двара, выдавала, што ён недзе далёка-далёка, аж за Гальдарадай.

— Слухай, сакратар, ці як ты тут лічышся, партыйны, у калгасе, скажы... Людзі вунь на цаліну вярбуюцца. Багацейшага чаго шукаюць. Куцка дык аж у Польшчу распрадаецца ехаць... А вы мне тут горы абяцаеце. Так я і веры даў. Свет цяпер шэры. Калі гэта тое багацце ў Закалюжжы было? Скажы. Да вайны мо' толькі...

— А ты вер. Мы не абяцанкі абяцаем. І чаму гэта для цябе нейкая другая вера трэба. Увесь калгас паверыў, а ён... Не буду трымаць цябе на камарах пад прызбай — заўтра пагутарым, колькі трэба будзе. Прыходзь перад праўленнем. І пра цаліну, і пра Куцку — усё выяснім. І прыходзь са словам. Ну, годзе... Зачыніш вароты. Аселі, падняць трэба, а то кручок да прабоя не дастае. Ну, будзь здароў.

Яны ўдваіх моўчкі зачынілі вароты. Пасля разышліся. Адзін пайшоў шырокай вуліцай, туды, недзе насустрач зары, пажару; другі паклыпаў па вузкім ад цемені двары да сенцаў.

Усю ноч на Ваўкаўні стаяла зарыва.

Гарэлі сіўцы.

Водсвет ад пажару сцябаў па акне, жахаючы ў хаце цемру.

Выжлятнік аж да рання не звёў воч.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра праўлення не было.

Позна ўвечары хавалі Андрэя Дзедзіху.

(Заканчэнне будзе).



Рыгор БАРАДУЛІН

## СНАПАВОЗ



Трасянуў сваім чубам — даспелым калоссем,
Падперазаўся вязьмом — і ў абоз.
Асмужаны, вусам асцістым калоўся
І шлях па іржышчу прамяў
снапавоз.

Засклыгатаў перацёртаю воссю,
На ўзмежку ўстрывожыў дакучлівых вос.
Уехаў з налітага лета ў восень
На поўным разгоне таўстун
снапавоз.

Працуе — і ўсё ў яго спорыцца, клеіцца.
Вачэй не зажмурыць ад рос і да рос.
І круціць баранку, натужвае лейцы,
Пыліць па усіх бальшаках
снапавоз.

Ад тупату, грукату, гоману — тлумна.
І хлебам прапахлі утулкі калёс.
Пустыя такі, падхартаныя гумны,
Прымайце, —
вязе ураджай
снапавоз.

Зярнятамі зор Млечны Шлях зацярушан —
І там снапавоз у дарогу ўжо рушыў.
Шчаслівай дарогі табе,
снапавоз!

## НАЧЛЕГ



Табун сярдзіта фыркае на росы.
Халодзіць зябка пысу мурава.
Агонь трасе чупрынай злосны,
рослы —
Не можа сухастою даравацъ.

У куст шарак шарахнуўся.
Шарэе.
Агнёвы рыжы чуб пачаў святлець.
На небасхіле робіцца шырэйшы,
Расце чырвоны,
паласаты след.

Пячэцца бульба, сон салодка хіліць,
Зязюля ж шчыра прысягае так —
Да ўсходу сонца лічаныя хвілі,
Ёй салавей падтаквае у такт.

Ламачча ўсё сухое папалілі
І пасылаюць новага здабыць.
А лёгкія сняжынкі папялінак
Кладуцца цёпла хлопцам на чубы.

Звініць жаўрук.
Не спіцца рупнай сойцы,
І адпаўзаюць туманы ў ірвы.
Гары, касцёр, —
унук старога сонца,
Палай ярчэй і цемрыва ірві.

Дзяцінства напамінам захавайся,
Ніколі сэрцу не давай астыць.
На стылых крыгах,
на далёкім Марсе
Сагрэюць нас начлежныя кастры!

## СТЭАРЫНАВАЯ СВЕЧКА



Яна ка мне прыйшла не з добрай казкі,
Не з ёлкі у агнях пад Новы год.
Гарачыя аладкі з яе ласкі
З патэльні я хапаў хутчэй у рот.

Сорак чацвёрты ўспомніцца заўсёды —
На павуцінні зжоўклы ліст трымціць.
Заўзята мы лапацім агароды,
Каб леташнюю бульбіну знайсці.

І з гэтай бульбы з дзіўнай назвай «рулі»
Для нас такіх прысмакаў напячэ
Назаўтра клапатлівая матуля,
Ясі — баішся, каб было яшчэ.

Яна ка мне прыйшла не з добрай казкі,
Бо нельга так было — ні даць ні ўзяць —
Без гэтай стэарынавай падмазкі
«Прысмакі» ад патэльні адарваць.

Яе не дакраналіся запалкай
І ад ката хавалі па начах.
Я смак таго трафейнага асмалка
Яшчэ і зараз чую на губах.

Даўно мінула многа зім і вёснаў,
Якім бы толькі я ні быў старым,
Ірваныя бліны з патэльні поснай
Заўсёды мне напомніць стэарын.



А я хачу,
каб гэта свечка пахла
Заўсёды ўсім —
Хай лёс міне іх мой! —
Не голадам, вайной
і бульбай стахлай.
А новым годам,
ёлкаю,
зімой!

* * *



Паразбрыліся гусі па ніўю,
Так і глядзі, што ў шкоду забяруцца.
А пастушка зусім не прызнаюць.
Узмежак пахне чабаром і рутай.

Яшчэ далёка гэтак да паўдня —
Вялікі цень ад грушыны кашчавай.
Такое сонца — вочы не падняць
І зубы, як жалезныя, ад шчаўя.

Акраец хлеба — мара пастушка —
У неба па яго ён слаў багоўку.
Пад хмарамі пярэстую шукаў,
Яна ж знікала ўмомант за пагоркам.

Было загадкай неба хлапчуку,
Канчалася яно за дальнім хлевам,
Дзе камары пад вечар мак таўкуць,
І частавала градам, а не хлебам.

Ляцеў галуб цераз суседскі плот
І вырай клікаў за сабою ў высі.
А болей тут палётаў не было.
І павуціння дым бялёса віўся...

Не з неба каравай на стол сышоў.
Прад намі стэп схіліў сівыя космы.
І мы,
сыны,
унукі пастушкоў,
Сягоння смела ўрэзаліся ў космас.

А ты, багоўка, лётай над лазой,
Хай быльняжынка пад табой заные.
Мы, праўда, не хапаем з неба зор,
Яго сузор'ям шлём свае,
зямныя.

## ПАЛАТА МІНЁРАЎ



Руку аднагодак працягвае мне,
Пацісну я куксу ў шрамах, бы ў разорах,
І порахам
ды марганцоўкай дыхне
З раённай бальніцы
палата «мінёраў».

Далёка на захад адкочваўся гром.
Гулялі ў вайну мы —
у нашых і немцаў,
Вайна ж,
пазалёгшы за кожным кустом,
Глядзела навокала
позіркам немым.
Мы рана сталелі ў зямлянках сырых,
Але забываліся цацкі не скора.
І рваліся «цацкі»...
І ўрач гаварыў:
— Яшчэ папаўненне
ў палату мінёраў...
Здавалася —
ў цішы
рыпела зямля
На восі —
нібы на пратэзе —
у зморы,
Пасля перавязкі,
як раны смыляць, —
Спявала «Арлёнка»
*палата* мінёраў.
Вятрыска лісты нам на шыбіну клаў,
Рабіны
рукамі здаровымі
гойдаў.
І доўга не мог нас даклікацца ў клас
Той верасень
сорак чацвёртага года...
З пустым рукавом сын вярнуўся дамоў.
А маці,
як яблыня, белая
з гора.
Здаецца мне,
порахам пахне ізноў...
Вы чуеце, хлопцы
з палаты мінёраў?!





Эдуард КАРПАЧОЎ

# ПАХ ЗЯМЛІ

## Апавяданне

### 1

Мал. Ю. Выхадцава.

Яго на будоўлі ведалі ўсе. Ведалі не толькі за тое, што ён сваім кскаватарам вычарпаў бадай паўкар'ера, а перш за ўсё за яго няз-ыклую, дзіўную постаць. Ён быў худы, выпетраны і няскладны ў пля-ах — лапаткі прыкметна вытыркаліся, варушыліся пад споднім кашу-яй, калі ён уранку, моцна фыркаючы, мыўся.

Чулік было яго прозвішча. Ён меў трыццаць пяць год, але жыў абылём у рабочым інтэрнаце.

У гэты ранішні час з яго кпіў сусед па ложку Сяргей Валахін. Збіўшы прасціну, Сяргей, лежачы, закідваў нагу за нагу і, прыжму-ыўшы жаўтаватыя, як у каршуна, вочы, цікаваў за Чулікам і з нецяр-лівасцю чакаў звыклых, ціхіх слоў, каб пасварыцца. Пра што меў хвоту гаварыць Чулік кожную раніцу — Валахін ведаў даўно. Гэтае ж самае ён чуў учора, пазаўчора, гэтае ж самае Чулік, напэўна, скажа сёння.

Падперазаўшы тоненькім дзявочым паяском без спражкі старую атоўку, Чулік па-салдацку абцягнуў яе, акінуў вачыма новы з яшчэ

вільготнымі плямамі на сценах пакой і пачаў сваю звычайную ранішнюю гаворку.

— Значыцца, я сёння іду на першую, ты, Валахін, падменіш мяне, і, зрабі ласку, не спазніся. А ты, Віцік, што? Мо' хворы часам?

Віцік быў яшчэ бадай што падлетак, залічаны рознарабочым на другі дзень пасля выпускных экзаменаў. Ён ніколі не ўтойваў сваёй трапятлівай павагі да Чуліка, старога рабочага, а сёння нават непакоіўся, каб без дай чаго не ўсхадзілася сварка, і неяк смешна-пагрозліва міргнуў Сяргею Валахіну, ахвочаму да грубых жартаў.

— Ды не-е... не хворы,— чырванеючы і неяк спешна адказаў Віцік.

— Тады шабаш,— згадзіўся Чулік, паварочваючыся да Валахіна.

— Ложак засцелеш, і не абы-як. Згода?

— Ха! — здзекліва ўсміхнуўся Валахін. — Можна падумаць, што ад гэтага што-небудзь зменіцца ў тваім жыцці?

Чулік міжвольна прысеў на табурэтку і, унурыўшыся, пачаў пастукваць па стале вузлаватымі пальцамі. Няўжо ён хоча сварыцца або жадае зла Валахіну? Проста трэба быць акуратным усюды — і ў інтэрнаце, і ў гліністым кар'еры. Сягоння прасціну не заслаў як трэба, заўтра — глядзіш, экскаватар свой не дагледзеў...

— Табе, Чулік, ужо трыццаць пяць і два месяцы,— зноў пачуўся жорсткі голас Валахіна,— а ты ўсё яшчэ па інтэрнатах бадзяешся, ды яшчэ парадкі свае наводзіш. Ні кала, ні двара. Браў бы буфетчыцу Валянціну. Яна ж усё на цябе меціць. Далі б вам пакой. А то што...

Такія словы, здаецца, білі па касцях, зневажалі Чуліка. Ён ведаў, што яны бязглуздыя, недарэчныя. Але дзівіўся самаўпэўненасці Валахіна, яго маладому, смеламу голасу, злой іроніі. Не вельмі хацелася верыць, што Валахін жадае яму дабра і нават шкадуе. А чаго шкадаваць пражытых год,— калі жыццё ідзе як належыць і добрым кірункам.

— Усё няпраўда, Сяргей, — цяжка падняўся з табурэткі Чулік. — Ты яшчэ зялёны, а старэйшага ўпікаеш. Што добра, а што кепска, я лепш ведаю,— сказаў ён без злосці і падаўся з пакоя.

— А Валянціну падгавару ўсё адно! Можа яна цябе перайначыць!— крыкнуў Валахін, калі дзверы ўжо зачыніліся.

І тады Віцік, спалоханы, ссунуўся з ложка і падбег да Валахіна:

— Нашто, Сярожа, дапякаеш яго?

Але Сяргей Валахін маўчаў: цяжка, зацята.

## 2

Застаўшыся адзін, Сяргей яшчэ доўга варочаўся на ложку, прыслухоўваючыся да далёкіх і чыстых, якія бываюць ранняй вясной, гукаў, што даляталі з кар'ера, да цяжкіх крокаў за акном, ад якіх звінела, бразгала ў шыбах шкло, і яму зрабілася неяк сумна і прыкра за сягоняшнюю раніцу, за сварку...

Валахін ведаў, што зрабіў нешта кепскае, недарэчнае.

Ён і сапраўды ўсё ж такі шкадаваў Чуліка. «Трыццаць пяць чалавеку, а што ён добрага зазнаў у сваім жыцці? Увесь яго клопат, усе інтарэсы забірае нялёгкая, штодзённая работа».

На будоўлі ўжо даўно хадзілі жарты, што буфетчыца Валянціна закахана ў сарамяжлівага Чуліка. І Валахін дзівіўся, чаму Чулік сапраўды не бярэ замуж гэтую дзяўчыну? Праўда, казалі, што ў Чуліка была жонка, але памерла. Ну, памерла, дык што зробіш?

«Пайду я да Валянціны»,— успомніў Валахін пра сваё абяцанне,



надзеў шаматкі пасля ўчарашняга дажджу камбінезон і выйшаў на двор.



У сталовай амаль нікога не было, над аб'едкамі на вялікіх сталах звінелі мухі.

— Бутэльку піва жыгулёўскага. І талерку крупніку пярлоўскага, — хвацка зрыфмаваў Валахін, пільна ўзіраючыся на Валянціну.

Дзяўчына сарамліва хавала выпуклыя шэрыя вочы, выстукваючы заказ на касавай машынцы. Паўнаватая, у белым, аж сіняватым, халаце.

— Слухай, маладзіца, — асцярожна ўзяў яе за гладкую руку Валахін. — Чулік казаў, што будзе чакаць цябе ў кар'еры — там яго экскаватар.

Валянціна закрылася далонямі, прыпала да стойкі і зайшлася ад смеху, а потым падняла галаву і сказала ўжо з нейкай крыўдай:

— Ідзі, сораму не маеш...

Паснедаўшы, ён зноў падышоў да Валянціны.

— Сяргей,— голас Валянціны дрыжаў,— а пра што я маю гаварыць з Чулікам?

— Можна пра ўсё на свеце. А найбольш пра каханне...

Выходзіў Валахін вясёлы, задаволены. Лёгка ішлося па ўсыпанай бітай цэглай сцяжынцы — быццам не боты былі на нагах, а мяккія кеды, тыя самы, у якіх ён некалі гуляў у валейбол.

Вясновы вецер студзіў грудзі, навяваў вясёлыя думкі. І Сяргею карцела ведаць, чым скончыцца гэтая яго забава: кепска ці добра для Чуліка.

Выязджаючы з кар'ера, пакалыхваліся з боку на бок цяжка нагружаныя самазвалы. Экскаватары грызлі грунт, уздрыгвалі і неслі каўшы няроўна і горда, а потым замíралі і кароткім, як слова «На!», рухам сыпалі пясок у кузавы.

Валахін з зайздрасцю сачыў, як завіхаўся ў рабоце Чулік. Ён дзівіўся, што Чулік, заўсёды негаваркі, зацяты сярод людзей, на рабоце

рабіўся іншы, пераменьваўся: вохкаў, смяяўся, высоўваўся ў акенца і папракаў некага.

Калі быў нагружаны апошні самазвал, Чулік выскачыў з экскаватара і накіраваўся да Сяргея. Але, не даходзячы, сеў на клейкую гліну.

— Чулік,— голас у Валахіна змяніўся, падабрэў. — Раніцай мы дарма паспрачаліся...

Чулік моўчкі круціў папяросу, у тытун з пальцаў трусіліся сухія друзачкі гліны. Ён раскурыў папяросу і моўчкі падаў яе Валахіну.

— Ведаеш, Чулік, — зацягнуўшыся на ўсю моц, ажывіўся Валахін, — мне ж за цябе балюча чагосьці стала. Ну, здалося, што табе тут... ну, не вельмі зручна.

Чулік старанна расцёр ботам грудку гліны і павярнуўся да хлопца ўсім тварам — у яго мяккіх вачах адбіўся дакор.

— Зноў ты сваё... А мне тут добра. Добра ды і ўсё,— і Чулік нават засмяяўся, пакруціў галавой, што Сяргей не можа зразумець звычайную рэч.

— Не, ты падумай добра. Мне то што, абы характарыстыку зарабіць, а там праз год які, лічы, студэнтам буду. Расці трэба! А няўжо ты ўвесь век у гэтым кар'еры марнець будзеш.

Чулік задумаўся, спахмурнеў: «Вось так і працуе чалавек: абы дзень да вечара, абы, як ён кажа, характарыстыку зарабіць, а іншае яго не абыходзіць. Эх, Валахін, Валахін...»

— Хіба няма на свеце іншага выйсця, як мясіць гразь у гэтым кар'еры? Ды ты хоць гадок па-людску пажыві. Ажаніўся б —і то весялей было б. Дарэчы, Валя дакляравала сягоння прыйсці ў кар'ер. Сур'ёзна...

Махнуўшы рукой, Чулік памкнуўся ісці, але Валахін заступіў дарогу.

— Абяцала прыйсці, Чулік. А яшчэ папрашу: папрацуй маю змену, зрабі ласку, га?

— У цябе што? Якая-небудзь пільная справа ёсць?

— Ды не... А шчыра кажучы — то ёсць...

— Ну, ладна! — Чулік абабіў з сябе сухі пясок. — Толькі купі мне полудзень.

Ужо ля экскаватара Чулік азірнуўся і ўбачыў Валахіна на беразе кар'ера. Цяпер Валахін выглядаў зусім вялікі.

— Дык не забудзься: полудзень! — крыкнуў Чулік і раней, чым скокнуць у кабіну, пагладзіў металічны бак экскаватара, злёгку нагрэты сонцам.

### 3

Чуліку падабалася перамена рабочых месц. Новыя людзі, новыя кар'еры, палі і лясы ў тых мясцінах, куды прыходзілі будаваць і якія называлі чамусьці голымі. Ранейшым заставаўся толькі ён, Чулік. Дарэчы, ці заставаўся...

Экскаватар шчодра раздаваў зямлю самазвалам. Зямля была цяжкая, жоўтая. «Як арахісавая халва», — падумаў Чулік. Падумаў таму, што заўсёды браў у буфеце, у Валянціны, гэтую халву.

Валахін усё ж развярэдзіў яго душу сваімі размовамі пра жыццё, пра Валянціну. Чулік перабіраў у памяці пражытыя гады, і яму неяк зрабілася крыўдна, што не заўсёды яно ішло гэтак, як трэба, падчас аднастайна, сумна, і ён падумаў, што, можа, і праўду казаў Валахін,



што трэба шукаць сабе жонку. А сапраўды, Валя дзяўчына не горшая за другіх.

І Чулік нават уявіў сабе сустрэчу з ёю.

Цямнець пачне перш за ўсё ў кар'еры, навокал стане так ціха, што чутно, як у недалёкім ляску сонна і стомлена пракрычыць івалга, успыхнуць лямпачкі ў інтэрнаце, а захад яшчэ доўга будзе ружовы. А потым незаўважна пачне згасаць. Вось тады, напэўна, і прыйдзе Валянціна.

Адрабляючы другую змену замест Валахіна, Чулік адчуваў стому. Адпачыць не было калі: выцягнулася ладная чарга самазвалаў. І коўш толькі то ныраў у яму, то плыў у паветры. Дзень хіліўся да вечара. Дыхнула халадком. Вецер студзіў пальцы.

Калі выпала вольная хвіліна, Чулік зняў шапку і задумаўся. Дзіўны ўсё ж чалавек Валахін! На сходах быццам і пра сур'езнае гаворыць, а ў інтэрнаце дзяціціцца, строіць з сябе невядома што. І чаго ён ткнецца ў чужое, Чулікава, жыццё? Ці гэта так сабе, каб пажартаваць, пасмяяцца, чэпіцца і да Валі?..

Нейкая дзіўная трывога кальнула Чуліка, і ён стаў думаць, ці трэба яму сённяшняя сустрэча, ці зменіць яна што-небудзь.

Нечакана ён пачуў галасы, што даносіліся адтуль, з пад'езда да кар'ера.

Выбегшы да здратаванага коламі машын пад'езду, Чулік убачыў, што тут затораны праход.

— Хлопцы, бяда, можа? — спытаў Чулік у шафёраў.

— Матор... — вінавата адказаў адзін з іх, хлопаючы сябе рукамі па баках, быццам згаджаўся: «Так, бяда...»

— Ма-тор! — злуючы, перадражніў Чулік, падышоў да машыны і адкрыў капот. Потым, кінуўшы пад машыну ватоўку, палез шукаць, што там дзе з маторам.

«Затрымка толькі... — думаў ён, лежачы на спіне і важдаючыся з ключом. — А памагчы ж хлопцу трэба...»

Вылазячы з-пад машыны, Чулік зноў думаў пра гэта ж самае: «Трэба памагаць — справа агульная. Вось зараз бы Валахіна сюды, хай бы паглядзеў».

Радасць агарнула Чуліка, і ён зноў сядзеў у кабіне, націскаў на рычагі, камандаваў шафёрам, як лепш пад'ехаць да экскаватара. І толькі калі апошні самазвал выехаў з кар'ера, Чулік зірнуў на паружавелае неба і ўбачыў на беразе кар'ера Валянціну. Сумеўся, падумаўшы, што не гэтакай уяўляў сустрэчу.

Збягаючы ўніз, Валянціна спатыкнулася, упала неяк бокам, хуценька ўскочыла.

— Зачыніла буфет, але, ат, успеюць яшчэ павячэраць, — сказала, быццам спрачаючыся з некім. Выгляд у яе быў разгублена-радасны.

— А я вось дзве змены адбухаў,— адказаў Чулік, скручваючы папяросу.

Ён пільна глянуў Валянціне ў вочы, сумна падумаў, пра што будзе з ёю гаварыць.

— Ты што будзеш заўтра есці, Чулік? — спытала яна з нейкім непакоем і засаромелася, што пытае невядома што.

«Капуста, камбала, кампот з халвой», — ледзь не сказаў ён, але схамянуўся і моўчкі пачаў думаць, чаму гэта Валянціна і ён рыхтаваліся да сустрэчы, а прыйшлося — дык няма з чаго пачаць гаворку. І Чулік прыгнуўся, сцяўся ўвесь і ўтаропіўся ў зямлю, нібы яна паўзла з-пад ног.



«Нашто гэта ўсё спатрэбілася Валахіну? Ці ж можна тут пра сям'ю гаварыць? Вось так пра нішто...»

І Чулік не выцерпеў гэтага зацятага маўчання і паволі пачаў узбірацца на высокі сыпучы бераг. Валянціна рушыла за ім, неяк спяшаючыся, нібы баялася застацца тут адна.

Ішлі пасёлкам хутка і моўчкі. Сумна было Чуліку, што ён паводзіць сябе, як падлетак. Але ён ведаў — іначай не зробіць.

Ля сталовай Валянціна спынілася, пасля шмыгнула ў дзверы; затупалі па лесвіцы яе гумавыя боцікі, потым зверху, з лесвічнага пралёту, данеслася пякучае, крыўднае для Чуліка: — Заўтра сустрэнемся?

Стала прыкра. Нашто сустракацца дарэмна, калі няма кахання? Пакуль ён думаў, што сказаць, каб асабліва не пакрыўдзіць Валянціну, у разбітым акне ўжо не было відно яе круглай галавы.

Чулік ішоў дадому і адчуваў, як невядома чаму яго агортвала туга, як яму рабілася сорамна за гэтую недарэчную сустрэчу з Валянцінай, як яго разбірала злосць на сябе, на Валахіна.

«Дурань я, дурань, — дакараў сябе Чулік. — Паверыў гультаю, адрабіў за яго. Думае век пражыць і палец аб палец не абабіць. А часам і нялёгка даводзіцца ў жыцці, часам працаваць трэба, каб аж дым ішоў!»

У яго ад злосці цяжэлі рукі.

4

— Ну як, Чулік? — здзекліва спытаў Валахін.

Ён ляжаў на мяккай пасцелі, разглядаючы свае новыя туфлі. Віцік абіраў бульбу — сакавіта хрумсцелі лупіны.

Заступіўшы хлопца ад Валахіна, Чулік прамармытаў зусім не тое, што хацеў сказаць:

— Віцьку не будзеш калечыць, не дам гэтага...

Чулік свідраваў вачыма хмурага, што ўстаў на ўвесь рост, Валахіна і, здаецца, упершыню прыкмеціў у гэтым чалавеку нешта мізэрнае, нікчэмнае, агіднае.

— Няхай мне трыццаць пяць, няхай мне болей. Але ты не лічы чужыя гады. Я іх пражыў як трэба. Ты паглядзі на сябе, які ты сам — малады, а паршывы...

Адчуўшы палёгку, Чулік кінуў ватоўку на табурэтку і пайшоў мыцца.

Валахін сцішыўся, нібы чуў яшчэ крыўдныя словы, потым забегаў па цесным пакоі, натыкаючыся на таз з лупінамі, на табурэтку, у думках наракаючы на Чуліка, што той не вытрымаў дзве змены і пэўна не ведаў, як паводзіць сябе з Валянцінай...

— Зрабі ласку такому...— уголас, але сам сабе сказаў Валахін і перакуліў нагой табурэтку, на якой ляжала Чулікава ватоўка.

Але ватоўку ён усё ж пасля падняў і доўга разглядваў яе, нібы бачыў упершыню: яна была заляпана глінаю, і Валахін здзівіўся, што цэлыя камякі гліны ляжалі нават у кішэнях. Ватоўка пахла вільготнай зямлёй, вясновым ветрам.

Пераклаў з рускай мовы
В. АДАМЧЫК.

Міхась ЗАРЭМБА

## АРОЛ



У змах магутных крылаў
Рассек нябёс блакіт.
Неўтаймаванай сілай
Арол імкне ў зеніт.



Зямля далёка дзесьці,
Уверсе — сонца шар,
Арла ўжо грэе, песціць
Яго пякучы жар.

Ён зведаў радасць лёту
І ў небе дзень лунаў,
Бо для свайго узлёту
Разгон з зямлі узяў.

* * *



На узлессе выбегла сасонка,
Прыгажуня — не знайсці такой.
А за ёю дуб памкнуўся стромкі,
Хмару зачапіўшы галавой.

Ды замёр ён у нямым чаканні...
Але вабіць да сябе сасна.
І хаця калючая яна,
Усё адно адбудзецца спатканне.





Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ

## ЛІПЫ

### Апавяданне

Мал. В. Рамейкі.



Пры дзяльбе панскага маёнтка палоскі на адным палетку ішлі ўздоўж дарогі, абсаджанай ліпамі. Крайняя палоска прыпала Сымону Бражніку.

Людзі ведалі, што ў ценю дрэў збожжа расце меншае і радзейшае, і згадзіліся прырэзаць яму на цень.

Сымон падзякаваў людзям, а пасялковец Аляксей Сушынскі падміргнуў:

— У цябе, Сымон, столькі ліпавага цвету цяпер будзе... Заварвай адно.

— Прыходзьце і вас пачастую.

Вядома, гэта былі жарты. Хто хацеў мець ліпавы цвет, дык мог і сам нарваць яго. Ліпы належалі не аднаму Сымону.

Назаўтра Бражнік адзін ужо, без камісіі, перамераў суседаву палоску і сваю і ўпэўніўся, што яго амаль удвая шырэйшая.

«Каб не гэтыя праклятыя ліпы, каб іх пярун спаліў, вунь на колькі яшчэ болей зямлі было б», — разважыў ён.

Дзялілі зямлю ўвосень, а праз зіму на лета дзве ліпы з дзесяці, што раслі насупраць Сымонавай палоскі, пачалі засыхаць. Лісце на іх пажаўцела і асыпалася раней, чым на іншых, а на другую вясну дрэвы і зусім не распусціліся. Сымон зрэзаў іх і звёз на дровы. Апал з ліп, праўда, не важны, але ж дармовы, як кажуць людзі.

На засохлыя ліпы ніхто з пасялкоўцаў не звярнуў увагі. Мала што магло стацца з дрэвамі. Яблыні вунь як даглядае гаспадар і то возьмуць часам ды засохнуць.

А праз два гады, пад восень, адразу неяк зжаўцелі аж чатыры ліпы. Тут ужо не абышлося без гаворкі сярод пасялкоўцаў:

— Ці не вядзьмар толькі Сымон.

— Але. На другім баку дарогі дрэвы растуць, а ў яго сохнуць.

— А такія ж прыгожыя ліпы! А мёду колькі давалі!

І ніхто не ўцяміў тады, чаму засыхалі ліпы.

Толькі нешта праз гады чатыры, перад самай калектывізацыяй, зусім выпадкова ўсё высветлілася.

Познім асеннім вечарам Аляксей Сушынскі вяртаўся з суседняй вёскі дахаты.

«Хто гэта дзе што робіць у такую пару?» — пачуўшы глухія ўдары, падумаў ён і скіраваў з палявой дарогі на прысады. Хутка Аляксей заўважыў, што каля Сымонавых ліп нешта мітусіцца. Стаў, прыслухаўся. Гукі даносіліся адтуль. Пасялковец прыскорыў хаду і, падышоўшы зусім блізка, свіснуў. Адразу ўсё сціхла, а пасля нехта падняўся насустрач Аляксею.

Гэта быў Сымон.

— Што вы тут, дзядзька, ходзіце поначы? — спытаў Сушынскі.

— Свінчо шукаю. Згубілася недзе, каб яно здохла, — адказаў Сымон і спытаў: — Не сустракаў, часам, па дарозе?

— Вось там, на бульбянішчы, нешта рохкала, — паказаў Аляксей у бок,— але я і падумаць не мог, што гэта ваш падсвінак.

Аляксей пайшоў сваёй дарогай, а Сымон накіраваўся туды, куды паказаў пасялковец.

Дайшоўшы да першай ліпы, Аляксей заўважыў пакапаную каля дрэва зямлю. Прыгледзеўся лепей і ўбачыў на Сымонавай палосцы рыдлёўку, а трошкі далей ад яе — сякеру.

— Дык вось якое свінчо ты шукаў тут! — зірнуў Аляксей у той бок, куды пайшоў Сымон, і вылаяўся: — Усё табе мала, ненажэрная вантроба твая...

Ён забраў рыдлёўку і сякеру і заспяшаў дахаты. Неўзабаве да ліп падышоў Сымон. Не знайшоўшы сваіх прылад, ён згроб рукамі зямлю ў ямку каля дрэва і з трывожнымі думкамі паплёўся ў пасёлак.

...І людзі, і сам Сымон даўно забыліся на тое здарэнне. А ўчора Міша, Сымонаў унук, напомніў пра гэта. Не паспеў ён расшпіліць гузікі свайго паліто, зайшоўшы ў хату, як адразу ж спытаў:

— Дзядуля, праўда гэта, што расказаў нам сёння настаўнік?

— А што ён такое расказваў? — зірнуў у вочы ўнуку стары.

— Знаеш што, знаеш?..— вешаючы паліто, марудзіў хлопчык са сваім пытаннем.

— Ну, ну, кажы...— падганяў дзядуля.

— Сёння мы саджалі ўсім класам маладзенькія ліпы на лінаванцы. На тым баку, дзе расце адна. Як пасадзілі, дык селі пад старою ліпаю, і настаўнік расказаў нам, што некалі зямля гэта ўздоўж лінаванкі была твая. Праўда гэта?

— Праўда, унучак. Да калектывізацыі там была мая палоска. А яшчэ што казаў ён? — карцела даведацца Сымону.

— Казаў. Казаў, што нехта зглуміў тады дзевяць ліп... Хто гэта мог зрабіць, дзядуля?

Сымон апусціў галаву. Міша глядзеў на сівыя дзедавы валасы, што звісалі на вушы, і чакаў адказу. Стары адчуваў на сабе ўнукаў позірк і змагаўся сам з сабою: што сказаць унуку? Хлопчык, вядома, паверыць яму, калі і зманіць. А як жа будзе з настаўнікам? Парушыць веру ў таго чалавека, які стараецца навучыць добраму ўнука?

Нарэшце Сымон падняў галаву:

— Гэта я, Мішачка, ссек.

Хлопчык заміргаў вейкамі, сціснуў міжвольна кулачкі і ледзь не расплакаўся ад крыўды і жалю:

— Дзядуля, ты ссек? Такія ліпы... Нашто ты зрабіў гэта?

— Для вас, унучак, стараўся. Для твайго бацькі, для цябе. Зямлі ўсё нам мала было...— устаў з лаўкі Сымон і прытуліў Мішу.

Хлопчык адчуў цёплую ласку і пачаў суцяшаць:

— Не гаруй, дзядуля. Не гаруй. Мы пасадзілі сёння на тым месцы аж дванаццаць ліп. Настаўнік казаў: іх цяпер ніхто, ніколі не ссячэ.

— Не ссячэ, не ссячэ...— паўтараў за ўнукам Сымон.





## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

**Васіль Ганчароў** нарадзіўся ў 1934 годзе на Смаленшчыне. Вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, скончыўшы якое, паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Яго дыпломная карціна носіць назву «З работы». Мастак працуе цяпер выкладчыкам у Віцебскім педагагічным інстытуце.

**Мікалай Бельскі** нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Дубовая Крупскага раёна, на Міншчыне. Скончыўшы Мінскае мастацкае вучылішча, працаваў на заводзе мастацкай керамікі. У 1954 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які закончыў сёлета, абараніўшы дыпломную работу — скульптурную кампазіцыю «Пад дажджом».





**Мікалай Бельскі. «Пад дажджом».**
Фота А. Дзітлава.



**З. І. Азгур. Помнік Якубу Коласу.**
Фота А. Дзітлава.



Аляксандр Іваноў. «Будаўнікі».



Васіль Ганчароў. «З работы».

П. П. Трубецкой. Партрэт Л. М. Талстога. Бронза. 1899 г.



**„Яго сусветнае значэнне, як мастака, яго сусветная вядомасць, як мысліцеля і прапаведніка, і тое і другое адлюстроўвае, па-свойму, сусветнае значэнне рускай рэвалюцыі“.**

**ЛЕНІН.**

Ілары БАРАШКА

# У ЯСНАЙ ПАЛЯНЕ

### Да 50-годдзя з дня смерці Л. М. Талстога

У Ясную Паляну мы прыехалі позна вечарам. Па небе плыў маладзік, цьмяна асвятляючы яснапалянскі двор.

Цішыня.

Белы каменны дом, пабудаваны яшчэ ў першай чвэрці XIX стагоддзя дзедам Льва Мікалаевіча Талстога Н. С. Валконскім, углядаецца сваімі чорнымі вокнамі ў цёмна-зялёны гушчар дубоў так, як углядаўся пры жыцці свайго гаспадара...



Непадалёку ад гэтага дома стаіць невялічкая хацінка фурмана. Адсюль глыбокай ноччу 28 кастрычніка 1910 года васьмідзесяцідвухгадовы Леў Мікалаевіч выпраўляўся на станцыю Астапава, пакінуўшы і дзедаўскі маёнтак, і сваю сям'ю, і любімы лес Чапыж, і з дзяцінства памятны Стары Заказ з закапаным у ім «зялёным кіёчкам». Вялікі мастак парашыў адмовіцца ад раскошы і жыць разам з народам...

Летняя ноч... Дзесьці ўдалечыні, у чорным небе гарыць зарыва сталеплавільных печаў тульскіх заводаў. Адтуль вецер даносіць грукат, шыпенне, няспынны гул... А тут, за некалькі кіламетраў на поўдзень ад Тулы, незвычайны спакой і ўрачыстая цішыня...

Леў Мікалаевіч Талстой пражыў у Яснай Паляне каля шасцідзесяці гадоў. Тут былі напісаны «Вайна і мір», «Анна Карэніна», «Уваскрошанне», «Хаджы-Мурат» і мноства іншых апавяданняў, аповесцей, п'ес, артыкулаў, якія ледзь змясціліся ў 90 тамах, што складаюць поўны збор твораў выдатнага пісьменніка.



Вароты ў маёнтку Л. М. Талстога «Ясная Паляна».

Адсюль многія дзесяцігоддзі гучаў на ўсю Расію, на ўвесь свет суровы і мужны голас пісьменніка; сюды прыязджалі выдатнейшыя дзеячы рускай літаратуры, мастацтва, навукі — І. С. Тургенеў, У. Г. Караленка, М. С. Ляскоў, А. П. Чэхаў, А. М. Горкі, І. Я. Рэпін, І. І. Крамской, М. М. Ге, М. В. Несцераў, У. В. Стасаў, С. І. Танееў, А. С. Арэнскі, А. А. Фет і многія, многія другія вядомыя людзі XIX і пачатку XX стагоддзяў; сюды з усіх куткоў неабсяжнай Расіі ішлі хадакі-сяляне, каб падзяліцца з Львом Мікалаевічам сваімі радасцямі, сваім горам.



Л. М. Талстой гутарыць з сялянкамі ў Яснай Паляне.

Уважліва слухаў Леў Мікалаевіч усіх — і сялянак, якія прыйшлі да яго па параду, і мужыкоў, што неслі сюды свае скаргі на беспрасветнае жыццё, і сельскую дзятву, якая шчыра адкрывала дзядулю ўсе таямніцы сваёй некранутай жыццёвымі нягодамі душы.

Маёнтак Ясная Паляна пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі быў абвешчаны дзяржаўным



Л. М. Талстой за абедам.

запаведнікам, а дом, дзе жыў Л. М. Талстой, у адпаведнасці з пастановай савецкага ўрада ад 10 чэрвеня 1921 года, захоўваецца ў тым выглядзе, якім ён быў у апошні год жыцця пісьменніка.

29 кастрычніка 1941 года Ясную Паляну захапілі гітлераўцы. Не палічыўшыся з тым, што сядзіба Л. М. Талстога з'яўляецца святыняй для ўсяго чалавецтва, фашыстыператварылі дом-музей у казарму. Пры адступленні яны парашылі спаліць дом-музей славутага пісьменніка. У трох пакоях на другім паверсе былі раскладзены кастры.

І толькі гераічныя намаганні супрацоўнікаў музея выратавалі дом. На шчасце, у першыя дні вайны з Яснай Паляны ў глыбокі тыл была вывезена большасць экспанатаў музея: бібліятэка Л. М. Талстога, карціны, партрэты, скульптуры, мэбля і прадметы быту. Яшчэ грымелі баі на ўсіх франтах Вялікай Айчыннай вайны, а аднаўленне музея было ўжо закончана. 24 мая 1942 года запаведнік Ясная Паляна зноў прымаў тысячы людзей, якія прыходзілі сюды пазнаёміцца з жыццём і дзейнасцю геніяльнага мастака слова, ушанаваць яго светлую памяць.

Раніцай мы паспяшылі да дома-музея. У цудоўным яснапалянскім парку ўжо сабралася некалькі сот экскурсантаў. Тут былі французы, палякі, англічане, экскурсанты з Цэйлона і В'етнама, Індыі і Злучаных Штатаў Амерыкі...

А дзевятай гадзіне дзверы дома-музея адчыніліся. Наша група ўвайшла туды першай.

У прыхожай стаяць простыя бярозавыя шафы, запоўненыя кнігамі. Кніга была першым спадарожнікам і сябрам пісьменніка, і яе можна тут сустрэць на кожным кроку. Бібліятэка Льва Мікалаевіча раскідана па ўсім двухпавярховым доме.

У шафе, каля печкі, захоўваюцца паляўнічыя прылады. Л. М. Талстой на ўсім працягу свайго доўгага жыцця быў заўзяты паляўнічы.

Падымаемся па лесвіцы на другі паверх і трапляем на пляцоўку з чатырма дзвярамі: у залу, у гасціную, у бібліятэку і на гарышча. На пляцоўцы стаіць старадаўні гадзіннік, прывезены сюды яшчэ дзедам Л. М. Талстога. Гэты гадзіннік, зроблены ў XVIII стагоддзі, ідзе і цяпер — паказвае не толькі гадзіны, хвіліны і секунды, але дні і месяцы...

Уваходзім у залу. Тут некалі, пры жыцці Льва Мікалаевіча, штодзённа збіралася яго сям'я. Гэты пакой выкарыстоўваўся па-рознаму. У зале абедалі, вечарамі тут збіралася моладзь; у зале Леў Мікалаевіч гутарыў з гасцямі. Тут адбываліся гарачыя спрэчкі аб лёсе Расіі і ўсяго чалавецтва, аб шляхах развіцця рускай культуры.

Абстаўлены гэты вялікі пакой мэбляй розных часоў і стыляў. Галерэя сямейных партрэтаў, доўгі абедзенны стол з прыгатаваным да абеду сервізам, старадаўнія люстры, два раялі фірмы Бекер, венскае крэсла пісьменніка, некалькі бюстаў Льва Мікалаевіча работы выдатных рускіх мастакоў ствараюць незабыўнае ўражанне аб тым старасвецкім панскім доме, які стаў ненавісны пісьменніку ў канцы яго жыцця. У дзённіку за год да сваёй смерці Леў Мікалаевіч пісаў: «Невыноснае, шалёнае (больш



чым шалёнае, побач з беднасцю ў вёсцы) жыццё, сярод якога, ужо сам не ведаю чаму, вымушаны дажываць...»

У апошнія гады жыцця пісьменнік цураўся сваёй сям'і. Снедаў ён заўсёды адзін (гл. здымак).

— Паснедаўшы, — апавядае экскурсавод, — Леў Мікалаевіч пешкі хадзіў па «Засецы», абдумваючы свае творы.

Раніцаю мы бачылі якраз тую лавачку, седзячы на якой, Леў Мікалаевіч запісаў у сваім дзённіку: «Я заўсёды любуюся на гэтыя хваінкі. Гэта маё ўлюбёнае месца. І кожную раніцу — звычайная прагулка. Часам я саджуся тут, на лавачку, і пішу...»

Экскурсавод расказвае, што Леў Мікалаевіч любіў гуляць у шахматы... Вось столік, за якім Л. М. Талстой сустракаўся ў шахматным паядынку з І. С. Тургеневым, С. І. Танеевым, А. Б. Гольдэнвейзерам.

З залы мы пераходзім у маленькі гасціны пакой. У гэтым невялічкім пакоі жонка пісьменніка Соф'я Андрэеўна па некалькі разоў перапісвала творы Льва Мікалаевіча.

«Схіліўшыся над паперай і ўглядаючыся сваімі блізарукімі вачыма ў каракулі бацькі, яна праседжвала так цэлыя вечары і часта клалася спаць позняй ноччу, пасля ўсіх»... — запісаў у сваіх успамінах пра маці Ілья Талстой, сын Льва Мікалаевіча.

На сценах гасцінай вісяць цудоўныя пейзажы Яснай Паляны, напісаныя мастаком І. Пахітонавым. Пад адным з пейзажаў подпіс: «Месца, дзе закапаны «зялёны кіёчак».

Кабінет Льва Мікалаевіча. Вялікае акно дае многа святла...

З дня ў дзень садзіўся пісьменнік за свой рабочы стол, які некалі належаў яго бацьку. За гэтым сталом напісаны амаль усе яго творы.

На стале — шкатулка для папер, прэс з бронзавым сабачкам наверсе, глыба зялёнага шкла... Гэтая глыба — падарунак пісьменніку ад рабочых і служачых Мальцаўскага шклозавода.

«Вы падзялілі лёс многіх вялікіх людзей, якія ідуць наперадзе свайго веку, шаноўны Леў Мікалаевіч! І раней іх палілі на вогнішчах, гнаілі ў турмах і ссылцы. Няхай адлучаюць Вас, як хочуць і ад чаго хочуць фарысеі-«першасвяшчэннікі». Рускія людзі заўсёды будуць ганарыцца Вамі, лічачы Вас сваім вялікім, дарагім, любімым...»

І далей ідуць адзін за другім подпісы смелых людзей, якія прыслалі такое шчырае вітанне Льву Мікалаевічу ў цяжкую для яго часіну...

Леў Мікалаевіч беражліва хаваў гэты падарунак, а рабочым і служачым Мальцаўскага шклозавода адказаў так:

«Я атрымаў Ваш цудоўны падарунак, у якім асабліва дарагі для мяне надпіс, і прашу перадаць маю найжывейшую падзяку ўсім, хто падпісаўся».

У кабінеце, за пісьмовым сталом, стаіць канапа, на якой, як ка-



Тут пахаваны Л. М. Талстой.

жуць, і нарадзіўся Леў Мікалаевіч. На гэтай канапе пісьменнік адпачываў пасля працы на працягу ўсяго жыцця. А за круглым столікам, які і цяпер стаіць насупраць пісьмовага, чытаў газеты, гутарыў з сябрамі, раскладваў пас'янс.

І зноў — кнігі, кнігі і кнігі: на паліцы, на этажэрцы, на стале, у шафе... А ля дзвярэй у спальню — фанограф, які прыслаў у 1908 годзе з Амерыкі ў знак прыязнасці вядомы ўсяму свету вынаходца Томас Эдзісон.

Сцены ўвешаны безліччу фотаздымкаў з аўтографамі рускіх і замежных дзеячоў літаратуры і мастацтва — сучаснікаў Льва Мікалаевіча.

У гэтым кабінеце Леў Мікалаевіч напісаў ноччу 28 кастрычніка 1910 года свой апошні ліст жонцы:

«Ад'езд мой стане непрыемным для цябе. Шкадую аб гэтым, але зразумей і павер, што я не мог зрабіць інакш. Становішча маё ў доме становіцца, стала невыносным. Акрамя ўсяго іншага, я не магу больш жыць у тых умовах раскошы, у якіх жыў, і раблю тое, што звычайна робяць старыя майго ўзросту — пакідаюць грамадскае жыццё, каб жыць у адзіноце і цішыні апошнія дні свайго жыцця».

Побач з кабінетам — спальня пісьменніка: вузенькі, аднаспальны жалезны ложак, засланы просценькай коўдрай, умывальнік, бюро-шыфан'ерка, люстэрка, эмаліраваныя вёдры, у якіх пісьменнік прыносіў сабе ваду, гіры, каб займацца гімнастыкай, розныя асабістыя рэчы...

А далей — пакой жонкі Льва Мікалаевіча, «сакратарская», бібліятэка, пакой для прыезджых, пакой доктара...

У музеі захоўваюцца 50 000 лістоў, атрыманых пісьменнікам з розных канцоў свету. Адказы на іх, напісаныя Львом Мікалаевічам, складаюць 30 тамоў — адну трэцюю частку поўнага збору твораў пісьменніка...

Талстой дасканала валодаў французскай, нямецкай, англійскай мовамі і на працягу свайго жыцця вывучаў і авалодаў у пэўнай ступені польскай, чэшскай, балгарскай, татарскай, італьянскай, арабскай, галандскай, лацінскай і старажытнай яўрэйскай мовамі...

... Пакінуўшы Ясную Паляну халоднай восенню 1910 года, Леў Мікалаевіч прастудзіўся і захварэў на запаленне лёгкіх...

... 28 кастрычніка (9 лістапада па нов. стылю) 1910 года труна з целам пісьменніка была прывезена са станцыі Астапава ў Ясную Паляну і ўстаноўлена ў «пакоі для прыезджых». Сюды развітацца з Львом Мікалаевічам прыходзілі тысячы простых людзей...

Мы выйшлі ў парк.

У доміку, дзе сто гадоў таму назад Л. М. Талстым была створана сельская школа для яснапалянскіх дзяцей, цяпер — літаратурны музей. Агледзеўшы яго, мы падышлі да мясціны, якая завецца Стары Заказ...

Гэты куток быў знаёмы Льву Мікалаевічу з дзіцячых гадоў. Некалі старэйшы брат пісьменніка —Ніколенька апавядаў яму легенду аб тым, што па дарозе да Старога Заказа, на краі яра, закапаны «зялёны кіёчак». На ім ёсць надпіс пра тое, як зрабіць, каб усе людзі не зналі ніякіх няшчасцяў, ніколі не сварыліся, не злаваліся, а былі б увесь час шчаслівыя.

На тым месцы, дзе, як казаў Ніколенька, быў закапаны цудоўны «зялёны кіёчак» з таямнічым надпісам, і пахаваны Леў Мікалаевіч Талстой.

І цяпер на краі яра, паміж дзвюма соснамі, адзінока высіцца абкладзеная дзёрнам высокая магілка — вечная дамоўка таго, чые творы ведае і любіць усё чалавецтва.





# ПЕРАПІСЧЫК ТВОРАЎ ЛЬВА ТАЛСТОГА

Імя аднаго з трох чалавек, сфатаграфаваных на гэтым здымку, вядома ўсяму свету. Гэта — Леў Мікалаевіч Талстой. Яго субяседнікі — В. А. Малочнікаў (на пярэднім плане) і С. М. Беленькі, які і падараваў нам гэтае фота. Здымак зроблены ў 1909 годзе ў сяле Крэкшына Тульскай губерні.

Хто ж такі С. М. Беленькі?

Ён родам з Беларусі, віцяблянін. Сын беднага рахунковага работніка, ён у 1893 годзе скончыў павятовую школу і ў пошуках кавалка хлеба падаўся ў Пецярбург. Там пазнаёміўся з Уладзімірам Рыгоравічам Чартковым — самым блізкім другам і аднадумцам Л. М. Талстога. Чарткоў даручаў яму перапісваць старыя і новыя творы Талстога. Сям'я Чарткова жыла тады ў Цяляценках.

Папрацаваўшы ў Чарткова паўгода, Самуіл Маркавіч Беленькі перайшоў працаваць перапісчыкам да Л. М. Талстога. Увесь 1909

і 1910 гады Беленькі працаваў у Яснай Паляне. Леў Мікалаевіч адносіўся да яго цёпла і ўважліва. Даведаўшыся, што ён з Беларусі, Талстой часта распытваў пра Віцебск, пра яго прамысловасць, пра жыццё беларускіх сялян або прасіў расказаць пра Кастуся Каліноўскага, Георгія Скарыну. Калі заўважаў, што Самуіл Маркавіч недакладна перадае факты, звычайна гаварыў: «Сорамна Вам не ведаць беларускіх паўстанцаў і вучоных». А праз момант дадаваў: «Хаця, усяго ведаць не будзеш».

Беленькі ўспамінае, што Леў Мікалаевіч атрымоўваў вельмі шмат пісем. Здаецца, не было на свеце тае краіны, адкуль не пісалі б у Ясную Паляну. Леў Мікалаевіч сам разбіраў пошту і прачытваў кожнае пісьмо. Яму пісалі вядомыя ўсяму свету літаратары, палітычныя дзеячы, мастакі, студэнты, чыноўнікі, рабочыя, сяляне. Чым толькі не дзяліліся з Талстым яго карэспандэнты! Адно з такіх пісем — на 42 старонках вучнёўскага сшытка — прыйшло з Гродзеншчыны ад беларускай сялянкі Агаты Пятроўны Цішковай. Яна прасіла Льва Мікалаевіча памагчы ёй: у яе не было грошай заплаціць за швейную машыну, набытую ў гандлёвага агента. І Леў Мікалаевіч памог.

З глухога сяла Клёнікі той жа Гродзенскай губерні ў Ясную Паляну прыйшло другое пісьмо: сяляне прасілі Льва Мікалаевіча прыслаць ім некалькі кніг. Талстой даручыў выдавецтву «Пасрэднік» скамплектаваць за яго кошт цэлую бібліятэчку і паслаць у Клёнікі. Неўзабаве беларускія сяляне атрымалі падарунак пісьменніка.

У Беларусі знайшоў гарачы водгук заклік Талстога памагчы сялянам Самарскай губерні, якія галадалі. Па ўсіх гарадах і вёсках збіраліся сродкі. Сельскі ўрач з мястэчка Усвяты Веліжскага павету Віцебскай губерні, пасылаючы Л. М. Талстому сабраныя грошы, пісаў: «Няма ў мяне слоў, каб перадаць сілу тае любві і веры ў Вас (і толькі праз Вас у людзей), якую Вы назаўсёды зацяплілі ў мяне». Леў Мікалаевіч адказаў яму: «... такія словы — лепшая радасць майго жыцця».

Усіх, хто ведаў Льва Мікалаевіча,— успамінае Беленькі,— зачароўвала яго прастата. Гаварыў ён ціха, разважліва, абдумваючы кожнае слова. Любіў, седзячы за вялікім абедзенным сталом, расказваць сваім хатнім ды і гасцям змест прачытаных кніг. А расказваў — заслухацца можна. Прычым, не любіў ніякіх жэстаў і вельмі дакладна падбіраў кожнае слова.

З тае пары мінула шмат год. Але і сёння Самуіл Маркавіч, якому споўнілася ўжо 83 гады, не кідае любімага занятку: ён перапісвае творы Талстога з рэдкіх выданняў і рукапісаў, што захоўваюцца ў Маскоўскім музеі Льва Талстога.

**М. ЖЫГОЦКІ.**



*Дарогамі сямігодкі*



**Валя Дузенка: — Мы — будаўнікі так любім сваю прафесію!**

**Віктар КАРАМАЗАЎ**

# ДНІ ВАЛІ ДУЗЕНКА

**Нарыс**

На ўсходняй ускраіне цэментна-шыфернага камбіната ў Крычаве аднойчы раніцай людзі ўбачылі новы будаўнічы аб'ект. Дзесяткі два муляроў белай, як крычаўская крэйда, цэглай выкладалі роўненькую сцяну. Убачыўшы ўсё гэта, многія падумалі: навошта такая прыгожая сцяна тут, на палыновай пустэчы?..

— Навошта? Цэментнікам цесна стала. Камбінат расце, выходзіць за старыя межы. Вось тут і пройдзе яго новая мяжа.

— Значыць, сынок, і палыну тут не будзе? — пыталася пажылая жанчына ў маладога муляра, які, лёгка падкінуўшы ў руцэ цагліну, паклаў яе ў мур.

— Вядома, маці. Годзе палынам расці. Будзем на цэмент багацець.

Звычайная восень ідзе па Крычаўшчыне. І ўсё ж новая, ніколі не бачаная тут восень завітала сёлета да цэментнікаў. Яна вабіць людское вока не дажджамі, не падаючым з дрэваў лісцем, а ростам, незвычайным, па-вясноваму бурным ростам. Ушыркі і ўвышкі расце камбінат, будуюцца новыя цэхі, устанаўліваецца новае, магутнае абсталяванне.

Прыгледзьцеся... Побач са старым цэхам абпалу ўзняліся на пяць-сем метраў угару шыракаплечыя жалезабетонныя апоры. Неўзабаве на іх абапрэцца цыліндрычная печ даўжынёю ў сто семдзесят пяць метраў. А побач устанаўліваецца такая ж шарэнга апор яшчэ пад адну печ. Дзве новыя печы. Скажаце, не так многа, каб захапляцца! Не спяшайцеся з вывадам. Дзве новыя печы будуць выпрацоўваць у чатыры разы больш клінкеру, чым выпускае яго сёння камбінат.

Побач відзён жалезабетонны падмурак пад новы цэх памолу клінкеру, і не абы-які падмурак, а вялізны — у яго ўкладзены тысячы кубаметраў бетону. Новыя млыны, якія размесцяцца ў гэтым цэху, будуць намолваць столькі цэменту, колькі выпрацоўвалася яго ва ўсёй дарэвалюцыйнай Расіі.

А як хутка, як прыгожа пашырае свае межы гарадок крычаўскіх цэментнікаў. Наваселле за наваселлем спраўляюць яны. І калі вечарэе, сотнямі агнёў запальваюцца вокны жылых дамоў, інтэрнатаў. Позна свецяцца агні ў кватэрах крычаўцаў — хто схіліўся над падручнікам, хто над цікавым раманам, хто над пісьмом ці...

Перад намі тоненькі вучнёўскі сшытак з крыху заламанымі ражкамі. На яго блакітнай вокладцы роўна выведзены надпіс: «Дзённік Валянціны Дузенка». І ніжэй: «Ударная камсамольская будоўля сямігодкі — другая чарга Крычаўскага цэментна-шыфернага камбіната».

Дзённік маладой будаўніцы. Тут самыя патаемныя думкі дзяўчыны, яе ўзрушанасць сённяшнім днём, мары, скіраваныя ў заўтра. Сакратар ударнага камсамольскага паста № 1 на будоўлі УНР-62 Валянціна Дузенка дазволіла пазнаёміцца з некаторымі запісамі ў дзённіку.

**«...11 студзеня 1959 года.**

Першы дзень працавалі на новым месцы ў цэментнікаў. Ачышчалі ад снегу і наледзі зямлю, каб заўтра на гэтым месцы капаць катлаван пад першую апору для печы. Шмат сумненняў, але не менш і спадзяванняў. Гэта і не дзіўна. Наш стары прараб Барыс Антонавіч Кярнога ў абед расказаў, што трэба пабудаваць сушыльнае аддзяленне цэха абпалу, новае пячное аддзяленне, памольны цэх. І ўсё гэта — за адзін год.

У нашай брыгадзе адны дзяўчаты, і ўсе амаль аднаго ўзросту: ім па васемнаццаць-дваццаць год. Нам пашанцавала быць разам. Хутка зразумеем адна адну, пасябруем, і праца пойдзе на лад.

Кантора нашага ўчастка ў маленькай будачцы з дошак. Хоць не сціхае завіруха, у будачцы вельмі цёпла. Можа таму і назвалі яе «пячуркай». Тырчыць яна ў сумётах, што пачарнелі ад заводскага пылу. Цёплым, белым, як пара, дымам дыхае ўвесь дзень комін і так вабіць да сябе. Але ж не пойдзеш туды, абы захацеў — трэба працаваць.

**18 студзеня.**

Дзяўчаты з брыгады, якой даручылі кіраваць мне, усё больш і больш падабаюцца. За тыдзень пазнаёміліся як след. Амаль ва ўсіх сярэдняя адукацыя. Маруся Барысенка, Рая Трыфанкова, Оля Пятнікава і Галя Мушкетава прыйшлі на будоўлю пасля дзесяцігодкі. Папрацуюць, а праз год будуць паступаць вучыцца ў інстытут. Аб гэтым мару і я. А пакуль...

Цяжка капаць катлаваны. Зямля змёрзлася на камень. Можна разбіваць толькі ломам. Часам лом звініць, нібы стукаецца не аб зямлю, а аб другое жалеза. Дзяўчаты стамляюцца. Чаму на будоўлі няма экскаватара? Лом гнецца, рукі стынуць. Але што гэта — песімізм? Яго не павінна быць.

**25 студзеня.**

Мінуў яшчэ тыдзень. Маразы даходзяць да 30 градусаў. Адзін дзень з раніцы аж 35 было. Уцяпляем толькі што ўкладзены ў канструкцыю першай апоры бетон. Барыс Антонавіч і бетоншчыкі непакояцца, ці паспее пры такім марозе схапіцца бетон, каб не пачаў потым крышыцца. Мы разумеем гэта і стараемся не падвесці бетоншчыкаў, уцяпляем апоры старанна з усіх бакоў.

**7 лютага.**

З работы прыбегла раней, чым заўсёды. На хаду перакусіла і зноў — да сваіх дзяўчат. Усёй брыгадай пайшлі на камсамольскі сход будоўлі.

Нашу будоўлю аб'явілі ўдарнай камсамольскай. Мы па-ўдарнаму тут жа выклікалі на сацыялістычнае спаборніцтва будаўнікоў Ваўкавыскага цэментнага завода. Арганізавалі на ўчастках ударныя камсамольскія пасты. Камсоргам першага паста выбралі мяне. Усё гэта так нечакана і так хвалюе. А падумаўшы, чаго хвалявацца? Побач Барыс Антонавіч, Раіса, Галка, Оля — усе такія цудоўныя людзі.

Сход ішоў цікава. Усе імкнуліся выступіць. Гаварылі аб самым галоўным: што блага забяспечваюць участак бетонам і арматурай, што няправільна ўлічваюць працу, што цэлымі месяцамі прагрэсіўку не выплачваюць.

**13 лютага.**

Пабываў у нашай «пячурцы» Уладзімір Кляусаў, сакратар райкома камсамола. Дзяўчаты паднялі такі крык, што аж сорамна крыху стала за іх... Чаму лекцыі не чытаюцца, макеты для «маланак» паабяцалі і не прысылаюць. Валодзя ледзь паспяваў апраўдвацца. Але сказаў правільна — самі больш за ўсіх і вінаватыя, бо не клапаціліся як след. Абяцаў памагчы.

А сёння, толькі сабраліся ў «пячурку» на абед, як расчыніліся дзверы і ў кажусе, абросшы снегам і інеем, увайшоў незнаёмы стараваты мужчына ў акулярах, на кіёк абапіраецца.

— Добры дзень, панове! — прывітаўся так.

І ўпершыню за ўвесь дзень мы шчыра засмяяліся замест адказу на гэтае «панове». Павесялела ў «пячурцы», і пайшла гамана. «Пан» у кажусе назваўся лектарам з райкома камсамола. Завуць яго Андрэй Аляксеевіч, прозвішча — Нікалаеў. Былы дырэктар сярэдняй школы, а цяпер пенсіянер. Скінуў свой кажух і пачаў гутарыць з намі аб культуры паводзін савецкага чалавека. Такая гутарка нам вельмі спадабалася. Дагаварыліся, што дружба ў нас будзе моцная.

Андрэй Аляксеевіч параіў нам арганізаваць сустрэчы з перадавікамі камбіната: Героем Сацыялістычнай Працы Магілёўцавым, Навумавым, Вырваю, Падабедам. Расказаў трохі пра іх. Усё гэта ветэраны прадпрыемства, калісьці



Побач са старым цэхам абпалу ўзняліся ўгару шыракаплечыя апоры, на якія ляжа новая цыліндрычная печ. Валя Дузенка, Люба Саўчанка і Ніна Бурмакова любуюцца вынікамі сваёй працы.



Андрэй Аляксеевіч Нікалаеў — пастаянны дарадчык Валі па пытаннях выхаваўчай работы ў брыгадзе.

і яны былі такімі ж будаўнікамі, стваралі яшчэ ў першую пяцігодку цэментны завод. Іван Раманавіч Вырва быў першым на заводзе экскаватаршчыкам. Дзесятага лістапада 1933 года ён падняў з кар'ера ў ваганетку першы коўш крэйды, паклаўшы тым самым пачатак вытворчасці беларускага цэменту. Ён жа навучыў сваёй прафесіі цэлую армію маладых тады рабочых: Івана Арэшкава, Пракопа Чугункова, Платона Якубенку, Панаса Шапчанку, Васіля Ту Вафу.

**26 лютага.**

Усе брыгады будаўнічага ўчастка прынялі сацыялістычныя абавязацельствы. Брыгада Валі Дузенка дала слова давесці выкананне месячнага плана да 125 працэнтаў.

«Узяў слова — стрымай яго». Гэты заклік стаў лозунгам дня. Арматуршчыкі з брыгады Міхаіла Трубецкага ўзялі самае высокае на ўчастку абавязацельства — план месяца выконваць на 180 працэнтаў. Але справа не ў гэтай лічбе. Трубецкі дамагаецца высокай культуры працы. Строга забараніў у рабочы час курыць, брыдка лаяцца, займацца чым-небудзь, што не мае адносін да працы. У кожнага рабочага сваё месца работы, але кожны лічыць сваім абавязкам дапамагаць таварышу. У апошнія дні аб'явілі вайну прастоям, эканомяць кожную хвіліну. Пры такой арганізацыі працы яны, безумоўна, выканаюць абавязацельства. Аж зайздрасць бярэ! Але гэта добрая, здаровая зайздрасць — яна ж прымушае рухацца наперад, даганяць перадавікоў.

**8 сакавіка.**

Міжнародны жаночы дзень, наша дзявочае свята. Яно прыйшло да нас з першымі промнямі сонца, з першым цяплом. Зрабілі перад вокнамі сваёй «пячуркі» Дошку гонару. Яна атрымалася яркая, прыгожая, прыемна і самому паглядзець, і людзям паказаць. На Дошцы фотаздымкі Трубецкага, Ерастава, Голадава, Мудрачэнкі. Сярод іх і мой фотаздымак. Прыемна, што таіць. Толькі чаму я адна з брыгады? Ні Раіскі, ні Марыйкі, ні Галкі побач са мною. Прыемна і разам з тым крыўдна. У абедзенны перапынак спынілася ля Дошкі, глядзела на свой фотаздымак і думала: «Ну як табе, Валька, не сорамна сядзець тут адной, без сваіх дзяўчат? Няўжо ты адна вывела сваю брыгаду ў перадавыя, дала ўсе 120 працэнтаў выпрацоўкі за месяц?» Атрымоўваецца ж так усё таму, што ў нас прынята выстаўляць у перадавыя толькі брыгадзіраў. А хіба Раіска ці Галка не змаглі б кіраваць брыгадаю?..

Многа было сёння гоману з-за бетону. Яго не хапае. Да абеду на апоры прывезлі толькі два кубаметры, памольнаму аддзяленню не далі зусім. Дзе прычына? У абедзенны перапынак бегала на бетонны вузел. Ля ўваходу ў цэх сустрэла маладога рабочага, і ў нас з ім адбылася не зусім прыемная гутарка.

— Дзе тут начальніка можна бачыць, — пытаюся. Ён гэтак ганарыста глядзіць на мяне, упёршыся ў сценку плячом, і пускае ўгару дым з папяроскі. Маўчыць. Я спыталася яшчэ раз.

— Якога табе начальніка, самага вялікага? — і зноў строіць сваю брыдкую ўхмылку. Але стараюся быць спакойнай.

— Мне начальніка бетоннага вузла.

— Гм-м... У нашага начальніка ты не адна, каб сядзець ды пільнаваць твайго прыходу. Мо' табе прапанаваць меншага начальніка, які намеснікам у галоўнага?..

Я маўчу, мне не хочацца гаварыць з гэтым грубіянам. Толькі, думаю, трэба давесці гутарку да канца.

— Дзе ж намеснік? — зноўку пытаюся.

Ён загасіў недакурак папяросы і, не хаваючы сваёй бязглуздай усмешкі, цэдзіць праз зубы:

— Прапаную сваю асобу. Машыніст бетонамяшалкі, часовы намнач...

Мне стала і смешна, і так балюча за гэтага зусім маладзенькага развязнага грубіяна, нават за сябе і сваіх сяброваК, што мы не заўсёды выхоўваем такіх вось маладых людзей. А часам і проста не звяртаем увагі на паводзіны чалавека.





**Іван Уладзіміравіч Бардоўскі даўно ўжо не працуе ў брыгадзе Валі Дудзенка. Але дзяўчаты так прывыклі да «свайго экскаватаршчыка», што дзеляцца з ім усімі сваімі навінамі вось так, як гэта зрабіла Ніна Васількова.**

Прайшла ў цэх, паглядзела, што там робіцца. Рабочыя сядзяць на гурбе пяску і кураць. Чую той самы здзеклівы голас:

— Сядайце з намі на перакур.

Але самі адразу, нібы па камандзе, падняліся, нехта крыкнуў: «Іван, уключай матор». Значыць яго завуць Іванам, простым, добрым імем. І гэты Іван так дражніў мяне ў дзвярах... Ён прайшоў паўз мяне да бетонамяшалкі, уключыў матор. Рабочыя сталі насыпаць у коўш цэмент і пясок. Неўзабаве з гарлавіны бетонамяшалкі паліўся раствор, і ўся злосць у мяне адлегла ад сэрца. Але ўвечары мы ўсё ж напісалі начальніку УНР аб непаладках з бетонам.

**13 сакавіка.**

Ура! У канторы вывесілі першую «маланку». Буйнымі літарамі ў ёй прозвішчы бетоншчыкаў з брыгады Івана Мудрачэнкі. Тут і Сімакоў, і Жаваранкаў, і Вараб'ёў. Учора яны на памольным аддзяленні залілі бетону ў два разы больш, чым трэба па норме. Вось што значыць забяспечыць участак бетонам!

**21 сакавіка.**

Сёння ў нас сапраўднае свята. У брыгадзе паявіўся свой экскаватар «Беларусь» і экскаватаршчык, першы ў нас мужчына. Праўда, не такі ўжо там і мужчына — малады вясёлы хлапчук, толькі што з тэхнічнага вучылішча. З ім мы яшчэ добра не знаёмыя, але нічога — пазнаёмімся. Працуе з душою, ледзь спраўляемся за ім следам зачышчаць катлаван.

За намі ў катлаван спускаюцца арматуршчыкі ставіць металічны каркас, услед ідуць цесляры — робяць апалубку. За цеслярамі бетоншчыкі ўкладваюць бетон, і вось ужо расце гатовая апора. Адна, другая... Ужо стаяць тры такія апоры, высокія, стромкія. Сёння з Галкаю забраліся на самы верх апалубкі першай апоры, з вышыні глядзелі на ўсю будоўлю. Якой прыгожай здалася адтуль зямля. Снег сышоў ужо і з дахаў, і з рыштаванняў, і з апалубачных шчытоў, толькі на зямлі ляжыць яшчэ ў калдобінах ды катлаванах — шэры, наздраваты. І ў які бок ні глянеш — усюды будаўніцтва. Ракочуць экскаватары, пад'ёмныя краны, арматурныя каркасы тырчаць угару. Галка маўчала-маўчала, потым і кажа неяк задумёна: «Сюды б на спатканне прыходзіць». Я адразу ёй: «З кім...» Яна закрыла твар рукамі і залілася вясёлым, шчаслівым смехам. Але так і не адказала.



Праз сіняе шкло Валя глядзіць у печ. Побач з ёю машыніст, Герой Сацыялістычнай Працы Іван Іванавіч Магілёўцаў.

Вось табе і Галка!..

**1 красавіка.**

Пад вечар з членамі камсамольскага паста Пятром Дземянцовым і Аняй Харчанкавай пайшлі ў рабочы інтэрнат пацікавіцца, як там наша моладзь адпачывае пасля работы. У пакоях нікога не было, амаль усе сабраліся ў клубе глядзець кінафільм «Балада пра салдата». Мы ўзрадаваліся, што надарыўся выпадак убачыць гэту даволі нашумеўшую кінабаладу. І вельмі задаволены, уражанне незвычайнае. Аляксей Скварцоў — які просты і жыццёвы вобраз. Зусім малады, неабстраляны хлапчук становіцца салдатам, бо так патрабуе Радзіма. Больш таго, Радзіма патрабуе ад яго быць героем, і ён становіцца ім. А Аляксей жа звычайны чалавек, якіх вельмі многа. Такіх Аляксеяў многа і на нашай будоўлі. Праўда, прывыкаюць яны не да гарматных выбухаў, а да мірнай стваральнай працы муляра, цесляра, арматуршчыка. Прывыкаюць, уцягваюцца ў работу, многае пазнаюць і становяцца сапраўднымі героямі.

Толькі мы не прывыклі гаварыць аб сабе добрыя словы. Магчыма, такая сціпласць залішняя, але такі ўжо наш характар.

**4 красавіка.**

Атрымліваецца і так: працуеш на сваім рабочым месцы, ведаеш свой маленькі катлаван, а больш нічога. А як важна нам, камсамольцам, ведаць усё, што робіцца навокал, на ўсіх участках, ва ўсіх брыгадах будоўлі. У тваім катлаване ўсё ў парадку, і думаеш, што ўсюды парадак. Аказваецца, будоўля не атрымлівае ад пастаўшчыкоў неабходнага будаўнічага матэрыялу, абсталявання пад мантаж. Гэта пагражае сарваць тэрміны здачы яе ў эксплуатацыю.

У райкоме камсамола, які з'ядноўваецца ў нас і штабам будоўлі, пісалі сігнал да ўсіх пастаўшчыкоў:

«Дарагія таварышы! Камсамольская будоўля другой чаргі цэментна-шыфернага камбіната знаходзіцца пад пагрозаю зрыву...

Магілёўскі завод жалезабетонных вырабаў сарваў выпуск зборнага жалезабетону для нас. Не дасланы нам жалезабетонныя канструкцыі і з Віцебска. Адсутнічае гравій — пастаўка аршанскага мехкар'ера № 3.

Камсамольцы і моладзь УНР-62 робяць сапраўдны подзвіг, выконваючы зменныя заданні на 115—130 працэнтаў. Гадавы план па аб'ектах камбіната яны абавязаліся выканаць да 20 снежня і пусціць другую чаргу камбіната раней тэрміну.

Камітэт камсамола УНР-62 і штаб камсамольскай будоўлі звяртаецца да ўсіх камсамольцаў і моладзі Магілёўскага завода жалезабетонных вырабаў, Віцебскага ДБК, аршанскага мехкар'ера з просьбай аказаць дапамогу ў ліквідацыі прастояў на камсамольскай будоўлі.

Штаб камсамольскай будоўлі».

А я б яшчэ дадала: «Вы не маеце права сарваць нашу будоўлю. Чуеце, не маеце права!»

**18 красавіка.**

З дзяўчатамі былі ў цэху памолу. Там пускалі новы цэментны млын. Сустрэліся з Іванам Іванавічам Магілёўцавым. Які ветлівы і цікавы чалавек. З выгляду ніколі не сказаў бы аб ім гэтага — маўклівы, нават, здаецца, крыху насуплены. А пачынае гаварыць — адразу мяняецца, становіцца зусім іначшы, душэўны. Расказваў нам аб рэканструкцыі старых вярчальных печаў, якая нядаўна прайшла ў цэху абпалу, потым павёў да сябе ў цэх паказваць клінкерныя печы. Усё роўна, — кажа, — час вольны выдаўся.

Ён гаварыў, як важна для машыніста вярчальнай печы навучыцца з першага погляду пазнаваць вільготнасць і хімічны склад сыравіны ў печы, тэмпературу ў ёй. Іван Іванавіч сказаў нам, што гэта вельмі проста. Трэба толькі пільна глядзець праз сіняе ахоўнае шкло ў маленькае акенца печы на ніжні бар'ер віхурнага полымя. Там усё аж кіпіць, слепіць вочы розпакаляровым святлом. Там хуткасць і сіла прыбою расплаўленай шламмасы такія вялікія, што чуцен дробны перастук клінкерных галовак. Па руху клінкеру можна бачыць, ці хапае ў печы жалезных і алюмініевых плаўняў, якая там тэмпература.

Глядзела я, глядзела праз сіняе ахоўнае шкло ў печ. Шукала той казачны бар'ер, па якому хацелася знайсці разгадку прафесіі машыніста...

— Ніякага бар'еру! — крычу, каб перасіліць страшэнны грукат.

— Глядзі, — чуецца голас Івана Іванавіча.

— Не бачу!..

— Глядзі!

І зноў нічога не бачу, акрамя суцэльнага мора агню, расплаўленай масы і цёмна-чырвоных галовак клінкеру. Усё гэта шырокім валам сунецца на мяне, падымаецца па сценках печы ўгару і адтуль абрынаецца буйным агністым дажджом. Але вось глянула на самы ніз акенца і, нарэшце, заўважыла там цёмны вір. Гэта і ёсць той самы бар'ер...

Заўважыўшы ў печы загадкавы бар'ер, я так і не разгадала яго. Для мяне ён застаўся сінявата-белым слупам агню. Толькі падумала, як усё ж такі цяжка абпальваць клінкер, і як гэта цікава, нават фантастычна. А колькі ведаў патрабуе ад чалавека і гэта прафесія каля печы! Не дарма печ завуць сэрцам усяго камбіната. А мне здаецца, што сэрца камбіната — гэта машыніст, сам Іван Іванавіч Магілёўцаў.

**30 красавіка.**

Вось і прыйшло любімае свята. Свята вясны, маладосці. Мне вельмі падабаецца першамайская дэманстрацыя за яе маляўнічасць, весялосць, за тое, што на ёй збіраецца так многа шчаслівых людзей. Заўтра са сваімі дзяўчатамі і я іду на дэманстрацыю. Яна будзе на цэнтральнай плошчы горада. Мы пойдзем з пераходным Чырвоным сцягам, які гэтымі днямі ўручылі нашаму ўчастку за перамогу ў сацыялістычным спаборніцтве.

**9 мая.**

У пятнаццаты раз адзначалі мы Дзень перамогі над фашысцкай



У парку імя 40-годдзя БССР у Крычаве ёсць свяшчэнны кавалачак зямлі...

Фота А. Дзітлава.

Германіяй. Святкавалі разам са сваімі гасцямі — масквічамі, пермічамі, мінчанамі, магіляўчанамі. Адусюль з'ехаліся ў Крычаў на свята дэлегацыі, каб ускласці вясновыя кветкі і вянкі на брацкія могілкі.

У парку імя 40-годдзя БССР у Крычаве ёсць свяшчэнны кавалачак зямлі. Пад свежай кронаю маладых, пасаджаных пасля вайны дрэў стаіць бронзавая скульптура савецкага салдата, які схіліў непакрытую галаву перад памяццю тых, што аддалі сваё жыццё за наша сённяшняе светлае шчасце. «Тут пахаваны героі Вялікай Айчыннай вайны выдатныя савецкія артысты Лузенін Генадзь Паўлавіч і Акаёмаў Аляксандр Іванавіч, лейтэнант Кулішаў Мікалай Пятровіч і іншыя змагары за вызваленне нашай Радзімы», — напісана на металічнай пліце, што ўмуравана ў надмагільны камень.

Вясною на брацкіх могілках ярка цвітуць раннія кветкі, вырашчаныя крычаўцамі. Побач ляглі ўплеценыя ў вянкі кветкі, якія прывезлі работнікі мастацтва з Масквы, рабочыя пермскага металургічнага завода (там да вайны працаваў Генадзь Лузенін), мінчане, рабочыя Магілёва, сваякі і сябры загінуўшых. Разам з вянкамі людзі прынеслі на могілкі сваю вечную любоў да мужных сумайчыннікаў, герояў супраціўлення фашызму.

І калі цяпер, праз пятнаццаць год з дня перамогі над гітлераўскай Германіяй, на збудаваную ў цэнтры горада эстраду выйшла студэнтка Маскоўскай кансерваторыі і заспявала любімую песню Акаёмава «Арлёнак», я прыгадала тое, што не аднойчы чула ад крычаўскіх старажылаў...

Вось тут, на тэрыторыі цэментна-шыфернага камбіната, дзе мы сёння працуем, быў лагер смерці. Гэты невялічкі кавалачак маёй роднай Беларусі фашысты ў тры рады абвілі калючым дротам, абставілі злавеснымі вежамі, каля якіх панавязвалі аўчарак. Усіх палонных размяшчалі ў так званым рабочым лагеры пад адкрытым небам. Гэта быў самы страшны сектар агульнага лагера. Удзень вязні павінны былі працаваць, уночы, знясіленыя голадам і катаваннямі, чакаць смерці.

Дожджык размыў зямлю, ушчэнт прамачыў лёгкую вопратку на змучаных непасільнай працаю і пабоямі людскіх спінах. Вязні выбіралі месца, дзе сушэй, ляжалі на халоднай восеньскай зямлі, ляжалі шчыльным жывым памостам, дзелячы цяпло свайго цела з суседам.

У гэтай цемені і мокрадзі, калі здавалася, што няма той сілы, якая змагла б яшчэ ажывіць, абнадзеіць душу чалавека, адрадзіць у ім патрэбу жыць і змагацца, пачыналася раптам песня. Трагічна ўзнёслы голас узнімаў яе над сціхшым лагерам. Гэта спяваў чалавек, які ляжаў ніцма, ледзь уздрыгваючы ўсім целам. І ніхто ўжо не зводзіў з яго вачэй, прагна ўслухоўваючыся ў кожнае слова знаёмай песні, якая нібы з глыбіні зямных нетраў, разагрэтых цеплынёю сэрца гэтага чалавека, падымалася ўвысь:

Орленок, орленок блесни
оперением,
Собою затми белый свет,
Не хочется думать о смерти,
поверь мне,
В шестнадцать мальчишеских лет...

У начной цішыні сутаргава рассыпалася аўтаматная чарга, падняўшы за сабою брэх навязаных аўчарак. Секанулі паветра і скрыжаваліся на людскіх спінах промні пражэктараў, што стаялі на вежах. І тады, як бы па нейкаму нябачнаму і нячутнаму ўмоўнаму знаку, песню падхопліваў увесь рабочы лагер:

Орленок, орленок, идут эшелоны,
Победа борьбой решена,

# ЯГО ЖЫВЫ ВОБРАЗ

Ён не раз пераступаў парог гэтае майстэрні. Пасядзеўшы якую часіну перад скульптарам, даставаў недапісаны верш. З твару яго адразу знікала афіцыйная сур'ёзнасць, позірк цяплеў, загараўся і рабіўся такі праніклівы і відушчы, што, здавалася, у ім свеціцца ўся шырокая, як свет, Коласава душа.

Нейкі час яны працавалі моўчкі: Якуб Колас на момант задумваўся, а потым нешта занатоўваў у запісной кніжцы сваім дробным, прыгожым, як у стараннага настаўніка, почыркам, а Заір Ісакавіч Азгур, употай любуючыся гэтым нястомным чалавекам, імкнуўся ўвасобіць у скульптуры яго жывы воблік.

Калі работа ў Коласа ладзілася, ён неяк увачавідкі весялеў, жвавеў, рабіўся гаваркі.

— Ведаеш, пра што я часта думаю,— звяртаўся ён да Заіра Ісакавіча.— Мастаку зусім няма патрэбы выдумляць герояў. Іх многа ў жыцці. Толькі трэба ўмець бачыць...

Сустрэчы з Коласам прынеслі Заіру Ісакавічу шмат прыемных хвілін. Перад ім раскрыўся і глыбока запаланіў духоўны свет Коласа-мастака. Захапленне багаццем гэтага свету ён імкнуўся ўкласці ў сваю работу—бюст народнага паэта.

Заір Ісакавіч марыў пра новыя сустрэчы з Якубам Коласам, пра новыя цікавыя работы.

Але наступная сустрэча была горкая: на сконе лета 1956 года яму давялося здымаць з Якуба Коласа пасмяротную маску.

Мусіць ужо тады, калі звыклыя пальцы паслухмяна вылеплівалі з падатлівага гіпсу рысы дарагога твару, у сэрцы скульптара нарадзілася неадольнае жаданне сілаю свайго мастацтва ўваскрасіць да другога, даўжэйшага жыцця жывы воблік чалавека, чыё імя стала гордасцю ўсяго савецкага народа.

І вось сёння ў майстэрні народнага мастака Беларусі Заіра Ісакавіча Азгура мы зноў сустракаемся з Якубам Коласам. Ён сядзіць на вялікім камені ў глыбокай задуме, і яго жывы позірк, здаецца, глядзіць вам проста ў душу.

— На маю думку,—гаворыць Заір Ісакавіч,—Колас гэта найярчэйшы выразнік народнай душы. Гэта голас народа, розум народа, яго гарачае, шчырае сэрца...

Як жа скульптар увасобіў гэтую думку ў жывую плоць мастацкага твора?

Помнік задуманы цікава. Збудаваны з граніту і бронзы, ён падымецца на сем метраў над вадаёмам, абсаджаным зелянінай і кветкамі. На гранітнай яго аснове побач з фігурай Коласа з чатырох бакоў стануць бронзавыя кампазіцыі: Сымон Музыка і Ганна, дзед Талаш і юны разведчык. Яны ўвасабляюць сабою народ, які ўдыхнуў сваю жывую душу ў неўміручыя творы Коласа.

— І яшчэ мне хацелася б, калі ўжо будзе вада—то каб быў і бусел. А што?.. Гэта часцінка нашай жывой прыроды і, калі хочаце,—нацыянальнага каларыту. Я пакуль не вырашыў канчаткова, але думаю пра гэта...

Яшчэ і яшчэ раз успамінаюцца Заіру Ісакавічу Коласавы словы: «...Мастаку няма патрэбы выдумляць сваіх герояў...». Пільным вокам прыглядаецца ён да свайго твора: ці не выдуманыя яго героі? Здаецца, не... Ён уклаў у іх шмат сваёй душы. Асабліва ў фігуры Коласа і Сымона Музыкі. Ды і ці магло быць інакш... Колас яму дарагі не толькі як вялікі мастак, але і як чалавек вялікага сэрца. Гэта ён шчасліва сустрэўся некалі на шляху таленавітага хлопчыка з беднай яўрэйскай сям'і і памог яму развіць гэты талент. Заір Ісакавіч і цяпер не забыў, на чые грошы ён вучыўся ў Ленінградскім мастацкім інстытуце імя Рэпіна. Ды і потым, пакуль малады скульптар стаў на ногі, ён часта пасля сустрэчы з Коласам знаходзіў у сваіх кішэнях знакі коласавага шчырага клопату ў выглядзе якое паўсотні... Колас ведаў, якім нялёгкім бывае пачатак самастойнага шляху.

Ці ж не тая гэта гісторыя Сымона Музыкі, толькі ў сваім лепшым варыянце... Пасля гэтага не прыходзіцца здзіўляцца, калі ў скульптурнай кампазіцыі Заіра Ісакавіча Азгура, прысвечанай народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу, знаходзіш шмат асабістага.

На макеце помніка стаіць дата: «1961 год». Заір Ісакавіч думае закончыць работу над помнікам у будучым годзе, а ўстановяць яго на самай людной плошчы Мінска, якая носіць імя народнага паэта.

**Вера ПАЛТАРАН.**



**Аляксандр Іваноў** нарадзіўся ў 1929 годзе ў Мінску. Юнаком пайшоў працаваць на завод слесарам-інструментальшчыкам, а пасля паступіў у Мінскае мастацкае вучылішча. У 1954 годзе паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў сёлета, абараніўшы дыпломную работу — карціну «Будаўнікі». Малады мастак працуе цяпер выкладчыкам мастацкага вучылішча ў Мінску.

У власти орлиной орлят миллионы
И нами гордится страна.

Упершыню ў краіне гэтую вядомую песню савецкага кампазітара Белага праспяваў саліст Усесаюзнага радыё Аляксандр Іванавіч Акаёмаў. Цяпер, прыпаўшы ўсім целам да зямлі, Акаёмаў спяваў «Арлёнка» ў фашысцкім палоне, узнімаючы на змаганне ўвесь лагер.

Аб падпольнай групе Акаёмава — Лузеніна добра ведаюць крычаўцы. (Генадзь Паўлавіч Лузенін — сябра Акаёмава па мастацтву і зброі. Да таго часу, як ісці разам з Акаёмавым у маскоўскае народнае апалчэнне, ён працаваў дырыжорам хору пры кансерваторыі). Група пачала дзейнічаць у хуткім часе пасля той трывожнай ночы з «Арлёнкам», калі палонныя, мажліва ўпершыню, так востра адчулі неабходнасць змагання. Фактычна не фашысцкае камандаванне, а падпольная група Акаёмава — Лузеніна кіравала «аднаўленнем» завода. Смелая рука падпольшчыкаў адчувалася ў кожным цэху. Выходзілі са строю шаравыя млыны, агрэгаты электрастанцыі, абсталяванне цэха абпалу. Асабліва вялікія дыверсіі адна за другой адбыліся ў механічным цэху, які быў цэнтрам усіх рамонтных работ на заводзе. Надоўга было спынена аднаўленне ўсяго завода.

Узімку 1941 — 1942 гадоў па нядзелях немцы дазвалялі вязням хадзіць у гарадскую царкву. Выходзілі з лагера і Акаёмаў з Лузеніным. Але яны ішлі не ў царкву, а ў маленькую хатку гасцінных сувязных Праскоўі Якаўлеўны і Іосіфа Анісімавіча Казловых (яны і цяпер жывуць па Камсамольскай вуліцы). Тут была іх штаб-кватэра.

Да Казловых прыходзілі палонныя ўрачы Аляксей Пятровіч Макараў, Сямён Васільевіч Алтаеў, Уладзімір Геаргардавіч Дубінскі, Сяргей Рыгоравіч Часціхін, Аляксандр Фролавіч Курчатаў, савецкі вучоны-гісторык Павел Аляксеевіч Дзмітрыеў і іншыя патрыёты — вязні лагера. У добрых і мужных Казловых іх чакаў гасцінна накрыты стол, на якім шыпеў самавар, свежым парам дыхала звараная бульба. Гэтыя вечары былі і для гасцей і для гаспадароў вялікім святам. Абменьваліся апошнімі навінамі. Лузенін і Акаёмаў перадавалі сябрам для распаўсюджвання на заводзе зводкі Саўінфармбюро, прыём якіх быў арганізаваны па радыё.

Так ішло ўсё аж да наступнай зімы, калі 12 лютага 1943 года Акаёмаў і Лузенін былі арыштаваны і расстраляны ля вёскі Прудок. Перад смерцю Акаёмаў зноў спяваў «Арлёнка».

Я не магу забыць расказанае. Перад вачыма — абнесены калючым дротам лагер, там патрыёты спяваюць «Арлёнка» і нібы зноў гучаць словы «Не хочацца думаць аб смерці, павер мне...»

Няўжо гэта было тут, дзе мы цяпер працуем, спяваем, спрачаемся і... успамінаем іх, герояў-вязняў.

**10 мая.**

Толькі ўчора зрабіла чарговы запіс. А сёння зноў рука пацягнулася да алоўка.

Увесь свет даведаўся аб злачынстве амерыканскага самалёта-шпіёна. На нашым участку быў мітынг. Выступалі Ерастаў, Сімакоў, Голадаў. Рабочыя ганьбяць шпіёнскую палітыку амерыканскага ўрада. Асабліва крыўдна нам, будаўнікам. Няўжо мы будуем для таго, каб нехта разбураў? Ёсць жа яшчэ на свеце такія людзі, у якіх адна мэта — разбураць. Але мы будзем рабіць сваё — будаваць, каб у краіне было больш цэменту, каб савецкія людзі мелі яшчэ большыя магчымасці будаваць, будаваць, будаваць...

**25 мая.**

З работы ішлі сёння з Марусяй і ўсю дарогу марылі пра будучыню. Якой яна будзе?

Маруся мерыцца ісці ў дзесяты клас вячэрняй школы, хоць мае ўжо атэстат за дзесяцігодку. Хоча добра падрыхтавацца, каб напэўна паступіць у інстытут. У які — яшчэ канчаткова не выбрала, але вучыцца будзе па сваёй спецыяльнасці, на будаўніка. А як мне быць? Можа ў Мінскі політэхнічны інстытут на будаўнічы факультэт, а мо' ў інжынерна-будаўнічы ў Маскву ці Ленінград?.. Ведаю пакуль што толькі адно — вучыцца абавязкова буду.

*А што, калі б нам у брыгадзе* правесці такую гутарку — «Мой заўтрашні дзень» або «Куды мне пайсці вучыцца?» Прапаную дзяўчатам, што яны на гэта скажуць.

**10 чэрвеня.**

Як рэдка бяруся апошні час за дзённік. І сёння пішу праз два тыдні плюс два дні. Часу няма? Трэба знаходзіць.

Насустрач ліпеньскаму Пленуму ЦК КПСС прынялі новыя сацыялістычныя абавязацельствы — закончыць і здаць пад мантаж печы першую нітку апор. Працую з дзяўчатамі на ўстаноўцы ў цэху памолу новага сушыльнага барабана. Гэта такая махіна, што мантыруюць яе пад адкрытым небам. Раўняем пад барабанам зямлю і брукуем — укладваем камень, шчэбень, заліваем бетонам.

**2 ліпеня.**

Які цудоўны ў Раіскі голас! Такая яна сціплая, ціхманая — хоць бы калі для нас праспявала. Нават і не ведалі, што працуем з «артысткаю». Акрамя Раіскі, з нашай брыгады ў харавую самадзейнасць запісаліся Оля, Галка, абедзве Марыйкі. Рыхтуем самадзейны канцэрт да Дня будаўніка.

На спеўках сустрэла свайго даўняга знаёмага Івана, з якім у нас на бетонным вузле была адзіная і такая непрыемная сустрэча (аб ёй я пісала ўжо ў дзённіку). І вось цяпер ён падышоў да мяне ветлівы, зусім не падобны на таго ранейшага злоснага грубіяна. Папрасіў прабачэння за колішнюю грубасць:

— Не ведаў я, — кажа, што вы на суседнім участку камсамольскім сакратаром.

— А пры чым тут маё сакратарства? — пытаюся. — Наогул трэба памятаць, што існуе на свеце ветлівасць, абавязак для чалавека быць культурным.

Мы разышліся — ён пайшоў на спеўку, а я дамоў. Мне кінулася ў вочы, што Іван не толькі набыў неабходную чалавеку ветлівасць, але пазбавіўся былых вульгарных манер, нават позірк ягоны стаў людскім, без развязнага падміргвання. Відаць, сябры ўзялі хлопца ў рукі, стаў чалавек мяняцца. Нават у хор пайшоў. Цікава б паглядзець, як ён цяпер працуе на сваёй бетонамяшалцы.

Мяняецца чалавек. Калі ўважліва да нашага жыцця прыглядацца, бачыш, як чысцеюць людскія душы, святлеюць іх позіркі і думкі, лепшымі становяцца адносіны паміж рабочымі. Вось падышоў чалавек і просіць прабачэння за зробленае калісьці глупства. Значыць, хоць крышку, але разумнейшы стаў. Ды хіба расці чалавек можа толькі ад глупства да свядомасці, ад хамства да ветлівасці? Галка ж і Раіска ў першыя дні нашай сумеснай работы на ўчастку былі сціплымі і старannымі. Але і яны ж на вачах растуць, становяцца лепшымі. Залішнюю сціпласць памянялі на актыўнасць,



**Вечар... Валя праглядвае старонкі свайго дзённіка.**

на тую смелую актыўнасць, калі любая грамадская справа становіцца тваёй кроўнай і ўсюды табе рупіць дапамагчы, сказаць сваё добрае слова. А выхаваная змалку стараннасць дазваляе ім усё змагчы. І кожны член нашага калектыву вось так расце.

Толькі што чытала апавяданне Мікалая Грыбачова «Хто памрэ сёння»... Пра аднаго са сваіх герояў ён піша: «У ім была закладзена тая спружына, якая спачатку дзейнічае непрыкметна, а потым выкідвае чалавека далёка ўперад, і ўсе здзіўляюцца: Ну хто б падумаў?» А мне здаецца, што адна такая спружына ёсць у чалавеку, а другая ў калектыве. Апошняя нават мацнейшая і дзейнічае на кожнага, хто ў калектыве.

**11 ліпеня.**

Надвор'е спякотнае. З раніцы да вечара прыходзіцца пампаваць ваду на жалезабетонныя апоры, баімся, каб пад такім сонцам яны не пасыпаліся, бо бетон свежы, нядаўна пакладзен у апалубку і яшчэ не схапіўся, як кажуць будаўнікі, не набыў патрэбнай трываласці. Сёння Барыс Антонавіч сказаў, каб мы атрымалі ў канторы нарад капаць катлаваны пад другую вярчальную печ.

Зою і Галку рыхтуем у камсамол. Толькі што прыйшла ад іх — чыталі яшчэ раз Статут ВЛКСМ, гутарылі на бягучыя тэмы. Як толькі яны атрымаюць камсамольскія білеты, наша брыгада стане поўнасцю камсамольскай. Адзінаццаць дзяўчат у брыгадзе, і ўсе камсамолкі. Хораша!

**16 ліпеня.**

Усё ж якая радасць быць будаўніком, будаваць. Як радасна працаваць на адной з самых пачэсных будоўляў рэспублікі — на ўдарнай камсамольскай. Хутка на апоры, зробленыя і маімі, і тваімі, сябар, рукамі, — будуць устаноўлены клінкерныя печы. Пабудуем цэх памолу, шламбасейн, склады, а потым, нарэшце, можа і сам Іван Іванавіч Магілёўцаў падыдзе да нас і, усміхаючыся, скажа:

— Ну, дзяўчаты, на камбінаце ваша песенька спета. — І, развітаўшыся, палезе лесвіцаю якраз на тую апору, дзе мы з Галкаю не так даўно любаваліся будаўніцтвам.

Вядома, калі ён так і скажа, дык хіба толькі дзеля жарту. Але ўсё ж...

Як цяжка будзе пакідаць будоўлю — нашу песню, якую спявалі мы на поўны голас, шчыра. Дык можа застацца на камбінаце? Можа навучыцца рабіць цэмент? Майстар па цэменту! Як хораша гучыць... Ну, што я такое думаю. Я будаўнік і так люблю сваю прафесію. Хіба менш пачэсна забудоўваць зямлю, рассыпаць па ёй свае песні? І галоўнае — ніколі не будзе праспявана наша песня, яна не мае канца, як не мае канца само жыццё.

Гэта не апошні запіс у дзённіку Валянціны. Але першы сшытак дзённіка дапісан да самай вокладкі.

Вось такая Валя Дузенка, светлавокі і светлавалосы важак камсамольцаў першага будаўнічага ўчастка камбіната, аб якой ўжо многа месяцаў ходзіць сярод цэментнікаў і будаўнікоў добрая слава. Вось такія яе сябры і сяброўкі — Раіса, Галя, дзве Марынкі, Міхаіл Трубецкі. У жыцці ім выпаў іншы лёс, чымся Аляксею Скварцову, яны прывыкаюць не да гарматных выбухаў, а да грукату навейшай будаўнічай тэхнікі.

Калі ў зале новага ў Крычаве кінатэатра праходзіў урачысты пленум райкома камсамола, прысвечаны светлай і радаснай даце — 40-годдзю ЛКСМ Беларусі, першы сакратар райкома партыі назваў Валянціну Дузенка сярод лепшых будаўнікоў цэментна-шыфернага камбіната. Валянціна сядзела ў зале. Яна ўбачыла, як многа-многа твараў павярнулася да яе, і раптам загарэлася ад радасці, а мо' яшчэ і ад звычайнай разгубленасці, не ведаючы, куды пакласці рукі, куды падзець хусцінку, што здалася ў тую хвіліну лішняю пад рукамі. Усе, хто тут прысутнічаў, зразумелі, што гэта сціплая дзяўчына, якая зараз, не падымаючы вачэй, разгублена камячыла ў руках хусцінку, варта самага цёплага слова падзякі.





# НАШ ДАРАГІ ДРУГ

## Да 60-годдзя Аляксандра Пракофьева

Проста не верыцца, што нашаму дарагому другу Аляксандру Пракоф'еву, якога мы проста, па-сяброўску завём Саша, — ужо шэсцьдзесят. Вельмі імклíва бяжыць час, і гэта так. Здаецца, зусім нядаўна, гэта было ў 1930 годзе, мы, маладыя беларускія паэты, а цяпер і самі ўжо даволі пажылыя людзі, з захапленнем чыталі вершаваныя зборнікі Пракоф'ева «Полдень» і «Улица Красных Зорь». Памятаю, што, сабраўшыся недзе ў Мінску, на вуліцы Розы Люксембург, — Глебка, Лужанін, Хадыка і я па некалькі разоў перачытвалі «Шли над морем буревестники», «Товарищ», «Разговор по душам» і шмат якія другія рэчы.

Вершы Аляксандра Пракоф'ева адразу ўзялі нас за сэрца. Ён гаварыў аб тым, чым мы тады ўсе жылі, аб вялікай рамантыцы барацьбы за савецкую ўладу, аб грамадзянскай вайне. Мы адчулі ў яго вершах добрага старэйшага таварыша і друга. А яшчэ ён прыйшоў да нас як непаўторны, самабытны песняр любай яму Поўначы і прымусіў нас адразу палюбіць усім сэрцам сваю дарагую Ладагу. І песня А. Пракоф'ева тады назаўсёды і глыбока запала ў нашы душы. Радкі яго вершаў не трэба было завучваць, яны адразу ўрэзаліся ў памяць і ідуць са мною ўсё жыццё:

...Мы пили такую воду, которая
камень жгла.
Мы шли от предгорий к морю, —
нам вся страна отдана.
Мы ели сухую воблу, какой
не ел сатана!
Враги прокричали «Амба!»
«Полундра» сказали мы.
И вот провели эпоху
среди ненавистной тьмы.
Зелёные, синие, белые —
сходились друг другу в масть,
Но мы отстояли, товарищ,
нашу советскую власть».

Гэта аб героіцы грамадзянскай вайны. Пафас такіх радкоў не мог не хваляваць кожнага, хто ўдзельнічаў, а калі не ўдзельнічаў, дык бачыў, як

па краіне пераможна ішла Савецкая ўлада.

I побач вершы пра любімую Поўнач, у якіх так умела выкарыстоўваецца песенны, народны склад:

О Ладога-малина,
Малинова вода,
О Ладога, вели нам
Закинуть невода.

Так А. Пракоф'еў, як былы селянін-рыбак, вобразна гаварыў аб сваім прыходзе ў паэзію. I «невода» ў вялікія глыбіні паэзіі ён закінуў надзвычай удала. Пасля таго за многа год сваёй упартай і плённай паэтычнай працы ён прынёс у савецкую паэзію надзвычайна многа здабыткаў. У нашы дні цяжка ўявіць савецкую паэзію без Аляксандра Пракоф'ева — паэта вельмі яркага і самабытнага.

Многія з нас, беларускіх паэтаў, з'яўляюцца блізкімі яго сябрамі. Я ганаруся тым, што ўжо шмат год з'яўляюся другам нашага дарагога Сашы, якога і як паэта, і як вельмі сардэчнага таварыша нельга не любіць. У яго многа сяброў між літаратараў Савецкага Саюза, і не толькі між літаратараў.

Калі глядзіш на моцную, каржакаватую постаць А. Пракоф'ева, на яго твар, не надзелены прыгожымі рысамі, але вельмі абаяльны, калі ўглядаешся ў яго вочы, у якіх заўсёды свеціцца народная шчырасць і мудрасць, дык уяўляеш тых людзей, якія любяць суровую працу, якія пад гоман ладажскіх хваль складалі свае цудоўныя паўночныя песні, людзей, дастойным выразнікам дум якіх і стаў таленавіты паэт Аляксандр Пракоф'еў.

Я не пішу артыкула з разглядам творчасці паэта. Для гэтага мне трэба было б напісаць вельмі многа, бо вельмі многае я люблю ў ягонай паэзіі. Проста ў дні шасцідзесяцігоддзя сардэчнага друга мне хочацца сказаць аб ім хоць невялічкае слова. I, пішучы яго, я перш за ўсё хачу адзначыць, што з жыцця А. Пракоф'ева павінны браць прыклад многія і многія. У яго асобе шчасліва спалучаны дзве высокія якасці — паэта і грамадзяніна. У 1919 годзе дзевятнаццацігадовым юнаком ён уступае ў рады камуністычнай партыі. Як камуніст пазней ён прыйшоў у паэзію. I паэзія яго па-сапраўднаму партыйная.

У Аляксандра Пракоф'ева вялікі і складаны жыццёвы шлях. Ён ваяваў за радзіму ў гады грамадзянскай вайны, ён змагаўся з белафінамі на Карэльскім перашыйку, ён, як паэт і воін, мужна стаяў у гераічным Ленінградзе ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Так, Сашу Пракоф'еву ўжо нямала год. Але паэзія яго на дзіва маладая і на дзіва свежая. Зусім нядаўна ён надрукаваў цудоўныя цыклы лірычных вершаў, якім можа пазайздросціць шмат хто.

Многа сяброў у нашага дарагога друга. Аб гэтым гавораць шмат вершаў, перакладзеных ім з моў братніх народаў на рускую мову і якія змешчаны ў яго двухтомніку, што выйшаў не так даўно. Вельмі любілі яго нашы народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас. Не раз прыязджаў ён да нас у Беларусь, дзе жыве ў яго вельмі многа сяброў і прыхільнікаў. Пяшчотнай, сардэчнай любоўю напоўнены радкі Пракоф'ева аб Беларусі:

И счастлив я, что путь нашёл короче
К тебе тогда, среди родных полей,
Что надо мной твои сияют очи,
Как и России, матери моей.

I мы надзвычай моцна любім нашага дарагога друга Сашу Пракоф'ева як чалавека і як паэта і тую вялікую і слаўную рускую зямлю, якую ён так цудоўна ўславіў у сваіх неўміручых вершах.

Многа год табе жыцця і шчасця, наш дарагі дружа!

**Пятрусь БРОЎКА.**

# МОЛАДЗЬ ХОЧА ЖЫЦЬ У МІРЫ

Вясной 1945 года, калі замоўклі гарматы, у сэрцах мільёнаў людзей нарадзілася надзея на працяглы і трывалы мір. Людзі, перанёсшы за вайну нечалавечыя пакуты, жадалі жыць у дружбе. Яны не хацелі чуць свіст бомбаў, бачыць слёзы асірацелых дзяцей. Новай вайны не жадаў і салдат, што насмерць стаяў пад Сталінградам, і грэчаскі партызан, і французскі лётчык, і амерыканскі танкіст.

Але мір не прыходзіць сам, — ён заваёўваецца адзінствам і воляй сумленных людзей. Вось чаму для кожнага чалавека, які жадаў трывалага міру, было відавочна, што адзінства, народжанае ў барацьбе, патрэбна замацаваць на гады. Так пачалі стварацца рабочыя, жаночыя, юнацкія і студэнцкія сусветныя аб'яднанні — магутныя бар'еры супраць чорных сіл, якія трызнілі пра новыя войны. Так была створана і Сусветная федэрацыя дэмакратычнай моладзі.

Гэта было 29 кастрычніка 1945 года. Вялізную залу каралеўскага Альберт-хола ў Лондане запоўнілі рабочыя Манчэсцера і маракі Ліверпуля, студэнты Оксфарда і школьнікі Лондана, салдаты і афіцэры многіх краін. Сотні дэлегатаў і назіральнікаў, што прадстаўлялі больш 30 мільёнаў юнакоў і дзяўчат 63 краін, прыехалі на кангрэс, перад якім стаяла высакародная мэта: у імя захавання міру, у імя шчасця падрастаючага пакалення згуртаваць моладзь розных палітычных поглядаў, рэлігійных перакананняў, рас і нацый у адзіную магутную міжнародную арганізацыю.

Многія дэлегаты кангрэсу былі яшчэ ў вайсковай форме, ордэны і медалі на іх грудзях красамоўна сведчылі аб нядаўняй барацьбе з фашызмам.

«Мы прыехалі сюды, каб замацаваць перамогу, — заявіў з трыбуны кангрэсу італьянскі партызан. — Барацьба супраць фашызма навучыла нас многаму. Мы зразумелі галоўнае: калі мы разам — мы непераможныя».

Ва ўрачыстай цішыні на трыбуну падняўся пасланец далёкага вострава Трынідад, каб прачытаць клятву. Ён чытаў яе паволі, а дэлегаты — белыя, жоўтыя, чорныя — на ўсіх мовах паўтаралі:

«Клянёмся, што будзем захоўваць адзінства не толькі сёння, не толькі на гэтым тыдні, не толькі сёлета, але заўсёды...

Дадзім наша слова, што ўмелыя рукі, дапытлівы розум, маладзы энтузіязм ніколі больш не будзе служыць вайне...

Мы пабудуем свет, які будзе прыгожы і свабодны...»

Кангрэс працягваўся некалькі дзён і закончыўся буйнай перамогай — стварэннем Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі. 10 лістапада быў прыняты Статут СФДМ. З таго часу гэты дзень адзначаецца, як Сусветны дзень моладзі.

Прайшло пятнаццаць гадоў. Вырасла новае пакаленне. На карце свету паявіліся дзесяткі новых незалежных дзяржаў. Па новаму шляху пайшлі народы Індыі і Ін-

данезіі, Бірмы і Цэйлона, Ірака і Марока, Туніса, Ганы, Гвінеі, Кубы і многіх іншых краін. Невымерна вырасла за гэтыя гады магутнасць сацыялістычных краін і перш за ўсё магутнасць Савецкага Саюза. Рашуча змяніліся суадносіны сіл міру і вайны. Сілы міру растуць і мацнеюць з кожным днём. Савецкія людзі першыя запусцілі ў прасторы сусвету штучныя спадарожнікі і касмічныя караблі, пабудавалі атамныя электрастанцыі, першыя прапанавалі свету ўсеагульнае і поўнае раззбраенне. Позіркі ўсіх народаў звернуты цяпер да Савецкага Саюза.

За гэтыя гады вырасла і ўмацавалася Сусветная федэрацыя дэмакратычнай моладзі. Цяпер у яе радах аб'яднана 87 мільёнаў юнакоў і дзяўчат 94 краін. Федэрацыя нямала зрабіла для таго, каб яшчэ больш зблізіць юнакоў і дзяўчат розных краін.

З гэтай мэтай па ініцыятыве федэрацыі і Міжнароднага саюза студэнтаў было праведзена сем грандыёзных сусветных фестываляў, у якіх прыняла ўдзел моладзь многіх краін. Фестывалі дапамагаюць маладым людзям лепш зразумець адзін аднаго, умацаваць дружбу і супрацоўніцтва.

Разнастайныя формы дзейнасці федэрацыі: фестывалі, масавыя кампаніі ў абарону міру, сустрэчы, семінары, абмен дэлегацыямі, перапіска, выстаўкі, конкурсы падпарадкаваны адной мэце — умацаванню міру на зямлі.

У 1959 годзе, адразу пасля VII Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў, у Празе адбылася V Асамблея членскіх арганізацый СФДМ. На ёй абмяркоўваліся пытанні барацьбы за мір і нацыянальную незалежнасць, эканамічныя, сацыяльныя і культурныя праблемы, якія хвалююць моладзь. Пасля Пражскай асамблеі намнога вырас аўтарытэт федэрацыі ў Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы, дзе ў ходзе барацьбы народаў за поўную нацыянальную незалежнасць бурна развіваецца дэмакратычны антыкаланіяльны, антыімперыялістычны рух моладзі.

Сусветная федэрацыя дэмакратычнай моладзі ў барацьбе за міжнароднае супрацоўніцтва, за мір і дружбу паміж моладдзю заўсёды сустракала поўную падтрымку савецкай моладзі. На Пражскай асамблеі савецкая дэлегацыя выступіла з прапановай правесці ў Маскве летам 1961 года Сусветны форум моладзі, каб абмеркаваць праблемы, што хвалююць маладое пакаленне другой паловы XX стагоддзя.

Якія ж гэта праблемы?

У міжнародным маладзёжным руху дзейнічаюць цяпер тысячы арганізацый самых розных напрамкаў. Гэтыя арганізацыі маюць свае праграмы, ставяць перад сабой розныя мэты і задачы. Яно і зразумела, бо дзейнасць такіх арганізацый адлюстроўвае інтарэсы шматлікіх колаў і груп моладзі. Гэтыя інтарэсы асобных колаў і груп з'яўляюцца спецыфічнымі. Але, апрача вузкіх, спецыфічных інтарэсаў, у сучаснага маладога пакалення ёсць многа агульных праблем. Гэта перш за ўсё праблема вайны і міру. Хвалююць моладзь і праблемы сацыяльна-эканамічных і палітычных правоў, нацыянальнай незалежнасці народаў. Многія юнакі і дзяўчаты разумеюць, што вырашыць гэтыя праблемы можна толькі сумеснымі намаганнямі. Для гэтага прадстаўнікам самых розных аб'яднанняў і варта сабрацца разам, каб на роўных умовах, у абстаноўцы шырокай і свабоднай дыскусіі абмеркаваць хвалюючыя пытанні. Такім вялікім сходам і павінен з'явіцца Сусветны форум моладзі.

Сёлета ў верасні ў Маскве па ініцыятыве савецкай камісіі Форума было склікана ўстаноўчае пасяджэнне Міжнароднага камітэта Сусветнага форума моладзі. На ім было вырашана склікаць Форум улетку 1961 года. Тэма Форума: «Моладзь сярэдзіны XX стагоддзя і яе праблемы».

Ідэя склікання Форума знайшла гарачую падтрымку грамадскасці ўсяго свету. У адрас савецкай ініцыятыўнай камісіі Форума і Камітэта маладзёжных арганізацый СССР з усіх кантынентаў паступаюць водгукі. Пішуць людзі, што прытрымліваюцца самых розных поглядаў і пераконанняў.

Пабло Неруда, чылійскі пісьменнік, дэпутат парламента:

«Сусветны форум моладзі — гэта іменна тое, што трэба цяпер усім маладым людзям зямлі: за адным сталом сумесна вызначыць тыя дарогі, па якіх трэба ісці ў будучыню — да адзінства, да дружбы, да міру».

Махбуб Джунаедзі, прэзідэнт Асацыяцыі мусульманскіх студэнтаў Інданезіі:

«Я шлю найлепшыя пажаданні поспеху ў ажыццяўленні вашай ініцыятывы ў інтарэсах моладзі ўсяго свету.

Я і мая арганізацыя жадаем вам самых лепшых умоў і перспектыў у справе правядзення Форума моладзі ў наступным годзе».

Дж. С. А. Стэфенс, старшыня Савета моладзі Ганы:

«Нам здаюцца вельмі прыймальнымі ўсе пытанні, якія вы ўзнялі, і я ўпэўнены, што Форум дасць моладзі свету магчымасць рэалістычна абмеркаваць свае праблемы. Моладзь, безумоўна, павінна адыграць сваю ролю ў развіцці міжнароднага ўзаемаразумення і ўмацавання міру ва ўсім свеце».

Хорхе Саламеа, калумбійскі пісьменнік:

«Для Лацінскай Амерыкі і ўсіх слабаразвітых краін Форум у Маскве прадстаўляе асаблівую цікавасць, бо прыклад Савецкага Саюза паказаў, што няма зброі больш магутнай для стварэння нового свету, чым адукацыя і культура».

З такімі заявамі выступілі дзесяткі разнастайных арганізацый. Яны гавораць за тое, што ідэя Форума ўсхвалявала шырокія масы моладзі ва ўсіх кутках свету.

Савецкія маладзёжныя арганізацыі, уся савецкая моладзь, верная свайму інтэрнацыянальнаму абавязку, робяць усё, каб Форум з'явіўся карысным укладам у вырашэнне праблем, што хвалююць маладых сучаснікаў.

Актыўны ўдзел у міжнародным маладзёжным руху прымае і беларуская моладзь. Камітэт маладзёжных арганізацый БССР атрымлівае шмат пісем ад юнакоў і дзяўчат розных краін. Маладыя рабочыя, спецыялісты розных галін навукі і тэхнікі, студэнты рэспублікі перапісваюцца з моладдзю Індыі і Кубы, В'етнама і Канады, Англіі і Нарвегіі, ЗША і Францыі... У рэспубліцы створаны клубы інтэрнацыянальнай дружбы. У іх праводзяцца вечары, наладжваюцца выстаўкі. Многія беларускія юнакі і дзяўчаты пабылі па турысцкіх пуцёўках у Францыі, Англіі, Аўстрыі, Італіі.

Беларуская моладзь куе мір на фабрыках і заводах, на калгасных палях, у аўдыторыях інстытутаў і тэхнікумаў. Яна добра ведае, што магутнасць савецкай краіны — залог трывалага міру. Яна верыць і цвёрда перакэнана ў тым, што мір на зямлі будзе заваяваны.

**Галіна ЖУКОВІЧ,**
**адказны сакратар Камітэта маладзёжных арганізацый БССР.**

„Маладосць" вядзе рэпартаж...



# Каб задаволены быў чалавек

Фота А. ДЗІТЛАВА
Тэкст У. МІХАЛЮКА

Кожнаму, хто заходзіць у магазін «Дзіцячае адзенне», што на самым пачатку вуліцы Якуба Коласа ў Мінску, кідаецца ў вочы і багацце тавараў (яно тут не малое—тысячы назваў!), і ласкавасць, ветлівасць, добразычлівасць, з якой сустракаюць тут дзяцей і дарослых, мінчан і прыезджых.

У крыху цеснаватай гандлёвай зале (гэта віна тых, хто будаваў!) не так ужо і шмат святла, асабліва ў пахмурны восеньскі дзень. Але вы гэтага не заўважаеце, бо тут гаспадарыць сама маладосць. Вы падыходзіце да аднаго-другога прадаўца, якія прапануюць вам распашонку для немаўляткі, паліто для дашкольніка ці прыгожую сукенку для старшакласніцы. Іскрыстым святлом вачэй, радаснай усмешкай, шчырым імкненнем памагчы чалавеку сустракаюць вас дзяўчаты, апранутыя ў васількова з белымі каўнерыкамі халацікі: Каця Смольнік, Таіса Захарава, Тамара Дубовік, Тамара Раўгейша, Клава Медушэўская (здымак уверсе) і другія.

Дружны, згуртаваны малады калектыў гандлёвых работнікаў працуе ў гэтым магазіне. Калі Усесаюзны Ленінскі камсамол адзначаў сваё 40-годдзе, «Белунівермаг» адкрыў новы спецыялізаваны магазін і ў гонар свята маладосці назваў яго камсамольска-маладзёжным.

Адкрыццё магазіна супала з пачаткам у нашай краіне вялікага спаборніцтва працоўных калектываў за права называцца камуністычнымі. Быстракрылай ластаўкай прыляцела вестка аб высакародным пачыне маскоўскіх чыгуначнікаў і сюды, у гэты невялічкі (усяго 30 чалавек) калектыў.

— Неяк нас запрасілі на раённы камсамольскі актыў,—успамінае загадчыца секцыі швейных тавараў Ніна Кучынская (на здымку яна злева).—Гаворка там ішла пра тое, як маладыя будаўнікі камунізма на прадпрыемствах і будоўлях краіны, калгасных фермах пачыналі змаганне за тое, каб жыць і працаваць па-камуністычнаму. Гэтай ідэяй узгарэліся і мы, хоць крыху і сумнявáліся, бо мы ж не стваралі ніякіх матэрыяльных каштоўнасцей, як рабочыя на фабрыках. Якімі ж паказчыкамі мы будзем вымяраць сваё спаборніцтва? Параіліся са старэйшымі таварышамі-камуністамі. Тыя падтрымалі нас. І вось на сходзе мы ўрачыста ўзялі на сябе абавязацельства: дамагчыся высокай культуры абслугоўвання кожнага, хто заходзіць у наш магазін. Так у спрэчках нарадзіўся той асноўны паказальнік, змагаючыся за які мы перавыконваем план тавараабароту, укараняем новыя метады гандлю, павышаем свае прафесіянальныя веды, выхоўваем высокія густы і прыкладныя паводзіны на працы і пасля яе.

Мінулі два гады—гады нястрымнага імкнення працаваць і жыць па новых, больш высокіх маральных нормах. Да слаўнага юбілею беларускага камсамола званне калектыву камуністычнай працы было прысвоена секцыі швейных вырабаў, якой загадвае Ніна Кучынская, і секцыі трыкатажных тавараў, дзе загадчыцай Зінаіда Пруднікава.

Як жа працуюць сёння тыя, хто заваяваў гэтае высокае званне? У чым змест камуністычнай працы на такім, здавалася б, звычайным участку нашага жыцця, як гандаль?

* * *

Тавар, як кажуць, паказваецца лепшым бокам. У магазіне нічога не схавана ад пакупніка—тут гандлююць пасавецку: усё пакладзена на прылаўкі або падвешана на стойках. Бяры, прымярай, выбірай тое адзінае, што падыходзіць табе.

Рабочы дзень магазіна пачынаецца задоўга да таго, як адчыняюцца яго дзверы. І пачынаецца ён у падсобных памяшканнях. Загадчыцы секцый разам з таваразнаўцам Галінай Скарабагатавай адбіраюць патрэбны тавар, каб папоўніць запасы ў гандлёвай зале.

— Кожная сукеначка, паліто ці гарнітурчык павінны мець таварны выгляд, тады яны адразу спадабаюцца пакупніку,—гаворыць прадаўшчыца Галіна Юркевіч (на здымку яна справа), атрымаўшы ад Нэлі Панарад (злева) акурат-



на адпрасаваную сукенку. Цяпер за прас узялася прадаўшчыца Галіна Белаглазава:

— Папрацуеш лішнюю гадзіну на падрыхтоўцы тавару, але ж затое прыемнай і спорнай будзе асноўная праца, хутчэй пойдзе гандаль.

Часам пачуеш, што прадаўцом можа быць той, хто ўмее добра лічыць. Гэта не зусім правільнае меркаванне. На жаль, яшчэ ёсць у нас работнікі гандлю, якія лічаць, што не яны існуюць для пакупніка, а пакупнік жыве дзеля таго, каб памагаць магазінам выконваць план тавараабароту. Аб такіх адносінах да пакупніка ў гэткіх магазінах сведчаць кнігі скаргаў і прапаноў, у якіх бачыш больш наракання, чым хвалы.

Не так глядзяць на пакупніка ў магазіне «Дзіцячае адзенне». Тут усё робіцца, каб служыць чалавеку, каб выпытаць у яго меркаванне адносна рэчаў, якія прадаюцца, і, абагуліўшы гэтыя



меркаванні, зрабіць свае прапановы фабрыкам, што пастаўляюць тавары.

— Трэба шчыра прызнацца, што калі б усе магазіны адмовіліся ад устарэлага прынцыпу «абы збыць, абы план» і дружным фронтам пачалі наступ на збытавыя арганізацыі, мы не мелі б больш справы ні з дэфіцытнымі таварамі, ні з затаваранымі лішкамі,—гаворыць дырэктар магазіна Людміла Міхайлаўна Аляксеенка.

Людміла Міхайлаўна—спрактыкаваны спецыяліст савецкага гандлю. Дзесяць з лішнім год таму назад пачала яна свой працоўны шлях вучаніцай на прадаўшчыцу. Працавала і вучылася завочна. Калі адкрывалі гэты магазін, ёй даверылі сабраць маладзёжны калектыў, бо ведалі, што яна здолее ўзняць яго на высакародныя справы.

Дырэктара часцей за ўсё сустрэнеш там, дзе ідзе ажыўлены гандаль — ля прылаўкаў і стоек. Яна ў час прыйдзе на дапамогу прадаўцу, цярпліва выслухае пакупніка, параіцца з адным-другім, а пасля пачне ўжо турбаваць базу, кіраўніцтва «Белунівермага», а часцей за ўсё фабрыкі-пастаўшчыкі.

— Не паспелі адправіць назад у Віцебск партыю дэмісезонных паліто, якіх прыслалі ў два разы больш, чым заказалі, як новая бяда навалілася, — абураецца Людміла Міхайлаўна (на здымку справа), склікаўшы «пяціхвілінку» на гэты раз перад люстэркам прымерачнай. У нарадзе прыймаюць удзел (злева направа) загадчыца секцыі Зінаіда Пруднікава, таваразнавец Галіна Скарабагатава і прадавец Рэгіна Пячкоўская. — Вы толькі гляньце, да чаго дадумаліся,—прадаўжае абурацца дырэктар, — рабіць паліто для дзяўчынак з тканіны шэра-зялёнага колеру, ды яшчэ з сівым каўнярам! Гэта ж для старых і то...



Вырашылі сігналізаваць у Магілёў, на фабрыку імя Валадарскага...

А ў кнізе прапаноў ужо новыя заўвагі—і ўсё ў адрас тых, хто шые ці вяжа: «Такі фасон быў бы добры для сарафана з паркалю, а не шарсцянога», «Дарэмна думаюць, што на вёсцы не любяць світароў светлых колераў»... Пішуць рабочыя, хатнія гаспадыні, калгаснікі, дэпутаты гарсавета. І ніводная слушная прапанова не мінае тых, каго яна датычыць.

* * *

Дзесяць гадзін раніцы. Адчыніліся дзверы, і залу запоўнілі першыя пакупнікі.

Як заўсёды, іх найбольш каля прылаўка з таварамі для нованароджаных. Сюды падыходзіць і малады, яшчэ неспрактыкаваны ў сямейных пытаннях тата, каб выбраць першае адзенне свайму першаму дзіцяці, і пажылая ўжо жанчына, якая, збіраючыся ў адведзіны да сваёй знаёмай-парадзіхі, доўга выбірае падарунак. Кожнаму трэба дагадзіць, параіць, падказаць, а некаторых і пераканаць. І як умела робіць гэта Тамара Жыляніна!

— Вам кашульку на два месяцы? У нас крыху большая.

— А не ведаеце, дзе можна знайсці меньшанькія?

— Навошта вам траціць час на пошукі. Гэтую ж можна разрэзаць да нізу, абмятаць, і яна падыдзе і на два, і на тры, і на чатыры месяцы... Зойме гэта ў вас паўгадзіны... А то будзеце шукаць і ці дастанеце яшчэ такую мякенькую, далікатненькую...

І васемнаццацігадовая дзяўчына, якая не пеланала яшчэ ніводнага дзіцяці, пераканала ў два разы старэйшую за сябе пакупніцу.

Тамара прыйшла ў магазін пасля дзесяцігодкі. Працуе крыху больш, чым год,—а ўжо стала майстрам свае справы.

Яна адна за прылаўкам. Прапануе тавар і не аднаму, а адразу некалькім пакупнікам, каб не было чаргі, але ніколі не пачуеш ад яе грубага: «Вы ж бачыце, я занятая!» Спрытна падлічвае суму пакупкі, бярэ грошы, хутка выбівае касавым апаратам чэк, гасіць яго і, увішна загарнуўшы пакунак, падае пакупку з традыцыйным пажаданнем: «Хай носіць на здароўе!»

Глядзіш на Тамару Жыляніну і здаецца, што яна нарадзілася прадаўшчыцай.

Так. Гэта яе прызванне. І яна замацоўвае яго сваім імкненнем да ведаў. Мінуў год пасля заканчэння сярэдняй школы, а Тамара ўжо студэнтка. Удзень—за прылаўкам, а ўвечары — у аўдыторыі Інстытута народнай гаспадаркі.



— Цяжка?

— Вядома, цяжка,—адказвае Тамара.—Але калі ясна бачыш мэту наперадзе і адчуваеш падтрымку сяброў, цяжкасці адступаюць. А мы ўсе дапамагаем адзін аднаму і на рабоце, і пасля работы.

Сапраўды — таварыская ўзаемадапамога адчуваецца ў гэтым калектыве на кожным кроку. Захварэла прыбіральшчыца—дзяўчаты самі прыбіраюць магазін; не спраўляецца прасавальшчыца са сваімі абавязкамі—прадаўшчыцы ёй на дапамогу; не хапае паперы для загортвання пакупак—дзяўчаты мігам збегаюць на паліграфкамбінат і прынясуць адтуль «зрывы»; прыбывае кантэйнер з новымі таварамі—на разгрузку ідуць усе: вольныя работнікі прылаўка, кантралёры, загадчыкі секцый, таваразнаўца, дырэктар...

Узаемадапамога, таварыскасць, узаемны давер — вось тыя сродкі, якія дапамагаюць «навенькай» за месяц-два стаць прадаўцом, а прадаўцу—асвоіць работу кантралёра... Узаемадапамога тут у пашане і пасля работы: у хатніх справах, у вучобе. Кантралёр Вера Арабей (на здымку яна злева) сёлета заканчвае вучобу ў інстытуце народнай гаспадаркі. Яна з вялікай ахвотай памагае першакурсніцы Тамары Жыляніна разабрацца ў складаных задачах матэматычнага аналізу.

* * *

«Памагчы чалавеку» — гэтым залатым правілам можна коратка вызначыць змест дзейнасці кожнага, хто працуе ў магазіне. І калі той ці іншы наведвальнік выходзіць з магазіна без пакупкі, дык ён выносіць адсюль задавальненне гасціннасцю, ветлівасцю прадаўцоў, якія шчыра пацікавіліся наваг самым маленькім яго клопатам.

...Вось-вось разгуляецца зіма. Тата прывёў двухгадовую Раечку, каб падабраць ёй што-небудзь цёплае і прыгожае. Прадаўшчыца цярпліва прымярае ёй ужо трэцяе паліто.

— Ну, вось. Гэта на цябе і пашыта,—задаволена гаворыць прадаўшчыца. — Мама не пазнае Раечку ў новым паліто.

А Раечка толькі здзіўлена пазірае то на тату, то на добрую цёцю Кацю, якая зрабіла ёй такі прыгожы «падарунак» (гл. здымак).

Колькі іх—гаварлівых і сур'ёзных, плаксівых і вясёлых — сустракае і праводзіць за дзень Каця Смольнік! І кожнага трэба ўмець забавіць, пакуль іншая занадта патрабавальная маці не перабярэ аж дзесятак паліто, каб спыніцца потым на адным. Трэба ўлічыць настрой кожнага пакупніка, улавіць з першага пытання яго характар, каб не ўзгарэлася часам непатрэбная спрэчка. Прадавец павінен быць у пэўнай ступені пазнавальнікам душы чалавека. Адкуль усё гэта бярэцца? Ад любві да свайёй справы, ад увагі і павагі да чалавека.

Каця, як і ўсе дзяўчынкі, любіла гуляць з лялькамі, апранаць іх у прыгожыя ўборы. Можа тады і прабіўся першы парастак будучай прафесіі, схіль-



насць да якой не выявілі і не развілі ў школе. Пасля дзесяцігодкі Каця пайшла працаваць стрэлачніцай на трамвайнай лініі.

— Здаецца, і падабалася работа,—гаворыць Каця Смольнік,—але, бывала, як падумаю, што цэлы дзень людзі ў трамваях ездзяць усё міма цябе і загаварыць няма з кім, дык неяк сумна становіцца. Люблю ўвесь час з людзьмі быць. Вось і прыйшла ў магазін.

— Ну і як, задаволены?

— Вельмі нават. Прафесію прадаўца не памяняю ні на якую іншую.

...Побач з Кацяй працуе Клава Медушэўская — яна прадае паліто для дзяўчынак школьнага ўзросту. Школьнікі, вядома, больш цярплівыя да прымерак, але затое і больш патрабавальныя ў выбары адзення.

Прыйшла маці з першакласніцай Валяй. Падабралі паліто, здаецца, па густу, але рукавы аказаліся крыху даўгаватыя.

— Не буду такое насіць,—не слухаючы ўгавораў маці, бясконца паўтарае Валя і вось-вось расплачацца.

— У вас ёсць з паўгадзіны часу? — пытаецца Клава.

— Чаму ж не...

— Дык мы пойдзем з Валяй да нашай краўчыхі, і яна прывядзе ўсё да ладу.



І вось Валя ўжо ў распараджэнні краўчыхі Браніславы Казіміраўны Петрашкевіч (на здымку яна справа). Хуценька знята мерка, прыфастрыгавана «новая даўжыня» рукава.

— Так будзе добра, Валя?—пытаецца краўчыха ў «пакупніцы з характарам» і, атрымаўшы сцвярджальны адказ, робіць моцнае шво, акуратна адпрасоўвае яго і падае паліто прадаўшчыцы.

Клава другі год працуе ў магазіне. І яна прыйшла сюды пасля дзесяцігодкі. Больш правільна будзе сказаць—прыехала ў сталіцу з Гарадзішча, што на Брэстчыне. Зайшла ў аддзел па арганізаванаму найму рабочых—прапанавалі пайсці вучаніцай у магазін.

Клава, не думаючы доўга, згадзілася. Яна прыгадала, як дзяўчынкай заходзіла ў раймаг, і доўга назірала за работай прадаўшчыц. Любіла гуляць «у магазін» на двары з сяброўкамі.

— Гэта ж вельмі цікава—вывучаць чалавечыя густы і нават выхоўваць іх: старацца папраўляць тых, хто памыляецца, або пераконваць тых, хто ўпарціцца дзеля выдуманага ім самім прынцыпу, — гаворыць Клава пра сваю работу.

Трэба мець назіральнае вока і ўнутранае адчуванне прыгожага, каб «з ходу» вызначыць, які колер і фасон адзення найбольш падыходзіць да фігуры пакупніка, колеру яго вачэй, валасоў.

— Адзенне павінна ўпрыгожваць чалавека, падкрэсліваць у ім прыгожае і, наадварот, прыкрываць нязграбнае, — гэтым правілам карыстаецца прадаўшчыца трыкатажных вырабаў Яўгеня Шалапуха. Яна перабярэ з паўдзесятка камплектаў (гл. здымак на стар 127), але не дазволіць пакупніку пакінуць магазін з пустымі рукамі або сапсаваным настроем. Пастараецца ўсё падабраць па густу, па размеру, па цане.

* * *

Выхаванне густаў пакупнікоў, чулае стаўленне да іх патрабаванняў і слушных прапаноў стала абавязковым для кожнага прадаўца. Але ж каб выхоўваць іншых, трэба перш-на-перш быць выхаваным самому, увесь час імкнуцца да ўдасканалення сваіх ведаў, павышэння ўзроўню свайго агульнага развіцця, умацавання эстэтычных крытэрыяў.

Пра гэта клапоціцца кожны паасобку і ўсе разам. Гэтаму падпарадкавана ўсё грамадскае жыццё калектыву магазіна. Вольны ад работы час яны скарыстоўваюць вельмі разумна, адпачынак свой імкнуцца праводзіць разам і рабіць яго як мага больш змястоўным, мэтанакіраваным.

Ідзе паказ новых фасонаў і ўзораў у Рэспубліканскім доме мадэлей — і там сустрэнеш прадаўшчыц з магазіна № 8 «Дзіцячае адзенне».

Прэм'ера спектакля «Іркуцкая гісторыя» ў драматычным тэатры імя М. Горкага—цэлы рад у партэры займаюць дзяўчаты з магазіна № 8.

Новая экспазіцыя ў Мастацкім музеі або выстаўка работ якога-небудзь мастака ў салон-магазіне—і там яны.

Улетку дзяўчаты выязджаюць на прыроду, каб палюбавацца хараством беларускага бору ці воднай прасторай Мінскага мора—і гэта памагае паглыбленню эстэтычных густаў.

А што ўжо казаць пра новыя кінафільмы, новыя творы мастацкай літаратуры... Не толькі глядзяць, чытаюць, але і абмяркоўваюць іх, спрачаюцца...

Дарэчы будзе расказаць пра адну цікавую акалічнасць, якая лішні раз сведчыць аб шчырым, трывалым сяброўстве дзяўчат.

Летась у магазін паступіла вучаніцай Ванда Баранчык, якая скончыла бібліятэчны тэхнікум і не знайшла сабе работы па спецыяльнасці. Папрацавала паўгода прадаўшчыцай, а цяпер вярнулася да свае прафесіі—бібліятэкара. Ванда так здружылася з калектывам магазіна, што і не думае парываць гэтай дружбы. У бібліятэцы, дзе працуе Ванда, бяруць кнігі прадаўшчыцы з восьмага магазіна, а часам яна сама прыносіць сюды цікавыя навінкі, каб абмяняць іх на прачытаныя.

Праўду кажуць, што самая моцная дружба, калі яна выхавана і загартавана ў працы. Дзяўчаты з «камсамольска-маладзёжнага» жывуць дружна на рабоце і пасля яе, дружаць, не зважаючы на пасаду і розніцу ўзросту. Старэйшая ў калектыве бухгалтар Аўгусціна Іванаўна Абашава, якую ўсе дзяўчаты паважаюць і, як роднай маці, адкрываюць нават таямніцы свайго сэрца, «пасакрэту» паведаміла нам:



— Дзве дзяўчыны ў нас на выданні... Усім калектывам будзем спраўляць камсамольскае вяселле. Прыходзьце да нас, калі весяліцца любіце...

* * *

Можна было б расказаць яшчэ аб многіх сумленных працаўніках з калектыву, які пачаў нядаўна спаборніцтва за званне магазіна камуністычнай працы. У кожнага з іх свой лёс, свае шляхі да выбранай прафесіі, свае цяжкасці і радасці, свае норавы і звычкі, свае асабістыя жаданні і надзеі... Але ўсе яны ахоплены адной мэтай: каб здаволены быў чалавек у яго штодзённых клопатах. Працуючы, яны вучацца камунізму—вучацца паважаць чалавека.

# Разам працавалі—разам вучацца

Жыхарам нашай сталіцы няцяжка заўважыць, што кожную восень насельніцтва ў Мінску павялічваецца. Гэта прыязджаюць на вучобу студэнты.

З выглядам старажылаў ідуць па вуліцах горада старшакурснікі. Вачыма, поўнымі захаплення і цікаўнасці, угледаюцца ў чароўныя абрысы плошчаў і вуліц юнакі і дзяўчаты, кожны з якіх упершыню з поўным правам і зусім законнымі на гэта падставамі можа сказаць сабе: я — студэнт.

Яшчэ не апамятаўшыся пасля хваляванняў і перажыванняў на нядаўніх уступных экзаменах, яны па-новаму глядзяць на ўсё навакольнае і, відавочна, на саміх сябе. Бо для многіх з іх шлях да запаветнага інстытуцкага парога, як кажуць, не быў усыпан ружамі. І не кожнаму з іх, цяперашніх першакурснікаў, удалося пераступіць гэты парог з першага, а часам і з другога разу. Шлях ад школьнай парты да інстытуцкага стала для многіх гэтых маладых людзей пралёг праз шырокія калгасныя палі, прахадныя фабрык і заводаў у прамым і ў пераносным сэнсе гэтага слова. Там, сярод людзей працы, зрабілі яны першыя крокі да авалодання сваёй будучай спецыяльнасцю. Тым жа, хто на працягу двух, а хто на працягу і некалькіх гадоў, змаглі яны праверыць, ці прыйшлася выбраная спецыяльнасць па сэрцу. Гэта вельмі важна. Калі ў дадатак да атэстата юнак або дзяўчына атрымлівае накіраванне ў інстытут ад старэйшых таварышаў, ад свайго працоўнага калектыву — падставы для таго, каб стаць сапраўдным студэнтам, у іх самыя выдатныя. Падставы для радасці і для новых, студэнцкіх клопатаў — такія ж.

...У камітэце камсамола Беларускага політэхнічнага інстытута ў гэтыя вераснёўскія дні дзверы не зачыняюцца з раніцы да вечара. Да сакратара Генадзя Фамінова адзін за другім заходзяць то члены бюро, то камсоргі курсаў і груп. А ў перапынак, калі празвініць званок, тут поўна першакурснікаў. І ў кожнага амаль адно і тое ж пытанне:

— Як стаць на камсамольскі ўчот?

— Ці прыйшла мая ўчотная картка?

Генадзь Фаміноў, сам нядаўні выпускнік інстытута, ведае што да чаго. Адказы і парады дае кароткія, адной рукой папраўляе нейкія паперы на стале, другой амаль увесь час падымае тэлефонную трубку — звоняць з райкома, з гаркома, аб нечым пытаюць, за нешта, відаць, ушчуваюць, бо твар Фамінова час ад часу хмурнее.

Але вось хвіліна зацішша. Знаёмімся.

— Вас цікавяць нашы першакурснікі? Цудоўнае папаўненне! Вось глядзіце. — Ажывіўшыся, Генадзь разгортвае нумар інстытуцкай газеты «Савецкі інжынер»:— Чытайце, вось тут. «...На першы курс дзённага аддзялення ў гэтым годзе залічана 1 393 чалавекі. Большая палова прынятых — 711 чалавек — мае вытворчы стаж не менш 2 гадоў... Праз пяць гадоў яны вернуцца на родныя заводы інжынерамі...» — І, адклаўшы ўбок газету, дадае: — А калі хочаце пазнаёміцца, дык у нас нямала добрых хлопцаў і дзяўчат. У адной з груп, напрыклад, шмат ударнікаў камуністычнай працы. Яны і ў інстытуце першыя абавязаліся па-камуністычнаму адносіцца да вучобы...


Упэўнена і падрабязна тлумачыць хатняе заданне Валерыя Гаманчук.

* * *

...Камсорг чацвёртай групы Васіль Шчарбакоў коратка і крыху неахвотна расказвае пра сябе... У 1954 годзе закончыў сярэднюю школу, тры гады служыў у Арміі, 2 гады працаваў на заводзе слесарам-інструментальшчыкам у брыгадзе, якая змагалася за званне камуністычнай. І, нібы спахапіўшыся, працягвае:

— Ды не толькі мяне аднаго накіраваў наш завод на вучобу ў політэхнічны. Нас тут шэсць чалавек, усе ў адной групе...

...У шумлівым студэнцкім патоку, што запоўніў інстытуцкі калідор, Васіль Шчарбакоў знаёміў нас са сваімі таварышамі. З жоўтым баскетбольным мячом у руках вынырнуў нам насустрач Мікола Сітнікаў. Побач з ім — крыху ніжэйшы ростам Генадзь Кукалеў...

— Вось, знаёмцеся, з нашай групы, — прадставіў іх Васіль Шчарбакоў. — Зноў з мячом?..

— Ды сёння трэніроўка, хутка спаборніцтвы па баскетболу...

Пагутарыць нам перашкодзіў званок. І вось мы ў аўдыторыі. Раптоўная цішыня, якая настала пасля перапынку, здаецца нейкай урачыста-нязвыклай. Чутна толькі, як шастаюць старонкі новых сшыткаў-канспектаў.

Уваходзіць выкладчык вышэйшай матэматыкі Іван Цімафеевіч Чарноў. Лекцыя пачынаецца. Скажу шчыра, што вышэйшая матэматыка для мяне — цёмны лес. І ўсё ж з вялікім захапленнем сядзеў я на гэтай лекцыі. Трэба было бачыць, як лавілі студэнты, гэтыя ўчарашнія рабочыя, кожнае слова выкладчыка. Вось ля дошкі Валерыя Гаманчук. Упэўнена і падрабязна тлумачыць яна рашэнне хатняй задачы. Затым яе месца ля дошкі займае староста групы Барыс Жаранкоў. Гэтак жа ўпэўнена ён тлумачыць рашэнне другой задачы. Адзін за адным з месца на пытанні выкладчыка адказваюць іншыя студэнты.

Цікава і тое, што па новай тэме «Простая лінія» ўраўненні і формулы на дошцы выводзілі самі студэнты пры дапамозе Івана Цімафеевіча. Ужо ў адным гэтым адчуваецца ўпэўненасць і цвёрдае веданне прадмета. А вы ўлічыце, што ў кожнага, хто сядзеў у аўдыторыі, разрыў паміж дзесяцігодкай і інстытутам — некалькі гадоў. Пасля толькі, калі ў канцы лекцый мы проста і шчыра гутарылі са студэнтамі, Адам Буцько, накіраваны на вучобу заводам, прызнаўся, што яму і яго сябрам нялёгка дастаецца гэтая ўпэўненасць.

— Цяжка пакуль што, многае забылася, вучым спачатку. Разам вучым, усёй групай збіраемся і паўтараем. Свайго даб'ёмся — вынікі будуць добрыя. Залогам гэтаму служыць наша дружба, наша настойлівасць, бо мы першыя ў інстытуце рашылі змагацца за званне групы камуністычных адносін да вучобы і быту.

Вось яно, тое новае, што пераступіла інстытуцкі парог разам з гэтымі юнакамі і дзяўчатамі.


Васіль Шчарбакоў коратка і крыху неахвотна расказвае пра сябе.

Коратка расказваюць яны пра сябе. Усе амаль аднаго ўзросту, хоць розныя па характарах. Але іх яднае многае: усе яны, 26 студэнтаў, — камсамольцы. Усе яны прыйшлі на вучобу з вытворчасці, усе яны ведаюць цану працы, сілу калектыву.

Мы ўжо коратка гаварылі пра камсорга групы Васіля Шчарбакова. Тут жа, побач з ім, у аўдыторыі сядзіць яшчэ пяцёра яго землякоў. Разам працавалі — разам і вучыцца прыехалі.

Хочацца хоць некалькімі словамі расказаць пра кожнага з іх.

Мікола Сітнікаў, якога мы сустрэлі з баскетбольным мячом на калідоры ў час перапынку, працаваў на заводзе. Прыйшоў ён туды пасля дзесяцігодкі. Адзін год папрацаваў, затым служыў у Савецкай Арміі, дэмабілізаваўся і зноў— у родны заводскі калектыў. І вось пасля двухгадовай працы ён тут, у інстытуце.

— Баскетбаліст выдатны, — заканчвае за яго Генадзь Кукалеў.

Сам Генадзь таксама з той жа каму-



**Надзя Маханькова цяпер рэдактар насценнай газеты.**

ністычнай брыгады, з якой і Мікола. Мае два гады працоўнага стажу пасля дзесяцігодкі.

— Таксама баскетбаліст, — дадае ўжо на гэты раз Мікола.

— Ён і баяніст добры, — падхоплівае Марыя Ніканенка. Яна радасна ўсміхаецца: бачыце, маўляў, якія хлопцы з нашага завода!

У самой Марыі, гэтай невысокай дзяўчыны з сімпатычным тварам і ільнянымі валасамі, сабранымі ў тугі вузел, таксама ёсць працоўны стаж. Пасля тэхнікума яна тры гады працавала на заводзе.

— Працавала і рыхтавалася ў інстытут. Цяжкавата было, часам нават вельмі цяжка, але калі ў цябе ёсць пэўная мэта, тады і цяжкасці лягчэй пераадольваць, — заканчвае яна. — Нядаўна мяне членам рэдкалегіі выбралі. Зноў шмат клопатаў будзе.

Працавала на заводзе, вучылася ў тэхнікуме і зноў працавала два гады на заводзе і Марыіна сяброўка Надзя Маханькова.

— Нас усіх завод накіраваў на вучобу, нам і стыпендыі ўсім завод будзе плаціць, — гаворыць яна. — Таму і вучыцца мы будзем так, каб не было калектыву прадпрыемства сорамна за нас. А закончым вучобу, паедзем на свой завод, працай аддзякуем за клопаты.

Надзя змаўкае, папраўляе валасы, а нехта падкідвае жарт:

— Яна ў нас цяпер рэдактар насценнай газеты. Мы яе нават пабойваемся трошкі.

І яшчэ адна дзяўчына з брыгады камуністычнай працы — Галіна Кушчаняева.

— Яна ў мяне кансультант па замежнай мове, — зусім аўтарытэтна заяўляе староста групы Барыс Жаранкоў. І зноў вясёлае ажыўленне.

Мы толькі коратка расказалі аб гэтых шасці юнаках і дзяўчатах з аднаго завода — цяперашніх студэнтах-першакурсніках. А яны ў чацвёртай групе не адны такія. Многа добрага і цікавага можна было б напісаць і пра старасту групы Барыса Жаранкова, дэмабілізаванага з радоў Савецкага Флоту. І пра Люду Прудніковіч, сціплую дзяўчыну з Магілёва, ударніка камуністычнай працы, члена гаркома камсамола. І пра Міхаіла Шыльмана з Мінскага радыёзавода, які быў членам адной з першых у рэспубліцы брыгад камуністычнай працы. І пра Адама Буцько, электразваршчыка з абветраным бляявым тварам. Многае магла б сказаць пра сваіх сяброў з Мінскага радыёзавода былая мантажніца Аляксандра Пракудзіна.

Маладыя, прагныя да ведаў, ахвочыя да працы, людзі з добрай працоўнай загартоўкай, іменна яны першыя ў інстытуце змагаюцца за права быць групай камуністычных адносін да вучобы і быту.

... А было гэта так. У самым пачатку навучальнага года сабраліся камсамольцы групы на свой першы сход. Выбралі камсорга, выбралі членаў групавога бюро. Горача абмяркоўвалі пытанні вучобы, гаварылі аб падрыхтоўцы да 40-годдзя камсамола Беларусі. І тады слова ўзяла член камсамольскага бюро групы Люда Прудніковіч:

— Амаль усе мы прыйшлі ў інстытут з цэхаў завода, з лабараторый. Многія з нас заваявалі ганаровае званне ўдарнікаў камуністычнай працы, былі членамі камуністычных брыгад. І вось мы разлучыліся са сваімі сябрамі, са сваімі заводамі, з таварышамі па працы. Але ці захоча кожны з нас разлучыцца з тым ганаровым званнем, якое ён заваяваў сваёю добрасумленнай працай, сваімі рабочымі рукамі?

Стала ціха-ціха. І ў гэтыя хвіліны кожны з прысутных падумаў: «Не, не хачу... Не хачу разлучацца». І кожны, прыняўшы ў душы гэтае рашэнне, ужо лёгка ўздыхнуў. А сэрцы, здавалася, ва ўсіх забіліся як адно, вялікае — на ўсіх. І, напэўна, не хвалявалася гэтак ніколі Люда Прудніковіч, як тут, калі ўзяла слова на першым студэнцкім камсамольскім сходзе.

— Я раілася з Васілём Шчарбаковым, з Барысам Жаранковым, са сваімі сяброўкамі, — працягвала яна. — Мы можам, мы будзем змагацца за званне групы камуністычных адносін да вучобы і быту. І мы заваюем гэтае званне. Сваёй выдатнай вучобай заваюем...

Выступіў староста групы Барыс Жаранкоў, выступілі студэнты...

Горача падтрымаў пачын першакурснікаў член камсамольскага бюро інстытута Рыгор Казакоў. Тут жа, на сходзе, рашылі:



**Галіна Кушчаняева ніколі не адмаўляецца памагчы Барысу Жаранкову падрыхтаваць заданне па замежнай мове.**

«Змагацца за групу камуністычных адносін да вучобы і быту.

Усебакова ўдзельнічаць у жыцці факультэта і інстытута. Адпрацаваць кожнаму ў гэтым навучальным годзе на будаўніцтве інстытуцкага стадыёна 56 гадзін.

Рыхтавацца да інстытуцкай спартакіяды, зрабіць групу спартыўнай.

Кантраляваць, каб жылыя пакоі ў інтэрнаце ўтрымліваліся ў чысціні і парадку.

Стварыць дружны, згуртаваны калектыў, наладзіць узаемадапамогу ў падрыхтоўцы да заняткаў, калектыўныя наведванні кіно і тэатраў, праводзіць спартыўныя спаборніцтвы ў перадвыхадныя і выхадныя дні.

Заклікаем усіх студэнтаў інстытута ўзяць на сябе абавязацельствы па дастойнай сустрэчы 40-й гадавіны камсамола Беларусі.

Прынята на агульным сходзе групы».

А назаўтра ў прасторным вестыбюлі на самым людным месцы, там, дзе вывешваюцца аб'явы, быў вывешаны вялікі плакат-маланка: «Палымянае камсамольскае прывітанне студэнтам чацвёртай групы, якія ўступілі ў барацьбу за званне групы камуністычных адносін да вучобы і быту».

Вестка аб слаўным пачыне групы хутка разляцелася па інстытуту. Яго, гэты пачын, падхапілі іншыя першакурснікі. А ў чацвёртай групе пачаліся напружаныя дні вучобы.

І трэба бачыць, як карпатліва выконваюць рукі былых рабочых самы далікатны чарцёж на ўроках начартальнай геаметрыі, з якой увагай пішуць гэтыя рукі канспект па гісторыі СССР. Трэба чуць, як дакладна паўтараюць іх вусны цяжкае для вымаўлення англійскае слова...

**Сёння настала чарга мыць падлогу Міколаю Сітнікаву.**



...Непрыкметна бяжыць час. Будучым інжынерам трэба многае навярстаць, многае вучыць спачатку. Барыса Жаранкова з яго «кансультантам» Галінай Кушчаняевай вы можаце ўбачыць над падручнікам замежнай мовы. Тлумачыць нешта на ганку інстытута Адаму Буцько і Міхаілу Шыльману Людміла Пруднікoвіч.

А вось Марыя Ніканенка і Надзя Маханькова рыхтуюцца да заняткаў дома.

— У сваім доме, у інтэрнацкім пакоі, і вуглы памагаюць,— жартуюць дзяўчаты і паказваюць у кут, дзе размясціўся з важным, амаль прафесарскім выглядам велізарны плюшавы мішка, падарунак заводскіх сяброў у дзень нараджэння.

У адным з пунктаў пастановы сходу запісана: жылыя пакоі ў інтэрнаце трымаць у чысціні і парадку. У дзяўчат пакой чысты і ўтульны. Хлопцы ад іх не адстаюць. У пакоі № 33, дзе жывуць Васіль Шчарбакоў, Генадзь Кукалеў, Мікола Сітнікаў і Барыс Жаранкоў, утульнасць і чысціня дасягаецца самаабслугоўваннем.

— Практычна гэта робіцца так, — гаворыць Мікалай Сітнікаў, старанна шаруючы падлогу.

— Сягоння яго чарга... Старайся, браце... — жартуюць хлопцы.

У вольную хвіліну дастае свой запаветны баян Генадзь Кукалеў.

— Музыкальная паўза, — аб'яўляе ён сябрам. Адкладваюцца ўбок канспекты, і ціха гучыць задушэўная песня.



Валянцін Халецкі заканчвае свой першы чарцёж. А колькі іх наперадзе?

* * *

...Мы расставаліся з нашымі новымі знаёмымі ў тэатры імя Янкі Купалы, дзе яны калектыўна глядзелі спектакль.

— Такія паходы ў тэатр або ў кіно ўсёй групай мы робім часта, — гаворыць Васіль Шчарбакоў. — Гэта дапамагае вучобе, культурнаму развіццю. Пасля прагляду кінакарціны або спектакля часта спрачаемся, але гэта — на карысць...

Цяжка ў гэтым кароткім рэпартажы падрабязна расказаць аб студэнтах - першакурсніках нават адной групы політэхнічнага інстытута аб тых, хто з сёлетняга верасня сталі жыхарамі нашай сталіцы. Магчыма, вы калі-небудзь спаткаецеся з імі і яны самі лепш раскажуць пра сябе. Магчыма, гэтыя радкі прачытаюць іх таварышы па працы на заводах. Што ж, няхай ганарацца імі. Яны вартыя гэтага.

**У. НЯДЗВЕДСКІ.**

Фота А. ДЗІТЛАВА.

Вучоба ідзе не толькі ў аўдыторыях, але нават на ганку інстытута.



*З блакнота падарожніка*



У гарах Чэльцікчы.

ZaH

MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA

ІРЖЫ ГАНЗЕЛКА, МІРАСЛАЎ ЗІКМУНД

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### «Гэта ваша...»

Туркі — цікавы народ. І скажам проста, без доўгіх слоў, — мы палюбілі іх.

Для гэтага трэба было адкінуць нікому не патрэбнае страхоцце, якое самі турэцкія ўлады напускаюць на турыста ў выглядзе розных забарон. І яшчэ — пазбавіцца ад ужо закаснелых у мысленні заходнееўрапейскага чалавека ўяўленняў аб злых турчынах, якія з палашом у руцэ і кінжалам у зубах віхурай носяцца па вуліцах падпаленых вёсак і гарадоў і сякуць галовы хрысціянскім сабакам...

Такіх туркаў вы цяпер у Турцыі не знойдзеце. Затое сустрэнеце людзей гасцінных і добрасардэчных. Гасціннасць — іх галоўная ўласцівасць, якая неяк звязана і з ісламскімі традыцыямі, што прадпісвалі адчыняць для падарожніка дзверы дома насцеж. Знешняй праявай павагі да кожнага, хто заходзіць у дом, быў кубак кавы; але з той прычыны,

---

Працяг. Пачатак у №№ 5, 6 і 7.

што сёння ў краіне, якая спрадвеку славілася каваю, на такую раскошу няма грошай, знакам гасціннасці стаў чай. Вам прапануюць яго зусім чужыя людзі, ледзь толькі вы пачнеце з імі размову. Не кажучы ні слова, вам прынясуць яго ў пузатых, аздобленых малюнкам накшталт сплюшчаных васьмёрак шклянках на прылавак кнігарні, дзе вы капаецеся ў літаратуры. Вы атрымаеце яго ў цырульніка — каб вам не здоўжыўся час чакання. У любы час, днём і вечарам, вы ўбачыце на вуліцах, сярод прахожых, хлопцаў з меднымі падносамі, дзе пастаянна стаяць шклянкі — поўныя або пустыя, чай бесперапынку падносяць з чайных і прапануюць людзям, як таго патрабуе прыемны абавязак частавання. Там, дзе не па кішэні чай, гаспадар падасць госцю грушку, яблычак, гронку вінаграду...

Едучы з Ізміру ў Кушадасы, мы непадалёк ад Сальджука заўважылі толькі што зацвіўшы бавоўнік і спыніліся, каб зрабіць здымак. Агледзеўшы як след бавоўнік і параўнаўшы яго з аргенцінскім, егіпецкім і перуанскім, мы зграблі крыху зямлі і жменьку насыпалі ў ігелітавы мяшочак, як узор для бактэрыялагічнага аналізу ў пражскім біялагічным інстытуце. Раптам бачым: метраў за дваццаць ад нас, — адкуль ён толькі ўзяўся! — стаіць юнак са стрэльбай.

— Хлопцы, давайце ўсё гэта кінем, — прапанаваў нехта, — бо яшчэ застрэліць за гэтыя пяцьдзесят грамаў глебы. — Мы вярнуліся да машын. Нечакана юнак паклаў стрэльбу на зямлю і кінуўся праз канаву ў поле. Гэтага мы ўжо ніяк не маглі зразумець. Хто гэта — вартаўнік поля? Дык навошта ж ён сцеражэ бавоўнік, калі ён яшчэ толькі цвіце? І чаму ён уцёк? І дзеля чаго пакінуў нам стрэльбу? Але вось ён махае нам рукамі, заўважыўшы, што мы садзімся ў машыны, паднімае нешта з зямлі і бяжыць да шашы.

Ён прынёс два вялікія кавуны, сунуў па адным у кожную машыну, засмяяўся і жэстам далоні сказаў:

— Гэта ваша, будзьце здаровы! І вярнуўся да сваё стрэльбы. Ён сцярог кавуны.

### Усход?

Але туркі і ганарыстыя, нават фанабэрыстыя, — яны ганарацца сваім мінулым. Яны зусім не саромяцца сваіх збанкрутаваных султанаў, наадварот, на сценах побач з партрэтамі сваіх прэзідэнтаў Атацюрка і Іненю вешаюць выцвілыя, цьмяныя партрэты барадатых султанаў з фескамі на галаве, з падкручанымі вусамі, сярдзітымі вачыма — зусім такія, якіх мы палохаліся ў падручніках гісторыі. Султаны нагадваюць слаўнае мінулае, веліч імперыі, якую некалі абмывалі воды дзесяці мораў. Гэтая прыхільнасць да мінуўшчыны зусім не перашкаджае сённяшнім рэспубліканскім пераконанням.

Туркі — народ паслужлівы. Нават, можна сказаць, самаахвярны. Незлічоную колькасць разоў нас праводзілі незнаёмыя нам гіды; насуперак чаканням, яны не пачыналі гаворку пра бакшыш, адмаўляліся ад прапанаванай узнагароды. У Кушадасы мы памылкова з'ехалі з галоўнай праезджай вуліцы на бакавую вулачку, дзе якраз быў базар. Вяртацца назад азначала маруднае адчэпліванне прычэпаў. Гэтак жа хутка, як і мы, гэта зразумеў жвавы юнак, які нешта нам крыкнуў і пабег паперадзе машын. Ён расштурхваў натоўп людзей, адстаўляў бочкі і пустыя прылаўкі гандляроў, схапіў за рогі барана, які з тыповай барановай упартасцю цэліўся ў капот машыны, і, нарэшце, увесь мокры ад поту, падбегам вывеў нас на галоўную шашу. Потым памахаў нам, падаў руку ў акенца і з выразам поўнага задавальнення вымавіў сваё «ісмарляндык» — да пабачэння.



Калі выязджаеш у падарожжа па Усходу, дык неяк «па традыцыі» лічышся з тым, што ўвесь час будзеш абкружаны несумленнымі людзьмі, якія будуць старацца ашукаць цябе, перахітрыць, абвесці вакол пальца. Прычынай такіх уяўленняў з'яўляецца, з аднаго боку, галеча ў некаторых краінах Усходу, але ў значна большай меры — спецыфічны кірунак літаратуры і кіно, якія служыць патрэбам каланізатараў. Ну дык вось — Турцыя не адносіцца да Усходу нават геаграфічна.

Калі вы зойдзеце ў самую занядбаную лаканту — заезджы шынок, вам заўсёды без напамінку пададуць падрабязны рахунак. Калі ж гаспадар не ўмее пісаць (быў у нас і такі выпадак), дык пастараецца, каб рахунак напісаў хто-небудзь з гасцей.

У час падарожжа здараецца, што часам сёе-тое недзе згубіш. Напрыклад, забудзеш зубную шчотку, аловак, нават бывала, што і пра фотаапарат успомніш, калі *ўжо садзішся ў машыну. Але* заўсёды забытую рэч нам абавязкова вярталі.

У Бергаме за намі ўслед нечакана пабег адзін з гасцей чайной, размешчанай проста на тратуары. Ён заўважыў, што ў Мірака, калі ён круціў ручку кінаапарата, упала прыколатая да барта касцюма ружачка, якую яму хвіліну назад паднёс прадавец персікаў. Госць сам утыркнуў кветку ў разрэз барта і пайшоў назад, да свайго чаю.

### «Дык ужо замуж выходзіла...»

Ва Ургюпе нам сказалі, што недалёка ад горада мы можам убачыць туфавы небаскроб. У вёсцы Караін. «Колькі ж гэта кіламетраў?» «Цяжка сказаць, — разгублена круцілі галавой нашы субяседнікі. — Пяць. А можа дваццаць. Але вы там убачыце — за мастом направа збочвае вузкая дарожка. *Больш ніякай дарогі* направа няма».



І вось мы ў Караіне, крочым па плошчы. Да турыстаў тут, відаць, не прывыклі — не так, як ва Ургюпе або Герэме. Жанчыны баязліва хаваюць нават адзінае вока, якое выглядвае на белы свет з-пад чорнага пакрывала; палохаюцца коні, нават стаічныя аслы, якіх звычайна ніяк не абудзіш ад іх аслінай летаргіі, тут, у Караіне, шалеюць.

Сфатаграфаваць небаскроб у гэтую пару дня ўжо не ўдасца, яго ахуталі цені, сонца б'е якраз у аб'ектыў. Незадаволеныя вяртаемся да машын. Тут нас вітае купка жыхароў вёскі, сярод іх — год шаснаццаці дзяўчына, не па-турэцку сінявокая. Навучэнка, прыехала сюды з Ізміру на канікулы. Ведае нас, чытала пра нас у ізмірскім «Ені асір» («Новым веку»). Ці не быў бы так ласкавы ўрач экспедыцыі агледзець пацыентку, яе сваячку, перад домам якой мы якраз спыніліся?

Пабудаваны з бялюткіх туфавых пліт, дом выглядае прыветна; дворык чыста падмецены; сходкі вядуць у прасторны пакой, высцелены дыванамі. На сцяне —

гаршчок для вазонаў, з якога звісае светла-зялёная сцяблінка, пабач некалькі нажніц, каб стрыгчы авечак, у кутку кучка дзяружак — на іх спяць. Пад акном, на каменным падмурку, абкладзеным дзяружкамі і падушкамі, ляжала пажылая жанчына, побач з ёй сядзела маладзейшая, яе нявестка.

Не паспелі мы зняць абутак, як у пакоі сабраўся натоўп суседзяў, мужчыны — так, як прыйшлі з поля, жанчыны — у чорных накідках і захінутых на вуснах хустках. У вёсцы доктар, ды яшчэ замежны хакім, і, вядома, кожны хоча ведаць, што тут робіцца. Толькі ўрач трымаецца іншай думкі, ён тут не збіраецца наладжваць спектакль, а прыйшоў, каб агледзець хворых. Навучэнка паслужліва перакладае, мужчыны неахвотна выходзяць, шоргаючы нагамі, застаецца толькі некалькі жанчын.

Старая дазволіла сябе агледзець; расказала аб сваёй хваробе — яна зусім не можа есці, усё верне назад, ёй цісне тут, тут і часам тут, у баку.

— А вам крыху лепш, калі вы ясцё патроху ды часцей, ці не праўда?

— Эвет, эвет, — ківае ў знак згоды жанчына, пачуўшы турэцкі пераклад. Сядзіць яна, вельмі схуднелая, на каменным ложку, трымаючыся абедзвюма рукамі за жывот.

Цяжка даць добрую параду. Усё гаворыць за тое, што ў яе — язва страўніка. Пацыентцы патрэбен рэнтген, вы павінны завезці яе ў бальніцу ў Кайсар.

— Мы, відаць, адвязем яе ўжо ў Анкару, там лепшыя дактары...

Тут жа заявіла аб сабе другая пацыентка — нявестка. У яе аказаўся цяжкі парок сэрца. Ёй дваццаць сем год, у яе трое дзяцей. Яна нерашуча распранулася да пояса: зняла адну кофту, другую, трэцюю. Потым накінула чорную хустку на вусны, каб не парушыць старадаўняга звычаю. Адказы цэдзіць праз чорны фільтр.

— Так, трое дзяцей. Аднаму хлопцу — пяць год, другому — сем, дзяўчынцы — трынаццаць, — паказала на навучэнку, якая перакладала нам на англійскую мову. — Калі я была такой, як яна, дык ужо замуж выходзіла...

Мы памыліліся на тры гады, такой дарослай здавалася нам гэтая дзяўчынка. А яе маці, дваццацісямігадовай пацыентцы, якая ў гэты час старанна хавала рэцэпт, мы б далі сорак, а можа і ўсе сорак пяць.

Павольна ступаючы, правяла яна нас да дзвярэй, шчыра падзякавала за агляд і пажадала нам добрага здароўя.

І шчаслівай дарогі.

«Гюле, гюле...»

### Праз раку Аронт

Тэрыторыя, па якой мы цяпер едзем на поўдзень, на афіцыяльных сірыйскіх картах заштрыхавана як неаддзельная частка Сірыі.

Аднак мы едзем па Турцыі!

І едзем толькі так — ніякіх прыпынкаў, фотаапаратаў і бінокляў не даставаць...

На целе Турцыі гэтая тэрыторыя выглядае нейкім прысоскам, ён з'явіўся тады, калі целу было дзевятнаццаць год. Называецца ён александрэцкім санджакам або інакш — Гатаі. Гэтая вобласць належыць Сірыі, але ў чэрвені 1939 года французы, апекуны па мандату, зрабілі за кошт Сірыі галантны жэст у бок Турцыі — далі згоду на тое, каб Гатайская вобласць адышла да туркаў. Так Сірыя страціла свой адзіны порт Александрэту, або Іскендэрон, ёй засталася толькі вузенькая палоска на ўзбярэжжы Міжземнага мора, дзе не можа прыстаць ні адно колькі-небудзь значнае судна...



Сённяшні Іскендэрон ужо не цуд. Порт запусцеў. Ад колішняга багатага горада, адкуль караванны шлях вёў у Персію, Індыю і Кітай, у землі, вядомыя ўсходняй пышнасцю, дарагімі прыправамі, жэмчугам і слановай косцю, ад горада, дзе гэтыя скарбы перакладалі з вярблюдаў на купецкія караблі, застаўся закінуты ў паўночна-ўсходнім кутку Міжземнага мора правінцыяльны порт з пустымі складамі. Яго спаралізавала ў той дзень, калі над пірамідамі загучалі ўрачыстыя мелодыі «Аіды» Вердзі, калі па Суэцкім канале прайшоў карабель «Эгль», на палубе якога стаяла французская імператрыца Эжэні, а эскортам плыло семдзесят суднаў другіх народаў.

У Іскендэроне мы заўважылі толькі доўгія рады паўцыліндрычных будоўляў з хвалістай бляхі — казармаў, магілкі з надпісам пафранцузску ды яшчэ мноства маракоў у белым... А потым мы нечакана ўехалі ў горы, цудоўныя зялёныя горы.

За імі — гістарычная рака Аронт з маляўнічым горадам Гатаі, або Антакіяй, раскінутым на заходніх схілах. Гэта слаўная Антыяхія. Горад, першы камень якога паклаў генерал Селеўкас Нікадор, ад'ютант Аляксандра Македонскага, горад, у які не змаглі ўвайсці ні Цэзар, ні Аўгуст... Так, гэта вельмі слаўны горад, калі з-за яго разбівалі сабе галовы крыжаносцы, якія цягнуліся сюды і з сушы, і з мора, каб вырваць яго з рук мусульман. Тут многа гістарычных помнікаў, пачынаючы з каменнага маста Дзіяклецыяна на рацэ Аронт і канчаючы магілай Фрыдрыха Барбаросы... Але ні паглядзець, ні сфатаграфаваць не ўдаецца нічога — забаронена!

### Прарочы сон

Сёння Роберту прысніўся прарочы сон, нібы мы ўжо былі ў турэцкай мытніцы і ўсё абышлося толькі паблажлівым жэстам рукі.

— Ой-ой, не трэба было табе расказваць, ой, не трэба было гаварыць, бо будзе зусім наадварот. Вось каб табе прыснілася труна або пахаванне...

Ну, мытнікі, мусіць, хутка зробяць нас забабоннымі бабулямі, неставала яшчэ, каб мы запасліся соннікамі.

Дарога між тым зноў схавалася ў горы, сонца хіліцца ніжэй і ніжэй, хутка канец дня. Каля дарогі стаіць пастух з авечкамі, вось ён укленчыў, каб пакланіцца алаху, нават не азірнуўся на нас, заняты малітвай...

У мытніцы павінны перш за ўсё чакаць начальніка, бо ён пайшоў ужо спаць. Для нас адамкнулі канцылярыю на другім паверсе драўлянага будынка, запалілі святло. Чакаючы начальніка, мы можам удосталь налюбавацца яго канцылярыяй...

Але вось ідзе шэф мытніцы са сваім намеснікам. Праз дзесяць мінут усё было ўладжана, мімаходам, амаль сарамліва яны зірнулі ў машыны і — падаюць нам руку на развітанне.

— Гатова, можаце ехаць.

Яны яшчэ правялі нас кіламетраў пяць за мытніцу, да флагштока, на якім удзень палошчацца турэцкі сцяг. На левым баку шашы стаяў слуп з вялікім гербам Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі.

Калі машына, якая праводзіла нас, знікла ў цемры, мы ў адзін голас сказалі:

— Ну, з сённяшняга дня Роберт сапраўды прарок экспедыцыі!

### Чароўны край

Мы прачнуліся — дзень цудоўны, сонечны і ў дадатак да ўсяго святочны, нядзеля. Над прасекай, паабапал якой узвышаюцца стройныя сосны, узнімаецца гара, якую мы аб'язджалі ўчора ў цемры, гара з трыма назвамі. Рымля-



не яе называлі Монс Казіус, арабы — Джэбелі-Акра, па-турэцку яна завецца Цэбеліакра. Свяшчэнная гара хетаў і грэкаў, якія на яе вяршыні запальвалі ахвярныя агні.

Нам нават не хочацца верыць, што гэты чароўны край называецца Сірыя: ён зусім не падобны на пустыню, якую мы спадзяваліся ўбачыць. Наадварот, ён нібы выхваляецца перад намі сваімі зялёнымі шатамі, ганарыцца сваімі соснамі, букамі, дубамі. Выглядае ён сапраўды святочна, па-нядзельнаму.

Можа гэта яшчэ і таму, што мы як след выспаліся, сёння нам не трэба спяшацца і мы зноў можам выцягнуць з футаралаў фотаапараты.

Праз гадзіну мы саслізнулі з гор на прыморскую раўніну, і — эге! — нас пасля доўгай разлукі зноў прывіталі вярблюды. І зноў плюскатыя апунцыі з чырванаватымі сямянкамі. А крыху далей нас прывабіла поле, не, хутчэй сад, абгароджаны трысцём і добра абводнены. На градках зелянелі нейкія культурныя расліны, якія, на першы погляд, нагадвалі незвычайна высокі бавоўнік — але ж не, у гэтага зусім іншыя лісты! Струкаваты плод на смак акурат такі ж, як лепякі мальвы, якія мы, бывала, жавалі ў дзяцінстве. Ды і вялікая жаўтаватая кветка такая ж. Цудоўна, мы на правільным шляху, праз хвіліну гэта пацвярджае і «Спецыяльная батаніка» Байера: Hibiskus syriacus, сямейства мальвавых, плады ўжываюцца для салаты, ядуць іх і сырымі. У арабскіх краінах яшчэ называецца баміят.

Аднекуль з'явілася двое хлопчыкаў, яны стаяць за намі і з цікавасцю пазіраюць, як мы разглядваем hibiskus. Потым старэйшы працягнуў руку да бліжэйшага плода, адарваў, сунуў у рот і, прыцмокваючы, сказаў: «Бамія, бамія...»

І даў нам па плоду, каб і мы паспыталі.

### Угарыцкі красворд

Трэба ўлічыць, што непрыкметна мы перамясціліся ў вобласць, вядомую слаўным мінулым фінікійцаў. Так, на нашай карце адзначана назва Угарыт. Не даязджаючы некалькі кіламетраў да Латакіі, збочым направа, да мора.

Але паваротку мы празявалі. Аказваецца, дарога адыходзіць ад



Усюды на падарожнікаў пазіралі дзеці.



На вуліцах Артахісару.

галоўнай шашы пад вострым вуглом, ледзь бачны ўказальнік павернут да падарожнікаў, якія едуць сюды з боку Сірыі, а не з Турцыі. Трэба вяртацца...

Невялікая гара выглядае зусім сціпла. Узгорак і ўсё, — сказалі б вы. Злева на небасхіле мігаціць вузкая палоска мора, далёка навокал няма больш нічога цікавага. Так і на працягу цэлых стагоддзяў, нават тысячагоддзяў ніхто не звяртаў на ўзгорак ніякай увагі, толькі марскія вятры кідалі яму пясок проста ў твар — вось табе, калі ты ўвесь час маўчыш.

А маўчаў ён упарта. Замоўчаў сваё вялікае мінулае, утаіў нават свой дамашні адрас. У Мары, на Еўфраце, былі знойдзены гліняныя таблцы з упамінаннем аб слаўным царстве Угарыт. У Багазкёі, непадалёк ад сталіцы хетаў, былі выкапаны клінапісныя таблцы, і зноў: Угарыт. У егіпецкім Тэль эль Амарна ўбачылі дзённае святло (толькі ў 1887 годзе!) запісы, зробленыя некалі ў пятнаццатым стагоддзі да нашай эры. Зноў: Угарыт. Але дзе ён, Угарыт? Куды дзеўся? Дзе рэшткі гэтага слаўнага царства людзей, якія належалі да сям'і семіцкіх народаў?

Расшыфроўкай іерагліфічнага і клінападобнага пісьма ўдалося запоўніць многа клетачак у надзвычай цікавым красвордзе, які называецца гісторыяй народаў Пярэдняй Азіі. І ўсё ж шэраг клетачак застаўся чысты.

У сакавіку 1928 года адзін сірыйскі бядняк-беззямельнік (ён застаўся невядомы, бо ў гэтых краях гісторыя амаль не звяртае ўвагі на беззямельных бедакоў) заявіў, што ён паспрабуе засеяць кукурузай глухі закутак каля Міны эль Баіда — «Белага порта», што на поўнач ад Латакіі. Жалезны нарог яго прымітыўнага драўлянага плуга выверну на паверхню глебы нейкія дзіўныя чарапкі. Аб гэтым даведаўся французскі археолаг Клод Шэфер і ўжо ў наступным годзе прыняўся за работу.

Праз пяць год сістэматычнай маруднай работы ўдалося ў васемнаццацімятровым узгорку, які абмывалі два рукавы напалову высахлай рэчкі Нар эль Фід, выявіць гэты старадаўні Угарыт. Удалося запоўніць белую клетачку ў красвордзе.

І вось мы стаім над глыбокай шахтай, васемнаццацімятровым зондам у гісторыю. Мы трапілі да яе, прайшоўшы незвычайныя вароты, складзеныя з каменных глыб і ўвенчаныя аркай з масіўных пліт. Прабраліся па крывых вулачках крэпаснога вала — і ўзіраемся ў нямую студню... Фантастычнае збудаванне, падмурку якога шэсць тысяч год. А можа, сем...

Крыху далей наш гід, мужчына





ў форменнай шапачцы работніка музея, паказаў нам памяшканне, абы-як складзенае з вялікіх пліт і абломкаў каменю — тут вось і знайшоўся гэты славуты алфавіт.

А ну, чалавек пяра, зніме шапку, а калі ў цябе яе няма, дык прынамсі адбі паклон гэтай сцяне — рэшткам пакоя, дзе захоўвалася вядомая фінікійская «бібліятэка школы пісцоў», дзе былі знойдзены гліняныя дакументы, складзеныя на пяці мовах: на шумерскай — мове рэлігіі, акадскай — мове дыпламатыі, егіпецкай — мове гандлю, хецкай — мове магутнага паўночнага саюзніка і угарыцкай — мове, аб якой да Шэфера ніхто нават уяўлення не меў.

І нават больш: тут знайшліся таблічкі з першым у свеце алфавітам — фінікійскай сістэмай трыццаці гукаў, якія потым паслужылі грэкам асновай для стварэння грэчаскай азбукі. Вобразна кажучы, тут знайшоўся буквар, які адчыніў народам тагачаснай дзікай, непісьменнай Еўропы вароты ў цывілізацыю.

## Тут былі фінікійцы

Відаць, жвавыя яны былі людзі, гэтыя фінікійцы! Яны адчувалі сябе на вадзе значна лепш, чым на сушы, яны абследавалі не толькі ўсе берагі Міжземнага мора, але даплылі аж да цяперашняй Англіі і больш чым пэўна, што абагнулі Афрыку на дзве тысячы год раней за партугальца Васка да Гама. Гэта былі прыроджаныя гандляры, якія заключалі здзелкі на ўсё, што трапляла ім у рукі, гандлявалі не толькі рэдкімі таварамі Афрыкі і Азіі — янтаром, слановай косцю, жэмчугам, дарагім убраннем, але і дзяўчатамі. Доўгі час свет прыпісваў ім шэраг вынаходніцтваў, напрыклад, вытворчасць шкла, чаканку манет, выраб фаянсавага посуду. Пазнейшыя навуковыя адкрыцці паказалі, што фінікійцы былі таленавітымі імітатарамі і, па сутнасці, прыхільнікамі ўтылітарысцкай філасофіі — у час сваіх далёкіх гандлёвых паездак яны маглі выбраць лепшае з лепшага і прыстасаваць гэта да сваіх патрэб. Так і сваю славутую азбуку яны запазычылі ў Егіпце, спрасціўшы складанае іерагліфічнае пісьмо, бо пры іх гандлёвых трансакцыях ім патрэбна было пісьмо прастае, даступнае...

На астатняй частцы сірыйскага ўзбярэжжа больш, па сутнасці, няма нічога цікавага. За адным выключэннем.

Каля гарадка Баніяс перад вамі нечакана ўзнікаюць вялізныя





бочкі, — серабрыстыя барабаны, як банда таўстуноў-абжор, засланяюць увесь далягляд. У першую хвіліну мы не маглі апамятацца ад здзіўлення — колькі жывём, такіх велізарных бочак не бачылі. Але вось і разгадка гэтай загадкі — вялікая шыльда ўскрай дарогі абвяшчае:

«Іракская нафтавая кампанія, пункт Баніяс».

Значыць, гэтыя бочкі абслугоўваюць непрыкметную нітачку, якая на карце цягнецца на адлегласці амаль дзевяцісот кіламетраў ад іракскага Кіркуку праз Сірыйскую пустыню да незабудкавага блакіту Міжземнамор'я. Рака нафты цячэ ў двух трубаправодах, адзін з якіх дыяметрам шэсцьдзесят шэсць сантыметраў, другі — цэлых восемдзесят адзін! Рака, якая з мінулага года поіць і новапабудаваны перагонны завод у Хомсе.

Мы налічылі дваццаць восем серабрыстых пузаноў. Яны стаялі ў калоне па чатыры, нерухома ўтаропіўшыся на сонейка, якое рыхтавалася прыняць ванну ў Міжземным моры. Там ужо гойдаліся дзве пачвары — заакіянскія танкеры, якія прыехалі за жыватворным пітвом з Кіркуку.

А крыху далей, праехаўшы Баяніс, мы ўбачылі кучу жалезных трыццаціцалёвых труб. Відаць, праектыроўшчыкі трубаправода памыліліся на нейкі там кіламетр, а адвозіць трубы назад было даражэй, чым проста кінуць каля дарогі.

## Сякія-такія турботы...

Праз семдзесят два кіламетры за Баніясам — канец Сірыі. На чарзе — Ліван. А ў Ліван уязджаюць праз тунель.

Зрэшты, тут няма ніякіх гор, прыморская раўніна гладкая, як ліст. Але сірыйцы пабудавалі на граніцы лёгкі, двухкалейны бетонны тунель, каб, па-першае, у час мытных працэдур ім не ліў дождж за каўнер, ну, а калі будзе сонца, дык таксама каб не пякло спіну. Надта разумнае збудаванне. Яго ацэніць і турыст, які, праехаўшы па выпаленаму краю, павінен зараз прад'яўляць пашпарт, пасведчанне машыны ды яшчэ... Досыць! Больш нічога сірыйцы ад нас не патрабавалі.

Да Лівана — некалькі дзесяткаў метраў. Але зірніце — тут жа ўсё выглядае як пасля вайны, будынкі пашпартнага і мытнага аддзелаў ссунуліся, як калода карт, на зямлі — безліч папер, валяюцца службовыя спісы, пасведчанні, можаш выбраць сабе, якое спадабаецца.

— У нас тут былі сякія-такія турботы, — заўважыў па-французску начальнік пашпартнага аддзела так абыякава, нібы яго гэта зусім не кранала.

Гэтыя турботы называліся паўстанне. Грамадзянская вайна. Інтэрвенцыя шостага амерыканскага флоту. Начныя сходы Савета бяспекі і нечарговыя пасяджэнні Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Страх усяго свету перад пагрозай вайны на Сярэднім Усходзе. Страх перад трэцяй сусветнай вайной. А яны тут гавораць: «Сякія-такія турботы»!

## Мерседэс і каза на павадку

Ну, у Ліване ў нас галава ідзе кругам! Зусім не выпадкова яго называюць Швейцарыяй Бліжняга Усходу. З той розніцай, што азёры тут замяніла чароўнае блакітнае мора з мноствам бухт і залітых сонцам маленькіх пляжаў. На берагах — прыгожыя домікі, рэстараны, шыкоўныя катэджы. А налева — маляўнічыя горы, якія то набліжаюцца да берага, то зноў адступаюць, але карта ўсё роўна выдае іх сакрэты: і што іх вышыня тры тысячы метраў, і што на іх зімой можна ездзіць на лыжах, а праз дзве гадзіны тут жа выкупацца ў моры. Вось і доказ — з таблічкі ўсміхаецца юнак з лыжамі на плячы, над ім запрашэнне ў горы, пакатацца. Праз пару кіламетраў — гарадок Чэка, зноў лыжнік, зноў вабіць у горы.

А якія кантрасты можна ўбачыць на дарогах!

Мужчыны носяць доўгую, накшталт начной, кашулю — галабію з шырокімі рукавамі, на галаве — арабская куфія, аздобленая чор-



ным пазументам, а вакол — квадратная белая хустка. Яны ў гэтым уборы падобны на велічных шэйхаў з арабскіх фільмаў, нягледзячы на тое, што паверх галабіі апрануты зусім празаічны пінжак, сіні двухбортны пінжак, і яшчэ, як у гэтага юнака, чырвоныя панчохі ды элегантныя жоўтыя паўбацінкі. У вёсках жа мужчыны апрануты зусім па-еўрапейску — ні ў Вене, ні ў Будапешце ніхто не азірнуўся б ім услед.

Жанчыны — у доўгіх, з прарэзамі нагавіцах, паверх якіх звычайная сукенка. Вакол вуснаў і на ілбе — зялёная татуіроўка, і яны нагадваюць жонак бедуінаў аднекуль з даліны Еўфрата. У другіх жанчын — чорныя рызы, на твары — чорнае пакрывала, нібы яны толькі што з пахавання. А тут, у вёсцы Фідару за Бібласам, які выглядае зусім не па-біблейску, па алеі бананавых пальмаў крочыць чародка вясёлых дзяўчат у сукенках вышэй кален, кофтачкі — як тыя велікодныя пісанкі, у адной — зялёная, у другой — чырвоная, у трэцяй — жоўтая, нібы яны спаборнічаюць, хто прывабіць больш увагі...

За гарадком Жуйніе, які сваім размяшчэннем нагадвае маленькае Монтэ Карла, насустрач нам вылятае з-за павароткі чырвоны гоначны мерседэс з ліванскім нумарным знакам. За рулём сядзеў смуглы юнак, а побач з ім — дзяўчына, ну, проста яркая паўднёвая прыгажуня.

А за той самай павароткай каля шашы стаяў другі юнак у галабіі з пугай у руцэ — ён пасвіў індыкаў. У другой руцэ ён трымаў павадок, на ім — каза. Іх асцярожна абміналі двое сялян верхам на аслах.

Пад вечар, адурманеныя гэтым ліванскім калаўротам, мы ўязджаем у Трыпалі.

Там, дзе шашу перасякае чыгуначная лінія, нам відно над узгоркамі абапал дарогі высокае пурпуровае неба, па праезджай частцы шашы праслізгваюць міма нас незлічоныя сілуэты машын. На фоне гэтага па-фінікійску пурпуровага ўбрання ўжо ззяюць неоны вітрын і рэклам, каля дамоў мы бачым людзей, якія, седзячы на цыноўках, з задавальненнем чакаюць канца дня. Тут жа, на скрыжаванні вуліц, дзе нас затрымаў доўгі паток машын з бакавой вуліцы, над кучай кавуноў сядзіць купец і блізарука ўглядаецца ў газету. Едзем далей, далей па вуліцах, куды, здаецца, скіраваўся ўвесь рух партовага горада. Мінаем заліў святога Андрэя, у порце мігцяць агні на рэях і мачтах караблёў, пацямнелая гладзь вады перакрэслена пункцірам бакенаў, час ад часу прабяжыць па складах белы прамень маяка. Над галавой гулка ракоча самалёт, мяркуючы па гуку, гэта, напэўна, французская «каравела», якая праз хвіліну прызямліцца на паўднёвай ускраіне горада...

Так, гэты горад мае ў сабе нешта ад гандлярскага духу фінікійцаў. Нездарма пра іх гаварылі, што гэты народ ніколі не меў вольнай хвіліны.

І раптам вам прыходзіць у галаву думка, што да арабскага свету ён наогул не адносіцца.

Пераклад з чэшскай мовы
А. МАЖЭЙКІ.

(Працяг будзе.)





# ПРА ТЫХ, ХТО Ў МОРЫ

Бываюць сустрэчы, якія надоўга застаюцца ў памяці і праз дзесяткі год ажываюць у самых маленькіх падрабязнасцях. Кожны раз, калі я гутару з Аляксандрам Міронавым або чытаю яго кнігі, мне прыгадваецца вясна 1934 года.

У студыю Беларускага радыё, дзе я працаваў дыктарам, прыйшоў стройны, у белым кіцелі і форменнай фуражцы марака юнак. Па-флоцку коратка прадставіўся: «Аляксандр Міронаў». Пакуль ён праглядае старонку за старонкай тэкст свайго выступлення, я не адрываю вачэй ад не па-юначаму суровага твару чалавека, які перанёс вялікае выпрабаванне сярод дзікіх ільдоў Бярынгава праліва. Позірк спыняецца на ордэне Чырвонай Звязды, якім адзначан быў гераізм простага матроса. Неяк не верылася, што перад табой удзельнік легендарнай чалюскінскай эпапеі, якой жыў тады ўвесь свет, як сёння жыве ён запускам у завоблачныя вышыні савецкага касмічнага карабля.

Загарэлася табло «Ідзе перадача», сказана традыцыйнае прадстаўленне: «Перад мікрафонам...», і ў эфір паплыў спакойны расказ сведкі тых трывожных дзён і начэй, якія правёў невялікі калектыў савецкіх людзей— экіпаж «Чалюскіна» ў неміласэрных абдымках палярных ільдоў. Матрос-чалюскінец расказваў пра ўсё перажытае знешне так спакойна, нібы нічога незвычайнага і не адбылося, але ўнутраная ўзрушанасць, якой поўнілася кожнае слова ўдзельніка гераічнай эпапеі, выдавала ў ім чалавека з літаратурным талентам. І калі пасля выступлення, развітваючыся, я заўважыў Аляксандру Міронаву, што варта было б напісаць пра чалюскінцаў, ён цвёрда сказаў: «А я і пішу такую кнігу».

Тады мне невядома было, што за плячамі матроса ўжо былі гады су-

працоўніцтва ў архангельскім друку, якія далі першы творчы плён — кнігу апавяданняў «Марскія будні». Пра гэта я даведаўся пазней і зноў жа ў радыёстудыі.

Ішла рэпетыцыя радыёпастаноўкі (не памятаю якой) з удзелам артыстаў БДТ-1 (цяпер тэатр імя Я. Купалы). У пастаноўцы ўдзельнічала і вядомая беларуская актрыса Кацярына Эдуардаўна Міронава. Чакаючы сваёй сцэны, яна сядзела ў кутку студыі і праглядала невялічкую кніжачку, на вокладцы якой я заўважыў надпіс: «Паход Чалюскіна». Я сядзеў побач і ўсё пазіраў у гэтую кніжку. Кацярына Эдуардаўна звярнула ўвагу на маю зацікаўленасць і адказала тым, што падала мне кнігу, шапнуўшы коратка: «Сын прыехаў з Архангельска. Гэта ўжо трэцяя ў яго».

Кніжка была прачытана ў той жа вечар і захапіла суровай праўдай адлюстраваных у ёй хвалюючых эпізодаў з жыцця чалюскінцаў.

У Кацярыны Эдуардаўны я ўзяў тады і папярэднія дзве кніжкі: «Марскія будні» і «Чукоцкія навелы». Так адбылася другая мая, на гэты раз завочная, сустрэча з Аляксандрам Міронавым, цяпер ужо літаратарам.

Мінула яшчэ дзесяць год. Пасля Вялікай Айчыннай вайны сустрэчы з Аляксандрам Міронавым, як з пісьменнікам, станавіліся ўсё часцейшымі, бо ён актыўна супрацоўнічаў на радыё, дзе працаваў і я.

Неўзабаве Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі выпусціла ў свет кнігі апавяданняў: «Далёка на Поўначы», «У краіне блакітных прастораў», «Канец легенды», «Чэснае піянерскае», «На акіянскіх дарогах», «Гэта твае сябры», «Сын докера», якія адразу знайшлі сабе дарогу да чытача, узрушыўшы яго рамантыкай далёкіх падарожжаў па свеце. Жыццё абуджаных Кастрычніцкай рэвалюцыяй народаў, што вякамі жылі за Палярным Кругам у цемры і адсталасці, быт працаўнікоў мора, гераічныя подзвігі савецкіх маракоў у дні змагання з ворагам, барацьба докераў у краінах капітала за свае правы — вось тое кола тэм, якія складаюць змест гэтых кніжак. Журналісцкі рэпартаж і захапленне марскім жаргонам, характэрныя для першых апавяданняў, саступаюць пазней месца шырокім мастацкім абагульненням і яркім характарам.

Багаты жыццёвы вопыт чалавека, які шмат дзе пабываў і шмат чаго ўбачыў, не месціўся ў кароткіх апавяданнях і вымагаў ад пісьменніка ўзяцца за буйныя палотны. І вось ужо новыя сустрэчы з яго творамі — у 1957 годзе ён публікуе раман «Караблі выходзяць у акіян», праз два гады яшчэ адзін раман «Мора ў агні». Са старонак гэтых твораў паўстае жывая гісторыя савецкага гандлёвага флоту, дзе правёў сваю маладосць пісьменнік: падзеі, звязаныя з паходамі караблёў праз суровыя ільды Поўначы, плаванне ў замежныя порты, пакуты савецкіх маракоў, якія трапілі ў засценкі франкісцкіх інквізітараў, гераічная барацьба супраць фашысцкіх піратаў у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Пафасам гераізму савецкіх працаўнікоў мора прасякнута ўсё, што створана Аляксандрам Міронавым амаль за трыццаць гадоў яго пісьменніцкай дзейнасці, якую ён на працягу дзесяці год так удала спалучаў з працоўнай вахтай на караблях гандлёвага флоту нашай Радзімы — спачатку матросам, а потым афіцэрам.

Аляксандру Яўгенавічу Міронаву пяцьдзесят гадоў. Але ён па-ранейшаму малады душой. Па-ранейшаму застаўся ён верны сваёй стыхіі — мору як у творчасці, так і ў штодзённым побыце.

Высокім палітычным тэмпераментам, імкненнем адгукацца на самыя надзённыя пытанні сучаснасці сустракае свой юбілей пісьменнік-камуніст.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**



*Размова аб майстэрстве*

Янка КАЗЕКА

# МАЙСТЭРСТВА САТЫРЫКА

1

Па таленту, па характару ўспрыняцця рэчаіснасці Кандрат Крапіва — сатырык, і гэтую галіну літаратуры абраў ён, выступіўшы з сатырычнымі і гумарыстычнымі вершамі і апавяданнямі, байкамі і фельетонамі. Першыя свае творы на беларускай мове ён напісаў у 1922 годзе, і сярод іх была байка «Воўк і ягнюк (пановаму)», якая, праўда, не вызначалася яшчэ выразнасцю ідэйнай задумы і з'яўлялася, па сутнасці, творам перайманьным (напісана яна паводле сюжэту крылоўскай байкі «Воўк і Ягнятка»).

Ёсць цікавае сведчанне самога пісьменніка аб тым, як ён пачынаў свой шлях у беларускай літаратуры. 5 студзеня 1924 года выйшаў тысячны нумар газеты «Савецкая Беларусь», дзе была надрукавана вялікая падборка «Нашы вясковыя дапісчыкі, іх думкі і пажаданні». У карэспандэнцыі, змешчанай у гэтай падборцы, К. Крапіва прыгадаў, як у 1922 годзе, калі чырвонаармейская часць, у якой ён служыў, пераехала ў Мінск, ён пазнаёміўся з газетай «Савецкая Беларусь» і зрабіўся яе дапісчыкам: «Раз іду я па вуліцы і бачу — «Савецкая Беларусь». Стаў я чытаць — спадабалася. «Дай, — думаю, — і я напішу што-небудзь». Узяў дый напісаў. Пісаў я так, як гутарыў дома на вёсцы... Аднёс у рэдакцыю напісанае, а назаўтра пайшоў даведацца, ці спадабалася. «Эт, — кажуць, — нічога. Пасаліўшы, можна ўжываць. Пішыце больш, але толькі трэба вам лепей пазнаёміцца з граматыкай».

З таго часу і стаў К. Крапіва актыўным карэспандэнтам «Савецкай Беларусі». Як і большасць нашых пісьменнікаў, якія пачыналі сваю творчую дзейнасць у дваццатых гадах, ён прыйшоў у літаратуру праз газету. Амаль усе раннія яго сатырычныя вершы, апавяданні, байкі і фельетоны ўпершыню дайшлі да чытача са старонак «Савецкай Беларусі».

К. Крапіва з першых крокаў літаратурнай дзейнасці актыўна ўключыўся ў барацьбу за новае жыццё, за новую, сацыялістычную культуру. Ён належаў да таго пісьменніцкага пакалення, якое пачынала свой творчы шлях у першыя гады савецкага ладу і разам з Я. Купалам і Я. Коласам закладала падмурак беларускай савецкай літаратуры.

У вершах, апавяданнях і байках, з якімі К. Крапіва выступіў у друку, шырокія масы працоўных убачылі адлюстраванне сваіх поглядаў, думак і пачуццяў. Творы сатырыка хутка заваявалі папулярнасць у народзе, асабліва сярод моладзі. Дастаткова прыгадаць водгукі на першыя яго зборнікі «Асцё» і «Крапіва», каб пераканацца ў гэтым, адчуць, як гарача прыймалі чытачы слова пісьменніка і як непасрэдна рэагавалі на яго.

Можа і наіўныя часам былі гэтыя водгукі, але ў адным нельга адмовіць ім — у шчырасці і непасрэднасці. Зборнік «Крапіва» адкрываўся вершам, у якім аўтар, вызначаючы сэнс сваёй творчасці, пісаў пра сябе ў іранічна-жартоўным стылі:

Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? — смех, дый годзе:
Я — пякучка-крапіва.

Вось з гэтым і не жадалі пагадзіцца чытачы, лічачы, што К. Крапіва быццам бы прыніжае значэнне сваёй творчасці. Рэцэнзент «Чырвонага сцяга» ў 1925 годзе горача пераконваў пісьменніка: «Не, тав. Крапіва! Не марная трава сатыры ў літаратуры. Яны з'яўляюцца лепшым сродкам, чым іншыя віды мастацтва, імі лепш рабіць націск на пачуцці і розум чалавека, піхаць іх, накіроўваць на другі шлях». У рэцэнзіі, змешчанай у «Савецкай Беларусі», падкрэслівалася гэтая ж думка: «І вось, калі перачытваеш зборнік вершаў «Крапіва», то пераконваешся, што Крапіва — не марная трава ў мастацкім агародзе, як гэта заяўляе сам аўтар, а імянна пякучка і пякучка вострая, а разам з тым і мастацкая». Рэцэнзент слушна адзначыў, што сатырычныя творы К. Крапівы «выклікаюць да жыцця новыя прылівы энергіі, энтузіязму і імклівасці да станоўчага». («Сатыра і гумар рабочых і сялян», — так ахарактарызаваў ён зборнік «Крапіва».)

Творчасць беларускага сатырыка і байкапісца ад самых сваіх пачаткаў натхнялася вялікімі ідэямі барацьбы за пабудову новага, сацыялістычнага грамадства, і ў гэтым, перш за ўсё, сакрэт надзвычайнай папулярнасці ў народзе яго вершаў і баек, сакрэт таго велізарнага ўздзеяння, якое яны рабілі і робяць на чытача.

У дваццатыя гады К. Крапіва пісаў пераважна пра жыццё вёскі. Большасць яго вершаў і баек таго часу пабудавана на матэрыяле сялянскага побыту. Ён сам выйшаў з вёскі і добра ведаў погляды і псіхалогію яе людзей. Вясковая рэчаіснасць давала яму тэмы вершаў і баек, жывіла яго творчасць вобразамі. І хаця сатырык асвятляў з'явы будзённыя, гэта не перашкаджала яму вырашаць значныя грамадскія праблемы свайго часу. Само жыццё вымагала ад яго твораў пра станаўленне новага ў вёсцы, пра тыя велізарныя змены, якія прынесла туды рэвалюцыя.

Тады ў вёсцы яшчэ на кожным кроку можна было сустрэць агідныя рэшткі старога ўкладу жыцця, карэнні мінулага яшчэ моцна трымаліся ў свядомасці і псіхалогіі сялянства, і трэба было, як слушна пісаў адзін з маладнякоўскіх крытыкаў, «пазбавіць іх павагі сярод вясковага люду», зрабіць іх смешнымі, недарэчнымі ў вачах селяніна. Гэтай мэце выдатна служылі сатыра і гумар К. Крапівы.

Пісьменнік востра высмейваў п'янства, забабоны, адсталыя людскія звычкі, закаснелыя традыцыі старога быту. Шмат яскравых малюнкаў тагачаснага жыцця паўстае з яго вершаў і баек; яго сатыра «многім абармотам рукі-ногі папякла»: плеткарам і шаптунам, лайдакам і п'яніцам, бюракратам і валакітчыкам, папам і кулакам, спекулянтам і нэпманам. Часта выступаў ён з сатырычнымі творамі, прысвечанымі падзеям міжнароднага палітычнага жыцця.

Былі ў свой час крытыкі, якія адмаўлялі мастацкія вартасці сатыры К. Крапівы, лічылі, што ў яго вобразах «няма майстэрства», што яго эмоцыі, нібыта, неглыбокія, павярхоўныя. Эстэтам, вядома, не па густу была бытавая лексіка, жывая мова крапівінскіх вершаў і баек, ды і не маглі яны адчуць і зразумець народнасць яго твораў.

Крытыка дваццатых гадоў увогуле пакінула нямала супярэчлівых, блытаных, суб'ектывісцкіх ацэнак творчасці гэтага самабытнага мастака слова. Не апошнюю ролю ў гэтым адыгралі групавыя інтарэсы, якімі падчас кіраваліся крытыкі.

Можна згадаць такі характэрны прыклад. Маладнякоўская крытыка, пакуль К. Крапіва ўваходзіў у гэту літаратурную арганізацыю, вельмі высока ставіла яго творчасць, называла яго «параджэннем Кастрычніка на вёсцы», пісала, што «без «Маладняка» маладая вёска зусім бы не ведала свайго больш чытаемага пісьменніка». Калі ж К. Крапіва перайшоў ва «Узвышша», маладнякоўцы адразу перамянілі свае адносіны да яго творчасці, хоць яе ідэйна-мастацкая накіраванасць і не змянілася. У 1927 годзе Т. Глыбоцкі (А. Дудар, тады ён яшчэ быў у «Маладняку») сцвярджаў: «Крапіва цяпер можа напісаць добра толькі на такую тэму, якая вядома і можа быць цікавай толькі невялічкай групе людзей. Такія ўсе байкі і апавяданні Крапівы ў яго ўзвышаўскі перыяд. Крапіва страціў свой грунт і, перацягнуты ў абставіны, зусім не адпавядаючыя яго жанру, занепаў нават і з мастацкага боку, падзяліўшы лёс А. Паўловіча».

І гэта пісалася ў той час, калі створаны былі «Сава, Асёл ды Сонца», «Ганарысты Парсюк», «Жаба ў каляіне», «Зубы» і іншыя выдатныя ўзоры крапівінскай сатыры.

З тых жа чыста суб'ектывісцкіх, групавых меркаванняў і вульгарызатарская крытыка не жадала прызнаць якіх-кольвек вартасцей сатыры К. Крапівы. Л. Бэндэ, напрыклад, страшэнна абураўся, калі хто-небудзь праводзіў аналогію паміж творчасцю К. Крапівы і Д. Беднага, які таксама пісаў байкі, сатырычныя вершы, вершаваныя фельетоны, прыпеўкі.

У артыкуле «Пашахонская пагулянка па беларускай літаратуры» Л. Бэндэ, крытыкуючы памылкі і недахопы кнігі Л. М. Клейнбарта «Маладая Беларусь», заадно «прачасаў» і беларускіх пісьменнікаў. Пра К. Крапіву ён пісаў: «...не можам утрымацца ад надзвычайнага абурэння з прычыны агіднай аналогіі, якую правёў Клейнбарт паміж творчасцю Д. Беднага і Крапівой... Некаторая фармальная падобнасць да Беднага адзначаецца ім як ідэйнае палітычнае адзінства. Трэба быць зусім сляпым, каб не бачыць розніцы паміж Крапівой і Д. Бедным, як далёка першы стаіць ад другога».

А між тым у творчасці К. Крапівы і Д. Беднага было шмат агульнага не толькі з боку формы. Д. Беднага і К. Крапіву збліжала перш за ўсё агульнасць ідэйных пазіцый. Як і творчасць рускага паэта, сатыра К. Крапівы адыграла прыкметную ролю ў станаўленні метаду сацыялістычнага рэалізма. Калі ж гавараць пра байкі Д. Беднага і К. Крапівы, дык ідэйна-мастацкая прырода іх аднолькавая.

Час адкінуў усе недарэчныя суб'ектывісцкія напластаванні ў ацэнцы крытыкай творчасці К. Крапівы дваццатых гадоў, а большасць вершаў, апавяданняў і баек, напісаных тады сатырыкам, захавала сваю непаўторную паэтычную свежасць і да нашых дзён. У гэтых творах яскрава адлюстроўваліся погляды і імкненні народа, яго мараль. Майстэрства сатырыка выявілася перш за ўсё ў глыбокім разуменні народнага жыцця. Пісаў ён пра з'явы, якія заслугоўвалі суровага асуджэння і бязлітаснага высмейвання, і ў кожным яго творы выразна адчуваецца народная думка аб гэтых з'явах, выяўлены адносіны працоўнага чалавека да разнастайных заган і хібаў, пакінутых людзям у спадчыну старым, уласніцкім светам.

У дваццатыя гады байка была адным з асноўных жанраў паэтычнай творчасці К. Крапівы. Тады былі створаны амаль усе найбольш вядомыя байкі народнага пісьменніка. У трыццатыя ж гады і ў пасляваенны час з'явілася толькі некалькі яго баек: «Памагаты», «Тата-заяц», «Давялося свінні на неба глядзець», «Лётчык і Блыха», «Поп і Папугай», «Дзіця, Вожык і Змяя».

Байка К. Крапівы нарадзілася ў перыяд бурнага росту беларускай літаратуры, выкліканага перамогай Кастрычніка. Яе ўзнікненне абумоўлена духоўнымі патрэбамі народа, які, зрабіўшыся гаспадаром уласнага лёсу, з энтузіязмам пачаў будаваць новае жыццё. І застанецца яна яскравай старонкай мастацкага летапісу незабыўнай пары станаўлення савецкага ладу. У барацьбе з ворагамі нашай краіны, у змаганні за перамогу новага быту, новых чалавечых узаемаадносін, псіхалогіі і маралі байка К. Крапівы з'явілася моцным і дзейсным сродкам, даходлівай і зразумелай шырокім масам формай сатырычнага выкрыцця ганебных перажыткаў мінулага, рэакцыйных і шкодных традыцый старога, буржуазнага грамадства.

Новая эпоха, вядома, патрабавала і новай байкі. К. Крапіва на ўласным вопыце пераканаўся ў тым, што нельга механічна перанесці ў савецкую сатыру творчыя прыёмы байкапісцаў папярэдніх часоў. У байцы «Воўк і ягнюк (па-новаму)» ён паспрабаваў выкарыстаць крылоўскі сюжэт для выкрыцця злоўжыванняў, якія рабілі некаторыя старыя спецыялісты, што працавалі ў савецкіх установах. Байка І. Крылова адлюстроўвала сацыяльную рэчаіснасць прыгонніцкай эпохі, бяспраўнае становішча народных мас. «У моцнага заўжды слабейшы вінаваты», — гаварылася ў гэтай байцы. К. Крапіва механічна перанёс яе сюжэт і вобразы ў новыя сацыяльна-гістарычныя абставіны, і яго твор страціў жыццёвую глебу. Сам байкапісец адчуў гэта і не ўключаў яго ў пазнейшыя зборнікі.

Савецкая эпоха нарадзіла новыя грамадска-палітычныя і маральна-эстэтычныя ідэалы, для выяўлення якіх патрабавалася новая байка. Такую байку і стварылі Д. Бедны і К. Крапіва, творча пераасэнсаваўшы баечную традыцыю папярэдніх эпох, у прыватнасці традыцыю крылоўскай байкі. Іх байка захавала арганічную сувязь з крылоўскай народнай баечнай традыцыяй і ў той жа час стала якасна новай з'явай у развіцці гэтага жанра. Яны не проста напоўнілі традыцыйную байку новым зместам, а абнавілі і самую яе форму.

Развіваючы далей крылоўскую традыцыю і творчы вопыт беларускіх байкапісцаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя, К. Крапіва ператварыў байку ў жанр публіцыстычна завостранай сатыры. Разам з тым ён дбайна збярог і традыцыйныя ўласцівасці, традыцыйныя адзнакі баечнага жанра.

Вядомы чэшскі літаратуразнаўца Іёзаф Румлер, характарызуючы творчасць К. Крапівы, пісаў у пасляслоўі да анталогіі «Паэты Беларусі», выдадзенай у Празе ў 1955 годзе (у анталогіі змешчаны ў перакладзе Зікмунда Скібы байкі «Дзед і Баба», «Дыпламаваны Баран», «Зубы», «Сука ў збане», «Махальнік Іваноў», «Вол і Авадзень», «У папа ды быў

сабака» і «Сава, Асёл ды Сонца»), што нават гэтых васьмі баек дастаткова, каб чытач атрымаў «поўнае ўяўленне аб грамадскім значэнні сатырычнай творчасці Крапівы». На думку І. Румлера, байка беларускага пісьменніка выходзіць далёка за межы традыцыйнага разумення гэтага жанра і з'яўляецца «адным з відаў публіцыстычна завостранай сатыры. Крапіва адкідае дыдактыку і ўводзіць у байку новыя апавядальныя, драматычныя, сатырычныя і лірычныя элементы».

Чэшскі вучоны дакладна вызначыў тое новае, што ўнёс К. Крапіва ў распрацоўку баечнага жанра, высока ацаніў уклад беларускага сатырыка ў развіццё сусветнай баечнай традыцыі.

Байкі К. Крапівы — гэта сатырычныя творы, прысвечаныя значным жыццёвым з'явам. У яго байках сапраўды зліліся ў адзіны сплаў апавядальны, драматычны, сатырычны і лірычны элементы. У аснове кожнай з іх — вострая камічная сітуацыя, канкрэтны жыццёвы канфлікт, рэзкае сутыкненне супрацьлеглых поглядаў, характараў, рэальная, мастацкі завершаная карціна жыцця.

Вось гэту якасна новую ідэйна-мастацкую прыроду баек К. Крапівы і не здолела зразумець беларуская крытыка дваццатых — пачатку трыццатых гадоў. Я. Бранштэйн, які ў параўнанні з іншымі сваімі таварышамі па пяру аддаў меншую даніну вульгарызатарскім схемам, і той у байках К. Крапівы бачыў толькі «дробную бытавую сатыру». У артыкуле пра раман «Мядзведзічы» ён пісаў, што аўтар гэтага твора ў сваіх сатырычных вершах, апавяданнях і байках быццам бы ставіў вельмі «абмежаваныя, спрошчаныя задачы», «апераваў вузкім колам вобразаў».

Байку К. Крапівы тады шмат хто лічыў толькі «бытавой». Відаць, крытыкаў уводзіла ў зман тое, што сатырык будаваў свае творы на бытавым матэрыяле, а іх грамадскае значэнне, сутнасць аўтарскіх ідэйна-мастацкіх абагульненняў гэтыя крытыкі зразумець не здолелі.

У К. Крапівы ёсць паасобныя бытавыя байкі і байкі, у якіх высмейваюцца зайздрасць, ляношчы, балбатлівасць, выхвалянне, скупасць, баязлівасць, упартасць, неахайнасць, няздатнасць і іншыя хібы, уласцівыя некаторым людзям. Але ж і гэтыя байкі перараслі рамкі чыста «бытавой» сатыры, з'яўляюцца не проста павучальнымі, а перш за ўсё публіцыстычна завостранымі творамі. Горача падтрымліваючы новае ў жыцці і ў характары савецкага чалавека, К. Крапіва дасціпна высмейваў заганныя рысы і якасці, якія засталіся ў свядомасці і псіхалогіі людзей ад старога часу.

## 2

«Сатырычны твор, — пісаў К. Крапіва ў артыкуле «Думкі пра сатыру» (1928), — створыць належны эфект толькі тады, калі аб'ект асмяяння будзе абмалёван з усёю выразнасцю... Просты чалавек не прывык мець справу з абстрактнымі паняццямі, і да яго псіхікі лепшы доступ будуць мець прадстаўленні, вобразы. З тае ж прычыны вобразы павінны быць канкрэтныя, рэчавыя, супастаўляцца павінны не абстрактныя паняцці, а рэчы і з'явы. Матэрыял для вобразаў належыць браць знаёмы для чытача. Багатаю крыніцаю для гэтага з'яўляецца прырода і бытавая абстаноўка, у якой жывуць працоўныя масы».

Гэтыя думкі пісьменніка, якія грунтаваліся ў першую чаргу на ўласным творчым вопыце, праліваюць яскравае святло на некаторыя істотныя асаблівасці яго баек.

Матэрыял для іх К. Крапіва найчасцей браў з сялянскага побыту, і таму яго вобразы былі канкрэтныя, «рэчавыя», зразумелыя шырокім колам чытачоў. У гэтых творах не было патрэбы падрабязна характарызаваць дзеючыя асобы, неяк тлумачыць іх учынкі, сэнс баечных алегорый, бо перад чытачом паўставалі жывыя малюнкі, да драбніц знаёмыя з'явы, якія ён сам не раз наглядаў у жыцці. Аднак гэта не азначала, што такія байкі, нібыта, мелі толькі «бытавы» характар.

Хіба ж можна, напрыклад, аднесці да «бытавой» сатыры байку «Вол і Авадзень», хоць там і паказана самая звычайная, будзённая з'ява, якую не аднойчы бачыў на свае вочы кожны вясковы жыхар. Стомлены Вол гарачым летнім днём вяртаўся з ворыва, а за ім ляцела куча аваднёў. Адзін з іх, усеўшыся Валу на спіну, сказаў лісліва:

— Як я цябе люблю! Які ты мілы!  
Цябе я, сябар, да магілы  
Ніколі не пакіну.  
Я ўсюды за цябе пайду —  
У агонь, і ў нетру, і ў ваду.  
Цяпер жа вось да стойла давяду.

Аб тым, які Авадзень «сябар» Валу, добра ведаў кожны працоўны чалавек. Ды і Вол, што «напрацаваўся, аж хістаўся», не мог адказаць інакш:

— Адстань, пракляты  
крывапівец!  
І без цябе мне млосна...



Грамадскі сэнс гэтай байкі быў зразумелы і без вываду пісьменніка. Між іншым, спачатку твор меў канкрэтны адрас: прысвячаўся «праваднікам жоўтага інтэрнацыянала». Але хутка сам байкапісец убачыў, што палітычны сэнс яго сатыры, змест байкі значна шырэйшы: яна магла з аднолькавай сілай лупцаваць усіх «праклятых крывапіўцаў», якія толькі на словах кляліся ў вернасці працоўным, а самі смакталі іх кроў, — і ў пазнейшых выданнях зняў гэта прысвячэнне.

Ад звычайнай, будзённай, вядомай кожнаму жыццёвай з'явы К. Крапіва ішоў у сваіх байках да вялікіх ідэйна-мастацкіх абагульненняў.

Вельмі знаёмы матэрыял узят і для байкі «Кормны і надворны», і ўзят таксама з вясковага побыту, хоць і на гэты раз пісьменнік ставіў перад сабой задачу, якая выходзіла за межы чыста «бытавой» сатыры: выкрываў праявы бюракратызму, якія мелі месца ў паасобных савецкіх установах.

Цікавы гэты твор і ў тым сэнсе, што дае магчымасць прасачыць працэс фармавання характараў дзеючых асоб. Руды і Падласы радзіліся «ў адным хляве і берлагу і нават ад адной свінні». І лёс іх спачатку быў аднолькавы: яны «ў адным капаліся карытцы», «разам елі ды пілі», і калі часам спрабавалі ўцячы з пашы, дык «пастух абодвух пугай сцёбаў». Увосень парсюкам давялося «разлучыцца»: гаспадары вырашылі карміць Рудога («Рахманы ён і не маркотны, і да яды нек больш ахвотны», — сказала гаспадыня) і заперлі яго ў хляўчук. Аўтар «пад сакрэтам» заначыў, што «неахайны той хляўчук Рудому здаўся кабінетам», і чытач мог ужо здагадацца, аб чым на самай справе ішла размова ў байцы. Кожная дэталь у творы напоўнена глыбокім зместам, падпарадкавана выяўленню аўтарскай задумы. Калі праз некаторы час Падласы завітаў да Рудога ў «кабінет», дык не мог пазнаць свайго былога «аднакашніка», — той нават не захацеў павітацца з ім:

— А ты што прэшся ў кабінет,  
Свіное рыла, без дакладу? —  
Сказаў Руды і адвярнуўся задам.

К. Крапіва дамагаўся знішчальнага высмейвання абранага аб'екта, не шаржыруючы празмерна яго характэрных рысаў. Сваёй мэты ён дасягаў іншым шляхам: выбіраў трапныя камічныя сітуацыі і змястоўныя сатырычныя дэталі, пісаў пра адмоўнае ў жыцці са з'едлівай іроніяй, з пачуццём глыбокай нянавісці. У байцы «Кормны і надворны» бязлітасная іронія сатырыка адчуваецца ва ўсім, што гаварылася пра Рудога. Характар гэты абмалёван вельмі выразна, і таму так натуральна гучыць мараль байкі:

Нямала ёсць яшчэ брыды,  
Як той Руды,  
Што так вітаюцца з «надворным»  
Задам кормным.

Тэматыка баек К. Крапівы разнастайная, жыццёвыя з'явы адлюстраваны ў іх сцісла, але пераканальна, а многія характары, тыпы, заўважаныя сатырыкам у рэчаіснасці і паддадзеныя ва ўсёй сваёй жыццёвай канкрэтнасці, сталі назоўнымі.

К. Крапіва не абмяжоўваўся толькі крытыкай старога, аджылага, а заклікаў змятаць і выкарчоўваць усё, што замінала пераможнаму поступу сацыялістычнага ладу. Адмаўляючы і высмейваючы закаснелыя традыцыі і перажыткі мінулага, ён горача сцвярджаў харaство новага жыцця. Шчырая зацікаўленасць у перамозе новага, захапленне гераізмам і веліччу народа выразна адчуваецца ва ўсіх яго творах. І невыпадкова шмат у якіх байках пісьменніка мараль прымала форму палымянага закліку.

Расказаўшы пра «далікатных парасят», якія набрудзілі ў сенцах і якіх за гэта гаспадыня адхвастала дзеркачом, аўтар звярнуўся да чытачоў з такім заклікам:

Дык вось, браткі,  
Калі такія свінюкі  
(А свінюкоў нямала ёсць на свеце)  
Ды завядуцца ў сельсавеце  
Ці ў кааператыве ў вас, —  
Ганіце вон, на мой адказ.

Публіцыстычная завостранасць — адна з характэрнейшых асаблівасцей баек К. Крапівы. Згадаем яго «Куваду». Эпіграфам да гэтага твора паслужыла народная прыказка «Карова целіцца, а ў быка зад баліць», а змест баечнага апавядання склаў апісаны краязнаўцамі недарэчны звычай, які ў першыя гады савецкай улады можна было яшчэ сустрэць у некаторых глухіх кутках Палесся. Там здаўна вялося так: калі жанчыне падыходзіў час раджаць, дык і муж клаўся на лаўку, стагнаў і курчыўся, думаючы, што гэтым памагае парадзісе.

Надзвычай каларытная сцэна падададзена ў гэтай байцы:

Свой абавязак маткі ціха  
Выконвае Жанчына-парадзіха,  
Хоць і цярпіць вялізарныя мукі,  
А ён, «няшчасны», ломіць рукі.  
Калі глядзець — сапраўды  
Дзядзьку крута:  
То скурчыцца, то выцягнецца  
прутам

Ды пачынае лбом аб сцену біцца,
Крычыць: — Бабулечка, — жывот!
Зязюлька, — паясніца! —
Аж з твару зменіцца і з голасу спадзе,
Пакуль малое Жонка прывядзе.

У вобразе «кувадніка» трапна ўвасоблены рысы ныцікаў і малавераў, якія ў перыяд першай пяцігодкі скуголілі аб «непераадольных» цяжкасцях, прарочылі зрыў планаў сацыялістычнага будаўніцтва. Пра гэта варожае ахвосце байкапісец піcaў з гневам і пагардай:

Вось також памагаюць часам
Кувадніқі працоўным масам:
Пакуль працоўныя сацыялізм будуюць,
Яны ўсё ныюць, хныкаюць, бядуюць.
Такому б я сказаў: — Слюнцяй, не скавычы!
Не можаш памагчы,
Дык лепей памаўчы!

Байкі К. Крапівы — творы народныя ў самым шырокім сэнсе гэтага слова. Яны цалкам выраслі з жыцця, напісаны з жывым адчуваннем народнага гумару. У аснову ацэнак жыццёвых з'яў, пра якія піша сатырык, пакладзена мараль працоўнага чалавека. Гэтую асаблівасць творчасці народнага пісьменніка добра адчуў М. Лынькоў, падкрэсліўшы ў адным са сваіх артыкулаў, што К. Крапіва «ўвасобіў у сабе ўсе найлепшыя здабыткі і традыцыі жывога творчага слова народа, яго гумару, яго здаровага смеху».

Многія байкі К. Крапівы ўзніклі з народных прыказак: аўтар або распрацоўвае матыў, змест народнай прыказкі, або развівае яе думку.

Возьмем байку «Дзед і Баба». У гэтым самабытным паэтычным творы няцяжка заўважыць сувязь з шырока вядомай беларускай прыказкай «Баба з калёс, калёсам лягчэй». Запісана яна ў розных кутках Беларусі і ў розных варыянтах. У зборніку І. Насовіча, напрыклад, прыказка пададзена ў такой рэдакцыі: «Баба з калёс, калёсам легчы». Байка ўвабрала ў сябе не толькі думку гэтай прыказкі, але і вобраз, створаны ёю.

Дзед і Баба ехалі на кірмаш. Конік быў малады і цягнуў «слаба». І стала Баба памагаць яму, «седзячы на возе»:

Што ж, каню другі гадок,
Дык яна — за білы
Ды нагамі ў перадок
Пхне, як мае сілы.

— Кінь, дурная, бо зганю! —
Дзед тут Бабе кажа:
— Ты паможаш так каню,
Як хваробе кашаль.

— Ах ты, ёлапень стары! —
Баба Дзеда лае! —
Стой жа тут, хоць ты згары!
Мне бяда малая.

Потым — гоп яна з калёс,
Села ля дарогі,
А каня як чорт панёс, —
Дзе ўзяліся й ногі!

Байка «Дзед і Баба» простая і панароднаму дасціпная. І ў аўтарскай мове, і ў мове дзеючых асоб выкарыстаны тыповыя народныя выслоўі, выразы. Каб дапячы Бабе за яе бязглузды ўчынак, Дзед ужывае звыклае параўнанне, якім людзі карыстаюцца заўсёды, калі кажуць пра тых, хто бярэцца памагаць, але толькі замінае: «Дапамог, як кашаль хваробе». У стылі народных прыказак-кленічаў вытрыман і адказ Бабы. Рысы гэтага вобраза, створанага народнай прыказкай, захаваны і ў абагульненні, у вывадзе байкапісца:

Ва ўстановах часам ёсць
Вось такія ж «бабы»:
Здэцца, й робяць яны штось,
Але справы — слабы.

Ды такая не ўцячэ!
Скажам ёй нарэшце:
— Мо' без вас было б лягчэй?
Паспрабуйце злезці!

Народная прыказка «Еж, дурань, бо то з макам» легла ў аснову аднайменнай байкі К. Крапівы, якая, пасутнасці, і не выйшла за межы зместу самой прыказкі, але перадала яго праз канкрэтны жыццёвы выпадак. Байкапісец прыгадаў цётухну Магрэту. Калі ў яе часам «страва выходзіла няўдала», дык яна прыпраўляла яе рознай «закрасай» («насыпле канапель ці маку»), а тым, хто неахвотна еў яе «страву», абавязкова казала: «Еж, дурань, бо то з макам». У народзе дастасоўваюць гэту прыказку не толькі да тых выпадкаў, калі гавораць пра «няўдалую» страву. Часцей за ўсё прыказка ўжываецца як алегорыя, з дапамогай якой з'едліва высмейваюць нядатных і няўмек.

Між іншым, многія байкі К. Крапівы дастасоўваліся і дастасоўваюцца чытачамі да тых ці іншых канкрэтных жыццёвых абставін. На Украіне, напрыклад, байка «Еж, дурань, бо то з макам» друкавалася пад назвай «Макавікі», і гаворыцца ў ёй не пра «страву» ўвогуле, а пра звычайныя ўкраінскія «макавікі». Вядома таксама, што ў былой Заходняй Беларусі часопіс «Маланка» і іншыя прагрэсіўныя выданні змяшчалі творы К. Крапівы са значнымі тэкставымі зменамі, дапіскамі і прысвячэннямі, звязвалі іх змест з падзеямі мясцовага палітычнага жыцця, з канкрэтнымі фактамі вызваленчай барацьбы працоўных супраць белапанскай няволі. Байку «Сава, Асёл ды Сонца», напрыклад, заходнебеларускі друк прысвяціў «беларусаеду» Ул. Студніцкаму (у пілсудчыкаў ён лічыўся адным з галоўных «знаўцаў» беларускага пытання), а вобраз «дыпламаванага Барана» з аднайменнай байкі звязаў з імем «учонага спадара» нацыянал-фашыста Я. Станкевіча.

Гэта — красамоўны доказ сапраўднай народнасці крапівінскай байкі: яна жыве сярод працоўных людзей, развіваецца, дастасоўваецца імі да канкрэтных жыццёвых падзей і з'яў.

З фальклорных крыніц узніклі байкі «Лісліваe цяля», «Пра цыгана і кабылу», «Саманадзейны Конь», «Давялося свінні на неба глядзець» і шэраг іншых твораў К. Крапівы, маральны і філасофскі сэнс якіх грунтуецца на матэрыяле агульнавядомых народных прыказак.

«Ласкавае цялятка дзве маткі ссе, а гордае ні адной»; «Лісліваe цяля дзве маткі ссе», — кажуць звычайна пра тых, хто ўмее падлашчыцца і такім шляхам атрымаць выгоду для сябе. Пачаўшы байку «Лісліваe цяля» з гэтай прыказкі, К. Крапіва зазначыў, што «і цялятам часта шкодзіць залішне многа малака», і расказаў пра лісліваrа бычка, які ссаў дзвюх матак і здох, аб'еўшыся малаком:

Хай помніць кожнае лісліваe цяля,
Што можна ссаць, ды можна й абассацца», —

такім крылатым выразам закончыў байкапісец свой твор.

Байка «Саманадзейны Конь», эпіграфам да якой узята народная прыказка «Вялікаму каню — вялікі хамут», дасціпна высмеяла крыкуноў, прагных да славы, ды «вузкіх у плячах». У вобразе Каня, што быў «з сабаку, можа, так, мо' з добрае шчаня», але прагнуў мець вялікі хамут («Малому велічу быць хочацца заўсёды», — нібы між іншым зазначыў байкапісец), трапна ўвасоблены характэрныя рысы якраз такога вось тыпу людзей. Мізэрны конік, пра якога гаварылася ў байцы, скардзіўся на ўсё сяло, што хамут «нібы не да яго»:

— Я сам, — іржэ, — такі каніска,
А вось хамут, дык жарабячы блізка —
Не засупоніўшы, і то ён нават цесны:
Ні ўлезці мне ў яго, ні вылезці — хоць трэсні!

Убачыўшы ў горадзе грузных ламавікоў і іх хамуты, гэты «асілак» сляпіцай прыстаў да свайго Гаспадара:

— Табе б купіць даўно пара
Хоць трошкі большы для мяне,
І я б за іх цягнуў тады ўдвайне:
Не сто пудоў, а цэлых дзвесце.

І вось нядошлы каняка ўпрогся ў воз, які цягнуў ламавік. Але тут «здарыўся скандал»:

Пралезлі праз хамут канёвы персі й ногі,
І затрымаўся ён аж ледзь на жываце.
А тут яшчэ праклятьі воз
І з месца не скрануць — як да зямлі прырос.

Ствараючы мастацкі тып саманадзейнага крыкуна, К. Крапіва не выпадкова выкарыстаў народную прыказку «Вялікаму каню — вялікі хамут». Самім зместам сваім гэта прыказка сцвярджае марнасць намаганняў зайздроснай мізэрнай істоты стаць «велічу». У байцы адсутнічае адцягненае маралізаванне, уласцівае многім сучасным творам гэтага жанра; баечны характар распрацаван пісьменнікам з жыццёвай дакладнасцю.

Народная прыказка «Кожны цыган сваю кабылу хваліць» паслужыла асновай сюжэта байкі «Пра цыгана і кабылу», у якой аўтар выкрываў хлусню і несумленнасць зарубежных пісак, што са скуры вылузваліся, паклёпнічаючы на нашу краіну і хвалячы капіталістычныя парадкі. Аналогія паміж цыганам, што хваліць сваю кабылу, а на чужую «горы валіць», і гэтымі пісакамі як не трэба лепш характарызуе не толькі прадажную буржуазную прэсу, але і «кабылу», якую яна так старанна хваліць:

Другая кляча
На трох нагах, бывае, скача,
А ён крычыць: «Глядзіце — вось рысак!
Якое хараство! Якая шпаркасць! Сіла!»
Затакаваўшыся, не бачыць ён,
Што хмара круціцца варон,
Што карканнем вітаюць падлу госці,
Што кляча ўся ў каросце,
Бязногая і гуз якісьці на баку.

Выкарыстоўваючы прыказкі і крылатыя народныя выразы, байкапісец дасягаў большага мастацкага завастрэння сваіх вобразаў і сатырычных дэталей.

Адрасаваў ён байкі канкрэтнаму чытачу — працоўным беларускай вёскі, чые духоўныя патрэбы добра адчуваў і разумеў. Таму і пісаў іх у форме «бытавой», знаёмай і зразумелай гэтаму чытачу; заўсёды шукаў простае, трапнае і дакладнае слова. І вывады ў яго байках нярэдка рабіліся ў форме прыказак. Байку «Пра цыгана і кабылу», напрыклад, пісьменнік закончыў выразам, які бадай нічым не адрозніваецца па форме і стылю ад народных прыказак:

Перш, чымсьці з пахвальбой
імкнуцца недзе,
Не шкодзіць паглядзець, на чым
з нас кожны едзе.

Такіх дасціпных выразаў, якія ператварыліся ў прыказкі і ў крылатыя выслоўі, крапівінская байка дала надзвычай многа: «Другі баран ні «бэ», ні «мя», а любіць гучнае імя»; «Два скачуць у яго, а іншыя ў слязах»; «Каб сонца засланіць, вушэй асліных мала»; «Малому веліччу быць хочацца заўсёды»; «Пад кола, жаба, не падлазь»; «Прэтэнзій у яго — хапіла б на слана, заслуг жа — як у зайца»; «Разумных бараноў наогул жа нямнога»; «Што ў небе ёсць, над галавой, свіння не бачыла ніколі»; «Калі ўжо шанаваць, дык трэ' было жывога»; «Аднак жа як свінню ні кліч, яе заўсёды выдасць лыч»; «Хай той ад болю вые, у каго ёсць корані гнілыя»; «Не можаш памагчы, дык лепей памаўчы»; «Бывае іншы раз і з нашым братам, што галаву замяняюць мандатам». Каму цяпер не вядомы гэтыя і многія іншыя крылатыя выразы з баек К. Крапівы?

«Байка — жывое, цікавае, фабульнае апавяданне, напісанае афарыстычнай мовай, — гаварыў К. Крапіва. — У байцы даецца вялікае абагульненне. Нават без маралі-вываду чытач павінен зразумець, што хацеў сказаць пісьменнік».

Жывымі, сюжэтнымі апавяданнямі, у якіх адлюстраваліся канкрэтныя жыццёвыя падзеі свайго часу, і з'яўляюцца байкі К. Крапівы.

Яскравым узорам такога апавядання можа служыць «Сука ў збане».

Пачынаецца байка звычайнай будзённай сцэнай. Сцяпан і брат яго Васіль, хоць і змарыліся, працуючы «да полудню ад ранку», аднак жа «не даюць спакою косам — пракос прахадзяць за пракосам». А ў гэты час

...Фінця-сука ў халадку
Ляжыць, як пані, на баку
Пад вербалозавым кустом,
Памахвае сабе хвастом:
То пазяхне, то дрэмле зноў,
То ловіць мух, то скакуноў.

Нарэшце, касцы, «уцёршы лоб і потны нос», селі палуднаваць пад кустом:

А Фінця ім глядзела ў рот
(І ёй падцягвала жывот)
Ды прагавітымі вачыма
За лыжкаю сачыла,
Хвастом віляла і прасіла,
Але як не касіла,
То не пазвалі й да збана —
Апаражнілі ўдвух да дна.

Калі ж касцоў змарыў сон, сука залезла «з мордай ласай» у збан:

Ды толькі ёй лізаць няміла,
Бо галаву ўшчаміла.
Яна й сюды, яна й туды, —
Ніяк не збыць ліхой бяды,
Хоць адракайся галавы, —
І стала выць.

Пакуль Сцяпан і Васіль пачулі праз сон яе выццё і пакуль дасталі са збана, дык у «беднай сукі» ледзь не вылезла душа.

Няцяжка ўбачыць, што ў гэтым творы арганічна зліліся ў адно цэлае апавядальны, драматычны, сатырычны і лірычны элементы крапівінскай байкі, пра якія гаварыў чэшскі літаратуразнаўца І. Румлер. Перад намі сапраўды жывое, дасціпнае апавяданне, самабытнае па сюжэту, дакладнае ў бытавых і псіхалагічных дэталях. Чытаючы байку, адчуваеш захапленне, з якім аўтар пісаў аб працавітых братах-касцах. І вывад у творы вынікае непасрэдна з апавядання, з адлюстраваных у ім падзей, не маючы нічога агульнага з традыцыйнай, звыклай баечнай «мараллю». У ім выразна адчуваецца публіцыстычны пафас, гнеўная іронія, вострая сатыра ў адрас імперыялістычных «сук», што

...сквапна шчэрацца на наш
савецкі збан:
Гатовы праглынуць, не толькі
палізаць, —
Так точаць іх пражэрства мукі,
Не ўпэўнены адно драпежніцкія
сукі,
Ці з галавою вернуцца назад.

Цікавымі сюжэтнымі апавяданнямі з'яўляюцца байкі «Сава, Асёл ды Сонца» і «Жаба ў каляіне», у якіх сатырык гэтак жа з'едліва высмяяў ворагаў нашай краіны — «фашысцкіх соў і іх заступнікаў-аслоў», што хацелі засланіць сваімі доўгімі вушамі святло савецкага жыцця, і жаб, што намагаліся «на хаду кульнуць савецкі воз».

К. Крапіва выпрацаваў свой адметны апавядальны стыль, самай характэрнай рысай якога з'яўляецца прастата, мастацкая канкрэтнасць і дакладнасць. Усе яго байкі напісаны мовай, блізкай па свайму слоўнаму складу і фразеалогіі да жывой гутарковай мовы, невычэрпныя багацці якой далі пісьменніку магчымасць маляўніча, адчувальна паказаць жыццёвыя з'явы, што сталі аб'ектам яго сатыры.

Захапляючыся выразнасцю характараў дзеючых асоб крылоўскіх баек, В. Бялінскі называў творы рускага байкапісца «маленькімі камедыйкамі». З поўным правам можна сказаць гэта і пра байкі К. Крапівы. Бадай кожная з іх — гэта жывая, дасціпная сцэнка, пабудаваная на рэальным жыццёвым канфлікце, на «драматургічным» дзеянні. Байкапісец знаходзіў такія сітуацыі, якія дазвалялі яму падаць «буйным планам», выставіць на ўсеагульнае пасмешышча недарэчны бок той ці іншай з'явы або смешную рысу ў характары чалавека.

У адным са сваіх артыкулаў К. Крапіва зазначыў: «Дурань таму і блішчыць здалёк, што знаходзіцца не на сваім месцы». Сапраўды, чым жа не камічная гэта сітуацыя? Яе мы і знаходзім у байцы «Мандат». Аслу (у байках гэты персанаж заўсёды служыць увасабленнем дурноты) аднойчы памылкова выдалі мандат. Дурань апынуўся не на сваім месцы. І што ж атрымалася?

Ад шчасця гэтага ў Асла
Аж галава кругом пайшла,
І вылецеў з яе апошні розум —
Як п'яны стаў Асёл, хоць быў
цвярозым:
Такога ўраз задаў разумнік тону,
Такога шуму нарабіў, такога
звону,
Што не спрачаліся жывёлы ані
крышку
І палічылі ўсе Асла за шышку.

Яшчэ больш смешным і недарэчным выглядае становішча, у якое трапіў Асёл, калі яго пачалі хваліць і славіць падхалімы:

— Ну й розум! Вось дык
галава! —
Не раз гучалі хвалы словы.
Другі дык ледзь не цалаваў
Капыцікі асловы.

Каб дамагчыся поўнага асмяяння «разумніка», стварыць выразны сатырычны вобраз, байкапісец увесь час трымае ў полі зроку адну рысу характару свайго персанажа — дурноту. Гэтай мэце служыць і вострая іранічная аўтарская характарыстыка дзеючай асобы байкі:

А «галава» з мандатам у паўметра
Стаіць над яслямі ў хляве:
Ніводнай думкі ў галаве —
Жуе сабе авёс, псуе сабе паветра.
Пры гэтым бедныя жывёлы
І чхнуць баяцца без дазволу.

Такія ж дасціпныя «маленькія камедыйкі»: «Дыпламаваны Баран», «Варона-мітынгоўшчыца», «Старшыня», «Каршун і Цецярук», «Ганарысты Парсюк», «Тата-заяц» і іншыя творы народнага пісьменніка. Асноўную іх рысу складае сатыра. Увогуле ў байках яскрава выявілася сатырычная накіраванасць творчасці К. Крапівы дваццатых — трыццатых гадоў.

Чытача крапівінскія байкі прыцягвалі і прыцягваюць перш за ўсё сваім трапным словам, жывым, вострым дыялагам, гумарам — калючым і з'едлівым, а часам і незласлівым, мяккім. У творах пісьменніка паўстаюць жывыя характары, каларытныя і шматгранныя. Сапраўды, як не падобны дзеючыя асобы яго баек на тыя ўмоўныя персанажы-маскі, з якімі даволі часта даводзіцца цяпер сустракацца ў творах беларускіх паэтаў і якія здольны толькі з большага праілюстраваць гатовыя вывады, павучанні!

У працэсе свайго развіцця беларуская байка аб'яднала дзве асноўныя традыцыі: нацыянальную фальклорна-паэтычную традыцыю і традыцыю сусветнай, у першую чаргу, крылоўскай байкі. Баечная творчасць К. Крапівы ўзнікла як сінтэз гэтых дзвюх традыцый.

Адзначаючы выдатную ролю, якую адыграў К. Крапіва ў распрацоўцы жанра байкі, П. Глебка пісаў: «У гэтым жанры К. Крапіва не ведае роўных сабе ў беларускай літаратуры. Байкі Крапівы напісаны ў традыцыйнай манеры, але вызначаюцца сапраўдным наватарствам як па сваёй ідэйнай накіраванасці, так і па форме».

З імем К. Крапівы звязан росквіт байкі ў нашай літаратуры, яе найбольшыя здабыткі ў гэтым жанры. Яго байкі — творы нацыянальна-самабытныя па свайму каларыту і вобразах і складаюць адну з самых цікавых і яркіх старонак беларускай савецкай літаратуры. Народжаныя надзённымі патрэбамі свайго часу, яны з'явіліся дзейсным сродкам выкрыцця ўсяго таго, што перашкаджала народу рухацца наперад, магутным сродкам барацьбы за перамогу сацыялізма.

Вырасла крапівінская байка з жыцця і ўвабрала ў сябе невычэрпныя багацці жывой народнай мовы, народнай мудрасці.

У складзе савецкай спартыўнай каманды, якая прыймала ўдзел у XVII Алімпійскіх гульнях, што праходзілі ў Рыме, выступала студэнтка IV курса Беларускага політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна камсамолка Таццяна Пятрэнка. Яна ўдзельнічала ў камандных спаборніцтвах па фехтаванню на рапірах і ўзнагароджана залатым алімпійскім медалем. За поспехі ў спорце 22-гадовая алімпійская чэмпіёнка занесена ў Кнігу гонару ЦК ВЛКСМ, ёй уручаны Ганаровая грамата ЦК ВЛКСМ і Ганаровая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Саюза ССР Таццяна Дзмітрыеўна Пятрэнка ўзнагароджана медалем «За працоўную адзнаку».

Ніжэй мы друкуем нататкі алімпійскай чэмпіёнкі, заслужанага майстра спорту Таццяны Пятрэнка.




На здымку: **прызёры спаборніцтваў па штурханню ядра ў жанчын** (злева направа): **І. Лютге** (аб'яднаная каманда Германіі), **Т. Прэс** (СССР) — **чэмпіёнка XVII Алімпійскіх гульняў і Э. Браун** (ЗША), **якая заняла трэцяе месца.**

# НЕЗАБЫЎНЫЯ ЎРАЖАННІ

Даўно патух алімпійскі агонь, што на працягу 16 дзён гарэў на велізарным стадыёне «вечнага горада». Пакінулі гасцінны Рым спартсмены 84 краін свету, якія ўдзельнічалі ў самых буйных спаборніцтвах у гісторыі чалавецтва — XVII Алімпійскіх гульнях. Але кожны з нас захаваў у сваім сэрцы нязгасны агеньчык цёплых і радасных успамінаў аб шчырых сяброўскіх сустрэчах у дні алімпіяды. Той дух дружбы і таварыскасці, што панаваў у алімпійскім Рыме, назаўсёды застанецца ў нашай памяці. Спартсмены розных краін яшчэ раз прадэманстравалі сваё гарачае імкненне ўмацоўваць паміж сабой сяброўскія сувязі, мацаваць справу міру паміж народамі.

## Рым сустракае гасцей

Цёплым жнівеньскім днём вылецелі мы на самалёце «ІЛ-14» з маскоўскага аэрадрома Шарамецьева. Настрой ва ўсіх быў вясёлы, прыўзняты. І хоць кожны ў душы крыху хваляваўся перад такім сур'ёзным экзаменам на спартыўную сталасць, ніхто і выгляду не падаваў, што яго непакояць алімпійскія старты.

Самалёт між тым набіраў вышыню і ўзяў курс на Рым. Час ішоў непрыкметна. Здаецца, толькі што развіталіся з роднай Масквой, а камандзір карабля паведаміў, што мы перасеклі дзяржаўную граніцу Савецкага Саюза. Гадзін праз пяць чырвоназоры паветраны лайнер плаўна прызямліўся на аэрадроме ў сталіцы Італіі.

Многія з маіх спадарожнікаў упершыню трапілі ў Рым. Для мяне ж «вечны горад» быў крыху знаёмы: у мінулым годзе мне давялося тут выступаць у традыцыйным міжнародным турніры фехтавальшчыкаў.

Размясціліся мы ва ўтульных пакоях аднаго з лёгкіх чатырохпавярховых дамоў «алімпійскай вёскі», спецыяльна пабудаванай для ўдзельнікаў гульняў. Разам з намі жылі спартсменкі Румынскай Народнай Рэспублікі. У першы ж дзень іх прыезду я сустрэла сваіх старых сябровак — фехтавальшчыц Орбан, Тарангоі і Орб. І хоць я не ведаю румынскай мовы, а яны — рускай, пасля трэніроўкі мы часта збіраліся разам і «гутарылі», як маглі, успаміналі агульных знаёмых, мінулыя сустрэчы.

Трэніраваліся мы два разы на дзень. Хацелася выступіць як мага лепш. Кожны адчуваў за сваёй спіной цёплае дыханне Радзімы, якая даверыла абараняць яе спартыўны гонар.

І ўсё ж, нягледзячы на даволі шчыльны графік трэніровак, савецкія спартсмены часта рабілі экскурсіі па гораду. У Рыме надзвычай многа гістарычных помнікаў. Мы пабывалі на тэрыторыі Ватыкана, гэтага асінага гнязда каталіцызма, дзе выношваюцца правакацыйныя планы супраць Савецкага Саюза і краін сацыялістычнай дэмакратыі. Як вядома, каталіцкая царква ўсяляк імкнулася процідзейнічаць паспяховаму правядзенню Алімпіяды, пасеяць варожасць паміж спартсменамі розных краін. Злыя позіркі «служак боскіх» у доўгіх чорных мантыях не маглі сапсаваць нам настрой, бо мы на кожным кроку сустракалі сапраўдных гаспадароў гасціннага Рыма — простых італьянцаў. Яны з захапленнем паціскалі савецкім спартсменам рукі і са шчырай усмешкай вымаўлялі: «Браво, русіа! Спутнік! Харашо!»

Рымскія хлапчукі ўсюды падсцерагалі нашых спартсменаў, каб атрымаць савецкі значок або аўтограф. Нас пазнавалі ўсюды, дзе б мы ні паяўляліся. І ўсюды жыхары «вечнага горада» з вялікай павагай і цеплынёй адносіліся да прадстаўнікоў краіны Саветаў, небывалыя дасягненні якой захапляюць увесь свет.

## Апошнія падрыхтаванні

У час нашых трэніровак, якія праводзіліся ў Палацы Кангрэсаў, заўсёды збіраліся гледачы. Тут былі і фехтавальшчыкі з каманд іншых краін, прыходзілі і проста балельшчыкі. Ім не цярпелася ўбачыць такіх вядомых на міжнароднай спартыўнай арэне савецкіх майстроў рапіры, як Марк Мідлер, Аляксандра Забеліна, Валянціна Растворава. Мы не рабілі ніякай тайны са сваіх трэніровак, ахвотна дзяліліся вопытам са сваімі будучымі сапернікамі.

Аднойчы ў госці да нас прыйшлі фехтавальшчыкі Злучаных Штатаў Амерыкі. Чатыры гады назад на XVI Алімпійскіх гульнях у далёкім аўстралійскім горадзе Мельбурне перад пачаткам афіцыйных спаборніцтваў па просьбе амерыканскіх спартсменаў адбыўся таварыскі матч па фехтаванню паміж камандамі ЗША і СССР. І вось нашы амерыканскія «калегі» рашылі па традыцыі зноў сустрэцца з савецкімі фехтавальшчыкамі. Выклік мы прынялі. Пачаліся баі на фехтавальнай дарожцы. І хоць амерыканцы прайгралі амаль усе сустрэчы, яны засталіся задаволеныя атрыманым урокам.

Склад як мужчынскай, так і жаночай каманд па рапіры дазваляў разлічваць на залатыя медалі. Нашы рапірысты з'яўляюцца чэмпіёнамі свету, усе члены жаночай каманды таксама маюць багаты вопыт міжнародных сустрэч. Пакуль прыйдзе дзень афіцыйных сустрэч, усе мы яшчэ і яшчэ раз шліфуем тэхніку, рыхтуемся да адказных спаборніцтваў. Прывыкаем крыху да Рыма, да яго шумных вузкіх вуліц, бясконцага чалавечага патоку. Толькі да аднаго не можам ніяк прызвычаіцца — да рымскай спякоты. Яна не дае нам спакою з самага першага дня. Цяжка нават уявіць сабе, што днём тэрмометр нават у ценю паказваў 40 і больш градусаў.

Якраз напярэдадні адкрыцця Алімпіяды мы даведаліся аб пасланні Старшыні Савета Міністраў СССР Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Гэтая вестка маланкай абляцела ўсю алімпійскую вёску. Усхваляваныя шчырымі, цёплымі словамі кіраўніка Савецкага ўрада, звернутымі да ўдзельнікаў XVII Алімпійскіх гульняў, мы сабраліся на невялікай палянцы, каб выказаць яшчэ раз гарачае імкненне апраўдаць надзеі савецкіх людзей — высока пранесці сцяг савецкага спорту.

З пасланнем М. С. Хрушчова азнаёміліся спартсмены і іншых краін. Яны таксама ўспрынялі яго з радасцю і задавальненнем. Прыемна было, што кіраўнік вялікага і магутнага Савецкага Саюза вітае алімпійцаў, жадае ім поспехаў і ўмацавання дружбы паміж спартсменамі ўсяго свету.

## Палае факел алімпійскі

Нарэшце, настаў доўгачаканы дзень — 25 жніўня — дзень адкрыцця гульняў. Звыш ста тысяч гледачоў запоўнілі ўмяшчальныя трыбуны стадыёна «Алімпіка». А тыя, каму не дасталася білета, глядзелі гэтае велічнае відовішча па тэлевізарах.

... Пачынаецца ўрачыстае шэсце. Уперадзе, перад калонамі алімпійцаў, урачыста крочаць 10 трубачоў-герольдаў у маляўнічых сярэдневяковых касцюмах. Затым першай ідзе каманда Грэцыі — краіны, дзе нарадзіліся Алімпійскія гульні, за ёй дэлегацыі

іншых краін у парадку італьянскага алфавіту.

Гарачымі воплескамі сустракае стадыён спартсменаў Савецкага Саюза. Наш праслаўлены штангіст Юры Уласаў у адной руцэ нясе вялікі дзяржаўны сцяг СССР. Чырвонае палотнішча развяваецца на рымскім стадыёне як сімвал слаўных перамог магутнай краіны Саветаў.

Урачыстае шэсце замыкае алімпійская каманда Італіі. Прэзідэнт Італьянскай Рэспублікі Джавані Гронкі аб'яўляе XVII Алімпійскія гульні адкрытымі. Гучаць фанфары. Восем спартсменак-італьянак выносяць белы флаг Алімпіяды, а на ім — пяць пераплеценых кольцаў. Павольна ўзнімаецца флаг. Паветра сатрасае трохразавы артылерыйскі салют. У неба ўзлятаюць тысячы галубоў. Вялікі хор выконвае Алімпійскі гімн.

І ў гэты момант у варотах стадыёна паяўляецца юны італьянскі бягун з факелам у руцэ. Ён падбягае да вялізнай чашы на трыножніку і запальвае алімпійскі агонь. Ва ўсім горадзе пачынаюць біць у званы. Цырымонія адкрыцця Алімпіяды заканчваецца алімпійскай клятвай, якую ад імя ўсіх удзельнікаў абвяшчае мацнейшы італьянскі кідальнік дыска Адольф Кансаліні.

Першыя дні мы, фехтавальшчыкі, былі гледачамі. Перажывалі за нашых веласіпедыстаў, весляроў, барцоў, баскетбалістаў.

З якой радасцю даведаліся мы аб перамозе нашых беларускіх весляроў Сяргея Макаранкі і Леаніда Гейштара! Яны на каноэ-двойцы выйгралі дыстанцыю 1 000 метраў і прынеслі савецкай камандзе залаты медаль. А што рабілася ў Рыме, калі масквіч Віктар Капітонаў завяваў першае месца ў самай цяжкай велагонцы на 175 кіламетраў 380 метраў!

У Італіі веласіпедны спорт карыстаецца вялікай папулярнасцю. Тут ёсць цэлая пляяда выдатных гоншчыкаў, якія па праву лічацца мацнейшымі ў свеце. Вось чаму італьянскі алімпійскі камітэт прапанаваў веласіпедныя спаборніцтвы ўключыць першымі ў праграму Алімпіяды.

І сапраўды, велагоншчыкі Італіі спачатку апраўдвалі надзеі сваіх землякоў. Але ў самы апошні момант, калі італьянскія рэпарцёры збіраліся аб'явіць аб поўным трыумфе сваіх веласіпедыстаў, іх нечакана «падвёў» Віктар Капітонаў. На апошніх метрах дыстанцыі ён на паўкола апярэдзіў моцнага італьянскага велагоншчыка Лівіо Трапэ. Італьянец ажно заплакаў у роспачы. Але ж нічога не зробіш, залаты медаль дастаецца мацнейшаму. Італьянскія аматары спорту балюча перажывалі няўдачу свайго земляка, але яны ацанілі і поспех Віктара Капітонава. Яго імя на працягу некалькіх дзён не знікала са старонак мясцовых газет.

А назаўтра ўся наша алімпійская каманда ўрачыста віншавала сваіх таварышаў — першых уладальнікаў залатых медаляў — весляроў А. Сярэдзіну, М. Шубіну, С. Макаранку, Л. Гейштара і велагоншчыка В. Капітонава. Кіраўнік савецкай спартыўнай дэлегацыі тав. Раманаў горача павіншаваў пераможцаў з выдатным поспехам, а праз два дні было аб'яўлена аб прысваенні ім ганаровага звання заслужанага майстра спорту (акрамя В. Капітонава, які меў ужо гэта званне). «Віноўнікам» урачыстасці былі паднесены вялікія торты.

Такія «святы» ў далейшым наладжваліся ў нас часта, бо кожны дзень прыносіў савецкім спартсменам усё новыя і новыя залатыя медалі.

Усе мы, беларускія алімпійцы, надзвычай хваляваліся за свайго земляка Алега Караваева. Хоць ён і чэмпіён свету па класічнай барацьбе, але ж па дарозе да залатога алімпійскага медалю ў яго было нямала грозных праціўнікаў. Алег атрымліваў пераканаўчыя перамогі адну за другой і хутка запаветны залаты медаль красаваўся ў яго на грудзях.

### Сюрпрызы савецкіх лёгкаатлетаў

Замежныя турысты, ды і ўсе гледачы і ўдзельнікі, з нецярпеннем чакалі, чым жа скончыцца паядынак двух спартыўных гігантаў — Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі. Большасць з іх ужо ў самым пачатку Алімпіяды прадказвала перамогу савецкай каманды. У той жа час многія лічылі, што па лёгкай атлетыцы перавага будзе на баку амерыканцаў. Але і гэты «канёк» падвёў каманду ЗША.

Хто б мог падумаць, што рэкардсмен свету негр Джон Томас, гэты «чалавек-кенгуру», «чорная маланка», як называюць яго ў Амерыцы, якому належыць фенаменальны вынік — 2 метры 22,8 сантыметра, на гэты раз будзе вымушан задаволіцца трэцім месцам? Амерыканскі чэмпіён узяў вышыню 2 метры 14 сантыметраў, а нашы савецкія скакуны Роберт Шаўлакадзе і Валеры Брумель пакаралі вынік 2 метры 16 сантыметраў і сталі ўладальнікамі залатога і сярэбранага медаляў.

Яшчэ адзін «удар» камандзе ЗША нанёс кідальнік молата былы мінчанін, а зараз масквіч Васіль Рудзянкоў. Ён кінуў снарад на 67 метраў 10 сантыметраў і ўстанавіў новы алімпійскі рэкорд. Славуты ж амерыканскі спартсмен Гарольд Коналі, якому належыць сусветны рэкорд па кіданню молата, не трапіў нават у фінал спаборніцтваў.

Пад «заслону» Алімпіяды поспех савецкіх лёгкаатлетаў замацавалі Віктар Цыбуленка і Пётр Балотнікаў. Цыбуленка стаў уладальнікам залатога медалю па кіданню кап'я, паказаўшы выдатны вынік — 84 метры 64 сантыметры, Балотнікаў стаў алімпійскім чэмпіёнам па бегу на 10 000 метраў. Паказаны Балотнікавым час 28 мінут 32,2 секунды ўсяго толькі на 1,8 секунды горш за сусветны рэкорд Уладзіміра Куца.

Калі былі падведзены вынікі спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы, выявілася, што савецкія спартсмены ў неафіцыйным камандным заліку набралі 168 ачкоў, а амерыканскія — 162 ачкі. А трэба сказаць, што каманда ЗША была вельмі моцнай. Гэта прызнавалі і амерыканскія прадстаўнікі і зарубежны спартыўны друк.

### Вяртаемся з перамогай

Спаборніцтвы па фехтаванню праходзілі ў прасторным Палацы Кангрэсаў. Я ўдзельнічала ў баях за каманднае першынство па рапіры.

Сустрэча з француженкамі была вельмі напружанай і вострай, праходзіла з пераменным поспехам. Лік 8 : 7 у карысць каманды Францыі. Застаецца апошні бой. На фехтавальную дарожку выходзіць Валянціна Прудскова. Ад зыходу гэтага паядынку залежыць вынік нашай сустрэчы з французскімі рапірысткамі. Спачатку Валя мае бясспрэчную перавагу. Але затым лік становіцца 3 : 3. І цяпер, хто нанясе апошні, чацвёрты ўкол, той і выйграў. І гэты ўкол нанесла наша Валя. Цяжка перадаць словамі тое, што рабілася ў зале, калі Валянціна Прудскова выйграла рашаючы паядынак. І больш за ўсіх радаваліся за сваю сяброўку мы. Гэтая цяжкая для нас сустрэча закончылася ўнічыю — 8 : 8, аднак мы нанеслі француженкам на два ўколы больш, таму перамогу прысудзілі нам. Затым мы выйгралі паядынак з аб'яднанай камандай Германіі (9 : 3) і з такім жа вынікам перамаглі ў фінале рапірыстак Венгрыі.

Вельмі радасна было ў кожнага з нас на душы, калі нам уручалі залатыя алімпійскія медалі. На флагштоку ўзнялі чырвонае палотнішча дзяржаўнага сцяга нашай Радзімы, і пад скляпеннямі Палаца Кангрэсаў плылі родныя сэрцу гукі дзяржаўнага Гімна Савецкага Саюза. Незабыўны момант! Нашы думкі імгненна перанесліся на прасторы любімай Айчыны. Хацелася сказаць на ўвесь голас: «Прыймай, дарагая Радзіма, наш падарунак!»

А назаўтра адбывалася традыцыйная ўрачыстасць у наш гонар. Нас горача віншавалі, «узнагародзілі» вялікім тортам і памятнымі сувенірамі. А крыху пазней мы даведаліся, што Аляксандры Забелінай, Валянціне Прудсковай, Галіне Гарохавай і мне прысвоена ганаровае званне заслужанага майстра спорту.

І вось мы вяртаемся на Радзіму, хоць гульні яшчэ прадаўжаюцца. У нашай групе, што размясцілася ва ўтульных кабінах «ТУ-104», — лёгкаатлеты, весляры, ватэрпалісты, фехтавальшчыкі, баксёры. У Маскве на аэрадроме нам наладзілі хвалюючую сустрэчу. Пад гукі аркестра мы сходзім па трапу на савецкую зямлю і адразу трапляем у абдымкі родных, сяброў, знаёмых...

Ужо ў Маскве мы даведаліся аб небывалым сусветным рэкордзе савецкага волата Юрыя Уласава, які ў суме класічнага трохборства паказаў вынік 537,5 кілаграма, перавысіўшы ранейшы рэкорд свету амерыканскага «звыш-чалавека» Пауля Андэрсана адразу на 25 кілаграмаў. Яшчэ адзін прыемны сюрпрыз Алімпіяды!

Цяпер увесь сусветны друк аднадушна прызнае, што Савецкі Саюз — мацнейшая спартыўная дзяржава свету. Бліскучая перамога савецкіх спартсменаў на XVII Алімпійскіх гульнях у Рыме выклікала ўсеагульнае захапленне. 103 медалі прывезлі з сабой нашы алімпійцы, у тым ліку 43 залатых, 29 сярэбраных і 31 бронзавы. На долю ж каманды ЗША, якая заняла другое месца, дастаўся 71 медаль (34 залатых, 21 сярэбраны і 16 бронзавых). У неафіцыйным камандным заліку спартсмены СССР набралі 683,5 ачка, а амерыканцы 463,5 ачка. Лічбы гэтыя пераканаўча сведчаць аб перавагах савецкага спорту.

За час гульняў савецкія спартсмены моцна пасябравалі са сваімі сапернікамі — прадстаўнікамі іншых краін. У кожнага з нас паявілася многа новых шчырых сяброў ва ўсіх кутках зямнога шара. І мы з радасцю будзем мацаваць гэтыя сяброўскія сувязі. Няхай жа высакародныя ідэі дружбы і супрацоўніцтва, што вынікаюць з самой сутнасці Алімпійскіх гульняў, трывала ўсталёўваюцца ва ўсім свеце, каб больш ніколі не было войн на зямлі і шчодрае сонца міру заўсёды асвятляла ўсім народам шлях да шчасця і росквіту.

**Тацяна ПЯТРЭНКА,**
**заслужаны майстар спорту СССР.**

# Гумар і сатыра

## Літаратурныя пароды

### ПАЭТ ЖЭНІЦЦА. ЯГО ВІТАЮЦЬ СЯБРЫ ВЯСЕЛЬНЫМІ ТОСТАМІ



**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

Яшчэ не дагарэлі кандэлябры,
Няма над намі люстры
электрычнай.
Я з келіхам стаю, мой сябра,
Ва урачысты момант
гістарычны.
Вяселляў не гулялі
мастадонты,
А продкі проста кралі
нарачоных,
Але цяпер яснеюць гарызонты
*І пра каханне мы пяем*
канцоны.
Бананы не шпурляйце у паэтаў,
А келіхі падкідвайце ў неба,
Бо я... Пра што, аб чым я
гэта?..
Ага, ты жэнішся...
Што ж, так табе і трэба.



**Адам РУСАК**

Ой, жэніцца мой сябра,
Ой, жэніцца паэт!
А я у гэты вечар
Не маю пэўных мэт.
Табе таго жадаю,
Чаго калісь жадаў,
Бо *іншага* не знаю,
Як і калісь не знаў.
Ой, шэпчацца каліна
З ватагаю дубоў.
Жыві, як дуб, багата
І з тым бывай здароў!



**Сяргей ДЗЯРГАЙ**

Калі стукнуць крэмнем
аб крэмень,
Іскры разляцяцца.
Дзе ты выкапаў—мо' у паэме—
Гэткую цацу?
У добры час!
Хай вяселле цячэ ракою,
Ды не ўпіся!
*Калі жэнішся*—чорт з табою,
І жаніся.
У добры час!
Калі крэмень... Ды не іначай
На мяне сусед касабочыцца.
Стукнем чарачкамі, юнача,—
Іскраў хочацца!





**Уладзімір КОРБАН**

Аднойчы да Лісы пасватаўся
Бабёр —
Бывае.
За стол
Асёл,
Мядзведзь і Тхор
Заселі, выпіваюць.
Гарэлка і кан'як—цякуць
ракой,
А за чый кошт?..
Але у нас гаворка
Не пра звяроў.
Дазволь жа, сябра мой,
Як той казаў, мне зараўсці тут:
горка!



**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

Кроч ты, мой сябра, да
яснае мэты!
Добра з нявестай сваёю жыві!
Сёння сустрэліся Месяц
з ракетай,
Як ты з каханай—на глебе
любві.
Гэты я верш напісаў і сумую,
Проста сумую, мой сябра,
да слёз,
Бо, як відаць, яго не
надрукуюць:
Ты да такога яшчэ не дарос.
Мне пажадаць табе вельмі
ахвота,
*Каб ты ў спакоі і радасці жыў.*
Будзеце разам кахаць
і работаць
Пад маіх першых рамансаў
матыў.



**Якаў ГЕРЦОВІЧ**

Дарагі паэт! Па-першае, перад намі вяселле. Слова «вяселле» паходзіць ад шырока распаўсюджанага слова «вясяліцца». І, верагодней за ўсё, гэтая акалічнасць і з'яўляецца першаасновай сягонняшняй радаснай урачыстасці. Наш паэт жэніцца. Гістарычныя факты сведчаць, што такія выпадкі здараліся і ў мінулым, і наш *шаноўны* сябра, на жаль, не з'яўляецца наватарам. Тым не меней, ён здолеў прыўнесці ў старыя формы і нешта новае, сваё, непаўторнае. Пажадаем яму ўдасканальвацца *і не паўтарацца!*

Склаў М. АЛТУХОЎ.

## ЗМЕСТ

Стар.

**Генадзі Бураўкін.** Людзі памятайце!.. Гэта цяжка, таварыш... Рабочы пасёлак. Вершы . . . . . . . . 3
**Іван Пташнікаў.** Чакай у далёкіх Грынях. Раман. Працяг. . 6
**Рыгор Барадулін.** Снапавоз. Начлег. Стэарынавая свечка. Паразбрыліся гусі па ніўю... Палата мінёраў. Вершы 83
**Эдуард Карпачоў.** Пах зямлі. Апавяданне. . . . . . 87
**Міхась Зарэмба.** Арол. На ўзлессе выбегла сасонка... Вершы. 94
**Алесь Пальчэўскі.** Ліпы. Апавяданне. . . . . . . . 95

**Іллары Барашка.** У Яснай Паляне. . . . . . . . 98
**М. Жыгоцкі.** Перапісчык твораў Льва Талстога. . . . 103

**Дарогамі сямігодкі**

**Віктар Карамазаў.** Дні Валі Дузенка. Нарыс. . . . . 105

**Вера Палтаран.** Яго жывы вобраз. . . . . . . . . 112

**Да 60-годдзя Аляксандра Пракоф'ева**

**Пятрусь Броўка.** Наш дарагі друг. . . . . . . . 117

**Галіна Жуковіч.** Моладзь хоча жыць у міры . . . . . 119

**«Маладосць» вядзе рэпартаж...**

**У. Міхалюк.** Каб задаволены быў чалавек. . . . . . 122
**У. Нядзведскі.** Разам працавалі — разам вучацца. . . 128

**З блакнота падарожніка**

**Іржы Ганзелка, Міраслаў Зікмунд.** Па дарогах свету. . . 133

**Уладзімір Юрэвіч.** Пра тых, хто ў моры. . . . . . 143

**Размова аб майстэрстве**

**Янка Казека.** Майстэрства сатырыка. . . . . . . . 145

**Спорт**

**Тацяна Пятрэнка.** Незабыўныя ўражанні. . . . . 154

**Гумар і сатыра** . . . . . . . . . . . . . 158

**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**

Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Генадзі ЖАБІЦКІ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Янка СКРЫГАН, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).





**Група беларускіх спартсменаў—прызёраў XVII Алімпійскіх гульняў: заслужаны майстар спорту фехтавальшчыца Тацяна Пятрэнка, чэмпіён СССР, майстар спорту гімнаст Мікалай Мілігула, пяціразовы чэмпіён СССР, чэмпіён свету і Алімпійскіх гульняў заслужаны майстар спорту барэц класічнага стылю Алег Караваеў.**

Фота А. Дзітлава